**Ірына Масляніцына,**
**Мікола Багадзяж**

# Жанчыны, найбольш знакамітыя ў гісторыі Беларусі

МІНСК
«ЮНІПАК»
2008

УДК 94(476)-055.2

Масляніцына, І. А., Багадзяж, М. К.

Жанчыны, найбольш знакамітыя ў гісторыі Беларусі / Ірына Масляніцына, Мікола Багадзяж; маст. І. Гардзіёнак. — Мінск, Юніпак, 2008. — 124 с.

ISBN 978-985-6802-28-0

Новая кніга вядомых аўтараў прысвечана беларускім жанчынам-выбранніцам лёсу, кожная з якіх пакінула незабыўны след у гістарычных падзеях, асветніцтве, мастацтве. Біяграфічным аповедам уласцівы вострыя павароты сюжэту, смелыя гіпотэзы, спробы знайсці ключ да разумення духоўнага свету кожнай гераіні ў малавядомых фактах і дэталях. Для ўсіх, хто цікавіцца айчыннай гісторыяй.

УДК 94(476)-055.2
ББК 63.3(4Бей)

ISBN 978-985-6802-28-0

# УСТУП

У сярэдневяковай філасофскай літаратуры нярэдка сустракаюцца выявы гэтых чатырох сімвалаў: кароны, факела, меча і ружы. Яны азначаюць чатыры шляхі, абраўшы якія, чалавек можа праславіць свой род і пакінуць сваё імя ў гісторыі: кіраванне, асветніцтва, ваенная справа і творчасць. Сапраўды, звяртаючыся да мінулага, перш за ўсё на старонках летапісаў і хронік, мемуарнай літаратуры і даследчыцкіх работ розных узроўняў мы сустракаем імёны правіцеляў і буйных палітыкаў, дзеячаў навукі і культуры, выдатных палкаводцаў і гераічных салдат, літаратараў, музыкантаў і мастакоў, — менавіта тых, пра каго можна сказаць, што іхняе жыццё прайшло пад знакамі кароны, факела, меча альбо ружы.

Але кажучы пра выбар чалавекам свайго лёсу і свайго сімвалу, сярэдневяковы філосаф меў на ўвазе, безумоўна, мужчыну. Роля жанчыны доўгі час акрэслівалася хатнімі клопатамі і нараджэннем дзяцей. Тым не менш, не толькі XX стагоддзе, якое надало жанчынам сапраўды роўныя з мужчынамі правы і магчымасці для таго, каб рэалізаваць сябе ў любым кірунку чалавечай дзейнасці, а і папярэднія эпохі падарылі гісторыі нямала выдатных жаночых імёнаў. І гэта — не бязвольныя аб'екты кахання ды пакланення славутых мужчын, але асобы, якія нараўне з прадстаўнікамі моцнага полу ўплывалі на ход гістарычных падзей, дапамагалі чалавецтву спасцігаць вышэйшую Боскую мудрасць, будавалі храмы веры і навукі, стваралі, захоўвалі і абараняліі Прыгажосць.

Гісторыя Беларусі — не выключэнне. Але, магчыма, нават беларускаму чытачу дагэтуль больш вядомыя імёны выдатных жанчын, гераінь іншых народаў, чым сваіх суайчынніц. А яны значна больш заслугоўваюць нашай увагі і пакланення.

Лёсы людскія... Яны бываюць такімі рознымі. Ёсць лёсы, якія даюць падставу задумацца над сэнсам чалавечага жыцця. Ёсць такія, якія прымушаюць плакаць і спачуваць нават самыя чэрствыя сэрцы. Іншыя выклікаюць гордасць і прывучаюць трымаць сябе ў годнасці. А некаторыя нібы спецыяльна створаны нейкім вышэйшым розумам, каб, завалодаўшы праз стагоддзі душою выдатнага творцы, трапіць на старонкі рамана ці паэмы, адлюстравацца ў высакародных музычных гуках, ажыць пад пэндзлем мастака.

Перад вамі шаснаццаць жаночых лёсаў з ліку самых яркіх у гісторыі Беларусі.

# ПАД ЗНАКАМ КАРОНЫ

## Рагнеда, славутая і ... невядомая

У старажытным Заслаўі, недалёка ад Мінска, падземныя крыніцы даюць пачатак дзвюм маленькім рачулкам з дзіўнымі назвамі — Княгінька і Чарніца. Народныя паданні звязваюць іх з іменем Рагнеды, полацкай князёўны, кіеўскай княгіні і заслаўскай інакіні. Кажуць, быццам бы ўзніклі яны са слёз красуні Рагнеды, якая аплаквала ў Заслаўі сваю загубленую маладосць.

Рагнеда... Пэўна, няма цяпер нікога ў Беларусі, каму было б невядомым гэтае імя. Яна даўно ўжо стала своеасаблівым неафіцыйным сімвалам нашай краіны, як княгіня Вольга — сімвалам Расіі, а каралева Ванда — Польшчы. І першае знаёмства з гісторыяй роднага краю ў нашых школьнікаў пачынаецца звычайна з аповеду пра полацкага князя Рагвалода і яго дачку Рагнеду, якія жылі ў далёкім X стагоддзі.

Але ці так ужо добра на самой справе ведаем мы падрабязнасці лёсу нашай любімай гераіні? Сведчанні пра яе абмяжоўваюцца толькі двума ў чымсьці супярэчлівымі запісамі з Іпацьеўскага і Лаўрэнцьеўскага спіскаў «Аповесці мінулых гадоў» (летапісы, што ўзніклі пазней, амаль даслоўна паўтараюць «іпацьеўскі» ці «лаўрэнцьеўскі» варыянт гісторыі Рагнеды) ды навалай, якая трапіла ў Цвярскі і Гунстынскі летапісы. Астатняе даводзіцца аднаўляць пры супастаўленні ўскосных сведчанняў і фактаў. І тут ужо ўсё залежыць ад сумленнасці і дасведчанасці таго, хто прымае на сябе такую працу. Цікава, што некаторыя з даследчыкаў нават выказвалі сумненні наконт рэальнасці існавання князёўны Рагнеды, мяркуючы, што эпізоды з яе ўдзелам у летапісах маглі быць усяго толькі прыгожымі легендамі, узгаданымі з прычыны неабходнасці растлумачыць спаконвечную напружанасць адносін паміж Кіевам і Полацкам.

Сапраўды, тыя ўрыўкі летапіснага тэксту, якія датычаць Рагнеды і яе бацькі Рагвалода, могуць падацца нейкімі адасобленымі, чужароднымі ў агульным кантэксце. Яны нават напісаны ў іншым стылі. Але менавіта такі стыль адрознівае і большасць іншых аповедаў пра Полацк і славутых палачан, якія трапілі ў рускія летапісы. І гэта, на думку вядомага расійскага гісторыка Барыса Рыбакова, можа азначаць толькі тое, што ўсе яны былі спісаны з адной і той жа ранняй крыніцы, якая не дайшла да нашых часоў, а менавіта Полацкага летапісу.

Дарэчы, самі летапісцы ніколі не сумняваліся ў рэальнасці гісторыі Рагнеды, хаця той жа кіева-пячорскі манах Нестар, аўтар «Аповесці мінулых гадоў», даволі скептычна ставіцца да многіх фактаў, што тычацца іншых асоб ранняй гісторыі ўсходніх славян (напрыклад, князёў Кія, Рурыка, Аскольда, Дзіра, Алега). Эпізод з Рагнедай спісаны Нестарам з падрабязнасцямі, а не скупа пераказаны ў агульных дэталях. І гэта сведчыць пра тое, якой важнай фігурай у гісторыі русаў бачылася летапісцу полацкая князёўна.

І сапраўды, без Рагнеды аказалася проста немагчымым выканаць тую задачу, якую гэты руплівы манах паставіў перад сабою, — расказаць, «адкуль пайшла руская зямля, хто ў Кіеве стаў першым княжыць і як узнікла руская зямля». Прыватная гісторыя прыгожай і няшчаслівай жанчыны з'яўляецца галоўным звяном у ланцугу прычын і вынікаў, якія істотна паўплывалі на тое, што наша мінулае аказалася менавіта такім, якім мы яго ведаем. Узлёты адных старажытнарускіх княстваў і заняпады іншых, змены княжацкіх дынастый, шматвекавыя тэрытарыяльныя спрэчкі ў асяроддзі ўсходніх Славянаў, крывавыя міжусобіцы і нават такая глабальная падзея ў нашай гісторыі, як хрышчэнне Русі, — усё гэта, як ні дзіўна, завязана і замацавана на асобе Рагнеды.

На жаль, нам, сённяшнім, пры ўсёй нашай любові да мінулага і пры ўсім імкненні дэталёва вывучаць яго, не хапае шырыні і глыбіні мыслення. І таму большасць даследчыкаў разглядае постаць Рагнеды проста як своеасаблівую прамаці беларусаў. Тым не менш, полацкая князёўна была жывым чалавекам, натурай супярэчлівай, не вельмі адпаведнай нашаму сучаснаму бачанню «станоўчага персанажа». Можа, менавіта таму некаторыя з папулярызатараў беларускай гісторыі прыкладаюць вялікія намаганні дзеля таго, каб усяляк «упрыгожыць» і «прычасаць» факты яе рэальнай біяграфіі, ствараючы вакол Рагнеды своеасаблівы міф.

Мы ж лічым, што сімпатыя да полацкай князёўны толькі ўзрасце, калі яе нашчадкі здолеюць глянуць на яе не як на бронзавую статуюсімвал, а як на жывога чалавека. Магчыма, пасля гэтага перад некаторымі з нас паўстане зусім іншая, незвычайная, невядомая Рагнеда. Але менавіта такой ведалі і любілі яе сучаснікі. Пачнём жа аповед пра Рагнеду не міфічную, але сапраўдную.

Ніводная са старажытных крыніц не дае дакладнай даты нараджэння ў сям'і князя Рагвалода яго адзінай дачкі. Але мы ведаем, што акрамя яе ў полацкага ўладара былі яшчэ два сыны, хутчэй за ўсё старэйшыя. Іхніх імёнаў, таксама як і імені маці Рагнеды, пісьмовыя

крыніцы не захавалі. Але пра жонку Рагвалода прыгадвае народнае паданне, якое называе яе дачкой варажскага конунга, Ізольдай.

Да апошняга часу прынята было лічыць, што і сам Рагвалод быў варагам, які прыйшоў разам з малодшым братам Турам са Скандынавіі і невядома як трапіў на полацкі прастол. Аднак выдатны беларускі даследчык Мікола Ермаловіч упершыню звярнуў увагу сваіх калег на фразу з летапісу, якую дагэтуль перакладалі на сучасныя рускую і беларускую мовы з пэўнай недакладнасцю. І менавіта гэтая недакладнасць ператварыла славяніна Рагвалода ў нармана. Гэтая фраза гучыць так: «... бе бо Рагвалод пришед из заморья, имяше свою волость в Полотьске».

Другая частка сказа яўна дае зразумець, што Рагвалод, хаця і прыбыў у Полацк дзеля княжання з-за мора, на самой справе быў спадчынным палачанінам, прадстаўніком самага знатнага роду, роду полацкіх правіцеляў, бо ў Полацку ён меў «свою волость».

Вядома, што да Рагвалода пэўны час прастол у Полацку займала нейкая княгіня Прадслава. Яе асабісты прадстаўнік разам з прадстаўнікамі шэрагу старажытнарускіх князёў паставіў свой подпіс пад мірным дагаворам Русі з Візантыяй у 945 годзе. Тады кіеўскі князь Ігар Рурыкавіч «... совокупи вон многа, варяги и русь, и поляны, и словены, и кривичи, и тиверцы, и печенеги поя, и тали у них поима, и поиде на греки (на Візантыю. — Аўт.) в лодьях и на конях».

Спалохаўшыся такой грознай сілы, візантыйскі імператар Канстанцін Багранародны паспяшаўся прапанаваць мір. Ігар і яго саюзнікі згадзіліся і патрабавалі сабе багатую даніну і цэлы шэраг гандлёвых прывілеяў.

Прадслава з руска-візантыйскага дыпламатычнага дакумента мусіла быць не толькі папярэдніцай, але і свачкай Рагвалода. Але наўрад ці яна была ягонай маці, як лічыў Мікола Ермаловіч. Нам невядомы ніводны выпадак з ранняй гісторыі ўсходніх славян, калі б правіцельніцай абіралася незамужняя дачка папярэдняга князя. Значыць, Прадслава была жонкай князя, якая аўдавела. Калі б у яе былі сыны, то полацкі прастол яна магла б займаць толькі да іх паўналецця. Але Рагвалод вандруе ці выпрабоўвае ваенную фартуну недзе за морам ужо цалкам сталым чалавекам. Пытанне пра яго ўвакняжэнне ў Полацку ўздымаецца, верагодна, толькі пасля смерці Прадславы. Значыць, Рагвалод, з'яўляючыся спадчыннікам Прадславы, сынам ёй не даводзіўся. Магчыма, ён быў пляменнікам княгіні? Але як бы там ні было, Рагвалод не чужынец для палачан. Ён быў сваім, і таму палачане любілі яго і ганарыліся красою яго юнай дачкі,

якая ў далейшым мусіла стаць надзейным гарантам матрыманіяльна-палітычнага звязку з якім-небудзь моцным правіцелем.

Многіх даследчыкаў здзіўляла імя полацкай князёўны, вельмі ўжо нязвыклае для славянскага вуха. Яны шукалі ў ім падабенства да нарманскіх імёнаў. Адны даказвалі, што на самой справе Рагнеду звалі Рангхільдай, другія схіляліся да Рагэнгарды. Але гэтыя гіпотэзы аказваліся, мякка кажучы, «прыцягнутымі за вушы».

Магчыма, высветліць сітуацыю дапаможа той факт, што ў Лаўрэнцьеўскім спіску «Аповесці мінулых гадоў», акрамя ўжо вядомага нам імя Рагнеда, прыводзіцца яшчэ адно імя князёўны — Гарыслава. Праўда, там сцвярджаецца, што так дачку Рагвалода сталі называць ужо тады, калі яна ў якасці баявой здабычы трапіла ў Кіеў. І новае імя быццам бы азначала «тая, што праславілася сваімі нарасцямі». Але імя Гарыслава было традыцыйным для славянскай знаці перыяду Кіеўскай Русі. Яно неаднойчы сустракаецца ў розных крыніцах, і этымалогія яго вядомая: «тая, што гарыць (ці ззяе) сваёй славай». Расійскі гісторык В. М. Тацішчаў у сваёй «Гісторыі Расійскай» таксама перакладае гэтае імя як «зане любочестием горяих». Імёны полацкіх князёўнаў, якія жылі крыху пазней за Рагнеду, гучалі вельмі падобна: Прадслава, Гардзіслава, Звеніслава, Мсціслава, Святаслава.

Прыходзіць у галаву думка, што летапісец зрабіў памылку і што менавіта Гарыславай назвалі дачку Рагвалода пры нараджэнні. Тады Рагнеда — гэта проста паважлівае жаночае імя, утворанае ад імя яе бацькі. Звычай называць знатных жанчын не ўласнымі імёнамі, але імёнамі, утворанымі ад бацькоўскіх, існаваў у старажытнасці ў многіх народаў. Напрыклад, у індыйцаў і грэкаў, рымлян і скандынаваў. І, дарэчы, у рускіх летапісах мы можам сустрэць шэраг падобных жа прыкладаў у адносінах да жанчынпапярэдніц і сучасніц Рагнеды. Кіеўская княгіня Вольга, бабка Уладзіміра Хрысціцеля, аказваецца, мае сапраўднае імя Прыкраса. Вольга яна па бацьку, Алегу. Маці таго ж Уладзіміра называюць Малушай па імені яе бацькі, Мала. Першую Уладзіміраву жонку, нарманку Алогію, дачку ярла Олава, пра сапраўднае імя якой мы даведваемся дзякуючы скандынаўскім сагам, рускія летапісцы велічаюць па бацьку Алавай.

Так, можна з вялікай верагоднасцю сцвярджаць, што наша Рагнеда як славянская дзяўчына мела сапраўднае славянскае імя — Гарыслава, а з-за таго, што належала яна да самага высокага саслоўя — княжацкага, падданыя ў знак павагі мусілі называць яе не інакш, як імем па бацьку.

Дзяцінства і ранняе юнацтва Рагнеды прайшлі пад знакам усё большага ўзвышэння Полацка, якое адбывалася дзякуючы мудрай палітыцы Рагвалода.

Сведчанні пра тое, якім быў двор Рагвалода ў Полацку, захаваліся ва унікальнай быліне пра Дуная-багатыра і сватаўство князя Уладзіміра. Хаця полацкі князь і называецца ў гэтым творы старажытнарускай літаратуры «літоўскім каралём», і сітуацыю, і дзейных асоб вельмі лёгка пазнаеш. Двор Рагвалода ў быліне «пышны, шырокі», палачан называюць там не інакш як «харобрая Літва» (быліна, верагодна, узнікла дзесьці ў XV-XVI стагоддзях, і таму гэтыя тэрыторыі і народ, які жыў на іх, ужо асацыіраваліся ў рускіх сказіцеляў з Літвою). Неаднаразова падкрэсліваецца мужнасць і гасціннасць князя, вялікае адрозненне звычаяў, прынятых пры яго двары, ад тых, што існавалі пры двары кіеўскім. Падкрэсліваецца тут і тое, што ў дружыне Рагвалода было шмат іншаземных наёмнікаў. У быліне іх называюць «татары». Але гэта значыць не сапраўдную прыналежнасць наёмнікаў да гэтага ўсходняга народа, а толькі іхні язычніцкі светапогляд. Гэта — адна з умоўнасцей былініага жанру.

З гэтай жа быліны мы пазнаем, што гонару быць набліжаным да Рагвалода мог дабіцца далёка не кожны чужынец. Волат Дунай, напрыклад, «тры гады конюхам быў, тры гады стольнікам, тры гады чашнікам», і толькі тады яму было прапанавана ўзначаліць частку дружыны князя. Тое, што існаваў такі сур'ёзны выпрабавальны тэрмін, і тое, што асілкі не лічылі для сябе абразлівым праходзіць праз яго, можа сведчыць толькі пра высокі аўтарытэт Рагвалода і пра яго палітычную моц.

Іаакімаўскі летапіс распавядае пра тое, што недзе ў 70-ых гадах X стагоддзя Рагвалод хадзіў паходам на наўгародскія землі. У Ноўгарадзе ў гэты час сядзеў на княжацкім прастоле малады Уладзімір Святаславіч, будучы Уладзімір Хрысціцель. Малодшы з сыноў свайго ваяўнічага бацькі, кіеўскага князя Святаслава Ігаравіча, ён атрымаў у кіраванне Ноўгарад, таму што ніхто з яго старэйшых братоў не захацеў гэты горад, праслаўлены непакорлівасцю жыхароў, сабе ва ўдзел. Усеагульныя апаскі пацвердзіліся. Наўгародскае баярства, якое заўсёды імкнулася да вяршэнства ва ўзаемаадносінах са сваім князем, пачало інтрыгаваць супраць нявопытнага яшчэ Уладзіміра. І нават бліжэйшы родзіч і дарадчык князя — брат яго маці, ваявода Дабрыня, адданы і рашучы, не ведаў, як дапамагчы Уладзіміру ў такой сітуацыі, калі адна частка наўгародскага баярства гатова была перакінуцца на бок Рагвалода Полацкага. Другая ж, нават не ўтойваючыся, прымала падарункі ад старэйшага Уладзіміравага

брата, кіеўскага князя Яраполка, непрыязнасць якога да малодшага брата ўзнікла яшчэ ў раннім дзяцінстве, бо былі народжаны Святаславічы ад розных маці, і маці гэтыя ненавідзелі адна адну.

Нарэшце Дабрыню ўсё ж такі падалося, што выйсце ім знойдзена. І ён параіў Уладзіміру паспрабаваць ператварыць Рагвалода з супрацiўніка ў саюзніка. Самым лепшым шляхам для гэтага быў дынастычны шлюб.

Але накіроўваючы сватоў у Полацк, Уладзімір, малады і палкі, думаў не толькі і, магчыма, нават не столькі пра палітычныя выгоды, колькі пра тую, рукі якой мусіў прасіць. Слава пра прыгажосць юнай Рагнеды ўжо дайшла да Ноўгарада, і Уладзімір не мог дачакацца моманту, калі зможа назваць дзяўчыну, знешнасць якой гэтак расхвальваюць усе, хто бачыў яе, сваёю. Праўда, прапанаваць полацкай красуні Уладзімір мог толькі ганаровае месца другой жонкі (у язычніцкія часы князь меў права на некалькі спадарожніц жыцця), бо ў цераме яго ўжо жыла скандынаўка Алогія-Алава.

З Алогіяй Уладзімір ажаніўся пры абставінах даволі драматычных. Аднойчы ў Ноўгарад прыйшла вестка пра тое, што Яраполк Кіеўскі накіроўваецца з войскам на князя Алега Оўручскага, які, у адрозненне ад Уладзіміра, быў Яраполкавым братам не толькі па бацьку, але і па маці. Яраполка і Алега пасварыў стары кіеўскі ваявода Свенельд. Свенельдава сына забілі ў драўлянскіх лясах людзі Алега, бо ён там паляваў без дазволу. У выніку ўзброенага канфлікту паміж братамі Алег загінуў. Асцярожны Дабрыня, які палічыў, што наступнай ахвярай кіеўскага князя можа стаць Уладзімір, параіў яму бегчы да варагаў і збіраць там для сябе надзейную дружыну. Не паспеў Уладзімір пакінуць Ноўгарад, як ім і сапраўды авалодалі дружыннікі Яраполка. Зрэшты, у скандынаўскіх землях Уладзімір і Дабрыня хутка знайшлі саюзніка, ярда Олава, які дапамог ім вярнуць Ноўгарад. У знак удзячнасці Уладзімір ажаніўся з дачкой Олава.

Калі верыць скандынаўскім сагам, Алогія была з тых таямнічых нарманскіх жанчын, якіх лічылі празорлівіцамі. Землякі бязмерна паважалі яе і пакланяліся ёй ледзь не так, як язычніцкай багіні. Але жонка зусім не хвалявала наўгародскага князя. Таму ён марыў пра Рагнеду. Хто б мог ведаць, што дабівацца красуні палачанкі Уладзіміру давядзецца агнём і крывёю!

Склалася так, што амаль адначасова з наўгародскім князем заключыць саюз з Рагвалодам вырашыў і Яраполк Кіеўскі. Яго пасольства прыбыло ў Полацк раней наўгародскага. Сам Яраполк узначальваў яго. Кіеўскаму князю ўдалося дамовіцца з Рагвалодам і пра сумесныя ваенныя дзеянні супраць Ноўгарада, і пра шлюб з яго

дачкой. Спадабаўся Яраполк і Рагнедзе. І хаця, як і Уладзімір, кіеўскі князь ужо меў адну жонку, Гарыслава згадзілася дзяліць з іншай жанчынай каханне мужа. Дамовіўшыся пра дзень вяселля, Яраполк пакінуў Полацк. Сват Уладзіміра, Дабрыня, спазніўся ўсяго на некалькі дзён.

Перадаючы полацкаму князю прапановы свайго выхаванца і пляменніка, Дабрыня яшчэ не ведаў пра дамову Рагвалода з Яраполкам. Дыпламатычна правільным для полацкага ўладара было б, напэўна, не раскрываючы сумесных ваенных планаў з Кіевам, проста тактоўна адхіліць Уладзіміраву шлюбную прапанову, прызнаўшыся, што Рагнеда ўжо абяцана іншаму. На жаль, Рагвалод прыняў не такое рашэнне. Ён даверыў самой Рагнедзе даць адказ наўгародскаму пасольству.

Зрэшты, у славян сапраўды існаваў такі звычай. Калі да дзяўчыны сваталася адразу некалькі роўных у годнасці сваёй жаніхоў, то бацькі маглі дазволіць зрабіць выбар самой нявесце. Аднак Рагнеда была такой маладой і нявопытнай, што з усіх магчымых варыянтаў адмовы абрала ледзь не самы дрэнны. Наўмысна ці выпадкова, яна глыбока абразіла наўгародскага жаніха: «Не хачу разуць рабыніча, але Яраполка хачу». Разуць
мужа ў ноч пасля вяселля — гэта старажытнаславянскі шлюбны звычай. Ён азначаў, што маладая жонка прызнае яго сваім гаспадаром і галавой сям'і. Крыўдным, як гэта магло б падацца нам сёння, ён не быў. Бо пасля таго, як нявеста здымала з ног жаніха боты, з халявы аднога з іх у яе рукі выпадаў каштоўны падарунак. Звычайна дарагія каралі, а то і цэлы гарнітур з караляў, завушніц, пярсцёнка і бранзалетаў — усё ў залежнасці ад багацця жаніха. І гэта значыла, што за сваю пакорлівасць і рахманасць жонка будзе заўжды любімай і шанаванай у сям'і. Крыўднай для высакароднай нявесты магла быць толькі такая сітуацыя, калі «захаляўны» падарунак аказваўся значна менш каштоўным, чым тыя ўпрыгажэнні, якія насіла дзяўчына ў бацькоўскім доме. І менавіта на такую сітуацыю намякнула Рагнеда сватам Уладзіміра. Бо ў яе вачах наўгародскі князь быў чалавекам худародным, «рабынічам» — сынам рабыні.

Абраза годнасці маці для славяніна ва ўсе часы была самай вялікай абразай. Тым больш, калі яна дарэмная. Бо ніякай рабыняй на самой справе маці Уладзіміра не была. А была яна палоннай драўлянскай князёўнай, якая трапіла ў няволю да бабкі Уладзіміра, княгіні Вольгі, трохгадовым дзіцём. Здарылася так, што адзіны сын Вольгі Святаслаў закахаўся ў Мануілу, калі яна падрасла. Вольга доўга не дазваляла яму ажаніцца з Малушай. Яна нават зачыніла дзяўчыну

ў сваім маёнтку, сяльцы Будуцін, і як мага хутчэй падабрала Святаславу жонку: маладзенькую дачку венгерскага князя, Ільдзіку. Але спадчыннік Вольгі аказаўся ўпартым чалавекам і дабіўся ўрэшце рэшт права назваць каханую сваёй другой жонкай. Праўда, Уладзімір нарадзіўся да таго, як на капішчы язычніцкай багіні Лады Святаслаў урачыста надзеў Малушы на галаву шлюбны вянок. Тым не менш, «рабынічам» ён не быў, бо, па-першае, адразу ж пасля нараджэння Святаслаў афіцыйна прызнаў яго законным сынам. А па-другое, палонная драўлянская князёўна пры ўсім сваім залежным становішчы пры двары Вольгі рабыняй не з'яўлялася. Такую абразу нельга было проста «праглынуць».

Але нават не абраза Уладзіміра Рагнедай вырашыла далейшы лёс Полацка, а тое, што па словах яе Дабрыня здагадаўся: Рагвалод заключыў ужо ваенны саюз з кіеўскім князем. Ї, значыць, у хуткім часе Ноўгараду трэба чакаць нападу саюзнікаў. Нічога лепшага, чым апераджальны ўдар па Полацку, пакуль яшчэ бацька Рагнеды не паспеў аб'яднаць свае войска з кіеўскім, Дабрыню ў галаву не прыходзіла. Уладзімір паслухаўся дзядзькі. Сабраўшы для пахода «вои многи» (больш за дзевяць тысяч воінаў), сярод якіх былі не толькі наўгародцы, але і славенкі, чудзь, смаленскія крывічы і землякі Алогіі, варагі, Уладзімір павёў іх на Полацк.

Рагвалод не чакаў нападу. У той дзень ён збіраў дачку ў Кіеў, дзе павінна было адбыцца яе вяселле з Яраполкам. Але выехаць багаты вясельны поезд нявесты з Полацка не паспеў. Вартавыя разгледзелі ўдалечыні войска Уладзіміра, і ўдарыў набат. Рагвалод вырашыў сысціся з непрыяцелем у полі, па-за сценамі горада. Пэўна, войска яго было ненамнога меншым, чым тое, што набліжалася, інакш бы ён не рызыкнуў пакінуць з ім надзейныя муры Полацка. Тым не менш, зыход бітвы для полацкага ўладара аказаўся сумным. Ён быў разбіты. Рэшткі дружыны Рагвалода адступілі і зачыніліся ў горадзе. Але Уладзіміравы варагі распачалі адчайны штурм і завалодалі Полацкам.

Рагвалод з абодвума сваімі сынамі трапіў у палон. Па загадзе Дабрыні адшукалі Рагнеду, якая разам з маці хавалася ў цераме, і прывялі да пераможцы. Яна сапраўды аказалася незвычайнай прыгажуняй і адразу прымусіла маладога Уладзіміра згубіць ад страсці галаву. Але полацкая князёўна па-ранейшаму была непрыступнай і патрабавала адпусціць яе да жаніха Яраполка. Злосць завалодала Дабрынем, калі ён пабачыў вазы вясельнага поезда Рагнеды, даверху напоўненыя каштоўнасцямі. Летапісы не захавалі для нас вопісу ўсяго таго, што Рагвалод вылучыў дачцэ ў якасці пасагу. Толькі адна цікавая дэталь: сярод іншага полацкая князёўна везла ў Кіеў «царскае адзенне», у якім

мусіла з'явіцца на шлюбным піры (праз многа гадоў Уладзімір у гарачцы сваркі ўзгадае Рагнедзе гэтае адзенне).

Прынята лічыць, што да хрышчэння Русі нашы князі апраналіся ў такія ж ільняныя вышытыя світкі, якія насілі і іх падданыя, і вельмі часта нашыя мастакі малююць Рагнеду як простую гараджанку з тымі ж шклянымі ўпрыгажэннямі і маністамі, што звычайна знаходзяць на раскопках беларускіх сярэдневяковых гарадоў, з непакрытай галавою і ў грубых скураных боціках. Але гандаль Полацка з Візантыяй ужо даволі бойка ішоў у часы Рагвалода, і для княжацкіх патрэб купцы прывозілі каштоўную тканіну і вопратку з Царграда. Сцвярджэнне таму — «царскае», гэта значыць, такое, якое насіла вышэйшая знаць у сталіцы Візантыі, шлюбнае адзенне Рагнеды. Ці не яно стала апошняй кропляй, што выклікала навалу лютасці і зайздрасці «рабыніча» да свайго суперніка-брата?

Дабрыня падказаў, як лепш за ўсё адпомсціць ганарлівай красуні. І Уладзімір згвалтаваў полацкую князёўну на вачах у яе палоннага бацькі. Пасля гэтага нельга ўжо было пакідаць Рагвалода ў жывых. І вось па загадзе Уладзіміра полацкі князь, яго жонка і абодва сыны прынялі смерць. Непрытомную ж Рагнеду разам з усімі вазамі яе вясельнага поезда павезлі ў Ноўгарад.

Яна паўстала перад наўгародцамі ў сваім «царскім адзенні» бледная і заплаканая. І многія спачувалі яе няшчасцям у той час, калі Уладзімір упэўнена і ўладна вёў няшчасную князёўну да капішча, каб багіня Лада блаславіла іхні шлюб. Але грубыя і прагныя варагі падбадзёрвалі маладога князя, віншавалі з вартай здабычай і патрабавалі хутчэй весці іх ужо на Кіеў, на Яраполка, каб не было каму адпомсціць за Рагнеду. І ён пайшоў на Кіеў, і гэта адбылося, згодна з «Аповесцю мінулых гадоў», амаль адразу пасля крывавага вяселля Рагнеды, у 980 годзе, а паводле іншых летапісаў, якія адлічвалі гэтую дату ад даты нараджэння ў Гарыславы другога сына, Яраслава, — каля 976 года.

Але Кіевам, у адрозненне ад Полацка, Уладзімір авалодаў дзякуючы хітрасці. Падышоўшы да Яраполкавай сталіцы, наўгародскі князь пачаў уздзейнічаць на брата праз прадажнага баярына Блуда, які мала-памалу выклікаў у Яраполку апаску, быццам бы большасць кіеўскіх уладных людзей ужо перабеглі на бок Уладзіміра і рыхтуюцца выдаць свайго гаспадара наўгародскаму князю. Спалоханы Яраполк паспяшаўся пакінуць Кіеў і шукаў ратавання ў горадзе-свяцілішчы Родні, дзе любы чалавек мог прасіць заступніцтва ў тамтэйшых вешчуноў.

Уладзімір увайшоў у Кіеў. А пасля праз таго ж Блуда выманіў з Родні Яраполка быццам бы для перагавораў і забіў.

Умацаваўшыся на кіеўскім прастоле, Уладзімір тут жа загадаў прывезці ў сталіцу Алогію і Рагнеду, якіх пасяліў у пышным цераме бабкі сваёй, княгіні Вольгі. Дарэчы, тут ім растлумачылі, што ім цяпер давядзецца дзяліць мужа не на дзвюх, а на трох. Уладзімір назваў сваёй трэцяй жонкай удаву Яраполка Мілаліку, «грэкіню» (гэта значыць, праваслаўную па веравызнанні), балгарку па паходжанні. Адмовіцца ад гэтага шлюбу ён не мог, бо паводле старажытнага язычніцкага звычаю Славянаў, князь, які забіў іншага князя, мусіў узяць апеку над яго падданымі і сям'ёй, ажаніўшыся з удавой ці ўдовамі нябожчыка.

Далей, сцвярджаюць летапісцы, гарэм Уладзіміра папоўніўся яшчэ многімі і многімі жанчынамі. Ён узяў у жонкі дачок багемскага і мараўскага князёў, Малфрыду і Адэль, і завёў некалькі соцень наложніц. У летапісах мы знаходзім сведчанні, што наложніц было ў яго 300 у Вышагорадзе, 300 у Белагорадзе і 200 на Берастове, у сяльцы, якое называюць цяпер Бераставое. «И был он ненасытен в блуде, приводя к себе замужних женщин, и растаял девиц». Летапісец кажа пра Уладзіміра, што быў ён такі ж жанчыналюб, як і Саламон, у якога было 700 жонак і наложніц.

Здзіўляючыся тэмпераментнасці і неаслабнай цікавасці свайго правіцеля да жанчын, падданыя імкнуліся заваяваць яго прыхільнасць, здабываючы для Уладзіміра ўсё новых і новых прыгажунь: славянак, грачанак, яўрэек, раскосых адалісак. Кажуць, што аднойчы кіеўскаму князю падарылі нават негрыцянку.

Але, можа, усе гэтыя расказы пра нястрымную страснасць Уладзіміра не больш чым плёткі? Сапраўды, нам не вядома ніводнае імя, ніводны лёс наложніцы князя, ні разу ў летапісных аповедах не ўсплываў у якасці дзейнай асобы ніхто з сыноў Уладзіміра ад тых жанчын, што не былі яго жонкамі. Ды і сведчанні пра ўзаемаадносіны з жонкамі не даюць права сцвярджаць, што ён быў сапраўды такім ужо жанчыналюбам. Мы ўжо ведаем, што шлюб з Алогіяй быў заключаны Уладзімірам толькі дзеля таго, каб замацаваць гэтым саюз з варагамі. Нарадзіўшы ў шлюбе ўсяго аднаго сына Вышаслава, які памёр маладым, Алогія больш не ўдастойвалася ўвагі Уладзіміра як жанчына, але, адпаведна сагам, заставалася да самай сваёй смерці вернай саюзніцай князя ў яго палітычных памкненнях і аўтарытэтам сваім надзейна ўтрымлівала вакол яго варажскую дружыну.

Мілаліка, пра якую летапісцы распавядаюць, што яна была вельмі прыгожай жанчынай, таксама не завалодала сэрцам Уладзіміра. Калісьці Уладзіміраў бацька, Святаслаў, падчас аднаго з балгарскіх сваіх паходаў выкраў Мілаліку з праваслаўнага манастыра «дзеля

прыгажосці твара яе». Ён разлічваў зрабіць яе сваёй трэцяй жонкай, але супраць таго, каб Святаслаў узяў шлюб з Хрыстовай нявестай, рэзка выступіла яго маці, княгіня Вольга, бо яна ўжо была на той час хрысціянкай і ўсяляк схіляла да праваслаўя і сына. Неверагоднымі намаганнямі, толькі таму, што была ўжо вельмі хворай і з дня на дзень чакала смерці, старой княгіні ўдалося вырваць у Святаслава ўрачыстае абяцанне не рабіць замах на цноту Міладікі. Але Святаславу шкада было адправіць зноў у манастыр прыгажуню-балгарку. І таму пасля смерці маці ён ажаніў з Міладікай свайго старэйшага сына, Яраполка. Але былая манахіня пры ўсёй сваёй прыгажосці не магла выклікаць у таго пяшчотных пачуццяў, бо была на сем ці восем гадоў старэйшай за Яраполка. Розніца ж яе ўзросту з Уладзімірам была і яшчэ большай. Дзіця, якое нарадзілася ў Міладікі, сына Святаполка, Уладзімір сваім не лічыў, бо наведаў удаву брата толькі аднойчы, у дзень шлюбу, каб не прагнявіць багоў. Сама Міладіка настойвала на тым, што бацькам хлопчыка з'яўляецца ўсё ж Яраполк, якога яна ўпрасіла даць ёй хаця б дзіця для радасці, калі даведалася, што той збіраецца абраць шлюб з Рагнедай. Магчыма, так яно і было.

Малфрыда і Адэль таксама трапілі ва Уладзіміраў церам у выніку дынастычных шлюбаў, якія звязалі Кіеў з найбольш магутнай са славянскіх дзяржаў таго часу — Чэхіяй. Праўда, абедзве князёўны былі маладымі і прывабнымі. Але, здаецца, пачуцці да іх ва Уладзіміра былі даволі роўнымі. Малфрыда нарадзіла мужу двух сыноў, Святаслава і Судзіслава, а Адэль — Станіслава і Позвізда. Вось, мабыць, і ўсё, што вядома нам пра іхнія шлюбныя ўзаемаадносіны.

Магчыма, адзінай жанчынай, якая па-сапраўднаму хвалявала Уладзіміра, была Рагнеда. Страсная і палкая палачанка прымушала кіеўскага князя перажываць усю палітру чалавечых пачуццяў: любоў, рэўнасць, гнеў, рахманасць, раскаянне, уціхаміранне. Нечаканая, неспасціжная, непрадказальная, яна вабіла князя, і ён прыходзіў да яе зноў і зноў скараць, падпарадкоўваць, упрошваць, маліць аб каханні. Каб не выклікаць зайздрасці іншых сваіх жанчын да Рагнеды, Уладзімір аддзяліў яе ад іх, падарыўшы сяльцо на Лыбедзі. Там у акружэнні адданых служанак, у раскошы і гонары мусіла жыць яна, любімая жонка кіеўскага князя, «княгіня над княгінямі». Там аднаго за адным нарадзіла Рагнеда Уладзіміру шасцярых дзяцей: рашучага Ізяслава, красуню Прадславу, хваравітага, але вельмі разумнага Яраслава, сціплага Усевалада і блізнят Мсціслава і Праміславу.

Што ж рабілася ў душы Рагнеды ўвесь гэты час? У навуковай і папулярнай літаратуры сустракаюцца дзве версіі. Паводле адной, полацкая князёўна не пераставала аплакваць сваю сям'ю і горад,

спалены Уладзімірам. Думкі пра помсту быццам бы ніколі не пакідалі яе, і ўрэшце рэшт яна зрабіла тое, што хацела: накінулася на Уладзіміра з кінжалам, калі ён аднойчы наведаў яе церам і застаўся ў ім начаваць. Паводле другой, Рагнеда даравала свайму крыўдзіцелю, адказала яму ўзаемнасцю і нават пачала адчайна раўнаваць яго да іншых жанчын, дзеля якіх ён часта і надоўга пакідаў яе. Падчас адной з такіх успышак рэўнасці Рагнеда, пэўна, дрэнна разумеючы, што робіць, спрабавала закалоць кінжалам мужа, які спаў. Князь здолеў у апошняе імгненне прабудзіцца і перахапіць яе руку.

Безумоўна, першы варыянт гэтай гісторыі павінен чытачу больш падабацца. З пункта гледжання сучаснага чалавека ён — зразумелы і апраўданы. Але пры бліжэйшым яго разглядзе ўзнікае пэўная замінка. Чаму Рагнеда не спрабавала забіць Уладзіміра адразу пасля таго, як ён гвалтоўна зрабіў яе сваёй жонкай? Чаму тады, калі боль ад страты блізкіх быў найбольш вострым, а страшэннае полымя гінучага па волі Уладзіміра Полацка яшчэ стаяла перад вачыма, помста не ўклала ў рукі Гарыславы смяротны клінок? Год за годам яна жыла ў сваім пышным цераме на Лыбедзі, прымала Уладзіміравы падарункі і ласкі, нараджала яму дзяцей і толькі праз восем ці больш гадоў раптам «успомніла» пра свае крыўды.

У чым жа справа? Ды ў тым, што мсцівыя пачуцці, калі яны і валодалі Рагнедай у першыя часы пасля яе паланення Уладзімірам, вельмі хутка саступілі месца іншым памкненням. І вось тут мы ўступаем на вузкую сцяжынку навукі псіхалогіі, на тэму якой цяжка размаўляць неазнаёмленым. Але мы ўсё ж такі паспрабуем зразумець, што адбылося. Летапісныя радкі таксама, як і «Жыціе Уладзіміра Хрысціцеля», даюць нам зразумець, што жорсткасць князя ў адносінах да Рагнедзіных родзічаў і землякоў у далейшым выклікала ў яго самога сорам. Уладзімір шкадаваў пра сваю нястрыманасць і гарачнасць. Штых пакаянных пачуццяў ён не хаваў ад Рагнеды, усяляк падкрэсліваючы сваё да яе каханне і ўсяляк узвышаючы над іншымі жонкамі. Юная палачанка, пэўна, і сама не заўважыла, як адчай у яе сэрцы саступіў месца гневу, гнеў — крыўдзе, крыўда — слязам. Слёзы ж урэшце рэшт змякчылі яе сэрца для апраўдання чалавека, што стаў гаспадаром яе лёсу. І яна прымірылася са сваім становішчам. Але, безумоўна, не настолькі, каб пакахаць таго, каго зусім нядаўна ненавідзела ўсёй сваёй існасцю. І тым больш не настолькі, каб люта раўнаваць да іншых жонак. Ды і прычын для гэтага, як бачым, у яе не было, бо яна ведала, што ніводную з іх Уладзімір не любіць. І міжволі ганарылася Рагнеда сваёй уладай над гэтым моцным чалавекам, сваім становішчам «княгіні над княгінямі».

Калі ж тады і чаму адбыўся замах Рагнеды на жыццё Уладзіміра?

«Аповесць мінулых гадоў» называе дакладную дату — 988 год — і дае ключавую фразу для разгадкі. Калі Уладзімір, ледзь пазбегнуўшы гібелі ад рукі Рагнеды, са здзіўленнем пытаецца ў яе, чаму яна гэтак зрабіла, Гарыслава адказвае: «Ты бацьку майго забіў і зямлю яго паланіў дзеля мяне, а цяпер не кахаеш мяне...».

988 год стаў ракавым для Рагнеды. Бо менавіта тады Уладзімір нечакана для яе прыняў рашэнне хрысціцца ў праваслаўе, ажаніцца з сястрой візантыйскіх базілеўсаў Ганнай і распусціць свой гарэм.

У гэтай гісторыі ёсць цікавая перадгісторыя, якую, пэўна, нядрэнна было б ведаць тым, хто сур'ёзна цікавіцца нашым мінулым. Позняй восенню 987 года ў Візантыі пачалося паўстанне палкаводца Барда Фокі. Адначасова з гэтым супраць улады Царграда выступілі балгары. Базілеўсы-саправіцелі, браты Васілій і Канстанцін Багранародныя, вырашылі звярнуцца па дапамогу да кіеўскага князя Уладзіміра, якому да гэтага часу ўдалося сабраць вялікія ваенныя сілы, што складаліся са славян і варагаў. Узамен Уладзімір, які даўно марыў пра трывалы мір і ўзаемаразуменне з Візантыяй і не ведаў да гэтых часоў лепшага спосабу дабіцца гэткай мэты, акрамя як пры дапамозе шлюбу, папрасіў у братоў рукі іхняй сястры, Ганны. Ганну яму абяцалі пры ўмове, што ён ахрысціцца і развядзецца з усімі іншымі сваімі жонкамі.

Варта сказаць, што кіеўскі князь і сам вось ужо некалькі гадоў раздумваў над тым, ці не памяняць яму славянскае язычніцтва на рэлігію, дзе не было б мнагабожжа. Бо яго падданыя думалі, што калі багоў на небе мноства і кожнае племя мае і шануе свайго бога-апекуна, то і правіцеляў у Славянаў таксама павінна быць многа – у кожнага племені свой. А кіеўскі князь марыў аб'яднаць рознапляменную Русь у адзіную моцную дзяржаву.

Веравызнанняў, дзе Бог быў бы адзіны, Уладзімір налічыў усяго чатыры: іудаізм, магаметанства, хрысціянства па рымскім і хрысціянства па грэчаскім узорах. Дзеля таго, каб выбраць лепшую веру, тую, якая больш падыходзіць для прыняцця на Русі, кіеўскі князь накіраваў сваіх давераных людзей у якасці назіральнікаў у розныя дзяржавы.

Больш за ўсё ўразіў яго аповед пасольства, якое ездзіла ў Царград. Адзіным непрыемным момантам тут было тое, што хрысціяніну забаранялася мець некалькі жонак. Менавіта гэтыя абставіны некаторы час яшчэ ўтрымлівалі Уладзіміра ад канчатковага рашэння. Але абяцанне яму рукі Ганны Багранароднай аказалася вельмі вялікай

спакусай. Бо сястра базілеўсаў была б самай высакароднай з усіх, каго даводзілася Уладзіміру называць жонкай.

Аказаўшы дапамогу Царграда Уладзімір пачаў рыхтавацца да хрышчэння і візантыйскага шлюбу. Лягчэй за ўсіх кіеўскі ўладар знайшоў разуменне са сваімі хрышчанымі жонкамі, Мілалікай і «чэхінямі» Малфрыдай і Адэляю. Заўсёды дзесьці ў глыбіні душы лічачы свой шлюб з Уладзімірам «блудадзействам», яны згадзіліся на развод і па прапанове кіеўскага ўладара ўзялі новыя шлюбы з вяльможнымі хрысціянамі. Скандынаўка Алогія, якая ужо шмат гадоў вяла сябе ў адносінах да мужа хутчэй як сястра, чым як жонка, сустрэла звестку пра развод даволі спакойна. Нядрэнна разбіраючыся ў справах палітыкі, яна не толькі зразумела, што паспрыяла прыняццю Уладзімірам менавіта такога рашэння, але нават выказала жаданне сама ахрысціцца і гэтым паказаць прыклад служылым варагам.

Уладзіміру заставалася апошняя размова. Самая складаная, з Рагнедай.

Пра тое, як яна адбывалася, распавядаюць Цвярскі і Гунстынскі летапісы. Даведаўшыся пра намеры мужа, Гарыслава ўзарвалася яраснаю прамоваю: «Княгіняю была, да не стану рабыняю!». А яе сын Яраслаў (паводле адных летапісаў пяцігадовы, ці дзевяцігадовы — згодна з іншымі), разумны, але ўбогі хлопчык, які ад нараджэння не мог хадзіць, раптам узняўся, уражаны, са свайго крэсла і кінуўся да маці з крыкам: «Ты княгіня над княгінямі і царыца над царыцамі!».

Далей, праўда, цвярскі летапісец сцвярджае, што Рагнеда згадзілася даць волю Уладзіміру, прыняўшы манаства. Але ён забягае наперад. Бо гэта здарылася значна пазней. А вось, відаць, адразу ж пасля бурнай сямейнай сцэны Уладзімір, якога не магло не ўразіць цудоўнае вылячэнне сына, выказаў жаданне пераначаваць у Рагнедзіным цераме на Лыбедзі. І хто ведае, якое б рашэнне выспела да раніцы ў ягонай галаве, калі б сярод ночы абражаная ўжо другі раз у жыцці Рагнеда не кінулася на мужа з кінжалам…

Першым імкненнем князя, які раздумваў ужо над тым, як бы стаць хрысціянінам, але ўсё яшчэ заставаўся язычнікам па сваім светапоглядзе, было забіць непакорную. Ён аб'явіў ёй пра свой намер, загадаўшы апрануць тое самае «царскае» шлюбнае адзенне, якое як вялікую каштоўнасць і адзіную памяць пра свайго бацьку ўсё яшчэ захоўвала полацкая князёўна, і чакаць яго на тым самым ложку, дзе хацела зарэзаць. А ён прыйдзе, каб напаіць яе крывёю свой меч.

Рагнеда зрабіла ўсё, што патрабаваў ад яе Уладзімір. Але ў апошні момант на вочы ёй патрапіўся старэйшы сын Ізяслаў (яму было ці то сем, ці то адзінаццаць гадоў). Тады нешта падказала ёй шлях да

выратавання. Рагнеда дала Ізяславу ў рукі меч і загадала ўстаць з ім на шляху раз'юшанага бацькі. Калі ў спачывальні з'явіўся Уладзімір, хлопчык пакрочыў яму насустрач са словамі: «Не думай, бацька, што ты тут адзін».

Сын, які ўзняў на яго меч, абараняючы жыццё маці, уразіў Уладзіміра не менш, чым крыху раней іншы, які намаганнем волі ўстаў на свае хворыя ножкі, каб паказаць бацьку сваю любоў і адданасць Рагнедзе. Ці не будуць помсціць яму ўласныя сыны, ператварыўшыся ў мужчын, калі ён у іх на вачах расправіцца з Гарыславай? Гэтага трэба было пазбегнуць любой цаной.

Уладзімір выклікаў на савет баяр, і тыя параілі яму захаваць Рагнедзе жыццё. Бо расправіўшыся з жонкай па язычніцкіх законах, ён наўрад ці зможа апраўдацца перад нявестай-хрысціянкай Ганнай Багранароднай і яе братамі. Баяры параілі свайму гаспадару выслаць Рагнеду разам з ваўчанём Ізяславам з Кіева, пажадана падалей. Яраслава ж вырашана было пакінуць з бацькам. Па маленстве княжыча можна было б яшчэ перавыхаваць гэтак, каб любіў і паважаў бацьку.

Уладзімір згадзіўся. Урэшце рэшт, як бы ні была вінавата перад ім Гарыслава, яна ўсё яшчэ працягвала хваляваць яго. Для Рагнеды загадаў Уладзімір пабудаваць на землях Полацкага княства невялікі гарадок, якому даў імя яе сына-абаронцы Ізяслаўль (цяпер Заслаўе). Там яны і пасяліліся згодна з воляй уладнага свайго мужа і бацькі.

У тым жа годзе, у якім Рагнеда выехала з церама на Лыбедзі ў ссылку, Уладзімір назваў сваёй адзінай жонкай і княгіняй Ганну Багранародную. Візантыйка, дарэчы, доўга плакала перад замужжам, упрошваючы братоў дазволіць ёй лепш стаць манахіняй, чым пакідаць назаўжды Царград дзеля варварскай Русі. Адзінае, што суцяшала яе, — гэта тое, што яна можа дагадзіць Богу, выконваючы высокую місію хрышчэння Русі. І сапраўды, вельмі хутка пасля з'яўлення Ганны ў Кіеве Уладзімір абвясціў прыняцце новай веры, ператварыўшы ў велізарную купель Днепр. Разам з іншымі ўвайшла ў хвалі вялікай ракі скандынаўка Алогія. Уладзімір прадставіў Ганне і трох сваіх язычніцкіх жонак, тых, якія былі ахрышчаны раней. Дзве з іх, «чэхіні», ужо мелі па ўласным мужы-хрысціяніне. «Балгарыю» Мілаліка прыняла рашэнне вярнуцца да цнатлівага ладу жыцця, хаця і не ў келлі, а ў цераме. Але Ганна магла даведацца, што акрамя гэтых ва Уладзіміра была яшчэ адна жонка, якая так і не адмовілася ад свайго становішча вялікай княгіні кіеўскай.

Уладзімір вырашыў таемна ад Ганны паслаць да Рагнеды ў Ізяслаўль Дабрыню. Як толькі самы галоўны віноўнік пагібелі сям'і

полацкай князёўны паўстаў перад ёю, жанчына ўсё зразумела. Упарціцца далей было і бессэнсоўна, і небяспечна. Дзеля спакою любімага пляменніка Дабрыня мог пайсці на ўсё, у тым ліку і на таемнае альбо «выпадковае» забойства яго непакорнай жонкі. Зрэшты, разумная і кемлівая Гарыслава знайшла выйсце з небяспечнай сітуацыі, якое не прыніжала яе годнасці.

Вялікі князь кіеўскі прыняў новага Бога, бо лічыў яго лепшым за багоў продкаў. Што ж, яна таксама будзе пакланяцца гэтаму лепшаму Богу. Муж гінуў яе дзеля сястры базілеўсаў думаючы, што тая яго больш узвысіць, чым Рагнеда. Няхай. Але гэта не значыць, што цяпер Рагнеда павінна прынізіцца да становішча жонкі якогасьці Уладзіміравага баярына альбо заняпалага ўдзельнага князька. Яна зойме становішча больш высокае, чым Уладзімір, таму што яна стане нявестай Бога, у якога паверыў кіеўскі князь.

Усяго праз некалькі тыдняў у гарадку Ізяслаўлі памерла для свету жанчына Гарыслава і з'явілася прыўкрасная нявеста Хрыстова — Анастасія. Рагнеда стала першай з усходнеславянскіх жанчын, якія прынялі манаства.

Але калі была манахіня, павінен быць і манастыр. Археолагі ніякіх слядоў яго пакуль не знайшлі, аднак раскопкі на гэтак званай Чорнай гары, дзе, паводле падання, хавалі чарніц, сапраўды выявілі шматлікія жаночыя пахаванні, сярод якіх адно — самае багатае — належала жанчыне, што жыла ў X стагоддзі. Ці Рагнедзіна было гэтае пахаванне? Магчыма.

Нам невядома, ці змяніўся з часам светапогляд манахіні Анастасіі, якая абрала Хрыста, безумоўна, не дзеля шчырай веры, а згодна з язычніцкімі амбіцыямі. Магчыма, мудрыя настаўнікі-святары, якія неўзабаве прыбылі на Русь з Візантыі, здолелі адвесці яе ад жыцця страснага і ўвесці ў сэрца спакой і духоўную раўнавагу. На карысць гэтага і расказ з Ніканаўскага летапісу пра тое, якім пад уздзеяннем аўтарытэту маці вырас Ізяслаў.

«Бысть же сий князь тих и кроток, и смирен, и милостив, и любя зело и почитая священнический чин иноческий, и прилежаще прочитанию божественных писаний, и отвращаясь от суетных глумлений, и слёзен, и умилен, и долготерпелив».

Князем-кніжнікам вырас і другі сын Рагнеды, Яраслаў, які пазней увайшоў у гісторыю пад мянушкай Мудры. Стаўшы дарослым, ён прыгадаў бацьку крыўды маці і адмовіўся падпарадкоўвацца. Уладзімір абвясціў Яраславу вайну, але рушыць войскі на сына не паспеў: хваляванні і ўзрушэнні, звязаныя з непакорнасцю сына, выклікалі ў князя ўдар, у выніку якога ён і памёр. Прастол Уладзіміра ў Кіеве

заняў Яраслаў, які даў пачатак новай моцнай дынастыі кіеўскіх князёў. Сваю старэйшую дачку Яраслаў назваў Анастасіяй у гонар Рагнеды, якая памерла чарніцай у Ізяслаўлі ў 1000 годзе. А старэйшага сына — Ізяславам у гонар брата, полацкага князя, які так любіў і шанаваў маці, што не змог перажыць яе смерць і пайшоў у нябыт у наступным жа, 1001 годзе.

## Лэдзі Макбет з Наваградка

Безумоўна, гэта самая загадкавая асоба ва ўсёй гісторыі беларускага Сярэдневякоўя — першая і адзіная каралева Літвы-Беларусі, жонка вялікага Міндоўга, Марта.

Характар шэкспіраўскай моцы, ахвяра многіх страсцей, асоба трагічнага лёсу, у айчыннай гістарычнай літаратуры яна, на жаль, дагэтуль не заняла належнае ёй месца. Магчыма, таму, што час, у які жыла гэтая жанчына, даволі складаны для даследаванняў з-за раскіданасці фактаў па розных першакрыніцах і з-за мноства розначытанняў у дакументах пра тую эпоху.

І тым не менш, той, хто мае вушы — пачуе, а той, хто мае вочы — пабачыць за скупымі і адасобленымі звесткамі поўнае сапраўднага драматызму чалавечае жыццё.

Марта нарадзілася дзесьці ў 20-ыя гады XIII стагоддзя. Бацькам будучай каралевы быў ліфляндскі дваранін па імені Фляндр. Хто была жонка гэтага Фляндра — невядома, але можна меркаваць, што праваслаўная з тэрыторыі сучаснай Беларусі, бо імёны абедзвюх яе дачок ад Фляндра былі праваслаўнымі. Марта, відаць, старэйшая з іх, паводле летапісных звестак, спачатку, да прыняцця каталіцтва, называла сябе Марфай. Яе сястру клікалі Агнай (гэта беларускі народны варыянт імя Ганна).

Людзі, з якімі меў зносіны Фляндр, з'яўляліся пераважна прадстаўнікамі літоўскай, жэмайцкай і аўкштайцкай знаці. Сярод іх і абраў ён мужоў для сваіх дачок. Марта стала жонкай літоўскага князя Вісманта, Агна — нальшанскага князя Даўмонт.

Апавядаючы пра тыя часы, нельга, пэўна, абысціся без гістарычна-геаграфічных тлумачэнняў. Зробім невялічкі адыход ад асноўнай тэмы і мы, каб зразумець, куды ж патрапілі з Ліфляндыі дочкі Фляндра. Імёны іх мужоў, здаецца, не павінны пакідаць ніякіх сумненняў у тым, што гарады, дзе яны жылі і княжылі, знаходзіліся на тэрыторыі сучаснай Літвы. Аднак не ўсё гэтак проста. Бо, напрыклад, Налынанскае княства знаходзілася на паўночным захадзе цяперашняй Беларусі. Галоўны яго горад называўся Крэва. У Крэўскім замку, надзейнай і моцнай цвержы, і жыў князь Даўмонт. Там жа размясціў ён і Агну, якая неўзабаве нарадзіла яму спадчынніка, Полюша.

Уладанні літоўскага князя Вісманта таксама трэба шукаць не на карце сучаснай Літвы. Яе часткі ў XIII стагоддзі называліся Жэмайцця (нізкая зямля) і Аўкштайцця (высокая зямля), адпаведна князі, якія там сядзелі, былі жэмайцкімі і аўкштайцкімі князямі. Уласна ж Літва, калі верыць рускім летапісам, была часткай цяперашняй Беларусі.

М. Ермаловіч вызначае межы гэтай летапіснай Літвы «ў прасторы паміж Мінскам і Наваградкам з усходу на захад і паміж Маладзечна і Слонімам з поўначы на поўдзень». Літва гэтая як быццам бы разбівала старажытныя беларускія землі на дзве часткі. Ці была яна славянскай? Некаторыя айчынныя даследчыкі лічаць, што так, хаця ім цяжка растлумачыць, чаму насельніцтва гэтых земляў было язычніцкім, а таксама балцкае гучанне імёнаў літоўскіх князёў ды і сам тапонім «Літва». Тым больш, што такую назву насіла адно з буйных балцкіх плямёнаў. Хутчэй за ўсё ў пераважнасці сваёй балты і насялялі «летапісную» Літву, хаця нам і дагэтуль невядома, як і калі яны атабарыліся ў самым сэрцы славянскіх земляў.

Вось у гэтую Літву, у адзін з невялічкіх гарадоў яе, і патрапіла пасля вяселля з Вісмантам Марта, дачка Фляндра. Здарылася гэта недзе ў 40-ыя гады XIII стагоддзя. Тады ўжо паўсюль грымела слава Міндоўга, які здолеў заявіць пра сябе як пра лютага ворага крыжаносцаў і іхніх саюзнікаў, воінаў князя Конрада Мазавецкага.

Спачатку Міндоўг княжыў на Літве, дзе ў яго быў замак у горадзе Барута (альбо Рута). Але воляю сваіх ворагаў ён страціў княжанне і вымушаны быў разам з сям'ёй і вернымі баярамі шукаць ратавання і абароны ў Наваградку.

Наваградскае княства суседнічала з Літвою. Сталічны горад яго, Наваградак, быў заснаваны сынам Рагнеды Яраславай Мудрым пасля аднаго з пераможных паходаў на Літву на адваяванай у літоўцаў тэрыторыі. Міндоўг некалькі разоў выступаў у саюзе з наваградцамі супраць агульных ворагаў — Ордэна і Мазовіі. Таму, стаўшы выгнаннікам, разлічваў, што будзе прыняты мясцовым князем Ізяславам, з якім «і ваяваў, і траваў». Літовец меркаваў, што яму дазволяць зарабляць сабе на хлеб, альбо навучаючы маладых наваградцаў ваеннай навуцы, альбо ўзначаліўшы частку княжацкай дружыны. Але нечакана для сябе знайшоў у Наваградку не толькі прытулак, але і княжацкі пасад. Неўзабаве жыхары княства па невядомых нам прычынах скінулі Ізяслава і прапанавалі заняць яго месца Міндоўгу.

Міндоўг быў прадстаўніком аднаго з самых знатных літоўскіх родаў. З гонарам ён пералічваў сваіх продкаў: бацьку Рынгальда, дзеда Альгімонта, прадзеда Тройната, прапрадзеда Скірмунта, прапрапрадзеда Мінгайлу — і гэтак да самага першага продка, родапачынальніка не толькі дынастыі літоўскіх князёў, але і жэмайцкіх, і аўкштайцкіх, заснавальніка Коўна, паўміфічнага Кунаса. Наваградку правіцель з такім старажытным радаводам мог прынесці толькі гонар. Але не гэта было галоўным, а тое, што Міндоўг меў выдатныя

дыпламатычныя здольнасці і да таго ж быў рашучым і ўмелым военачальнікам.

Міндоўг прыйшоў у Наваградак у 1245 годзе і ўжо ў наступным 1246-м, пасля таго, як па патрабаванні наваградцаў «прия веру Христову от Востока» (гэта значыць, праваслаўе), стаў наваградскім князем.

Па ўсім бачна, што яшчэ да гэтых падзей адбылася першая сустрэча Міндоўга і Марты. Напэўна, уладар Барута здолеў неяк стаць госцем у замку Вісманта і там пабачыў яго жонку. Бо, стаўшы гаспадыняй Вісманта, Марта страціла магчымасць выязджаць куды-небудзь без дазволу мужа. А літоўскія князі не мелі звычаю, накіроўваючыся некуды па справах альбо едучы ў госці, браць з сабою жонак. Толькі вяселле ці пахаванне блізкіх сваякоў іхніх жанчын абавязвала літоўскіх гаспадароў на некалькі дзён адпускаць «пустэльніц» да іх родных.

У сувязі з гэтым яшчэ адно меркаванне: Марта магла пабачыцца з Міндоўгам на вяселлі, напрыклад, сваёй сястры Агны, якое адбылося крыху пазней, чым яе ўласнае. Даўмонт, князь нальшчанскі, мог запрасіць да сябе на ўрачыстасць разам з іншымі і Міндоўга.

Як бы там ні было, а гаспадар Барута адразу звярнуў увагу на чужую жонку, і яна завалодала яго думкамі, нягледзячы на тое, што і сам ён быў чалавекам жанатым, бацькам дваіх дзяцей-падлеткаў.

А як жа Марта? Наўрад ці яна паспела зразумець, што за асоба быў Міндоўг, у тую самую першую іх сустрэчу. Прыгажуном, мяркуючы па вядомай сярэдневяковай выяве, Міндоўг не быў, нораў, як сведчаць летапісы і хронікі, у яго быў даволі скрытны. Тым не менш, побач з Вісмантам Міндоўг усё роўна мусіў глядзецца прывабна: высокі і магутны, з велічнай постаццю і «вогненным позіркам».

Муж жа Марты быў гарбуном. Яна ніколі не кахала яго, а праз пэўны час мусіла і наогул узненавідзець, бо зразумела, што ён не можа нават даць ёй дзяцей. Тым не менш, здрадзіць Вісманту Марце павінна было быць не толькі цяжка з-за таго, што яна вельмі рэдка пакідала яго замак, але і страшна. Бо, згодна з язычніцкімі літоўскімі законамі, жанчыны, што парушалі святыя сямейныя вузы, прыгаворваліся да спалення жывымі на свяшчэнным вогнішчы, таксама караўся і мужчына, які спакусіў чужую жонку. Калі ж і чаму, урэшце рэшт, яна стала каханкай Міндоўга?

Паспрабуем дапусціць, што, па-першае, жывучы дзень за днём, месяц за месяцам, год за годам з нелюбоўю ў сэрцы і адчаем у думках, з самотай, Марта стала адчуваць страх пражыць да старасці шэра і бязрадасна мацней за страх перад грахом і расплатай за яго. А па-

другое, Міндоўг здолеў заваяваць яе сэрца, калі знайшоў надзейны спосаб часта бачыцца з ёю і, не баючыся нічога, проста сярод белага дня нашэптваць пра каханне. Ён стаў «лепшым сябрам» Вісманта, і гэта дало яму магчымасць час ад часу наведваць Вісмантава жытло.

Неабходнасць Міндоўга бегчы з Літвы ратаваць сваё жыццё ў Наваградак павінна было стаць ударам для
Марты, бо хаця сувязь з ім і падавалася ёй спачатку кароткачасовым захапленнем, але кожная новая сустрэча прывязвала жанатага мужчыну і замужнюю жанчыну адно да аднаго ўсё больш і мацней.

Але разлука закаханых была не вельмі доўгаю. Як толькі Міндоўг заняў навагрудскі прастол, ён аднавіў сувязі з Вісмантам і змог даць зразумець Марце, што не забыўся пра яе.

Першы час свайго праўлення ў Наваградку Міндоўг паказаў сябе як рашучы, але абачлівы чалавек. Ён дабіўся павагі пад даных тым, што без крыві і жорсткіх сутычак яму ўдалося вельмі хутка аб'яднаць вакол Наваградка шэраг беларускіх гарадоў. Князі гэтых гарадоў раней хаця і былі палітычна залежнымі ад больш моцных князёў наваградскіх, ды ўсё ж не складалі з Наваградкам маналітнага адзінства. У Наваградскае княства Міндоўга ўвайшлі Ваўкавыск і Здзітаў, Гарадзен, Свіслач і Зэльва.

Міндоўг умацаваў сваю сталіцу і здолеў стварыць надзейнае, добра ўзброенае і абучанае войска. Ён заключыў дамову з бліжэйшым суседам, Галіцка-Валынскім князем Данілам, жэмайцкімі і аўкштайцкімі князямі, і паспяшаўся наладзіць сяброўскія сувязі з Ноўгарадам, дзе княжыў Аляксандр Неўскі. Але ён мусіў рыхтавацца і да вялікага паходу на Літву, каб вярнуць сваю Варуту і адпомсціць ворагам. «Лепшы сябра» Вісмант не мог не выступіць на баку Міндоўга.

Свой план навагрудскі князь пачаў выконваць у 1251 годзе. Дзе сілаю ды непахіснасцю, дзе хітрасцю адзін за адным скарае Міндоўг літоўскія гарады, ператвараючы князёў-суайчыннікаў у залежных васалаў ці беспрытульных бадзяг. Усяго за год ён авалодаў усёй Літвой, далучыўшы яе да свайго княства, якое пачалі за мяжой называць «Літвой Міндоўга». Аўтарытэт навагрудскага князя ўзрос настолькі, што з ім сталі лічыцца ў Еўропе. Нават крыжаносцы, якія раней бачылі ў Міндоўгу толькі «хітрага і жорсткага варвара», пачынаюць паважліва называць яго «князем-рыцарам».

У такой іпастасі і застацца б яму ў памяці людской, калі б не Марта, якая зноў увайшла ў ягонае жыццё. Міндоўг, зрабіўшы першы крок на шляху іхняга збліжэння, так настойліва дабіваўся ўвагі і ўзаемнасці жанчыны, што і не заўважыў, калі ўжо не ён, а яна пачала патрабаваць, загадваць і кіраваць іхнімі ўзаемаадносінамі і нават ім

самім. Неўзабаве Марта становіцца не проста каханкай наваградскага князя, але і сябрам, і дарадчыцай.

Ёсць жанчыны, якія, прыцягваючы да сябе годных мужчын, робяць усё магчымае, каб яшчэ больш узвысіць сваіх выбраннікаў. Марта была іншай. Чым больш палітычныя поспехі ўзвышалі Міндоўга, тым больш баялася яна страціць яго. Каб утрымаць Міндоўга побач з сабою, яна вырашыла стаць адзіным чалавекам, якому князь мог бы даверыцца.

Марта пачала распальваць у сэрцы каханага агонь недаверу да ягоных родзічаў. Бліжэй за ўсіх Міндоўгу быў жэмайцкі князь Выкінт. Шты смелы, вясёлы, дабрадушны чалавек ажаніў сваю сястру з малодшым братам Міндоўга Эрдзівілам. А калі Эрдзівіл памёр, то Выкінт паспрабаваў замяніць Міндоўгу брата.

Сапраўды, трэба было мець вытанчаны розум і д'ябальскае вынаходніцтва, каб пасеяць варожасць паміж імі. І ў Марты ўсё гэта, як аказалася, было.

У 1252 годзе Міндоўг раптам пасылае Выкінта разам з малодшымі сынамі Эрдзівіла — Таўцівілам і Едзівілам — у паход на Смаленск і накіроўвае ўслед за імі наёмных забойцаў, разлічваючы на тое, што раптоўная гібель князёў падчас бою ні ў каго не выклікала б падазрэнняў. Але родзічы своечасова раскрылі вераломную задуму Міндоўга і збеглі ад яго ў Галіч да князя Данілы, жанатага другім шлюбам на дачцэ Эрдзівіла. Міндоўг, даведаўшыся, што ягоны план забойства Выкінта і пляменнікаў праваліўся, нават не пасаромеўся даслаць у лісце да Данілы просьбу ўмярцвіць беглякоў.

Абураны каварствам наваградскага князя, Даніла абяцаў Выкінту садзейнічанне і абарону. Галіцкі князь дамовіўся з лівонскімі рыцарамі, а Выкінт — з жэмайтамі і яцвягамі. І пачалася міжусобіца, пра якую летапісец кажа: «И многое воевание бысть межи ими».

Страціўшы адначасова амаль усіх сваіх саюзнікаў, з усіх бакоў акружаны ворагамі, Міндоўг звярнуўся за парадай да Марты. І яна, цвяроза ацаніўшы становішча, знайшла, здаецца, адзінае правільнае выйсце: Міндоўг павінен стаць католікам, тады лівонцаў можна перацягнуць на свой бок. Сама Марта, трапіўшы пад уплыў нейкага «брата Зіверта», паспела ўжо перайсці ў каталіцтва. І ёй хацелася бачыць каханага адзінаверцам.

«И кады сукупно с их (рыцараў. — Аўт) лаской получишь веру истинну, сами небеса будут помочью тебе», — запэўнівала Марта Міндоўга.

І вось ужо ён піша таемнае пасланне магістру Лівонскага ордэна Андрэю Сцірланду. Міндоўг прапануе кіраўніку «божых дваран» зола-

та, срэбра, каштоўнасці і дае зразумець, што згодны прыняць каталіцтва. І адначасова, відаць, таксама па парадзе Марты, наваградскі князь пачынае праз Сцірланда перамовы з Рымам пра магчымасць каранавацца.

Магістр адразу зразумеў, якія выгоды можа прынесці Ордэну Міндоўг. З яго дапамогай крыжаносцы разлічвалі скарыць язычніцкія Жэмайцію і Аўкштайцію. Магістр абяцаў выпрасіць у папы Інакенція IV, «каб князя і яго княгіню адразу ж пасля хрышчэння каранавалі як хрысціянскага караля». Жонкай Міндоўга была мясцовая жанчына па імені Любча, менавіта яна мусіла стаць каралевай Літвы (гэтак вырашыў называць у далейшым сваю дзяржаву Міндоўг).

Якая ж карысць Марце ад кароны Міндоўга? Хутчэй наадварот. Карона можа ўзнесці каханага на недасягальную для яе вышыню. Але жонка Вісманта ідзе на рызыку. У яе ёсць прычына.

Гэта толькі цар Саламон у сваіх прытчах сцвярджаў, што гэтак жа, як нельга смяротнаму пабачыць след змяі на камені, след птушкі ў небе, след рыбы ў вадзе, нельга распазнаць і след мужчыны ў жанчыне. Страсць чалавечая не можа вельмі доўга заставацца нябачнай для чужых вачэй. І тады перад саўдзельнікамі траха паўстае выбар: ганьба альбо злачынства.

Калісьці Марта баялася жорсткай смерці па літоўскіх язычніцкіх законах. Міндоўг, скарыўшы Літву, адвёў ад яе такую пагрозу. Але цяпер яна страшылася ганьбы.

І вось князь Міндоўг дзеля Марты, якая ўжо чакала ад яго дзіця, не спыніўся і перад новым злачынствам: ён зрабіў яе ўдавой.

Вісмант загінуў падчас асады войскам Міндоўга горада Выкінта Цвірамет. Гэта здарылася пры наступных абставінах. Адзін з пляменнікаў Міндоўга, Таўцівіл, якога яшчэ зусім нядаўна падтрымлівалі крыжаносцы, адчуўшы, што ён раптам застаўся ў адзіноце, у адчаі вырашыў захапіць Варуту, што была такой дарагой сэрцу Міндоўга. Але будучаму каралю Літвы своечасова прыйшлі на дапамогу рыцары. Тады Таўцівіл паспяшаўся да Выкінта, які, прыняўшы па патрабаванні крыжаносцаў каталіцтва значна раней за Міндоўга, вырашыў своечасова выйсці з вайны і зачыніўся ў Цвірамеце ў Жэмайцыя

Па слядах Таўцівіла да Цвірамета кінуўся занепакоены Міндоўг. Яго войскі аблажылі горад, але праз некаторы час былі вымушаны вярнуцца ў Міндоўгавы ўладанні, бо крыжаносцы папрасілі не чыніць зла Выкінту, які стаў іхнім «братам па веры», тым больш, што Выкінт абяцаў больш не выступаць супраць Міндоўга.

У які момант асады Цвірамета загінуў няшчасны гарбун Вісмант? Большасць летапісцаў проста і без каментарыяў канстатуюць гэты

факт. Але холмскі летапісец віноўнікам называе наваградскага князя: «Его же (Вісманта - Аўт) убил Миндогут и жену его поял». Відаць, Міндоўг зноў звярнуўся па дапамогу да наёмных забойцаў, але на гэты раз, у адрозненне ад выпадку з Выкінтам, Таўцівілам і Едзівінам, усё атрымалася. Забойцы выбралі падчас адной з сутычак зручны момант і нанеслі ракавы ўдар у спіну.

Гэтая смерць пацягнула за сабою цэлы ланцужок іншых. Вельмі хутка пры таямнічых абставінах загінулі на паляванні і два браты Вісманта Эдзівіл і Спрудэйка. Магчыма, яны аб чымсьці здагадваліся. Не менш таямніча і раптоўна памірае жонка Міндоўга.

Шлях да любімага мужчыны і да кароны для Марты цяпер свабодны. Яна паспявае зрабіцца ягонай жонкай якраз у час, каб народжанае дзіця Міндоўг мог перад усімі назваць сваім, а значыць, спадчыннікам і, хто ведае, можа, і будучым каралём. Сына назвалі Рупэкам.

І вось нарэшце прышоў доўгачаканы адказ ад папы рымскага, які даслаў холмскага біскупа Генрыха для таго, каб той ахрысціў Міндоўга ў каталіцтва. Адразу пасля правядзення абраду біскуп зачытаў папскую булу, у якой урачыста абвяшчалася, што намеснік святога Пятра бярэ Міндоўга «з жонкай, з сынамі і ўсім дваром пад пратэкцыю і апеку апостальскай сталіцы».

Цяпер чарга была за каронай. Расійскі гісторык XIX стагоддзя П. Бранцаў у сваёй «Истории Литовского государства с древнейших времен» піша: «В июле месяце 1253 года кульмский (гэта значыць, холмскі.- Аўт) епископ по приказанию Иннокентия IV короновал Миндовга и его жену Марфу королевским венцом и утвердил в Литве особую соборную церковь с епископом во главе».

Гэтак упершыню ў гісторыі Літвы-Беларусі з'явіліся кароль і каралева. Пазней будуць нашыя землякі і зямлячкі займаць польскі і рускі прастолы, але не будзе больш ніколі каралёў літоўскіх.

Атрымаўшы ўсё, пра што марыла, Марта была шчаслівай. Ёй падавалася, што самае цяжкае ўжо пераадолена і можна ўздыхнуць з палёгкай. Гэтая ліфляндская лэдзі Макбет у закаханасці ў саму сябе не хоча заўважыць, што дзяржава, створаная Міндоўгам, трымаецца ў асноўным на шчырай павазе ягоных падданых. І страту гэтай павагі наўрад ці можна кампенсаваць каронай. Не насцярожвала наваспечаную каралеву нават тое, што ад Міндоўга па яе віне адвярнуўся ягоны старэйшы сын Войшалк, народжаны ў шлюбе з Любчай.

Здавалася б, прыняцце каталіцтва і каралеўскага тытула павінна было б стаць для Міндоўга пачаткам трыумфу, а стала пачаткам канца.

Першы ўдар наносіць каралю Літвы князь Даніла Галіцкі, які працягвае падтрымліваць Таўцівіла. У тым жа 1253 годзе, у снежні, ён разбіў войска Міндоўга. На прыніжаныя просьбы пачаць мірныя перагаворы князь Даніла адказвае адмовай. І незадаволеныя Міндоўгам наваградская баяры пазбаўляюць яго права кіраваць імі, абіраючы сваім князем Войшалка. Толькі за кошт вялікіх намаганняў і ахвяр Войшалку ўдаецца прымірыцца з Галіцкім князем. З маўклівай згоды бацькі ён аддае сваю сястру за сына Данілы Шварна, а сам, апасаючыся за сваё жыццё, становіцца манахам. Наваградак пераходзіць ва ўладанне сына Данілы Галіцкага, Рамана.

Яшчэ падпарадкоўваюцца Міндоўгу іншыя гарады яго «краіны», але рэальную ўладу ён губляе. Няўжо застанецца толькі гучны тытул? Дарэмна Марта, якая ў 1254 годзе дорыць яму другога сына, Руклю, з натхненнем займаецца складаннем радавода караля Міндоўга па ўсіх еўрапейскіх канонах. Дарэмна храністы старанна выводзяць славутага продка Міндоўга Кунаса ад рымскага патрыцыя Палямона, які ў часы Атылы, быццам бы ратуючы сваё жыццё, пакінуў радзіму і пасяліўся на берагах Нёмана.

Дарэмна вынаходзяць гістарычныя доказы спадчынных правоў роду Міндоўга на Наваградак і Полацк, Ваўкавыск, Слонім і Пінск. Сам Міндоўг ужо пачынае бачыць, што атрымалася. Ён хоча вярнуць сабе павагу і любоў падданых. А яны патрабуюць разарваць усе адносіны з Лівонскім ордэнам, рыцары якога на землях Літвы паказалі сябе як рабаўнікі і гвалтаўнікі, а цяпер спусташаюць Жэмайція землі. Жэмайты пад правадырствам Тройната, сына Міндоўгавай сястры, звяртаюцца да караля Літвы з заклікам успомніць пра веру продкаў.

«Забудзь Хрыста, якім цябе падманулі, — патрабуюць яны. — Усё хлусня, што табе распавядаюць ордэнскія браты, калі адгаворваюць ад тваіх багоў. Твой бацька быў знатны князь, і ў яго час не было яму роўных. Няўжо ты жадаеш прыняць ярмо сам і навязаць яго сваім дзецям, калі можаш быць вольным? Калі крыжаносцы скораць жэмайтаў, дык слава твая загіне, а з ёю і ўсё тваё каралеўства...».

Пэўна, словы гэтыя глыбока раняць Міндоўга, таму што ў 1260 годзе ён дэманстратыўна адмаўляецца ад кароны. Ашаломленая Марта, якая да апошняга спрабавала ўтрымаць мужа ад прыняцця такога згубнага, на яе думку, рашэння, упершыню пачула ад яго рэзкае слова: «Падабаецца табе ці не, але я кінуў хрысціянства, парваў з магістрам і зноў прыйшоў да паганства. Вяртацца ў каталіцтва цяпер позна. Таму, жонка, маўчы. Цяпер што будзе, тое і будзе...».

Адыход Міндоўга ад хрысціянства быў рэзкім і рашучым. Па яго загаду пачаліся разбурэнні каталіцкіх святынь, бязлітасныя расправы з каталіцкімі святарамі і ганенні на каталікоў. Магчыма, такі ж лёс чакаў бы і праваслаўных, калі б у іх не аказалася абаронцы ў асобе старэйшага сына Міндоўга, Войшалка, які ў манастве прыняў імя Лаўрыш.

Што ж датычыцца Марты, дык яна аказалася зусім няздольнай абараніць сваіх аднаверцаў, бо Міндоўг доўгі час падпарадкоўваўся яе волі, але раптам адмовіўся ад яе парад. Ёй давялося ледзь не на каленях маліць мужа аб выратаванні ад ахвярнага вогнішча, распаленага язычніцкімі жрацамі, хаця б свайго духоўніка, брата Зіверта, якога прасіла адпусціць у Рыгу.

Але нават не вяртанне Міндоўга да паганства, а адмова яе мужа ад кароны стала для Марты тым ударам, які зламаў яе. Здавалася б, яшчэ зусім нядаўна разам з братам Зівертам Марта разважала пра веліч і магутнасць Літвы пад рукою новых каралёў — яе нашчадкаў. І вось славалюбівыя мары яе ўшчэнт разбіты. Няўдалая каралева страціла мэту жыцця, і розум яе памуціўся. Як шэкспіраўская Лэдзі Макбет, жонка Міндоўга павольна ператвараецца ў вар'ятку. Роспачны Міндоўг спрабаваў лячыць яе, але ўсё было дарэмна.

У 1262 годзе, канчаткова страціўшы розум, Марта памерла. Перад смерцю яна завяшчала Міндоўгу ажаніцца з яе сястрой Агнай, таму што баялася, каб мачаха не пачала крыўдзіць яе дзяцей. Уражаны Міндоўг пакляўся, што выканае яе пажаданне. І зноў паставіў сябе перад неаб
ходнасцю здзейсніць злачынства, бо яму трэба было ці пер адабраць жонку ў жывога мужа.

Гэтага нельга было зрабіць сілай, і Міндоўг пайшоў на хітрасць. Ён паслаў у Нальшанскае княства ганца, які павёз Агне вестку пра смерць сястры і запрасіў на абрад аплаквання.

Існавала старажытная літоўская традыцыя: калі памірала знатная жанчына, тры бліжэйшыя сваячкі мусілі прыгатаваць яе ў апошні шлях, абмыць твар нябожчыцы сваімі слязьмі, папярэдне сабраўшы іх у маленькія кубачкі, і прычасаць, уплятаючы ў яе косы пасмы сваіх уласных валасоў, зрэзаных у знак гора.

Магчыма, акрамя Агны аплакваць былую каралеву Міндоўг запрасіў сваю дачку ад першага шлюбу, падчарку Марты, і сваю сястру, маці Тройната, бо бліжэйшых сваячак у жонкі не было. Але з упэўненасцю гэтага сцвярджаць нельга.

Даўмонт не змог суправаджаць Агну ў замак Міндоўга, бо быў на той час нездаровы, але ён падабраў для суправаджэння і аховы жонкі

лепшых сваіх воінаў. Тым не менш, праз некалькі дзён яны вярнуліся ў Крэва без сваёй пані і расказалі, што ледзь толькі Міндоўг пабачыў княгіню, то вымавіў, узяўшы яе за рукі: «Мне надо было бы жену искати, а то боги дали мне жену». І тут жа растлумачыў: «Сестра твоя, умираючи, велела ми тя за ся: таю рекла, ато иная детий не цвелить».

І не звяртаючы ўвагі на пратэсты ашаломленай і перапалоханай жанчыны, тут жа загадаў язычніцкім жрацам правесці над ім і жонкай Даўмонта шлюбны абрад.

Ахоўнікі нальшанскай княгіні не асмеліліся ўмяшацца. Іх было вельмі мала, ды і як жа можна было не падпарадкавацца ўладару Літвы і Беларусі?

Даўмонт, канешне, чуў, што Міндоўг, вярнуўшыся да язычніцтва, імкнецца ва ўсім кіравацца старажытнымі літоўскімі законамі і звычаямі. Згодна з адным з іх, мужчына павінен неадкладна пасля смерці жонкі зноў уступіць у шлюб: багі кажуць, што чалавеку нельга доўга плакаць аб стратах, бо створаны ён, каб радавацца жыццю. Але як жа тады наконт закона, які загадвае ад даць свяшчэннаму вогнішчу таго, хто зробіць замах на гонар чужой жонкі? Безумоўна, Міндоўг разлічваў, што ніхто не асмеліцца патрабаваць суда над ім як над злачынцам.

Даўмонт выклікаў на сямейную раду братоў Гольшу, Гедруса і Тройдзеня, а таксама цесця Фляндра. Усе былі абураны, але, рэальна ацаніўшы свае магчымасці, вымушаны былі прызнаць: супраць Міндоўга яны адкрыта выступіць не здолеюць. Даўмонт прапанаваў заручыцца падтрымкай жэмайцкага князя Тройната, пляменніка Міндоўга.

Тройнат, хаця і быў афіцыйна ягоным саюзнікам, дзядзьку ледзь цярпеў і таемна марыў адабраць у Міндоўга ўладу і далучыць землі яго дзяржавы да жэмайцкіх, дзе Тройната лічылі адзіным уладаром.

Даўмонт і яго браты ўступілі ў змову з Тройнатам. Некалькі месяцаў яны цярпліва чакалі. Даўмонт прыкінуўся чалавекам, які прымірыўся з абставінамі і не думае пра помсту. Ён здолеў падмануць свайго ворага. І вось час надышоў.

Летапіс распавядае: «У год 6771 (1263) паслаў Міндоўг усе свае войскі за Дняпро супраць Рамана, князя бранскага. Даўмонт пайшоў разам з імі на вайну, але, выбраўшы зручны час, вярнуўся назад, кажучы: «Варажба паказвае, што мне не трэба ісці разам з вамі».

Нальшанскі князь, відаць, з братамі прабраўся ў замак, дзе, адправіўшы войскі ў паход, застаўся Міндоўг. Падкупленыя слугі адчынілі браму таксама і атраду Тройната. Змоўшчыкі трапілі ў пакоі Міндоўга і там закалолі яго разам з сынамі.

Даўмонт вярнуў сабе Агну. Але змучаная думкамі пра свой міжвольны грэх, няшчасная жанчына не хацела больш жыць. Яна не перанесла ганьбы і хутка памерла.

Гэтак скончылася эпоха Міндоўга, адзінага караля беларуска-літоўскай гісторыі. Ён быў узведзены на самую вышэйшую ступень улады дзякуючы ўласным вартасцям і розуму, але трапіў з гэтай вышыні ў самую бездань граху з-за славалюбства і змрочнай волі жанчыны.

## Восеньская кветка дынастыі Ягелонаў

У 1572 годзе Варшава праводзіла ў апошні шлях караля польскага, вялікага князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста. Ён сышоў у нябыт бяздзетным, малодшых братоў у манарха таксама не было. Каралеўская дынастыя Ягелонаў, да якой належаў Жыгімонт II Аўгуст, абарвалася. У дзяржаве пачаўся смутны час бескаралеўя, інтрыг і авантур, яўных і таемных паядынкаў разнамасных прэтэндэнтаў на карону. І тады раптоўна на авансцэну палітычнага тэатра трапіла асоба, якая ніколі не мела намеру сыграць галоўную ролю, — сястра Жыгімонта II Аўгуста Ганна Ягелонка.

Амаль пяцідзесяцігадовая старая панна, непрыгожая і хваравітая, Ганна ўжо даўно стамілася чакаць якіхнебудзь перамен у сваім лёсе і, перабіраючы ружанец, разам са сваім спавядальнікам Пятром Скаргай аддавалася роздуму пра марнасць жыцця, мімалётнасць фартуны і пра веліч Бога. Вырашыўшы для сябе, што калі ўжо час яе вясны і лета мінуў, то чалавечыя страсці больш не могуць хваляваць яе, каралеўна апранулася ў цёмны аксаміт. Яна дазволіла сваёй фігуры расплыцца, а спіне сагнуцца гэтак, што тыя, каму даводзілася бачыць яе ўпершыню, думалі, што сястра караля — гарбатая. Твар Ганны не ведаў ні бяліл, ні румян, і таму на ім вылучаліся дробныя воспінкі. Воспа зрабіла Ягелонку сляпой на адно вока, і яна нават не рабіла ніякіх намаганняў схаваць сваё калецтва. Пра тое, якая цудоўная, пяшчотная, ранімая душа знаходзіцца ўнутры гэтага недагледжанага, змарнелага цела, ведалі, на жаль, нямногія.

Але гэта, без сумнення, было вядома Нябёсам, якія раптоўна даслалі Ягелонцы магчымасць успомніць, што яна — усё яшчэ жанчына.

Аднойчы, амаль праз год пасля смерці Жыгімонта II Аўгуста, у цішыню самотнага жытла яго сястры нечакана ўварваліся сем шумных паноў з шаблямі на баку і зухавата закручанымі вусамі. Яны паведамілі здзіўленай жанчыне, што паны польскія ды літоўскія пасля доўгіх спрэчак і нязгод у пытанні аб тым, каму стаць цяпер іхнім уладаром, вырашылі, што ім павінен быць той, хто ажэніцца з каралеўнай Ганнай. Гэтае рашэнне падказаў знаходлівы папскі нунцый Камедоні, які ўспомніў гісторыю ўступлення на прастол у Польшчы Ягайлы, заснавальніка дынастыі Ягелонаў.

Ліцвін па паходжанні, сын вялікага князя літоўскага Альгерда Гедымінавіча і спадчыннік яго ўлады, Ягайла быў запрошаны прыняць таксама і польскую карону на ўмовах, што ён ажэніцца з апошняй прадстаўніцай папярэдняй правячай дынастыі Пястаў — каралевай Ядвігай. Ягайла згадзіўся. Але спадзяванні палякаў атрымаць

спадчынніка прастола ад Ядзвігі аказаліся марнымі (каралева памерла ў выніку няўдалых родаў), а маці новых каралёў польскіх стала беларуская князёўна Соф'я Гальшанская, з якой Ягайла ўступіў у шлюб на схіле свайго жыцця. Такі спосаб атрымання караля праз шлюб з прадстаўніцай згаслай каралеўскай дынастыі панам падаўся цалкам прымальным.

Ягелонка паставілася да пачутага даволі скептычна, бо каралева Ядзвіга, па аналогіі з якой ёй збіраліся шукаць мужа, была юнай красуняй. Прапаноўваць яе руку супольнікам кароны было прыстойна. Сябе ж Ганна не лічыла прыдатнай да ролі нявесты. Тым не менш, штосьці перашкодзіла каралеўне адразу адмовіцца ад плана падданых, таму што яна адказала:

— Што ж, калі паны гэтак вырашылі, няхай гэтак і будзе. Шукайце мне мужа!

Наіўная Ганна Ягелонка дрэнна ведала мужчын. Яна нават не ўяўляла, на якія ахвяры могуць пайсці некаторыя з іх дзеля таго, каб атрымаць карону.

Усяго праз два месяцы пасля размовы каралеўне паднеслі доўгі спіс кандыдатаў. Ганна Ягелонка чытала яго, і ў яе ўсё больш і больш выцягваўся твар. Прынцы, герцагі, князі, маркграфы, свае і чужыя, каралеўскай крыві і без наяўнасці ў венах нават яе кроплі, прапанавалі апошняй з Ягелонаў сябе ў абмен на польскую карону і літоўскі вялікакняжацкі вянец, прызначаныя ёй у пасаг.

Пэўна, больш за ўсё Ганну ўразіла тое, што амаль усе прэтэндэнты на яе руку па ўзросце гадзіліся ёй у сыны. А некаторыя — нават ва ўнукі, як, напрыклад, сын аўстрыйскага імператара Максіміліяна II, Эрнест.

Разумеючы, што яе лёс вырашыцца хутчэй за ўсё без яе ўдзелу і насуперак асабістым сімпатыям, Ягелонка ўсё ж такі пажадала ўважліва вывучыць спіс жаніхоў, каб пастарацца вылучыць, з кім ёй было б прыстойна і прыемней за ўсё паўстаць перад алтаром.

Шматдзённыя роздумы Ганны Ягелонкі час ад часу перапынялі ганцы, якія дастаўлялі ёй лісты.

У вытанчаным стылі рабіў афіцыйную прапанову адзін з лідэраў польскіх пратэстантаў, ваявода кракаўскі Ян Фірлей. Па-мужчынску проста і немнагаслоўна рукі Ганны прасіў ліцвінскі магнат, палкаводзец Ян Хадкевіч. Прыхільнікі іншаземных прэтэндэнтаў даказвалі каралеўне выгоды ад шлюбу з іхнімі кандыдатамі. Але больш за ўсё ўсхваляваў сэрца старой панны ліст ад французскага пасла Жана Манлюка, у якім ён так шчыра распавядаў Ягелонцы пра прыгожага дваццацідвухгадовага прынца Анры Валуа, які, неаднаразова чуючы

пра розум, дабрыню, чысціню і высакароднасць каралеўны Ганны, хаця і завочна, але страсна закахаўся ў яе. Ён марыць пра дзень, калі зможа павесці яе пад вянец.

Ганна Ягелонка, канешне ж, не была такой наіўнай, каб паверыць у страснае каханне да яе маладога французскага прынца. Але яго рамантычны вобраз, жвава намаляваны хітрым палітыкам Манлюкам у лісце, завалодаў ёю, прымусіў вылучыць гэтага прэтэндэнта з шэрагу іншых.

Былі яшчэ некаторыя абставіны для такога выбару. Каралеўна Ганна ведала, што маці прынца Анры, каралева Францыі, уладная Кацярына Медзічы, патрабавала не толькі ад падданых, але і ад уласных дзяцей безагаворачнай пакорлівасці ва ўсім. Падаграваючы, што з такой валявой і энергічнай маці французскі прынц адчувае сябе няшчасным, Ганна разлічвала, што яны змогуць зразумець адно аднаго, бо і сама Ягелонка лічыла сябе ахвярай матчынага дыктату. Імя маці каралеўны Ганны — Бона Сфорца. Як і Кацярына Медзічы, яна была італьянкай.

Прадстаўніца сям'і ўладароў Мілана, у 1518 годзе Бона Сфорца стала жонкай караля польскага, вялікага князя літоўскага Жыгімонта І Старога, якому нарадзіла чатырох дачок і сына. Усё дзяцінства і юнацтва Ганна Ягелонка правяла ў ценю гэтай неардынарнай асобы. Бона Сфорца цвёрда вырашыла ператварыць Польшчу, якая падалася ёй дзікай і варварскай, калі не ў другую Італію, дык хаця б у «па-сапраўднаму еўрапейскую дзяржаву», краіну мастацтваў, навукі і галантных манер. І яна сапраўды пры дапамозе сваёй італьянскай світы вельмі хутка дасягнула поспехаў у гэтым. Спачатку пры двары была ўведзена новая, еўрапейская мода на адзенне, потым каралеўскія забавы набылі ярка выражаны італьянскі прысмак. Каралева ўсяляк заахвочвала таленты, бо марыла пра славу мецэнаткі і асветніцы. І многім сапраўды яна падавалася менавіта гэткай. Нават самы выдатны паэт Сярэднявечча Мікола Гусоўскі сваю славутую паэму «Песня пра зубра» прысвяціў Боне Сфорца, пра якую думаў, што яна адукаваная, узорная манархія.

Але ў каралевы было і іншае аблічча, пра якое ведаў далёка не кожны і якое яна ніяк не магла схаваць ад дапытлівай і назіральнай Ганны, трэцяй сваёй дачкі. Будучы ўладалюбівай, амбіцыйнай і нават жорсткай жанчынай, Бона Сфорца хацела стаць галоўнай у дзяржаве і дабівалася гэтага ўсімі даступнымі ёй спосабамі, сярод якіх была, дарэчы, і фізічная расправа з найбольш актыўнымі супраціўнікамі пры дапамозе ядаў. Атруту па загаду каралевы таемна рыхтаваў яе асабісты ўрач Монці. Асаблівасць ядаў была ў тым, што яны выклікалі

сімптомы самых розных хвароб, так што нават вопытныя калегі італьянскага лекара не маглі западозрыць атручванне.

Адным з такіх ядаў Бона загадала звесці першую жонку свайго адзінага сына Жыгімонта Аўгуста, Элізабэт Габсбург, якую насуперак яе волі абраў для каралевіча Жыгімонт I Стары. Атрута выклікала ў няшчаснай прыступы, вельмі падобныя да эпілептычных. Падчас аднаго з іх Элізабэт і задыхнулася. Іншы яд звёў у магілу другую жонку, прыгажуню-ліцвінку Барбару Радзівіл, з якой Жыгімонт Аўгуст ажаніўся па вялікім каханні. Выбар сына, якога маці выхавала бязвольным і паслухмяным ёй ва ўсім, узвар'яваў каралеву. Бона жадала бачыць побач з «укаханым дзіцем» французскую прынцэсу. Смерць Барбары Радзівіл была страшнай. Ёй, верагодна, падсыпалі атруты ў крэмы, якімі красуня карысталася пасля наведвання лазні, бо неўзабаве ўсё яе цела пакрылася жудаснымі язвамі. Яны хутка набухалі і лопаліся, распаўсюджваючы вакол смурод.

Дзеля не зразумелай нікому, акрамя яе самой, мэты каралева Бона зламала лёсы таксама ўсіх чатырох сваіх дачок. Старэйшую і, як яна ўсім гаварыла, самую любімую дачку Ізабэлу яна выдала ў дваццацігадовым узросце за старога і непрыгожага венгерскага караля Яна Заполію. Праз няпоўныя два гады венгерская каралева аўдавела і так больш ужо ніколі і не выйшла замуж. Суцяшэннем у жыцці для яе быў толькі адзіны сын Ян, якога Ізабэла паспела нарадзіць у шлюбе.

Траіх жа малодшых сваіх дачок, Соф'ю, Ганну і Катажыну, Бона, здаецца, наогул не збіралася ні за каго аддаваць, бо сістэматычна адмаўляла ўсім прэтэндэнтам, якія толькі з'яўляліся. Няшчасныя дзяўчаты страсна марылі пра каханне і замужжа, але маці рашуча гасіла ўсе праяўленні іх дзявочага нецярпення. «Не час,гаварыла яна ім, — не цяпер. Тыя жаніхі, якія да вас сватаюцца, не вартыя вашай увагі, будуць лепшыя».

Гады ішлі. Вясёлыя і румяныя дзяўчаты-падлеткі ператвараліся ў пяшчотных, бы аранжарэйныя кветкі, дзяўчын-нявест, пасля — у пышных, спелых жанчын і, урэшце рэшт, у нервовых кабет з першай сівізной у косах і першымі зморшчынкамі на твары. Павольна яны адыходзілі ад вясёлага прыдворнага баўлення часу, замыкаліся ў сабе. І вось ужо сумнай чародкай тры каралеўны, старыя панны, суправаджаюць маці на набажэнства ў палацавую капліцу, сядзяць побач на святах і ўрачыстых прыёмах самотныя, вянучыя. І сэрца кожнай салодка замірае, як толькі падаецца, што хтосьці з прыдворных кавалераў кінуў у яе бок зацікаўлены погляд.

Урэшце рэшт на бунт рашылася старэйшая каралеўна Соф'я. У 1555 годзе, калі Соф'і споўнілася ўжо трыццаць тры гады, да яе

пасватаўся шасцідзесяцігадовы прынц Браўншвейгскі, паважны і высакародны стары рыцар. Яна зразумела, што, магчыма, гэта апошні шанц уладкаваць сваё жыццё, таму ўпрасіла брата, які ў той час ужо змяніў на прастоле памерлага бацьку, асабіста, не дапускаючы ў перагаворны пакой маці, дамовіцца з прэтэндэнтам. Перамовы ўдаліся. Шчаслівая нявеста з нецярпеннем пачала чакаць прызначанага дня вяселля. Але перад самым вянчаннем раптоўна прастудзілася і злягла з жорсткай ліхаманкай. Тады па волі Боны Сфорцы лекар Монці афіцыйна заявіў жаніху, што каралеўна Соф'я «рыхтуецца паўстаць перад вачыма Бога». Паверыўшы словам урача, Жыгімонт II Аўгуст прапанаваў прынцу Браўншвейгскаму не адмяняць прызначанага вяселля, а ўзяць замест Соф'і Ганну. Брат і сапраўды не ведаў, як лепш павесці сябе ў гэткай сітуацыі, і, шкадуючы кожную са сваіх няшчасных сясцёр, рабіў усё што можна, каб хаця б адна з іх знайшла сваё шчасце. Ганна, маладзейшая за Соф'ю толькі на два гады, таксама была ўжо ў крытычным узросце, але ёй было вельмі няёмка забіраць жаніха ў яшчэ жывой сястры. І, напэўна, яна нават уздыхнула з палёгкай, калі ў размову Жыгімонта Аўгуста і Генрыха Браўншвейгскага раптоўна ўмяшалася Бона Сфорца. Каралева заявіла, што ні за што не дазволіць Ганне пайсці за таго, хто сватаўся не да яе, і няхай лепш жаніх пакіне каралеўскі двор, калі з вяселлем па волі Нябёсаў нічога не атрымліваецца.

Невядома як, але хворая Соф'я, якая ляжала ў сваім пакоі, даведалася пра рэзкі прысуд маці і пра тое, што Генрых Браўншвейгскі цяпер збіраецца сапраўды з'ехаць. Магчыма, менавіта добрая і сумленная Ганна паспяшалася расказаць сястры, якая, нягледзячы на дыягназ Монці, усё яшчэ была жывой, пра тое, што адбывалася за яе спіною. Соф'я сабрала ўсе свае сілы, устала са свайго «смяротнага ложка» і загадала апрануць сябе. Ледзь не страчваючы прытомнасць, яна спусцілася ў залу для прыёмаў, дзе разам з іншымі знайшла свайго жаніха.

— Я шчыра маліла Нябёсы, каб яны паслалі мне вас, — сказала Соф'я Генрыху Браўншвейгскаму. — Я проста не магу памерці, калі вы прыехалі ўрэшце за мною...

Праз некалькі дзён стан здароўя Соф'і цудоўным чынам палепшыўся, і вяселле нарэшце адбылося. На вянчанні не было яе маці, і пасля таго, як жаніх звёз Соф'ю на сваю радзіму, Бона яшчэ доўга выгаворвала Ганне і Катажыне за тое, што яны прысутнічалі на шлюбнай цырымоніі сваёй сястры. Каралеўны адмоўчваліся, бо баяліся маці, але на душы ў іх, упершыню за шмат гадоў, было спакойна і

радасна. Соф'я паказала, што ім трэба рабіць, калі да іх хтосьці ўсё ж яшчэ пасватаецца.

Чарговага прэтэндэнта давялося чакаць доўгіх шэсць гадоў. Ужо адышла ў нябыт Бона Сфорца, атручаная, як кажуць, тым жа Монці, якога падкупілі ўрэшце рэшт яе ворагі, калі трыццацічатырохгадовай Катажыне зрабіў прапанову шведскі прынц Юхан Ваза. Трыццацісямігадовая Ганна ад усяго сэрца павіншавала сваю больш удачлівую сястру..

А потым надышла хвароба. Пасля воспы каралеўна развіталася з надзеяй калі-небудзь наладзіць сваё асабістае жыццё.

Але як жа непрадказальна нават для самага празорлівага розуму складаюцца часам чалавечыя лёсы. І вось непрыгожая, немаладая, стомленая жанчына раптоўна становіцца самай жаданай нявестай для дзесяткаў найзнатнейшых кавалераў...

Абраўшы для сябе ў думках французскага прынца, каралеўна Ганна з заміраннем сэрца стала чакаць прысуду сваіх падданых. Зрэшты, яна не ўтрымалася ад таго, каб таемна дапамагаць грашыма са свайго куфэрка Анры Валуа ў барацьбе за карону. Аднак зусім не гэта, а супадзенне цікаўнасці Ганны да прынца і цікаўнасці магнатаў да саюза з Францыяй вырашылі справу.

Пасля дэталёвага абмеркавання ўсіх кандыдатаў у каралі на элекцыйным (гэта значыць, выбарчым) сейме панства польскае ды літоўскае абвясціла сваім каралём Анры Валуа.

Чакаючы прынца, шчаслівая Ганна загадала пабудаваць вялікі мост праз Віслу, які аб'яднаў усход і захад Польшчы. Менавіта па гэтым мосце павінен быў праехаць Анры Валуа, спяшаючыся на каранацыю ў сталіцу краіны.

І вось прынц нарэшце трапіў у Кракаў. Але прыезд яго расчараваў Ганну. Насуперак усім яе таемным спадзяванням Анры Валуа не толькі аказаўся абсалютна абыякавым да яе, сваёй нявесты, але і праявіў нечуваную непачцівасць. У першы тыдзень пасля свайго прыбыцця ён нават не заявіў пра жаданне нанесці каралеўне візіт ветлівасці. Суха пацвердзіўшы дадзенае Жанам Манлюкам ад яго імя абяцанне ажаніцца з Ягелонкай на працягу года пасля афіцыйнага абвяшчэння каралём, ён каранаваўся і пачаў абжываць Вавельскі замак, галоўную каралеўскую рэзідэнцыю ў Кракаве.

Зрэшты, расчараванай паводзінамі французскага прынца аказалася не адна толькі Ганна. Магнаты, якія шалёна агітавалі землякоў за Валуа, са здзіўленнем зразумелі раптам, што ён зусім абыякавы да польскай кароны і літоўскага вялікакняжацкага вянца. Прынц проста добрасумленна выканаў наказ сваёй матухны-каралевы. З дзяцінства,

гуляючы з «прыгожанькім сыночкам», як з лялькай, апранаючы яго ў дзявочыя сукенкі, нафарбоўваючы яму тварык і абвешваючы каштоўнымі ўпрыгажэннямі, Кацярына Медзічы адвучыла яго дзейнічаць па ўласнай волі.

Анры Валуа быў вельмі дзіўным каралём. Ён паводзіў сябе так, быццам бы з ім усё яшчэ гулялі ў пераапрананні. Седзячы на троне, напамаджаны, надушаны, з доўгай завушніцай у вуху, ён ганарліва паводзіў галавою з боку ў бок, нібыта кожную хвіліну чакаў пачуць захоплены шэпт пад даных: «Ах, які прыемны, які выхаваны і прыгожы гэты Анры Валуа!» (Мак казалі пра яго ў роднай Францыі). Але вось справы дзяржаўныя яго зусім не цікавілі. Калі пры Анры Валуа яго падданыя пачыналі абмяркоўваць якія-небудзь важныя пытанні палітыкі альбо эканомікі, наваспечаны кароль пачынаў засяроджана вывучаць малюнкі на стале.

Ганна Ягелонка, якая пільна прыглядалася да свайго суджанага, заўважыла таксама, што і жанчыны Анры быццам бы не цікавяць. А між тым пры каралеўскім двары было шмат вядомых красунь. Яна занялася расследаваннем і хутка зрабіла адкрыццё, якое дало магчымасць растлумачыць такія дзіўныя паводзіны караля. Ён быў безнадзейна закаханы. Аб'ектам пяшчотных пачуццяў Анры Валуа з'яўлялася французская прыгажуня Мары дэ Клеў, жонка прынца Кандэ.

Упершыню Анры звярнуў на яе ўвагу 18 жніўня 1572 года падчас вяселля сваёй сястры Маргарыты Валуа і караля Наварскага (пазней яны праславіліся пад імёнамі каралевы Марго і караля Генрыха IV). Паданне прыгожа апісвае пачатак вялікага пачуцця Анры Валуа да прынцэсы дэ Клеў.

Пасля аднаго з хуткіх танцаў чароўная Мары вырашыла памяняць змоклую кашулю. Яна выйшла з танцавальнай залы і адасобілася ў невялікім сумежным пакоі, які выкарыстоўваўся прыдворнымі як гардэробная. Пераапрануўшыся, прынцэса вярнулася на баль. Крыху пазней у гэты ж пакой забег разгарачаны танцамі Анры. Прынц схапіў нешта белае, кінутае на спінку крэсла, і думаючы, што гэта ручнік, пачаў выціраць ім пот з твару. І раптам водар тонкіх духоў, змяшаны з пахам маладога жаночага цела, ахінуў прынца. Анры вырашыў абавязкова даведацца пра імя гаспадыні спакуслівай бялізны. Гэта аказалася няцяжка: на кашулі былі вышыты ініцыялы Мары дэ Клеў.

Неўзабаве Анры Валуа і прынцэса Мары пачалі сустракацца. Але каханне іхняе было платанічным. Мадам дэ Клеў лічыла, што замужняя жанчына не мае права на здраду. Магчыма, менавіта непрыступнасць прыгожай францужанкі і падагравала страсць Анры Валуа.

Калі ў 1573 годзе ў Парыж прыбыло пасольства Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага запрашаць Анры на каранацыю ў Кракаў, прынц, у адрозненне ад сваёй маці Кацярыны Медзічы, шчаслівым не выглядаў. Для яго гэта было ўдарам, бо, пакінуўшы Францыю, ён мусіў назаўжды развітацца з каханай.

З «варварскай Сарматыі» (гэтак і не інакш называў у сваіх лістах Анры Валуа Польшчу) ён слаў адно за адным пяшчотныя пісьмы жанчыне, па якой сумаваў. Аднойчы верныя слугі здабылі адно для Ганны Ягелонкі. І апошнія спадзяванні каралеўны на асабістае шчасце з прыгожым французам зніклі.

Чакаючы вяселля, няшчасная Ганна цяпер ужо не знаходзілася ў радасным узбуджэнні. Яна ўяўляла, як сорамна будзе ёй, пяцідзесяцігадовай, ісці пад вянец поруч з дваццацідвухгадовым мужчынам, які не адчувае да яе нават сімпатыі.

На шчасце, абставіны пазбавілі Ягелонку гэткай ганебнай долі.

У ліпені 1574 года ў Кракаў прыйшла вестка пра смерць французскага караля Карла IX, брата Анры Валуа. Перад каралём польскім і вялікім князем літоўскім раптоўна засвяцілася перспектыва атрымаць французскую карону. Ён мусіў неадкладна выехаць у Францыю, адмовіўшыся тут ад усіх тытулаў і атрыбутаў улады. Старая каралева Кацярына Медзічы менавіта так і раіла зрабіць свайму сыну.

Даведаўшыся пра ўсё, магнаты вырашылі проста спытацца ў свайго караля, ці сапраўды ён мае намер дзеля французскай кароны адмовіцца ад гонару, які аказалі яму палякі і ліцвіны. Мабыць, Анры Валуа было сорамна сумленна прызнацца ў сваіх намерах, а можа, у пад даных, якія падступілі да яго з роспытамі, быў надта ўжо пагрозлівы выгляд, таму што ён адказаў:

— Перш за ўсё, я — кароль польскі. Я вас не пакіну.

Заўважыўшы, што яму не вельмі паверылі, Анры Валуа загадаў рыхтаваць усё для яго вянчання з Ганнай Ягелонкай. Ён нават зрабіў ласку нанесці ёй візіт, падчас якога быў вельмі ветлівым і пачцівым. Але штосьці ўсё ж такі перашкодзіла каралеўне паверыць у тое, што яе шлюб з французам адбудзецца. У гэтых справах інтуіцыя звычайна не здраджвае жанчынам. І сапраўды, на наступны дзень пасля наведвання нявесты Анры Валуа наладзіў для сваіх вяльможаў вялікае баляванне. Сталы былі шчодра застаўлены вытанчанымі стравамі, слых гасцей цешыўся вясёлай музыкай, якая пабуджала магнатаў час ад часу ўскокваць і ісці з прыгожымі паннамі ў суседнюю танцавальную залу.

Але больш за ўсё яснавяльможным панам падабалася багацце він, прапанаваных каралём да стала. Яны з задавальненнем заняліся

дэгустацыяй. Да поўначы ўвесь двор упіўся так, што многія ўжо ляжалі пад сталом. І раптам некаторыя з гасцей звярнулі ўвагу на тое, што з імі няма караля. Тыя, хто мог яшчэ трымацца на нагах, пайшлі шукаць свайго манарха. Але ён як быццам бы праваліўся некуды. Ад слуг даведаліся, што, устаўшы з-за стала, Валуа і пяцёра яго прыбліжаных спачатку накіраваліся ў скарбніцу, потым — на стайню. Магнаты зразумелі ўсё.

Тут жа была арганізавана пагоня за вераломным французам. Дзіўна, але гэтыя моцна захмялелыя людзі ледзь не схапілі бегляка. Шалёная скачка працягвалася ўсю ноч і скончылася раніцай, калі, амаль загнаўшы свайго каня, Анры Валуа перасек аўстрыйскую мяжу.

Кажуць, у той дзень, калі няшчасная Ганна Ягелонка даведалася пра ўцёкі жаніха, яе мудры настаўнік і духоўнік Пётр Скарга прадказаў, што калі «яго вялікасць пан кароль не адумаецца і не вернецца з пакаяннем, Нябёсы яго пакараюць».

Дзіўна збылося гэтае прадказанне. Хаця Анры Валуа і атрымаў французскую карону, але, стаўшы каралём Генрыхам III, шчасця не здабыў. Спачатку давялося перажыць смерць каханай Мары дэ Клеў, якую ён меў намер развесці з мужам і зрабіць каралевай. Мары сустрэла Анры ў Парыжы ўжо цяжарнай ад мужа. І хутка пасля каранацыі закаханага ў яе прынца прыгажуня памерла падчас родаў.

Другім ударам для Анры Валуа было тое, што пасля смерці Мары — ён зразумеў гэта не адразу, а зразумеўшы, нічога не змог ужо змяніць — ніводная жанчына больш не здолела выклікаць у ім не толькі кахання, але нават і жадання. Кароль так і не займеў спадчынніка.

А ў 1589 годзе Кракаў і Вільня былі ўзрушаны весткай пра тое, што іхні няўдалы кароль забіты ў Парыжы манахам-фанатыкам Жанам Клемонам. Са смерцю Генрыха ПІ дынастыя Валуа абарвалася.

А як жа каралеўна Ганна? Пасля ўцёкаў Анры Валуа энтузіязм магнатаў, якія былі ініцыятарамі абрання караля на ўмовах яго жаніцьбы з апошняй прадстаўніцай роду Ягелонаў, здаецца, стаў гаснуць. Ад новых прэтэндэнтаў на прастол ужо не патрабавалі абавязкова вянчацца з састарэлай каралеўнай. Таму спіс прэтэндэнтаў на гэты раз аказаўся яшчэ больш доўгім, чым папярэдні: германскі імператар Максіміліян II, ягоны сын Эрнест, шведскі кароль Юхан III Ваза (муж Катажыны Ягелонкі), іх сын Альфонс, а таксама вялікая колькасць паноў, якія знаходзіліся ў больш ці менш блізкім сваяцтве з каралямі Польшчы і вялікімі князямі літоўскімі.

Ганна Ягелонка сумна праглядала новы спіс прэтэндэнтаў і раптам убачыла імя трансільванскага князя Стэфана Баторыя.

— Здаецца, у гэтага чалавека менш за ўсё шанцаў, — прагаварыла каралеўна. — Ён не знаходзіцца ў кроўным радстве ні з Ягелонамі, ні з любой іншай каралеўскай дынастыяй. Кім былі яго бацькі? Знатнымі румынскімі шляхціцамі?

— Так, панна каралеўна, — адказалі ёй. — Але трансільванскі князь абяцае ў выпадку абрання яго каралём Польшчы і вялікім князем літоўскім парадніцца з Ягелонамі, узяўшы шлюб з вамі.

— Якога ён узросту? — з хваляваннем пытаецца каралеўна.

І сэрца яе пачынае радасна біцца, бо Стэфан Баторый усяго на дзесяць гадоў маладзейшы за яе. Ганна Ягелонка разумела, што пры такой розніцы ва ўзросце муж і жонка яшчэ могуць разлічваць на сямейнае шчасце.

Ганна вырашыла зрабіць усё магчымае, каб узвесці на прастол Стэфана Баторыя. З гэтай мэтай яна разгарнула актыўнейшую дзейнасць. Пісала па два-тры дзесяткі пісьмаў кожны дзень. Безаглядна траціла вялікія грошы, шчодра адорвала тых, хто абяцаў ёй дапамагчы. Справамі міласэрнасці і дабрачыннасці заваёўвала любоў і павагу простага народу. У выніку вакол Ягелонкі ўтварылася моцная партыя падтрымкі. Складалася яна пераважна з дробнай шляхты. І нягледзячы на тое, што магнаты схіляліся больш у бок Максіміліяна II, на элекцыйным сейме большасцю галасоў каралём быў названы Стэфан Баторый.

Ганна Ягелонка паспяшалася даведацца з пэўных крыніц пра яго мінулае. З пятнаццаці гадоў Стэфан Баторый знаходзіўся на ваеннай службе караля чэшскага і венгерскага Фердынанда I. Суправаджаючы свайго сюзерэна ў паездцы па Італіі, паступіў у Падуанскі універсітэт, які бліскуча скончыў. Потым быў паслом трансільванскага князя Яна Запoліі (сына Ізабэлы Ягелонкі) пры двары Максіміліяна II. Калі Германія і Трансільванія разарвалі дыпламатычныя адносіны, ён тры гады ўтрымліваўся немцамі ў якасці заложніка. Ягелонцы паведамілі, што гэтыя гады Баторый выкарыстаў для самаадукацыі: штудзіраваў працы па сусветнай гісторыі, а «Нататкі» Юлія Цэзара нават вывучыў на памяць. Калі ў 1571 годзе памёр Ян Заполія, яго прастол атрымаў Баторый.

Вянчанне і каранацыя каралеўскай пары адбыліся 1 мая 1576 года ў Кракаве. Шчаслівая нявеста выглядала значна маладзейшай, чым была на самой справе. Каранацыйны партрэт Ганны Ягелонкі дае магчымасць упэўніцца ў гэтым. Зусім не ліслівасць перад новай каралевай выражае невядомы мастак, калі паказвае нам падцягнутую, зграбную фігуру, твар амаль без маршчын і шчаслівы, поўны агню позірк. У чаканні жаніха Ягелонка зрабіла з сабою цуд. Касметыка,

дыета, складаныя водныю працэдуры, здавалася, вярнулі ёй страчаную маладосць, а шчасце зрабіла яе такой прывабнай, якой яна ніколі, нават у юнацтве не была.

«Восеньскай кветкай дынастыі Ягелонаў» з гонарам пачалі называць Ганну яе падданыя, прыгадваючы пры гэтым не толькі тое, што яна — апошняя з роду, але і яе позні і такі нечаканы для ўсіх росквіт.

Калі кароль і каралева выходзілі з касцёла, народ, забыўшыся, што Ганне пяцьдзесят тры гады, сустракаў яе пажаданнямі: «Дзяцей вам, пані каралева! У год па адным!»

На жаль, дзяцей у Ягелонкі і Баторыя быць ужо не магло. Але каралю хапала тактоўнасці не завастраць на гэтым увагі. Хаця, як любому мужчыне, яму, безумоўна, хацелася мець спадчынніка.

Стэфан Баторый, абраны на прастол шмат у чым дзякуючы намаганням каралеўны Ганны, увайшоў у гісторыю Польшчы і Беларусі як моцны і справядлівы манарх. Ён аднолькава ставіўся да сваіх падданых і ў Кароне (Польшчы), і ў Княстве (Вялікім Княстве Літоўскім), нікога не вылучаючы па нацыянальнай прыналежнасці. Менавіта пры ім дзве дзяржавы, якія знаходзіліся да гэтага ў нейкім дзіўным і неспасціжным палітычным звязку, ператварыліся ў Рэч Паспалітую, абедзве часткі якой былі абвешчаны каралём раўнапраўнымі ва ўсіх адносінах. Перакананы каталік, выхаванец езуітаў, Баторый, тым не менш, ніколі не прыцясняў падданых іншай веры: «Я пастаўлены каралём над людзьмі, а не над іх сумленнем»,— часта казаў ён.

Стэфан Баторый правёў шэраг разумных рэформ, арганізаваў судовую сістэму. Заснаваў у 1579 годзе Віленскую акадэмію. І ўрэшце здолеў у 1582 годзе скончыць мірам вайну з Маскоўскай дзяржавай, якая цягнулася дзесяцігоддзі, то сціхаючы на час, то зноў успыхваючы.

Дзяржаўныя справы адбіралі ў караля амаль увесь час. Таму ён, на жаль, не часта радаваў жонку сваёй пры-сутнасцю ў Кракаве. То вайна, то сейм, то дыпламатычная сустрэча... Палітычная неабходнасць вымушала Баторыя больш часу знаходзіцца ў Вялікім Княстве Літоўскім, чым у Польшчы. І ён абраў сваёй часовай рэзідэнцыяй замак у Гародні, які спецыяльна перабудавалі для яго.

У 1581 годзе нервы Ганны, якая моцна кахала мужа і раўнавала яго да ўсіх сваіх фрэйлін, здалі. Яна раптам заявіла, што хоча развесціся, бо кароль, пэўна, здраджвае ёй. Каб атрымаць доказы нявернасці Баторыя, Ганна падаслала да яго некалькіх адданых ёй людзей. Ім трэба было толькі зафіксаваць наяўнасць у караля іншай жанчыны. Нават калі б гэта была служанка альбо сялянка і Баторый наведаў бы яе толькі аднойчы — развод быў бы непазбежным.

Але не знайшлі, як ні стараліся, шпіёны Ягелонкі фактаў, якія б кампраметавалі караля. На здзіўленне ўсім Стэфан Баторый аказаўся незвычайна верным мужам. І ўпэўніўшыся ў гэтым, Ганна Ягелонка доўга маліла Бога даравацы ёй яе падазрэнні.

У 1586 годзе кароль Стэфан Баторый раптоўна памёр у Гародні. Ганна доўга не магла паверыць, што яго смерць была натуральнай. Па яе загаду некалькі вопытных медыкаў правялі ўскрыццё нябожчыка, каб знайсці прыкметы гвалтоўнай смерці. Удаву доўга адгаворвалі ад такога ўчынку святары, якія лічылі ўскрыццё справай грахоўнай. Сапраўды, раней ніколі яшчэ афіцыйна не анатаміравалі трупа чалавека на тэрыторыі Усходняй Еўропы. Тым не менш, каралева настойвала, і адбылося гэтак, як яна пажадала. Ведаючы пра яды так шмат, як, мабыць, ніхто іншы ў яе дзяржаве, дачка атрутніцы Боны Сфорцы Ганна Ягелонка ўчыніла медыкам сапраўдны допыт, прымушаючы звяртаць увагу на кожную дробязь. Аднак ускрыццё паказала, што Стэфан Баторый памёр не ад атруты, а ад перанапружання, духоўнага і фізічнага. Надта ж шчодра расходаваў ён сябе на карысць дзяржавы.

Цэлых дзесяць гадоў пасля смерці любімага мужа сумна і самотна рыхтавалася да адыходу ў нябыт каралева Ганна, апошняя з Ягелонаў. Дабіўшыся таго, каб пасля Баторыя прастол Рэчы Паспалітай заняў яе пляменнік, сын сястры Катажыны Зыгмунт Ваза (ён стаў каралём Жыгімонтам III), Ягелонка зусім адышла ад спраў палітычных, якімі не вельмі актыўна, але ўсё ж такі займалася пры жыцці свайго каханага караля, і звярнулася да спраў гаспадарчых у Кобрынскай эканоміі, якая была выдзелена ёй у валоданне, як толькі яна стала каралевай, гэта быў маляўнічы куток беларускага Палесся з трыма вялікімі гарадамі: Кобрынам, Пружанамі, Гарадам і цэлым шэрагам мястэчак і вёсак.

Калісьці эканомію выпрасіла ў Жыгімонта І Старога ўласна для сябе Бона Сфорца, але тады яна была значна менш па тэрыторыі. Каралева павялічыла свае ўладанні за кошт шэрагу судовых працэсаў са сваімі падданымі і няправедных канфіскацый. Але гаспадыняй яна была руплівай. На землях эканоміі вяла энергічнае будаўніцтва: узводзіла храмы і палацы, школы і бальніцы. Здзейсніла даволі ўдалыя спробы меліярацыі земляў, дапамагала засваенню пустэчаў і развядзенню садоў. Тым, хто займаўся гэтымі справамі, надавала шматлікія льготы. «Каралевай Палесся» называлі палешукі сваю манархіню. Для іх, мабыць, адзіных Бона была сапраўды добрай і клапатлівай пані. Калі яны пабачылі яе ўпершыню, каралева была маладой і

прывабнай жанчынай. Такой яна засталася ў іхняй свядомасці, хаця пасля яны бачылі яе і сталай, і нават старой.

Ягелонка ж першы раз паўстала перад сваімі палескімі падданымі ўжо ўдавой ва ўзросце за шэсцьдзесят гадоў. Ці варта здзіўляцца, што яны не прызналі яе ўсур'ёз. І хаця каралева Ганна зрабіла для сваіх гарадоў і вёсак нямала карыснага, у памяці народнай яе заслугі сцерліся, а яе справы нашчадкі падданых прыпісалі ўсё той жа Боне. Дзіўна, што нават наданне Ганнай Кобрыну, Пружанам і Гарадцу Магдэбургскага права, «каб спрыяць развіццю рамёстваў і гандлю», палешукі ў сваіх паданнях называюць дзеяннем Боны Сфорцы.

Вось адно з такіх паданняў, распаўсюджанае на Пружаншчыне. Кажуць, падчас аднаго са сваіх наведванняў Пружанаў каралева Бона, маладая, прывабная і... бяздзетная (?), праплываючы ў ладдзі па рацэ Мухавец, упусціла ў ваду свой заручальны пярсцёнак. Маленькі паж, якога Бона любіла так пяшчотна, быццам бы быў ён яе сынам, кінуўся за пярсцёнкам у ваду і патануў. Тады пракляла раку каралева, загадаўшы ёй абмялець. А гораду надала герб, на якім злая рака ў выглядзе каранаванай змяі глынае дзіця.

Такі герб сапраўды быў атрыманы Пружанамі, але зусім не па волі «маладой прыгажуні» Боны, а згодна з загадам старой, стомленай Ганны. Гэта яна была той самай бяздзетнай каралевай, якая ўплывала ў Пружаны па рацэ на ладдзі. Безумоўна, ніякай страшэннай гісторыі з пагібеллю хлопчыка-пажа ў хвалях Мухаўца не было. Змяя на гербе Пружанаў — гэта знак фаміліі Сфорцаў. Але з'явілася яна там зусім не з-за павагі дачкі да маці. Думаецца, абіраючы менавіта гэтую выяву, Ганна Ягелонка, наадварот, вырашыла адпомсціць і сваёй маці, і палешукам, якім не прыйшлася даспадобы. Бона Сфорца зламала лёс сваёй дачкі, пазбавіла яе шчасця мацярынства і асудзіла на самотную старасць, дык няхай жа на гербе горада, дзе ледзь не абагаўлялі Бону, красуецца ненажэрная змяя Сфорцаў, што глынае ненароджанае Ганнай дзіця.

Каралева Ганна Ягелонка памерла ў 1596 годзе, усяго за чатыры гады да пачатку XVII стагод дзя. Разам з ёю ціха і непрыкметна згасла стагод дзе, якое ўвайшло ў гісторыю як «залаты век» мастацтва і культуры Беларусі і Польшчы.

## Узыходжанне

Гісторыя аб тым, як звычайная гараджанка альбо сялянка выходзіць замуж за прынца, — даволі распаўсюджаны сюжэт у еўрапейскіх казках. Прыгадаем для прыкладу Папялушку з яе чаравічкам. Але ў жыцці бывала інакш. Нават прадстаўніцы буйнейшых і наймагутнейшых сямействаў маглі стаць хіба што фаварыткамі свайго сюзерэна. І толькі ў асобных выпадках манархі бралі гэтак званыя марганатычныя шлюбы. Альбо прынцы дзеля каханых адмаўляліся ад свайго спадчыннага права на прастол. Але каб кароль ці прынц ажаніўся з просталюдзінкай — такога выпадку ў Заходняй Еўропе і прыгадаць немагчыма. А вось ва Усходняй — просталюдзінка стала не толькі жонкай манарха, а яшчэ і кіраўніцай дзяржавы пасля смерці свайго мужа. Прычым дзяржавы вялікай і магутнай, Расійскай імперыі. Імя манарха, які адважыўся на такі ўчынак, — Пётр І. Яго ж абранніцу, якая ўвайшла ў гісторыю як Кацярына І, на самой справе клікалі Мартай.

Паходзіла Марта з прыгонных беларускіх сялян. Яе бацькі належалі князям Сапегам і жылі на Віцебшчыне, на землях, якія ў той час уваходзілі ў Мінскае ваяводства Рэчы Паспалітай. Пэўна, не вельмі добра жылі, бо бацька Марты, Самуіл Якуб Скаўронскі (паводле некаторых крыніц, Скаўрашчук альбо Скаварошчанка) асмеліўся на адчайны ўчынак. Ён разам з сям'ёй збег у Інфлянты, якія тады належалі Швецыі, і арандаваў там фальварак каля горада Марыенбурга (цяпер г. Алуксне, Латвія). Праз некалькі гадоў Скаўронскі і яго жонка памерлі падчас эпідэміі чумы. Асірацелую Марту ўзяў пад сваю апеку мясцовы пратэстанцкі пастар. Але і гэты добры чалавек не пазбег хваробы. І ён, і ўсе яго дамачадцы памерлі. Толькі маленькая Марта якімсьці цудам зноў засталася ў жывых. А потым адбыўся яшчэ адзін цуд. Дом памерлага святара наведаў іншы пастар з Марыенбурга. Яго імя было Глюк. Уражаны ўбачаным, Глюк хацеў адразу ж пакінуць напоўненае мёртвымі целамі жытло. Але раптам аднекуль з'явілася жывая маленькая дзяўчынка, учапілася за адзенне пастара і, захліпаючыся слязьмі, стала прасіць выратаваць яе. Гэтак Марта апынулася ў доме Глюка. Ён хутка даведаўся, што нябожчыкі бацькі яго «знаходкі» былі каталікамі і хрысцілі дачку згодна са сваім веравызнаннем. Каб «выратаваць душу» дзяўчынкі, Глюк перавёў яе ў лютэранства.

Утрымліваў пастар Марту разам са сваімі дачкамі, але не як роўную ім, бо рыхтаваў яе ў служанкі. Марту не навучылі нават чытаць ці пісаць. Хто ведае, як бы склаўся яе далейшы лёс, але апякун раптам заўважыў, што паміж яго сынам і падапечнай узнікае ўзаемная

сімпатыя, і паспяшаўся выдаць Марту замуж. У жніўні 1702 года шаснаццацігадовая дзяўчына стала жонкай зухаватага шведа-драгуна Йогана Раабе, полк якога ў гэты час размяшчаўся ў Марыенбург

Але сямейнае жыццё аказалася вельмі кароткім. Ужо на наступны дзень пасля вяселля муж Марты выступіў у паход. У гэты час ішла вайна, якая ўвайшла ў гісторыю як Паўночная.

Рускі цар Пётр I і кароль Рэчы Паспалітай Аўгуст Моцны дамовіліся адваяваць у шведскага караля Карла XII землі Прыбалтыкі. Пётр I паспеў ужо ачуняць ад паражэння пад Нарвай, аднавіць сваё войска і зноў пачаў «прасякаць акно ў Еўропу». Мала-памалу ён захопліваў усё новыя і новыя тэрыторыі. І вось, нарэшце, надышла чарга і Марыенбурга. Шведскі камендант вырашыў капітуляваць без бою.

Кіраваў войскам, якое захапіла горад, фельдмаршал Б. П. Шарамецьеў. Абставіны склаліся гэтак, што Марта як ваенная здабыча апынулася ў яго. Кажуць, праўда, што спачатку Марта трапіла ў рукі нейкага унтэр-афіцэра, які злавіў сімпатычную «ліфляндку», калі яна ў адной кашулі выбегла з дома, каб ратавацца ад пераможцаў. У час пагулянкі, якую закацілі ў гонар бяскроўнай перамогі, яе і ўбачыў фельдмаршал. Але ў гэтага састарэлага аматара маладых дзяўчат яна прабыла нядоўга. Спакуслівы «трафей» адабраў у Шарамецьева прайдзісвет Аляксандр Меншыкаў, лепшы сябра рускага цара яшчэ з іх дзіцячых гадоў. Ён быў зачараваны сваёй здабычай. Невядома, як бы разгортваліся далейшыя падзеі, але ў 1703 годзе ў госці да вернага паплечніка прыязджае Пётр I. Ён заўсёды быў не супраць добра паесці. Таму ўсюды, куды прыязджаў, яго чакаў накрыты стол. Гэтак жа было і цяпер. Паміж закускай і прыёмамі чаркі цар заўважыў сярод дзяўчат, што прыслужвалі за сталом, Марту. А самадзержац Усерасійскі любіў не толькі паесці. Ён быў, як пісаў яго асабісты доктар Арэскін, «...одержим легионом духов сластолюбия». Дык ці трэба здзіўляцца, што Пётр звярнуў увагу на прыгажуню і вырашыў заначаваць у Меншыкава? Пасля вячэры цар загадаў гаспадару, каб Марта пасвяціла яму ў спальні. Што заставалася беднаму святлейшаму князю? Выканаць загад...

Здавалася б, мімалётны амур... Тым больш, што на развітанне Пётр даў дзяўчыне залатую манету. Але на гэтым справа не скончылася. Пры наступнай сустрэчы яна ўразіла яго сваёй знаходлівасцю і розумам. Цар забраў Марту ў Меншыкава і неўзабаве адправіў з надзейным гвардзейскім афіцэрам у Маскву. Дзяўчыну пасялілі на ўскраіне. Дом, у якім яна жыла, быў вельмі сціплы звонку і пышна абстаўлены знутры.

Спачатку Пётр ездзіў да сваёй каханкі таемна. Але мала-помалу яго захапленне перарасло ў значна больш глыбокае і сур'ёзнае пачуццё. Ён перастаў хавацца. Ды ўрэшце рэшт доўга ўтойваць гэта было немагчыма.

У 1708 годзе Марта прымае праваслаўную веру. Яе новае імя — Кацярына. Паколькі яе хросным быў царэвіч Аляксей (сын Пятра ад першага шлюбу), то імя па бацьку навахрышчанай дастаюся Аляксееўна. У тым жа годзе яна нарадзіла дачку Ганну; у наступным — Лізавету. Гэтыя падзеі яшчэ больш звязваюць каханых. Пётр, які даўно перастаў хаваць свае адносіны з Кацярынай, даволі часта прыязджае ў яе дом не адзін, а з цэлай світай паплечнікаў. Яны абмяркоўваюць пры ёй свае праблемы, вырашаюць справы. Нярэдка ўдзел у гэтых размовах прымае і гаспадыня. Яе выказванні заўсёды напоўнены логікай, розумам; меркаванні — дакладныя і трапныя. Яны, на здзіўленне саноўнікаў, прымушаюць глядзець на тое ці іншае пытанне, якое абмяркоўвалася ў дадзены момант, зусім з іншага боку. Прычым цар, які звычайна не пераносіў, калі жанчыны ўмешваліся са сваімі прапановамі ў мужчынскую размову, у сур'ёзныя справы, быў вельмі задаволены і паводзінамі Кацярыны, і тым уражаннем, якое яе розум і памяркоўнасць робяць на яго гасцей.

З гэтага часу Кацярына зрабілася настолькі неабходнай Пятру, што ён амаль не разлучаецца з ёю. Зразумела, што не толькі прыгажосцю сваёю прывязала гэтая жанчына цара, але і асаблівасцямі характару. Аўтар кнігі «Петр Великий и женщины» С. Лібровіч заўважае: «Екатерина... была нужным Петру человеком: скорее сердцем, чем умом, чувствовала она все вкусы, взгляды и задачи Петра, откликалась на все, что интересовало мужа, и с огромной энергией умела быть всюду, где был муж, переносить все, что переносил он. Она являлась в полном смысле скромной сподвижницей Петра; до тонкостей изучив характер царя, она умела угодить своему величественному другу... умела обрадовать его, подбодрить, она одна владела способностью успокоить и укротить его».

Справа ў тым, што ў цара час ад часу здараліся нервовыя прыпадкі, падчас якіх ён літаральна накідваўся на ўсіх, хто аказваўся на той момант паблізу. Прычыны хваробы дакладна невядомы. Адны з дарэвалюцыйных расійскіх даследчыкаў лічаць, што ў дзяцінстве будучаму цару яго старэйшая сястра Соф'я дала атруты. Другія схіляюцца да думкі, што хвароба ўзнікла з-за спалоху, які маленькі Пётр перажыў падчас паўстання стральцоў. Расійскі гісторык XIX стагоддзя В. Андрэеў піша: «Приближение припадка узнавали по своеобразному судорожному подергиванию рта. Ужасен бывал Петр,

охваченный таким припадком. Гнев его обрушивался на все окружение; ему казалось в эти минуты, что хотят посягнуть на его жизнь. Результатом этого припадка была сильная головная боль. Так было до сближения с Катериной. После, как только замечали у Петра судорожные движения рта, так сообщали об этом Катерине. Звуки ее голоса оказывали на него как будто магическое воздействие. Припадок слабел, и Петр засыпал часа на три на ее груди. Все это время она находилась в неподвижном состоянии, чтобы не разбудить его. Петр просыпался свежим и бодрым, и головной боли после как не было».

Больш таго, Кацярына магла не толькі прадухіліць чарговы прыступ, але нават і ўтаймаваць раз'юшанага цара, супакоіць яго і ўсыпіць тым жа спосабам, які апісваў Андрэеў.

Такім чынам гэтая простая жанчына выратавала ад абраз і пабояў не аднаго з царадворцаў. А гэтыя самыя пабоі бывалі даволі адчувальнымі, асабліва калі ўлічыць фізічную магутнасць рускага цара і яго звычку ўжываць «для выхавання» драўляны посах, з якім самадзержац амаль не разлучаўся. З кожным такім здарэннем у дамы сэрца Пятра з'яўлялася ўсё больш і больш прыхільнікаў Нават яго сястра ў той час падтрымлівала Кацярыну і раіла брату ажаніцца з ёй. Ды і цар усё мацней і мацней прывязваўся да «сердечного друга», як называў ён яе ў сваіх лістах.

Сапраўды, Пятру I з яго нястрымным характарам, патрэбнасцю ўсё рабіць самому неабходна была менавіта такая жанчына, якая магла б раздзяліць з ім і цяжар далёкіх падарожжаў, і неўладкаванасць вандроўнага побыту. Такая, якая б зразумела альбо зрабіла выгляд, што зразумела яго мары і памкненні. На гэта не была здатная якая-небудзь выхаваная ў цераме баярская дачка. А вось дзяўчына з народа, якая да таго ж паспытала ў жыцці ўсялякага ліха, падыйшла. Розум жа яе і жаночая інтуіцыя вельмі дапамаглі цару і рускай арміі ў гэтак званым Пруцкім паходзе, падчас якога яна знаходзілася побач з Пятром.

Не меншым, чым Швецыя, а можа, нават і большым ворагам Расіі тых часоў была Турцыя, якая афіцыйна пад трымлівала мір, але цішком рыхтавалася да барацьбы. Турэцкія войскі маглі напасці на паўночнага суседа ў той час, калі вялася вайна з Карлам XII. Але султан не пажадаў гэтага. Ён чакаў, калі і рускія, і шведы вычарпаюць свае сілы ва ўзаемнай барацьбе. Перамога рускай арміі пад Палтавай была нечаканасцю. Узмацненне Расіі выклікала незадавальненне, бо султан не жадаў, каб яшчэ больш пашырыўся ўплыў маскавітаў на Рэч Паспалітую. Да таго ж падбухторвалі туркаў да нападу на Расію

Аўстрыя, Францыя і Карл XII, які пасля паражэння пад Палтавай знайшоў прыстанак ў Турцыі.

У снежні 1710 года Турцыя абвясціла вайну. У той жа месяц васалы султана, крымскія татары, ажыццявілі набег на гарады Харкаў і Белую Цэркаў. Захапіць іх яны не змаглі, але край спустошылі ўшчэнт.

Пётр выступіў супраць ворагаў. Ён накіраваўся да Дуная. Рускі цар разлічваў падняць на паўстанне валахаў, чарнагорцаў, сербаў і малдаван, якія знаходзіліся пад прыгнётам Асманскай імперыі. Яшчэ абнадзейвала і тое, што гаспадары Малдавіі — Дзмітрый Кантэмір і Валахіі — Бранкаван абяцалі сваю дапамогу. Аднак паўстання не адбылося. Бранкаван парушыў слова і перайшоў на бок туркаў. Яго армія затрымала шматтысячны атрад сербаў, які ішоў на дапамогу Пятру. Да таго ж харчы і фураж, якія валахі абяцалі рускай арміі, былі аддадзены туркам. Кантэмір жа, хоць і далучыўся да рускага войска, дапамагчы не мог, бо сіл меў ужо мала, а харчоў і зусім у яго не было.

У выніку туркі першымі пераправіліся цераз Дунай. Руская армія па шляху ад Дняпра да Прута знясільвалася ад гарачыні і смагі. Пачаўся падзеж коней. Бітва адбылася 9 чэрвеня 1709 года. 40 тысяч рускіх былі акружаны 180 тысячамі туркаў і крымскіх татар. Туркі некалькі разоў кідаліся ў атаку. Кожны раз іх сустракалі гарматнымі залпамі. Вечар і стомленасць спынілі бітву. Рускае войска знаходзілася ў катастрафічным становішчы. Пётр чакаў або гібелі, або палону. І тут у справу ўмяшалася Кацярына. Яна ахвяравала ўсе свае ўпрыгажэнні і каштоўнасці. Потым аб'ехала лагер і звярнулася да войскаў са словамі аб тым, што мёртвым і палонным каштоўнасці не будуць патрэбны. А тым, хто ахвяруе, Айчына аддзячыць.

У выніку было сабрана мноства грошай і каштоўнасцей. Сабранае на наступны дзень паднеслі візіру, які ўзначальваў турэцкае войска. Хабар зрабіў сваю справу. Быў падпісаны мір, і руская армія выратавалася.

Пётр выкарыстаў гэтае здарэнне, каб абвясціць каханую выратавальніцай арміі. Яе пачалі праслаўляць. Яе імя зрабілася папулярным у вайсковых колах. Больш таго, у памяць пра гэтыя падзеі была ўведзена новая ўзнагарода — Ордэн Святой Кацярыны. Ордэнскі знак уяўляў сабою шыкоўны медальён у аправе з алмазаў на белай ордэнскай стужцы (пазней яе памянялі на пурпурначырвоную з багатым срэбраным беражком). На медальёне была намалявана нябесная патронка каханай цара Пятра, Святая Кацярына. Першай атрымала гэтую ўзнагароду, вядома ж, гераіня Прускага паходу.

Узнікае пытанне: навошта гэта рабілася? Адказ просты. Пётр вырашыў ажаніцца і рыхтаваў да гэтай падзеі сваіх падданых.

Вяселле адбылося 19 сакавіка 1712 года. Цар прызнаў сваіх пазашлюбных дачок Ганна і Лізавета сталі законнымі членамі царскай сям'і.

На першы погляд, пры двары Пятра I пасля гэтай падзеі нічога не змянілася. Працягваліся тыя ж падарожжы, паходы, асамблеі і піры, якія перарасталі ва ўсеагульныя п'янкі. Прычым, напрыклад, асамблеі былі створаны самім Пятром, які выдаў аб гэтым адпаведны Указ. У ім тлумачылася: «Ассамблея — есть слово французское, которое на русском языке одним словом выразить невозможно, но основательно сказать — вольное, где собрание или съезд делается не только для развлечения, но и для дела, где можно друг с другом встретиться и поговорить или услышать, что делается... Хозяин дома, где проводится ассамблея, должен письменно сообщить, что всякому свободно приезжать к нему, как мужчинам, так и женщинам. Вход в ассамблею открыт для всех чиновных людей, дворян, купцов, начальным мастеровым людям и сановным приказным, также их женам и детям... Лакей и слуги должны находиться в сенях по указанию хозяина. Хозяин обязан не встречать, не угощать, не провожать гостей, должен лишь поставить свои свечи, напитки для желающих и столы для игр в карты и шахматы».

Але гаспадары, якія наладжвалі асамблеі, звычайна выстаўлялі шмат гарэлкі, він і закусак. Часцей за ўсё для асамблей адводзіліся чатыры пакоі: у адным таньчылі, у другім палілі і вялі размовы, у трэцім гулялі ў карты і шахматы кавалеры. У чацвёртым дамы гулялі ў фанты і абменьваліся гарадскімі плёткамі. Госці маглі з'явіцца і сысці ў любы час, выбраць сабе заняткі да густу. І ніхто не мог прымусіць іх рабіць што-небудзь такое, чаго яны не пажадаюць. Аднак для тых, хто парушаў заведзены парадак, скажам, пачынаў буяніць, залішне «заліўшы за каўнер», існавала пакаранне ў выглядзе залатога царскага кубка, напоўненага гарэлкай. Мала хто мог застацца на нагах пасля таго як вымушаны быў выпіць гэтую штрафную пасудзіну..

Ды Пётр і без асамблей любіў наладжваць розныя гулянні і мерапрыемствы. Звычайна ён быў заняты дзяржаўнымі справамі, паседжаннямі ў сенаце, раз'ездамі ў Кранштат, Пецяргоф, Араніенбаум. А вось вольныя часы яго праляталі ў пагулянках, наведванні нямецкіх «Камедый», на маскарадах, асамблеях, і нарэшце, у наладжванні феерверкаў і розных забаў з блазнамі, такіх, напрыклад, як пахаванне аднаго з іх.

Захавалася апісанне адной такой забавы. Наперадзе ішлі парамі трыццаць пеўчых, усе — маленькія хлопчыкі, за імі — малюсенькі святар, затым шэсць маленькіх коней у чорных гуньках, якіх вялі маладзенькія пажы, везлі сані, там ляжаў «нябожчык» у труне пад аксамітным пакрываламі. За маршалам з маршальскім жэзлам цягнулася ў доўгай працэсіі мноства тоўстых вялікагаловых карлікаў і карліц у жалобных уборах, прычым карліцы, што выконвалі ролі першых жалобных дам, былі пад вэлюмамі. Дзеля большага эфекту паабапал гэтай працэсіі ішлі высачэзныя грэнадзёры і гайдукі з паходнямі.

Альбо час ад часу вуліцы Пецярбурга на некалькі дзён напаўняліся індыйскімі брамінамі, галандскімі матросамі, арлекінамі, малпамі, размаляванымі дзікунамі, французскімі сялянамі і сялянкамі. І ўсе яны былі ў масках, якія ні ў якім разе не маглі зняць, нават тады, калі выконвалі свае службовыя абавязкі...

Кацярына, патакаючы мужу, завяла і пры сваім двары обершэнкшу, якая выконвала тыя ж функцыі, што і князь-папа ў Пятра — паіла прыдворных дам. Калі тыя напіваліся, цар любіў заходзіць да іх альбо адзін, альбо ў суправаджэнні каго-небудзь са сваіх давераных людзей. Рабілася гэта, на думку некаторых даследчыкаў, не проста так. Сам цар ніколі не напіваўся гэтак, каб страціць розум, і добра разумеючы прыказку «што ў цвярозага на розуме, тое ў п'янага на языку», імкнуўся дазнацца аб таемных думках свайго акружэння. Як бы там ні было, але піць даводзілася і Кацярыне. І гэта пры тым, што Пётр кахаў яе так моцна, як нікога і ніколі ў сваім жыцці.

Дзіўна праяўлялася гэтае каханне. Цар акружаў жонку раскошай і бляскам. Двор яе быў абсталяваны на нямецкі лад і, па словах расійскага гісторыка В. В. Ключэўскага, не саступаў у пышнасці ніводнаму двару тагачаснай Германіі. Падчас іх сумесных падарожжаў (а цар, не жадаючы расставацца з Кацярынай, браў яе і ў замежныя ваяжы, і ў паход на Персію, і ў шматлікія падарожжы па Расіі) царыца звычайна ехала ў асобным абозе. Прычым калі абоз цара вызначаўся прастатой і сціпласцю, то яе абоз — неверагоднай пышнасцю. Пётр I праз гады пасля жаніцьбы паводзіў сябе, бы юнак пры першым каханні. І Кацярына адказвала яму тым жа. Яна ўмела прымаць знакі пашаны ад свайго мужа гэтак, быццам была народжана для бляску і раскошы. Нават сам Пётр здзіўляўся яе здольнасці быць гасударыняй.

Але пры ўсім тым — як заўважаюць усе яе сучаснікі — хуткае ўзвышэнне не зрабіла Кацярыну фанабэрыстай і ганарыстай. Яна засталася такой жа простай і рахманай, як і раней. Яна ніколі не забывала, кім была. Дзецям сваім Кацярына забяспечыла вартую іх звання адукацыю на еўрапейскім узроўні. Сама ж, калі Пётр паслаў

да яе настаўнікаў, якія мусілі навучыць яе грамаце, заявіла ім, што зусім няважна, ці навучыцца яна чытаць і пісаць. Навучыцца рабіць усё патрэбнае мужу — гэтага ёй будзе дастаткова.

І яна сапраўды многім ахвяравала дзеля Пятра. Кідала сваіх маленькіх дзяцей пад нагляд нянек, перавязвала грудзі, каб спыніць малако ўсяго праз тры-чатыры тыдні пасля родаў, і спяшалася за мужам у чарговы, часта вельмі небяспечны вяж. У выніку з тых дзевяцярых, што нарадзіла яна Пятру пасля Ганны і Лізаветы, не выжыў ніхто. Падчас Персідскага паходу, ратуючыся ад нясцерпнай спёкі, Кацярына загадала пагаліць сабе галаву і хавала ад Пятра сваю новую «фрызуру» пад шапкай (на яе шчасце, валасы вельмі хутка адраслі). Яна неаднойчы страчвала прытомнасць ад стомленасці, але ніколі цар не пачуў ад яе ніводнай скаргі. Ці прыходзіла яму ў галаву, як цяжка быць спадарожніцай яго жыцця? Пэўна, так. І пэўна, менавіта асэнсаванае веданне пра тое, што робіць яго жонка, ператварыла яго каханне ў абажанне. У рэдкія часы, калі абставіны прымушалі Пятра пакідаць Кацярыну, ён літаральна засыпаў яе лістамі. І якім жа пяшчотным выступае ў іх гэты суровы чалавек: «Катеринушка, друг мой сердечный, здравствуй!.. Только в палаты войдешь, так бежать хочется — все пусто без тебя…».

Каханне Пятра, жаданне пастаянна падабацца яму прымушалі Кацярыну шмат увагі ўдзяляць сваёй знешнасці. Безумоўна, у паходах не заўсёды былі для гэтага спрыяльныя ўмовы, але паміж імі выглядала Кацярына, мяркуючы па партрэтах тых часоў, сапраўды раскошна. Расійскі гісторык М. І. Семеўскі піша: «Благодаря живописным портретам с 1716 по 1724 годы она, как живая, поднимается в нашем воображении. Вот она — то в дорогом, серебряной ткани, платье, то в атласном, в оранжевом великолепнейшем костюме, в том самом, в котором встречала она день Ништадского мира, роскошная черная коса (Кацярына была бландынкай, але фарбавала валасы, згодна з модай, у чорны колер. — Аўт) уложена со вкусом, па алых губах играет приятная улыбка, черные глаза блестят пламенем, горят страстью, нос слегка вздернут, полные щеки, пылающие румянцем, полный подбородок, нежная белизна шеи, плеч, высоко поднятой груди, — все вместе, если это и вправду было так, как нарисовано на портретах, делало из Катерины еще в 1720-х годах женщину блестящей внешности».

Праўда, французскі пасол у Расіі Кампрэдон сцвярджаў, што твар у рускай царыцы быў просты і грубы. Але ці трэба прыслухоўвацца да яго? Хто ведае, які тып прыгажосці лічыўся ў той час у Францыі эталонам?

З-за таго, што ў Пятра ад Кацярыны не засталося сына-спадчынніка (царэвіч Пётр, на якога цар ускладаў вялікія спадзяванні, памёр у 1719 годзе), перад царом паўстала складанае пытанне: хто ж заменіць яго на прастоле? Яго сын ад першага шлюбу, Аляксей, быў не здольны да гэтага. Больш таго, ён стаў удзельнікам змовы супраць бацькі і ягоных спраў. І як вядома, быў пакараны смерцю. І вось у 1722 годзе быў абвешчаны новы статут аб наследаванні прастола. Ён адмяняў звычай, па якім прастол наследаваў старэйшы сын. Цяпер сам цар прызначаў пераемніка. Прычым ён у любы момант мог змяніць сваё ўласнае рашэнне. Пётр, здароўе якога пахіснулася ад няспынных турбот ды гульбішчаў, задумаў зрабіць сваёй пераемніцай Кацярыну. Дзеля гэтага вырашыў каранаваць яе і, паводле звычаяў старажытных рымлян, абвясціць імператрыцай.

Каранацыя адбылася 7 мая 1724 года ва Успенскім саборы Маскоўскага Крамля. Падрыхтоўка да рытуалу была праведзена велізарная. Карэту для царскай сям'і заказалі ажно ў Парыжы. Для Кацярыны спецыяльна зрабілі карону, якая так і называлася — каранацыйнай. Каштавала яна паўтара мільёна рублёў (тагачасных). Для цырымоніі Пётр заказаў жонцы раскошную сукенку барвовага колеру. Сам жа быў у гэты дзень у блакітным кафтане са срэбранай вышыўкай, чырвоных шаўковых панчохах, шыракаполым капелюшы з белым пяром. Мантыю, якую павінны былі ўскласці на плечы будучай імператрыцы, неслі чатыры саноўнікі. Шлейф жа яе сукенкі падтрымлівалі пяць стац-дам.

Але на змену радаснай падзеі прыйшла бяда. Справа ў тым, што цар даўно ўжо адчуваў сябе хворым. Прыдворныя медыкі паставілі дыягназ — урэмія (ныркавая недастатковасць). Ведаючы сваё становішча, Пётр устрымліваўся ад моцнага піцця. Але на святах шчаслівы муж забыўся на хваробу і праз некалькі дзён адчуў яе абвастрэнне. Яна настолькі скруціла цара, што ў пачатку чэрвеня ён вымушаны быў паехаць на мінеральныя воды. Там яму стала лягчэй. Але, адчуўшы паляпшэнне, Пётр тут жа ўзяўся каваць на мясцовым заводзе жалезныя палосы. Выкаваў іх на некалькі пудоў. Ды і пазней не надта бярогся. Лекары раілі яму адпачыць, лячыцца. А ён імкнуўся ўсё ўбачыць на свае вочы, да ўсяго прыкласці ўласную руку. А гэта — дарогі, скразнякі, мокрае ад дажджоў адзенне. Не дзіўна, што здароўе яго ўсё больш і больш пагаршалася.

Кацярына ж была ў росквіце. Ёй было толькі 38 гадоў. Прырода дала ёй моцнае здароўе. Сямейнае жыццё, якое складалася з вечных раз'ездаў мужа і яго хвароб, калі ён быў дома, не магло не выклікаць стомленасці і пачуцця прыкрасці. І аднойчы, магчыма, нават нечака-

на для сябе самой, Кацярына заўважыла, што вакол яе шмат маладых, здаровых, галантных кавалераў, якія глядзяць на яе не толькі як на імператрыцу, але і як на прывабную жанчыну. Сярод іншых асабліва вылучаўся прыгажун і залётнік камер-юнкер Вілім Монс. Гэты немец нарадзіўся ў Расіі, паходзіў жа з сям'і аднаго з тых іншаземцаў, у якіх Пётр любіў бываць з маленства. Сястра Віліма — Ганна была першай каханай цара. Ён нават збіраўся ажаніцца з ёй. І адмовіўся ад гэтага з-за яе нявернасці. Як там было на самой справе, сказаць цяжка. Вядома толькі, што канчаткова іх адносіны разладзіліся пасля таго, як рукі прыгожай немкі папрасіў прускі пасланец.

Кацярына не змагла ўстаяць перад спакусай, і хутка ўжо ледзь не ўвесь Пецярбург з задавальненнем абмяркоўваў падрабязнасці падзення імператрыцы. Мала таго, нахабны Вілім разам з другой сваёй сястрой Матронай пачаў браць хабары ад тых, хто звяртаўся з просьбай аб хадайніцтве перад імператрыцай.

Вядома, Пётр сам не быў святым. Ён не рабіў сакрэту са сваіх незлічоных «амураў». Але каб яго Кацюша магла здрадзіць яму! Гэта не ўмяшчалася ў галаве цара.

У ноч з 8 на 9 лістапада 1724 года Монс быў арыштаваны. Цар не давяраў нікому ў гэтай справе і допыты вёў сам. Над галавой Кацярыны згушчаліся навальнічныя хмары. Невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, але двое верных паплечнікаў цара — П. А. Талстой і А. І. Сітэрман — ледзь не са слязьмі на вачах упрасілі яго замяць гэту справу. Яны спасылаліся на тое, што публічны скандал кіне цень на будучыню дачок Пятра. Даводзілі, што царэўны будуць знясдаўлены і не змогуць разлічваць у далейшым на прыстойных жаніхоў. Яны добра ведалі, як любіць цар сваіх дзяўчынак. І дабіліся свайго. Праўда, Пятру прыходзілі думкі аб тым, што яму маглі здраджваць і раней. І аб тым, што Ганна і Лізавета не яго дочкі. Сведчаннем гэтага можа быць здарэнне, якое апісаў у сваёй кнізе «Представители власти в России после Петра I» рускі гісторык В. Андрэеў. Аднойчы цёмным восеньскім вечарам Пётр прыехаў да сваіх дачок. Ён быў страшна бледны. Вочы гарэлі гневам. Ён доўга ўглядаўся ў іх твары. Потым пачаў хадзіць па пакоі вялікімі крокамі і кідаць час ад часу грозныя погляды на дзяўчынак. Пры ім быў, як звычайна, вялікі сцізорык. І ён разоў дваццаць вымаў яго з кішэні, раскрываў і зноў закрываў. З'явіўся Пётр якраз падчас урока французскай мовы. Выгляд яго быў такі жахлівы, што ўсе прысутныя хутка пакінулі гэты пакой. Француженка-гувернантка ж наогул схавалася пад стол. З яе слоў і вядомы далейшыя падзеі. Пётр хадзіў з кута ў кут, грукаў кулаком па стале і

сценах. Урэшце рэшт ён кінуў свой капялюш на падлогу і выйшаў з пакоя. Пры гэтым так моцна грукнуў дзвярыма, што яны трэснулі.

Тым не менш, Пётр прыняў рашэнне: Монса судзілі толькі за хабар. Але цар вагаўся наконт Кацярыны. Ён не ведаў, як абысціся з жонкай. Сведчаннем гэтага можа быць наступны выпадак: Кацярына ўпрошвала пашкадаваць Матрону. Раз'юшаны Пётр стукнуў кулаком па люстэрку з венецыянскага шкла і разбіў яго.

«Бачыш, — звярнуўся ён да жонкі, — аднаго ўдару было дастаткова, каб разбіць гэту каштоўнасць; аднаго слова будзе дастаткова, каб ператварыць цябе ў прах, з якога я цябе ўзвысіў».

Хто ведае, як бы паводзіў сябе цар у далейшым, каб Кацярына страціла прысутнасць духу. Але тая засталася спакойнай.

— «Вы разбілі цудоўнае ўпрыгажэнне свайго палаца, — адказала яна. — Няўжо вы думаеце, што палац стаў ад гэтага лепшым?»

Пакаранне Монса адбылося 16 лістапада 1724 года. Пётр сказаў Віліму: «Шкадую, што вымушаны страціць цябе, але рашэнне прыгавору павінна быць выканана». Монс трымаўся мужна. Перад смерцю ён падарыў пастару, які спавядаў яго, кішэнны гадзіннік з партрэтам Кацярыны, папрасіў ката, каб той адсек галаву адным ударам, і схіліўся на плаху. Кат па звычаі, які існаваў у тыя часы, насадзіў адсечаную галаву на шост.

Вечарам Пётр правёз сваю жонку ля гэтага месца. Яго вельмі цікавіла, як яна будзе сябе паводзіць. Кацярына не выдала сябе ні слязьмі, ні ўздыхам, ні поглядам. Муж вырашыў памучыць яе яшчэ больш. Знятую з шаста галаву Монса цар загадаў змясціць ў шкляны посуд са спіртам і паставіць на начны столік у пакоі жонкі. Толькі праз некалькі тыдняў Пётр дазволіў слугам вынесці гэты страшэнны «сувенір» і аддаў яго на захаванне ў акадэмічны музей. Можна ўявіць, як адчувала сябе ўвесь гэты час Кацярына! Нават калі яе пачуцці да Монса былі не каханнем, а толькі мімалётным захапленнем.

Пётр не дараваў жонцы яе здраду. Мала таго, што ён парваў тэстамент, па якім яна павінна была стаць яго пераемніцай на царскім прастоле, дык і наогул перастаў сустракацца з ёй. Доступ да яго Кацярыне быў забаронены. Толькі аднойчы, па настойлівай просьбе Лізаветы, ён згадзіўся паабедаць усёй сям'ёй.

Магчыма, нервовае ўзрушэнне, якое перажыў Пётр, і паўплывала на чарговае пагаршэнне яго здароўя. Цар злёг. Амаль увесь час знаходзіўся ў ложку. Калі ж уставаў, то ненадоўга. Напрыклад, гэта было ў дні заручын яго дачкі Ганны з герцагам Карлам Фрыдрыхам Гальштэйн-Гатторнскім. Пётр з кожным днём слабеў усё больш і больш. У пачатку студзеня 1725 года пачаўся крызіс. Хвароба

ўступіла ў завяршальную стадыю. Боль быў такі моцны, што цар увесь час альбо крычаў, альбо глуха стагнаў. Але і на парозе смерці ён не жадаў бачыць Кацярыну-Марту — гэтую здрадніцу. 26 студзеня 1725 года смерць абарвала яго пакуты.

Усе гэтыя акалічнасці далі падставу некаторым з даследчыкаў сцвярджаць, быццам бы Пятра атруцілі Кацярына і Меншыкаў. Нібыта ў царыцы наладзіліся ці, магчыма, аднавіліся вельмі прыязныя адносіны са святлейшым. І што быццам бы страх перад пакараннем прымусіў іх паспяшацца.

Паўстае пытанне, што гэта за атрута, якая толькі праз два месяцы пасля яе прыёму прыводзіць да смерці? Менавіта столькі часу фактычна не ўставаў з ложка паміраючы цар. Павольна дзейнічаючы яд? Але ж калі б была прычына баяцца, што па спінах змоўшчыкаў пагуляе важкі Пятроўскі посах ці палашчыць шыю вострая сякера ката, то атруту знайшлі б хуткую.

Ёсць і яшчэ адзін довад супраць вышэйназванай гіпотэзы. Толькі-толькі пакаралі смерцю Монса. Яго страшэнны адыход не мог не ўразіць, не напалохаць Кацярыну.
Тым больш што яна сама ледзь пазбегла лёсу свайго прыгажуна-каханка. Ці да «амураў» тут было? І Меншыкаву, які пры Пятры меў велізарную ўладу, за што іншыя вяльможы яго ненавідзелі, смерць цара не прыносіла ніякай карысці, робячы, наадварот, яго становішча хісткім. Ды і паводзіны Кацярыны сведчаць пра тое, што яна сапраўды кахала Пятра і не магла быць яго забойцай. Праўда, можна меркаваць аб тым, што яна лічыла сябе вінаватай, бо перажыванні, выкліканыя яе здрадай, паскорылі смерць мужа. Яна на цэлых сорак дзён адклала пахаванне Пятра і кожны з гэтых дзён зранку і ўвечары прыходзіла аплакваць нябожчыка.

Пасля смерці Пятра І востра паўстала пытанне, хто зойме апусцелы прастол. Выклікана яно было тым, што цар не назваў пераемніка, не напісаў новага тэстаменту. Галоўнымі прэтэндэнтамі на прастол аказаліся Кацярына і дзевяцігадовы сын царэвіча Аляксея, унук Пятра І. Паміж іх прыхільнікамі пачалася барацьба. Але справу вырашылі не саноўнікі, а гвардыя.

Гвардзейцы абагаўлялі нябожчыка-імператара. Гэта ж пачуццё яны пераносілі і на яго жонку. Тым больш што яна даволі часта дапамагала афіцэрам і аказвала ім пратэкцыю. І гвардыя ўзвяла яе на прастол. Але імператрыца не паказала сябе ні моцнай, ні слабой правіцельніцай. Яна проста не паспела гэтага зрабіць, бо праўленне яе было вельмі кароткім. Яно прайшло ў чаканні хуткай смерці, якой, пэўна, міжволі жадала царыца і ў якой бачыла адплату за свой грэх.

Па начах Кацярына сніла дзіўныя сны, у якіх нябожчык Пётр клікаў яе да сябе, моцна абдымаў і ўзносіўся разам з ёю да аблокаў. Але ўсё гэта ніяк не адбівалася на яе выглядзе і паводзінах днём, калі даводзілася вырашаць справы дзяржаўнай важнасці.

Да самага канца імператрыца заставалася чалавекам мужным і мэтанакіраваным. Пра гэта сведчыць і тое, што, калі ў 1726 годзе ля Рэвеля з'явілася англа-французская эскадра, яна пажадала ўзначаліць рускі флот. Паказальным бачыцца і здарэнне, якое адбылося незадоўга да яе смерці. Кацярына ў мундзіры палкоўніка праводзіла ваенны агляд. Нехта стрэліў у імператрыцу. Куля забіла купца, што стаяў недалёка. А мужная жанчына нават не здрыганулася і не змянілася ў твары. Яна як ні ў чым не бывала працягвала агляд. А можа, чакала другой кулі, якая перарве яе жыццё?

Памерла Кацярына ў красавіку 1727 года. Шмат што дае права сцвярджаць, што імператрыцу звяло ў магілу вялікае нервовае напружанне.

Найлепшай эпітафіяй ёй былі б словы гісторыка В. Андрэева: «К чести ее, как ни менялись ее имена и титулы, она оставалась постоянно той же. А это можно сказать далеко не о всех».

# Пад знакам факела

## Святая заступніца Белай Русі

Усё пачалося ў непагодную навальнічную ноч. Скрозь раскаты грому сястра-брамніца Полацкага жаночага манастыра распазнала настойлівы стук і адчыніла дзверы нечаканай наведвальніцы. Кволая дзявочая фігурка ў цяжкім плашчы пайшла следам за састарэлай манахіняй. Праз некалькі хвілін госця ўжо абдымала ногі ігумені, паважнай удавы князя Рамана Усяславіча.

— Навошта прыйшла ў такі час, князёўна Прадслава? — у неўразуменні спыталася маці-настаяльніца ў сваёй пляменніцы.

— Маліць цябе, каб дазволіла мне прыняць анёльскае аблічча, далучыцца да тваіх інакінь. Уратуй мяне, святая маці, бо ўжо прыехалі за мною сваты. Заўтра будзе позна.

Са страхам і неразуменнем глядзела старая ігумення на сваю субяседніцу, дванаццацігадовую нявесту, якая збегла з-пад самага вянца...

Усё скончылася ўсеагульным шанаваннем і любоўю, кананізацыяй, трапяткім агеньчыкам свечкі ля іконы святой заступніцы Белай Русі князёўны Прадславы, у манастве Еўфрасінні.

Еўфрасіння Полацкая — адна з самых вядомых постацей беларускай гісторыі. Але і ў яе біяграфіі шмат малавядомых фактаў.

Яна нарадзілася каля 1110 года (даследчык А. Мельнікаў называе люты 1106 года) у Полацку альбо ў адным з іншых гарадоў Полацкага княства, у сям'і князя Георгія і яго жонкі Соф'і. Дзяўчынка была доўгачаканым дзіцем, якое нарадзілася ў бяздзетнай датуль пары дзякуючы няспынным малітвам і частым паломніцтвам да святых мясцін. Акрамя хроснага імені, дзяўчынцы далі імя Прадслава — у гонар славутай Полацкай княгіні, якая жыла ў часы Вольгі Кіеўскай. Заступніцтва продкаў, чые імёны прымалі княжацкія дзеці, на думку палачан, магло абараніць ад нячыстай сілы. Князь і княгіня таксама мелі такія імёны-абярэгі — Святаслаў і Судзіслава. На жаль, даследчыкам не ўдалося ўстанавіць, як была названа маленькая Прадслава пры хрышчэнні.

Дзедам будучай святой быў таямнічы полацкі князь Усяслаў Чарадзей, пра якога яшчэ пры жыцці ягоным расказвалі ўсялякія небыліцы, а пасля смерці і наогул зрабілі пярэваратнем-ваўкалакам.

На схіле гадоў Чарадзей прыняў схіму і завяшчаў сваім шасцярым сынам падзяліць паміж сабою гарады Полацкага княства, каб кіраваць імі, жывучы ў дружбе і любові.

Бацьку Прадславы, які быў самым малодшым сынам Усяслава, спачатку маглі дастацца Орша, Копысь альбо Ізяслаўль. А пасля смерці пятага Усяславіча, Рамана, хутчэй за ўсё — Друцк. Маючы недастаткова інфармацыі, мы не можам, на жаль, вызначыць, дзе ж сапраўды прайшлі першыя, самыя раннія гады жыцця князёўны.

Зрэшты, сям'я Георгія Усяславіча, у якога акрамя Прадславы былі яшчэ два сыны, Вячаслаў і Давыд, а таксама дачка Гардзіслава, часта гасціла ў Полацку ў цераме Барыса, старэйшага з Усяславічаў. І Барысавы дзеці, Васіль, Брачыслаў, Іван і Звеніслава, ставіліся да дзяцей Георгія як да родных братоў і сясцёр.

Пра што марылі, назіраючы за бязвіннымі дзіцячымі гульнямі трох дзяўчынак, іх бацькі? Безумоўна, яны прадвызначалі ім княжыць, падзяляючы з высакароднымі мужамі цяжар улады. І іх рыхтавалі да гэтага з маленства.

Але не свецкая ўлада цікавіла Прадславу. Яе вабіла ўзнёслая атмасфера Полацкага Сафійскага сабора, узведзенага яе дзедам Усяславам Чарадзеем, заварожвалі строгія прасветленыя твары на іконах. Дзяўчынка зачытвалася Бібліяй і шматлікімі жыціямі святых, як мы зараз зачытваемся прыгодніцкімі раманамі. Былі ў яе і любімыя гераіні — святыя пакутніцы, манахіні Фяўронія і Еўпраксія. Іхнія лёсы зачароўвалі, натхнялі. Юнай князёўне хацелася паўтарыць подзвіг гэтых жанчын альбо хаця б у чымсьці быць падобнай да іх.

«І жаніліся, і выходзілі замуж, і княжылі, але не вечна жылі, — гэтак, калі верыць «Жыцію Еўфрасінні Полацкай», разважала князёўна пра жанчын з роду Усяслава Чарадзея, — жыццё іх міма працякала, і згінула іхняя слава, нібы прах альбо павуцінне. Затое жанчыны, якія, узяўшы мужчынскую моц, пайшлі следам за сваім жаніхом-Хрыстом, духоўным мечам адсяклі ад сябе плоцевыя радасці, аддаўшы цела сваё на пост і няспанне, і на каленныя пакланенні, і зямельныя ляжанні, — тыя памятныя на зямлі, іх імёны напісаны на Нябёсах, і яны там з анёламі Бога славяць».

З думкамі гэткімі ўсё часцей пачынае наведваць Прадслава Полацкі жаночы манастыр, ігумення якога была ўдавой яе дзядзькі Рамана. Дзяўчынку цікавяць размовы пра Бога з гэтай добрай і разумнай жанчынай. Ігумення таксама прывязваецца да маленькай пляменніцы, якая так прагне ведаў і святла.

Прыняўшы пострыг пасля смерці мужа, удава князя Рамана верыла па-сапраўднаму, шчыра і рэўнасна. Ігумення ўяўляла сабе, у

якой цемры яшчэ зусім нядаўна існавалі палачане: людзі мелі па некалькі жонак і прыносілі чалавечыя ахвяры паганскім багам. Удава князя Рамана меркавала, што і цяпер яшчэ недзе ў лясных гушчарах хаваюцца ля таемных капішчаў вешчуны, якія праз сваіх прыхільнікаў падбухторваюць палачан вярнуцца да жорсткай веры іх продкаў. Нават многія члены княжацкай сям'і духоўна былі далёкімі ад хрысціянства, адзначалі язычніцкія святы і нярэдка ў побыце паводзілі сябе як сапраўдныя язычнікі.

Мудрая ігуменне адчувала, што Полацкай зямлі патрэбна зараз асоба моцная і непахісная, пажадана княжацкага роду, якая магла б павесці людзей за сабою да вяршынь хрысціянства. Сярод мужчын яна такой асобы не бачыла. Дзяўчынка Прадслава, якая вылучалася недзіцячай сур'ёзнасцю, разважлівасцю і здольнасцю пранікнёна распавядаць пра Біблейскія ісціны, падалося ёй, цалкам падыходзіць да гэтай ролі. Ігуменне пачала рыхтаваць юную князёўну да цяжкай місіі. Але не магла прадбачыць яна, што вучаніца яе пойдзе значна далей, чым марылася ёй.

Аўтар сярэдневяковага жыццяпісу Прадславы распавядае, што, калі князёўне споўнілася адзінаццаць гадоў, да яе бацькі прыслаў сватоў князь, які «преодолевайте славным своим княжением и богатством» усіх іншых. Ён прасіў «дщерь его за сын свой». Пачакаўшы да дванаццацігод дзя князёўны, бацька яе ўрэшце рэшт сказаў жонцы: «Нам ужо прыйдзецца аддаць Прадславу за князя». І маці дзяўчынкі згадзілася: «Ды як Бог хоча і твая, княжа, воля будзе, няхай гэтак і здзейсніцца». Быў прызначаны дзень вяселля, у Полацк прыбыў ужо жаніх Прадславы. Але нечакана ў ноч перад вянчаннем юная нявеста збегла ў манастыр і там стала прасіць пастрыгчы яе ў манахіні.

Ігуменне як магла адгаворвала пляменніцу ад паспешнага рашэння. Ёй было шкада маладосці Прадславы. Да таго ж яна баялася гневу князя Георгія. Але ўражаная цвёрдасцю і непахіснасцю князёўны, вымушана была саступіць.

Князь-бацька з'явіўся ў манастыры тады, калі было ўжо позна. Пострыг дачкі ён аплакваў быццам смерць.

Да гэтых часоў даследчыкаў мала цікавіла пытанне, хто ж быў тым самым жаніхом Прадславы, якога яна адхіліла дзеля Хрыста. Імя князя нідзе ў гістарычных крыніцах не называецца. Але, пэўна, яго можна ўстанавіць па ўскосных сведчаннях. Тым больш, што гэта можа аказацца вельмі важным для разумення сітуацыі, у якой апынулася юная князёўна і якая паставіла яе перад неабходнасцю так паспешліва шукаць ратавання ў манастве.

Калі лічыць, што манахіняй Прадслава стала ў дванаццацігадовым узросце, то можна сцвярджаць, што гэта адбылося недзе ў 1122-1124 гг.

Традыцыйна старажытнарускія князёўны выдаваліся замуж у шаснаццаці-васемнаццацігадовым узросце. Але зусім нечакана бацькі Прадславы, ледзь толькі ёй спаўняецца адзінаццаць, атрымліваюць такую шлюбную прапанову, якую не могуць адхіліць. «Един же, преодолеваше славным своим княжением и богатством» князь засылае сватоў, і Георгій з Соф'яй даюць згоду, агаворваючы толькі тое, што іх дачка павінна дасягнуць да шлюбу дванаццацігадовага ўзросту. Вялікай розніцы паміж адзінаццацігадовым і дванаццацігадовым дзіцем няма — і той, і другі ўзрост далёкі яшчэ да паўналецця. Адчуваецца, што бацькі Прадславы проста свядома адцягваюць выкананне непрыемнага абавязку. Значыць, ім не падабаецца перспектыва парадніцца з тым, хто прыслаў да іх сватоў, хаця ён і князь.

Хто ж ён, гэты ўладны, але непажаданы чалавек, з якім трэба лічыцца і адмовіць якому пры ўсёй нелюбові да яго нельга? У часы Прадславы ім мог быць толькі вялікі князь кіеўскі альбо яго старэйшы сын і спадчыннік Мсціслаў.

Адвечны палітычны супраціўнік Полацка — Кіеўскае княства ў 1117 годзе напала на Менск, Ізяслаўль, Оршу і Копысь, захапіўшы іх. У палон да вялікага князя кіеўскага Уладзіміра Манамаха трапіў Глеб Усяславіч Менскі, дзядзька Прадславы, які неўзабаве і памёр у Кіеве. Паказаўшы сваю ваенную моц, Манамах прымусіў полацкіх князёў лічыцца з ім. Залогам жа таго, што ў далейшым яны не будуць перашкаджаць інтарэсам Кіева, стаў шлюб сына Барыса Усяславіча, Брачыслава-Івана, з унучкай Манамаха Ксеніяй Мсціслаўнай. Маладым кіеўскі князь міласціва саступіў ужо далучаны да яго ўладанняў Ізяслаўль.

Некалькімі гадамі раней родная сястра Ксеніі, Еўдакія Мсціслаўца, таксама была навязана ў жонкі — князю Яраславу Уладзіміра-Валынскаму, які, нягледзячы ні на што, адмовіўся падпарадкоўвацца Манамаху, уступіў з ім у канфлікт і ўрэшце рэшт з ганьбай адаслаў жонку ў Кіеў, адабраўшы ў яе іх маленькага сына Юрыя. Манамах і бацька Еўдакіі Мсціслаў Наўгародскі спрабавалі зброяй прымусіць зяця прыняць жонку назад, але справа скончылася тым, што Яраслаў наогул пакінуў рускія землі і збег, захапіўшы сына, у Польшчу.

У 1123 годзе падчас няўдалага паходу сумесна з палякамі на Манамаха Яраслаў загінуў, пасля чаго палякі вырашылі адаслаць дзесяцігадовага Юрыя да яго маці ў Кіеў. Як сын князя-ізгоя, па законах Старажытнай Русі хлопчык страчваў права на спадчыннае

княжанне. З другога боку, як непаўналетні сірата, ён цалкам трапляў пад апеку дзеда, Мсціслава Наўгародскага. Здабыць удзел для Юрыя ён мог толькі ажаніўшы яго з князёўнай, якая б атрымала
які-небудзь горад у пасаг. І ў інтарэсах Мсціслава было б зладзіць такі шлюб найхутчэй, пакуль моц на баку Манамаха і можна прымусіць каго-небудзь з больш слабых князёў аддаць сваю дачку за Юрыя. Дарэчы, з летапісу вядома, што крыху пазней, змяніўшы на кіеўскім прастоле Манамаха, Мсціслаў абяцаў дачцэ знайсці для Юрыя жонку «помиж самых годных иноземных девиц, кои лутчие многих руськых». Гэта можа сведчыць, што раней дзед ужо прадпрымаў нейкія спробы ажаніць Юрыя, нягледзячы на яго дзіцячы ўзрост, з кімсьці з «руськых девиц», але спроба гэтая была няўдалай.

Яшчэ вядома, што ўжо праз два гады пасля свайго ўвакняжэння ў Кіеве Мсціслаў сабраў вялікія сілы і накіраваўся паходам на Полацкае княства помсціць Усяславічам за нейкія свае крыўды. Ці не можа гэта служыць доказам, што сватаў за Юрыя Мсціслаў менавіта полацкую князёўну Прадславу, якая сваім учынкам яго раззлавала?

Сітуацыя, падобная да гісторыі Рагнеды? Здаецца, што так. Наўгародскі князь, будучы князь кіеўскі, сватае полацкую князёўну дзеля земляў яе і, атрымаўшы адмову, ідзе на Полацк вайной. Хаця князь Мсціслаў не атрымлівае адмовы ад бацькоў Прадславы, бо ён — сын і спадчыннік магутнага Манамаха. Яны згаджаюцца з неабходнасцю шлюбу дванаццацігадовай сваёй дачкі і адзінаццацігадовага Юрыя, якому павінны будуць адрэзаць надзел ад сваёй зямлі, каб мог юны беззямельны князь дзенебудзь жыць з Прадславай. І яна адмаўляе жаніху не абражаючы. Не таму, што ён падаецца ёй няўартым яе, няроўным ёй (а так, зрэшты і было, бо Юрый, хаця і ўнук уладнага наўгародскага князя, і праўнук вялікага князя кіеўскага, — сын ізгоя, пазбаўлены права на спадчыну), а таму, што наогул не жадае зямнога шлюбу, а імкнецца да Боскай ісціны.

І тым не менш дзяўчынка, якая марыць паўтарыць лёс святой Еўпраксіі або святой Фяўронія у агульных рысах паўтарае лёс сваёй прапрапрабабкі Рагнеды. Выпадковасць? А можа, Боскі знак? Бо як і Рагнедзе, Еўфрасінні Полацкай было наканавана стаць той знакавай фігурай айчыннай гісторыі, якая вызначыць яе далейшы напрамак.

Першы год пасля пострыгу дзяўчынка-манахіня, якая памяняла сваё свецкае імя на іншае — Еўфрасіння, — знаходзілася ў манастыры цёткі на послуху. Але і строгае манастырскае жыццё, здаецца, не задавальняе яе імкненння да духоўнага подзвігу. Таму вельмі хутка яна звярнулася да полацкага епіскапа Іллі з просьбаю дазволіць ёй зачыніцца ў асобнай келлі. Ілля блаславіў дзяўчынкуманахіню. І Еўфра-

сіння пасялілася ў маленькай келлігалубніцы Полацкага Сафійскага сабора. Свяціцель Дзмітрый Растоўскі сцвярджае, што зрабіла яна гэта «в подражание тех древних иерусалимских дев, среди которых была и Пречистая Дева Богородица, живших при Соломоновой Святая Святых церкви в особых камерах при стене церковной на то устроенных». Тут ПрадславаЕўфрасіння «...начат подвижнейши подвиг постнический восприимати, и начат книги писати своима рукама...».

Гэта была цяжкая і карпатлівая праца. Жывучы ў келлі-галубніцы, амаль на адным узроўні са званіцай, днём і ноччу сузіраючы навакольны мітуслівы свет праз вакно з вышыні птушынага палёту і выходзячы з прыстанку свайго толькo па вялікай патрэбе, праводзіла юная князёўна доўгія часы ў перапісванні тоўстых фаліянтаў, рэдкіх кніг візантыйскіх, балгарскіх, мараўскіх, бясконцых пастырскіх павучэнняў жыцій святых падзвіжнікаў, багаслоўскіх трактатаў. Перапісаныя кнігі такія былі вельмі дарагімі, і купіць іх маглі толькі самыя багатыя людзі: члены княжацкай сям'і, баяры і нямногія гараджане, у асноўным з купецкага асяроддзя. Грошы, выручаныя ад продажу гэтых высокадухоўных кніг, Еўфрасіння раздавала бедным. І яны, цалуючы рукі добрай дзяўчынкіманахіні, бласлаўлялі яе.

Аднойчы, задумаўшыся над патрэбнасцю, важнасцю і неабходнасцю летапісання і з прыкрасцю адзначыўшы, што ў Полацку, багатым сваімі традыцыямі і гісторыяй, летапісы нікім не вядуцца, Еўфрасіння вырашыла ўзяць на сябе місію летапісца. Пачатую ёю справу ў далейшым вялі паслядоўніцы князёўны-асветніцы. Мяркуючы па кавалках гэтага летапісу; якія захаваліся толькі дзякуючы таму, што былі перапісаны дaслоўна іншымі летапісцамі, ён быў унікальны ўжо таму, што ў ім, акрамя падрабязных апісанняў княжацкіх разладаў і войн, было шмат сведчанняў пра абставіны свецкага жыцця Полацкага княства, пра чалавечыя ўзаемаадносіны важнейшых фігур гісторыі Полацка. Знаходзіліся звесткі з падрабязнымі біяграфіямі князёў, ваявод і баяр, а таксама сведчанні пра не менш, аказваецца, дзейных княгінь, баярынь.

Пражыўшы ў келлі-галубніцы каля трох гадоў, юная манахіня, як сцвярджае «Жыціе Еўфрасінні Полацкай», атрымала знак Нябёсаў. Тройчы ёй у сне быццам бы з'яўляўся анёл і паказваў месца, прыдатнае для заснавання новага манастыра, кажучы пры гэтым: «Ты павінна знаходзіцца тут, бо Гасподзь жадае праз цябе на гэтым месцы паставіць многіх на шлях ратавання». Прычым нібыта падобны сон адначасова бачыў і епіскап Ілля.

Як бы там ні было, але ў 1126 годзе па меркаваннях веры, а можа, вялікай палітыкі, цяжка напэўна сказаць, епіскап урачыста абвясціў

высакародным сваякам Еўфрасінні, а таксама баярам полацкім, якіх дзеля гэтага сабраў разам, пра сваё адабрэнне намеру юнай манахіні заснаваць манастыр.

А ноччу гэтых жа сутак у суправаджэнні толькі чарніцы, сваёй вернай служанкі, што неўзабаве пасля гаспадыні таксама пастрыглася, Еўфрасіння пешшу накіроўваецца з Полацка ў Сяльцо. З рэчаў пры ёй толькі самае неабходнае. Гэта значыць, кнігі, бо больш за ўсё яе душа прагне ведаў. Манастыр ў Сяльцы быў пабудаваны вельмі хутка. І натхнёныя прыкладам княжацкай дачкі, туды пацягнуліся чарадой экзальтаваныя маладыя палачанкі. Але не ўсіх прымала да сябе Еўфрасіння. Большасць пакідала Сяльцо ў слязах, бо князёўна-манахіня адпраўляла іх «у свет». Але ж нярэдка ўсяго праз некалькі месяцаў гэтыя ж дзяўчаты прыходзілі да Еўфрасінні са словамі шчырай падзякі, бо знаходзілі па-за сценамі манастыра каханне і нарачоных.

А вось малодшую сваю сястру Гардзіславу Еўфрасіння безагаворачна пастрыгла ў манахіні. Адчуваючы, што няшчасная Гардзіслава, хаця і мае схільнасці да навук, хаця і цягнецца больш за ўсё да кніг і Боскіх ведаў, хаця і зайздросціць Еўфрасіннінай долі, але не можа адмовіць бацькам, якія жадаюць хаця б яе выдаць замуж, юная ігуменння Спаскага манастыра ўпрасіла бацьку і маці дазволіць сястры прыехаць да яе ў госці. І падчас гэтага візіту ўгаварыла Гардзіславу не працівіцца долі, што паслалі ёй Нябёсы, і стаць Хрыстовай нявестай.

Князь Георгій доўга не мог дараваць Еўфрасінні яе ўчынку, але сама Гардзіслава, якая прыняла манаскае імя Еўдакія, не шкадавала аб гэтым.

Між тым надыходзілі цяжкія часы. У 1127 годзе, калі шаснаццацігадовая Еўфрасіння толькі-толькі расчыніла дзверы свайго манастыра для маладых падзвіжніц веры, сын памерлага ў 1125 годзе Манамаха Мсціслаў, новы кіеўскі правіцель, памятаючы крыўду, што нанесла яму полацкая князёўна, вырашыў скончыць з незалежнасцю свавольнага княства. Збіраючы для паходу на Полацк сыноў, братоў, пляменнікаў і зяцёў, Мсціслаў успомніў пра мужа сваёй дачкі Ксеніі, ізяслаўскага князя Брачыслава Барысавіча. Бацька Брачыслава, князь Барыс-Рагвалод, які зусім нядаўна яшчэ займаў прастол ў Полацку, страціў яго па волі сваіх падданых, незадаволеных залішняй яго мяккасцю. Палачане запрасілі да сябе ў правіцелі другога сына Усяслава, Давыда. Заступніцтвам за цесця хацеў прыкрыць дзеянні свае Мсціслаў. Але ні сам Барыс, ні Брачыслаў не падтрымалі вялікага князя кіеўскага. Раз'юшаны Мсціслаў першы свой удар нанёс Ізяслаўлю, захапіўшы Брачыслава ў палон. Пасля кіеўскі ўладар узяў і Полацк, загадаўшы палачанам вярнуць прастол Барысу. Утрымлі-

ваючы Брачыслава ў вязніцы ў Кіеве, Мсціслаў, пэўна, разлічваў, што Барыс дзеля захавання жыцця сыну стане паслухмяным правіцелем у яго руках. І сапраўды, састарэлы полацкі князь толькі плакаў і маліўся за Брачыслава. Урэшце рэшт сэрца бацькі не вытрымала, і ён памёр. Згодна з воляй палачан, да ўлады ў Полацку прыйшоў бацька Еўфрасінні Георгій, які адразу ж паказаў непакорнасць у адносінах да Кіева.

Збіраючыся ў чарговы паход на полаўцаў, Мсціслаў прыслаў у Полацк распараджэнне адправіць яму на дапамогу войска. Георгій праігнараваў загад чалавека, якога не лічыў сваім гасударам.

Гэта стала зачэпкай для новага нападу Мсціслава на Полацк. Войска полацкіх князёў пад кіраўніцтвам Георгія было разбіта. У палон акрамя бацькі і братоў Еўфрасінні трапілі яе дзядзькі Давыд і Расціслаў Усяславічы, іх сыны, а таксама сыны нябожчыкаў Барыса і Глеба Усяславічаў.

Маючы намер раз і назаўжды пазбавіцца супраціўнікаў, але не жадаючы пры гэтым праславіцца як Каін-братазабойца, Мсціслаў прыдумаў хітры план. Ён выправіў полацкіх князёў у ссылку ў Візантыю, напісаўшы візантыйскаму базілеўсу Іаану II Комніну, з якім парадніўся, выдаўшы замуж у Царград адну з дачок, каб той трымаў іх у строгасці і ўсяляк пільнаваў. Аднак базілеўс паступіў інакш. Ён узброіў нашчадкаў Усяслава Чарадзея, даў ім пад камандаванне невялікія атрады візантыйскіх воінаў і накіраваў супраць сарацын. Баявое майстэрства полацкіх князёў прынесла немалую карысць Царграду.

Высыльцы на чужыну падлягалі ўсе члены вялікай сям'і, акрамя асоб духоўнага звання. Гэта значыць, што толькі Еўфрасіння, Еўдакія-Гардзіслава ды іх цётка-ігуменння, удава князя Рамана, змогуць застацца на радзіме. Але зусім нечакана для ўсіх выльрашыла абраць манаства і Звеніслава Барысаўна, сяброўка дзяцінства Прадславы. З сумам усклала Еўфрасіння на галаву гордай князёўны чорны клабук. Але пашкадаваць пра зробленае, на шчасце, не давялося ні ігуменні, ні самой Звеніславе, якая, захопленая ідэямі духоўнага асветніцтва, стала першай памочніцай і паслядоўніцай Еўфрасінні.

Не захацела скарыцца з неабходнасцю пакінуць радзіму, назаўжды развітацца са сваімі лачкамі і княгіня Соф'я. Папрасіўшы даравання ў мужа, яна таксама стала чарніцай, хаця духоўнае гэтае званне прыняла толькі намінальна. Княгіня працягвала жыць у сваім цераме ў Полацку і нават захоўвала ў сябе дзяржаўную пячатку полацкіх князёў, па ўзоры якой заказала майстру зрабіць яшчэ дзве: сваю імянную і з імем Еўфрасінні. Пячаткі гэтыя маці і дачка выкарыс-

тоўвалі пры перапісцы са сваімі роднымі ў Візантыі і з князямі іншых земляў што дало пазней даследчыкам магчымасць казаць пра ўдзел Соф'і і Еўфрасінні ў кіраванні Полацкам. Гэта паспрыяла ўзнікненню гістарычнага тэрміна «Полацкі матрыярхат». Тым не менш, па волі Мсціслава ў Полацк быў пасланы княжыць сын вялікага князя кіеўскага Ізяслаў. Але ён скрозь пальцы глядзеў на знаходжанне побач з сабой самотных манахінь з роду Усяслава Чарадзея. Гэта давала Еўфрасінні магчымасць не гібець у сваім манастыры, думаючы кожны дзень толькі пра кавалак хлеба надзённага, але разгарнуць актыўную асветніцкую дзейнасць.

Займацца перапісваннем і распаўсюджваннем кніг апантанай князёўне было ўжо замала. І яна заснавала пры сваім манастыры школу для дзяўчынак-гараджанак. Юныя палачанкі пад кіраўніцтвам Еўфрасінні вучыліся «писанию, пению, швению и иным полезным ремеслам, да от юности навыкнут разумети закон Божий и трудолюбие».

Дзякуючы Еўфрасінні, дзесяткі святых сёстраў былі далучаны да высакароднай справы выратавання рэдкіх рукапісаў, якія расшукваліся ў бібліятэках праз сувязі з іншымі манастырамі і перапісваліся ў Полацку.

У 1132 годзе памёр вялікі князь кіеўскі Мсціслаў, і яго шматлікія сваякі — браты, сыны і пляменнікі — пабіліся за ўладу. Полацк, які дагэтуль кіраваўся Ізяславам, часова апынуўся ў руках іншага Мсціславага сына, Святаполка. Але як толькі палачане даведаліся пра тое, што з візантыйскай ссылкі вярнуўся Васіль Барысавіч, яны паспяшаліся пазбавіць Святаполка прастола і радасна прынялі візантыйскага выгнанніка ў горад яго бацькі.

Ад Васіля Барысавіча Еўфрасіння даведалася пра смерць блізкіх ёй людзей. На чужыне загінулі ці памерлі яе бацька Георгій і два дзядзькі, Давыд і Расціслаў, усе сыны Давыда і Расціслава, жонка самога Васіля Барысавіча, а таксама яго брат Брачыслаў-Іван са сваёй няшчаснай Ксеніяй. Але жывыя і мусяць хутка вярнуцца на радзіму браты Еўфрасінні Вячаслаў і Давыд, а таксама тры сыны Глеба Усяславіча — Расціслаў, Валадар і Ізяслаў. Васіль Барысавіч абяцаў падзяліць паміж імі гарады Полацкага княства.

Калі ўсе члены полацкай сям'і, хто застаўся ў жывых, вярнуліся дадому, яны знайшлі манастыр Еўфрасінні не такім, якім бачылі яго да ссылкі — ён быў «украшен и всего блага исполнен». Будучы ігуменняй Спаскай абіцелі, яна зрабіла ўсё, каб ператварыць свой манастыр у буйны цэнтр культуры і навукі. Цэнтр, дзе жанчына

выглядае роўнай мужчыне ва ўсім тым, што дазваляе сцвярджаць: чалавек быў створаны па вобразе і падабенстве Божым.

Еўфрасіння папрасіла Васіля Барысавіча садзейнічаць ёй у заснаванні ў Полацку мужчынскага манастыра пры царкве Святой Багародзіцы, якую сама загадала пабудаваць. Князь зрабіў усё, што ад яго залежала, і хутка полацкія манахі атрымалі новую абіцель. Па прыкладзе манахінь Еўфрасінні яны адчынілі пры сваім манастыры школу для хлопчыкаў-гараджан.

Але ігуменам у новым манастыры стаў манах Дыянісій. Ён вельмі хутка набыў вялікі аўтарытэт, а пазней стаў і епіскапам полацкім. Дыянісій непахісна стаяў на тым, каб дабівацца перамогі хрысціянства над язычніцтвам, якое было яшчэ вельмі моцным у народзе, любымі спосабамі і нават «агнём і мечам».

Але Еўфрасіння пераконвала набожнага князя Васіля Барысавіча адмовіцца ад насаджэння зброяй міралюбівых ідэй Хрыста.

Гістарычныя крыніцы не даюць нам магчымасці даведацца, ці прымала манахіня Еўфрасіння які-небудзь удзел у тых палітычных справах Полацкага княства, якія не былі звязаны са справамі рэлігійнымі. Надзеўшы манаскі клабук, яна мусіла аддзяліць сябе ад усяго «мірскога». Але, безумоўна, пэўны ўплыў на дзеянні блізкіх яна мела. Вось, напрыклад, у 1137 годзе Васіль Барысавіч пабратаўся з сынам злейшага свайго ворага Мсціслава, Усеваладам, паказаўшы гэтым на справе, якім павінна быць хрысціянскае ўсёдараванне (менавіта гэтаму вучыла людзей і Еўфрасіння). А ў 1139 годзе, імкнучыся спыніць (ці не па парадзе Еўфрасінні?) міжусобіцу, якая тысячамі вынішчала людзей на землях Старажытнай Русі, полацкі князь зладзіў два шлюбы, што павінны былі прымірыць галоўных ворагаў — князёў Мсціславічаў і Ольгавічаў. Ён вырашыў ажаніць дачку Марыю з сынам Усевалада Ольгавіча Святаславай, сам жа страчвае ўдаўства, узяўшы шлюб з іншай Марыяй, дачкой Ізяслава Мсціславіча (таго самага, што пэўны час у адсутнасць полацкіх князёў кіраваў Полацкам).

Цяжка ўявіць, што Еўфрасіння маўкліва ўспрыняла і падзеі 1151 года, калі полацкія баяры склікалі веча і падбухторвалі палачан скінуць Васіля Барысавіча. Яго адправілі ў Менск, дзе, па словах летапісца, «держаще в великой нужде», а сабе ўзялі за ўладара аднаго з сыноў Глеба Усяславіча, Расціслава.

Хто ведае, магчыма, менавіта надыход хвалі неспакойных часоў у Полацкім княстве і падрыхтаваў урэшце рэшт здзяйсненне Еўфрасінняй новага подзвігу асветніцтва — узвядзення Спаскай (альбо Спаса-Праабражэнскай) царквы ў Полацку. Сучаснікі назвалі гэты храм «дзіўнай малітвай, выразанай у камені». Ёсць сведчанне, што па-

будавана царква была ўсяго за 30 тыдняў. На жаль, пісьмовыя крыніцы не захавалі дакладнай даты ўзнікнення гэтага храма. Археолагі вылучаюць толькі прыкладны час пабудовы: ад 1152да 1159 года. Калі ж дакладна Еўфрасіння здзейсніла гэты стваральны подзвіг? Як шкада, што мы ніколі пра гэта не даведаемся.

На будаўніцтва храма князёўна-ігуменння запрасіла выдатнага дойліда — манаха Іаана, якога, як і яе саму, неадступна праследавалі вешчыя сны. Паводле падання, Іаан сам, «настаўлены Духам Святым», прыйшоў да Еўфрасінні і прапанаваў ёй свае паслугі. Ва ўзвядзенні гэтага храма дапамагалі людзям анёлы нябесныя. Калі выявілася, што скончылася цэгла, Еўфрасіння ўзмалілася: «Ты, хто падаў нам большае, падай і меншае». І раптам цудоўным чынам цэгла з'явілася ў печы, ужо абпаленая, гатовая да ўкладкі.

Адкрыццё Спаскага храма стала вялікай падзеяй у Полацку.

У 1158 годзе Васілю Барысавічу, верагодна, з дапамогай тых, хто шчыра ўвераваў у цуд з будаўніцтвам храма Еўфрасінні і спалохаўся Боскай кары, удалося вызваліцца з месца ссылкі, і яго ахвотна прынялі жыхары Друцка (горада маленства Еўфрасінні?). Расціслаў павёў было палачан на Друцк, але сустрэў нечаканы адпор. І тут здарылася нешта ўжо зусім неспадзяванае, бо палачане раптам выгналі Расціслава і сталі прасіць Васіля Барысавіча вярнуцца на полацкі прастол: «Князь наш! Саграшылі мы перад Богам і перад табою, што паўсталі на цябе без віны...». Хтосьці, безумоўна, павінен быў паўплываць на тое, каб у розумах гараджан адбыўся гэткі пераварот і яны здолелі прызнаць сваю віну. Ці не заклікі Еўфрасінні, упрошванні і слёзы дапамаглі тут? Гэта ўяўляецца цалкам верагодным.

Нарэшце, 1158 год мусіў стаць для ігуменні Еўфрасінні годам вялікіх падзей. Менавіта ў гэты час у яе з'яўляецца ўплывовы аднадумца. У Тураве «моленьем князя Юрия Ярославля и людей того города возведен был на епископский престол и митрополитом поставлен был епископом» мясцовы мапах Кірыл, які праславіўся раней тым, што ад вялікай вучонасці сваёй і вялікай веры папрасіў святых братоў замураваць яго ў слупе. Замураваны Кірыл пісаў дзіўныя па прыгажосці і сіле пераканання «Словы» — пропаведзі для вернікаў, у якіх вучыў іх, як і Еўфрасіння, дабрыні і любові, працавітасці і дбанню, уменню жыць у гармоніі з прыродай і ў страху перад грахом, гэты дзіўны асветнік быў духоўным настаўнікам многіх тураўцаў і самога тураўскага князя, які ў 1157 годзе стаў няўдалы жаніх Еўфрасінні Юрый Яраславіч.

Гадаваць добрае і прыгожае заўжды лягчэй, калі маеш побач тых, хто таксама прысвяціў сябе гэтай высакароднай справе.

У 1161 годзе Еўфрасіння звярнулася да візантыйскага базілеўса Мануіла Комніна з просьбай даслаць ёй з Царграда хрысціянскія святыні, а сярод іх — адну з найвялікшых: абраз Эфескай Божай Маці, напісаны, паводле падання, самім евангелістам Лукой з жывой Багародзіцы. Калі полацкія князі трапілі ў візантыйскую ссылку, пляменнік Мануіла Комніна, царэвіч Алексій Комнін узяў у жонкі цётку Еўфрасінні, Соф'ю Усяслаўну. Базілеўс, які дзякуючы гэтаму шлюбу стаў сваяком полацкай ігуменні, не мог адмовіць прасіцельніцы. Усё, што хацела Еўфрасіння, прыбыло ў Полацк у 1162 годзе. Святы абраз князёўна-манахіня, паводле адной гістарычнай версіі, аддала ў царкву Прасвятой Багародзіцы пры мужчынскім манастыры, паводле ж другой — змясціла ў Спаскім храме.

Святынямі Спаса-Праабражэнскай царквы сталі і дасланыя з Царграда часцінкі мошчаў розных святых з часткай крыжа, на якім быў распяты Ісус Хрыстос. Яны былі змешчаны ў цудоўны, упрыгожаны золатам і каляровымі эмалямі напрастольны крыж. Гэты крыж-каўчэг па заказе ігуменні вырабіў лепшы полацкі ювелір Лазар Богша. З рук майстра выйшаў сапраўдны шэдэўр ювелірнага мастацтва, які стаў новай святыняй і сімвалам духоўнасці Полацка.

У гэтым жа 1162 годзе, верагодна, пад уплывам вучэння Еўфрасінні пра дабро і зло, князь Васіль Барысавіч, якога палачане хацелі прымусіць ваяваць супраць стрыечных братоў, адмовіўся ад полацкага прастола на карысць сына Усяслава. Скінуўшы цяжар улады, Васіль Барысавіч выехаў у Друцк, дзе неўзабаве як узнагароду Нябёсаў за свой смелы і высакародны ўчынак атрымаў на старасці гадоў дзіця, маленькую дзяўчынку. Ён назваў яе ў гонар стрыечнай сястры, якой цяпер пакланяўся, Еўфрасінняй. Ігуменя Еўфрасіння стала хроснай маці нованароджанай.

Цікава, што дзесьці ў той жа час і Галіцкі князь Яраслаў Асмамысл прывёз у Полацк сваю маленькую дачку, каб упрасіць асветніцу з роду Чарадзея ахрысціць дзіця. І гэтая дзяўчынка атрымала імя Еўфрасіння. Пазней дачка Васіля Барысавіча стала прадаўжальніцай спраў сваёй хроснай, была кананізавана, і яе імя папоўніла пантэон імёнаў пскоўскіх святых (у Пскоў яе аддалі замуж). А Галіцкая князёўна ўвайшла ў гісторыю пад імем Яраслаўны, гераіні «Слова о полку Игореве».

Блаславенне на жыццё гэтых дзвюх выдатных у будучым гераінь усходнеславянскай гісторыі аказалася апошнім з дзеянняў праслаўленай асветніцы Еўфрасінні Полацкай на радзіме.

Упрыгожыўшы полацкую зямлю «храмами аки цветами», у 1173 годзе немаладая і хворая ўжо Еўфрасіння, задумаўшыся пра тое, што

для сапраўднай Хрыстовай нявесты няма скону больш годнага, чым ля труны свайго Нябеснага Жаніха, вырашае пераадолець далёкі шлях у Іерусалім, у які суправаджаць яе ўзяліся Еўпраксія-Звеніслава і родны брат Давыд.

Вандраванне полацкай асветніцы, добрая слава пра якую ўжо грымела па ўсёй Еўропе, было падобна да трыумфальнага шэсця царыцы. Ва ўсіх краінах і гарадах яе сустракалі з кветкамі і ўсмешкамі, а праводзілі са слязьмі і добрымі пажаданнямі. Людзі не сумняваліся, што бачаць перад сабою сапраўдную святую.

У самім Іерусаліме князёўна-манахіня прабыла нядоўга. Яна адразу ж паспяшалася да галоўнай святыні — Труны Гасподняй і доўга ляжала перад ёю, цалуючы прах. Яшчэ праз дзень Еўфрасінні стала блага, і яна, адчуўшы набліжэнне смерці, прасіла сваіх спадарожнікаў знайсці магчымасць пахаваць яе ў святым горадзе...

Еўпраксія і Давыд вярнуліся ў Полацк без Еўфрасінні. Аднак яны прывезлі на радзіму асветніцы яе блаславенне і апошнія словы, напоўненыя любоўю і клопатам пра ўсіх жывых.

Даведаўшыся пра тое, як скончыла свой зямны шлях жанчына, дзеяннямі якой так захапляліся яе сучаснікі, царква тут жа кананізавала яе як святую. Прычым незалежна адзін ад аднаго гэта зрабілі і Візантыя, і Рым, ужо раздзеленыя канчаткова, ужо варагуючыя. Гэтак і смерцю сваёй князёўна Еўфрасіння Полацкая заклікала людзей да любові і яднання.

Прайшлі стагоддзі. У Расіі, у адным з Санкт-Пецярбургскіх музеяў апынулася ікона Маці Божай Эфескай. Знік некуды падчас Другой сусветнай вайны славуты крыж Лазара Богшы. Але вярнуліся на радзіму, зрабіўшы доўгі небяспечны шлях, мошчы Еўфрасінні Полацкай, каб ператварыцца на зямлі яе продкаў у яшчэ больш моцную святыню для хрысціян.

## Лекарка манархаў

Жанчына — пяшчотнае, слабае стварэнне, дэкаратыўная кветка, што вырошчваецца ва ўмовах раскошы і бяздзейнасці, якой можна ганарыцца, паказваючы яе саноўным гасцям у час баляў і прыёмаў. Такой ва ўяўленні нашых продкаў павінна быць шляхцянка.

У большасці сваёй жанчыны мінулага і адпавядалі гэтаму ідэалу прадстаўнікоў процілеглага полу. Але зрэдку абставіны альбо асаблівасці характару той ці іншай з іх рабілі яе жыццё падобным да сапраўднага прыгодніцкага рамана. Цікава, але такія жанчыны амаль заўсёды вызначаліся прыгажосцю і розумам. Не апошняе месца сярод іх займае і наша зямлячка Саламея Рэгіна Русецкая. Пра яе мы даведаліся з напісанай ёю кнігі «Авантуры майго жыцця», якая была выдадзена на польскай мове і знаходзіцца цяпер у Кракаве, у Нацыянальным музеі. На беларускай мове кніга ўпершыню з'явілася ў 1993 годзе і стала для многіх беларусаў сапраўдным адкрыццём. Аўтарка гэтай кнігі аказалася не проста чалавекам з вельмі цікавым лёсам, але і цудоўнай пісьменніцай, і, што яшчэ больш важна, прафесійнай лекаркай, сярод пацыентаў якой былі асобы самага высокага сацыяльнага становішча.

Нарадзілася Саламея ў 1718 годзе на Навагрудчыне. Бацька яе, Яўхім Русецкі, хутчэй за ўсё быў мешчанінам альбо дробным шляхціцам. Польскі даследчык З. Кухові́ч схіляецца да версіі, што Саламея мела «плебейскае паходжанне». Аднак гэтае меркаванне не падмацоўваецца ніводным фактам.

У 1731 годзе чатырнаццацігадовую дзяўчыну выдалі замуж за немца-лекара Якуба Хальпіра. Сужэнцы ў тым жа годзе накіраваліся ў Стамбул, дзе неўзабаве Хальпір распачаў лекарскую дзейнасць. Жонка нечакана для мужа праявіла да яго заняткаў вялікую цікаўнасць і неўзабаве пачала працаваць самастойна. Выпадак зводзіць Саламею з іракскім лекарам, які заўважыў цікавасць маладой жанчыны да медыцыны, навучыў яе лячыць некаторыя хваробы вачэй. Мала-памалу Саламея набыла столькі ведаў і вопыту, што атрымала дазвол самастойна практыкаваць. Па мусульманскіх звычаях, мужчына, нават лекар, не мог наведваць гарэмы. А прававерныя мусульманкі не мелі права лячыць пацыентаў-мужчын. Саламея ж магла практыкаваць і сярод мужчын, і сярод жанчын. Гэта зрабіла яе вельмі папулярнай.

Неўзабаве ў яе мужа здарылася вялікая непрыемнасць. Пасля прыняцця чарговай дозы мікстуры, якую выпісаў Хальпір, яго пацыент, важны саноўнік, нечакана памёр. Гэты турак ужо сем гадоў не бачыў і быў разбіты паралюшам так, што не мог варушыць ні

рукамі, ні нагамі. Дзякуючы лячэнню Хальпіра, ён ужо «сам мог хадзіць» нават без палкі. Але працягваў прымаць лекі, таму што «яшчэ не скончыўся згодна з прадпісаннямі лекара трохмесячны тэрмін лячэння». Смерць пацыента, які ўжо амаль паправіўся, уразіла Хальпіра. Тым больш што яна надышла, і гэта было відавочна, пасля чарговага прыёму лекаў, «вельмі добрых і праверaных», якія раней спрыялі яго вылечванню.

Жонка нябожчыка і яго дзеці абвінавацілі ў гэтай смерці Хальпіра і сталі намагацца, каб яго пакаралі як забойцу. Яны накіравалі прашэнне візіру Іслам-пашы. Той вызначаўся вельмі дрэнным характарам, «душыў турак і хрысціян, як мышэй». Якуба кінулі ў турму. Але ў справу ўмяшалася Саламея. Яна зрабіла ўсё дзеля таго, каб выратаваць мужа ад смерці. Падключыла ў справу знаёмых высокапастаўленых асоб, з дапамогай якіх удалося ўгаварыць сваякоў нябожчыка адмовіцца ад абвінавачвання. Яны згадзіліся гэта зрабіць, але Саламеі давялося выплаціць ім у якасці кампенсацыі велізарныя грошы. Хальпір выйшаў на волю.

А потым Саламея высветліла, што ў той час, калі муж рыхтаваў пацыенту порцыю лекаў, якія і сталі прычынай смерці, у аптэцы знаходзіўся Хальпіраў канкурэнт, лейбмедык султана Даніэль Фансека. Саламея Рэгіна павяла справу так, што Фансека вымушаны быў прызнацца: гэта менавіта ён падсыпаў у лекі атруту. Доктар-забойца вярнуў Саламеі тыя грошы, якія яна аддала, каб задобрыць сваякоў нябожчыка. Верагодна, да іх султанскі лейб-медык вымушаны быў дадаць яшчэ пэўную суму Хальпіру ў якасці маральнай кампенсацыі.

Саламея святкавала перамогу. Лейб-медык жа вырашыў адпомсціць ёй. Ён дабіўся таго, каб жонцы Хальпіра забаранілі лячыць мужчын. У жанчын жа ёй дазвалялася лячыць толькі захворванні вачэй. Зусім адхіліць Саламею ад практыкі ён не здолеў, бо ў асярод дзі ўрачоў усе прызнавалі за лекаркай уменне і веды ў галіне афтальмалогіі.

Гэта забарона моцна ўдарыла па яе матэрыяльным становішчы. А яшчэ больш — па самалюбстве. Маладая лекарка пачала шукаць шляхі, якія далі б ёй магчымасць дабіцца адмены абмежаванняў. Дапамог выпадак. Адзін з прыбліжаных султана звярнуўся да жанчыны з просьбай вылечыць сваяка. У таго была мочакаменная хвароба. Саламея згадзілася. Яна ўдала правяла лячэнне. Вынік быў нечаканы нават для яе самой, бо яна сумленна піша: «Усё гэта (хуткую і лёгкую папраўку пацыента. — Аўт.) я волі Найвышэйшага Бога прыпісваю».

Тым не менш, людзі, ад якіх залежала медыцынская кар'ера Саламеі, расцанілі гэты выпадак інакш. І абмежаванні ў прафесійнай дзейнасці былі зняты.

Дзесьці ў гэты час ускладніліся стасункі з мужам. «Паспрыяла» таму раптоўная нервовая хвароба Саламеі. У яе пачаліся істэрыкі, якія суправаджаў паралюш. Маладая жанчына сцвярджала, быццам на яе наслалі чары зайздроснікі. Становішча ў доме стала невыносным, і Якуб збег у Боснію, пакінуўшы жонку з маленькай дачкой у Стамбуле. Няўдзячны муж зусім забыўся пра тое, што нядаўна гэтая «немагчымая» жанчына выратавала яго жыццё, і, пакідаючы Саламею, прыхапіў з сабою амаль усе грошы.

Ачуняўшы, Саламея накіроўваецца следам за ім. Яна марыць аб прымірэнні. Грошай у яе, пэўна, было няшмат, таму жанчына вымушана была падзарабляць па дарозе. Пацыенты плацілі ёй нядрэнна. Пра гэта сведчаць яе згадкі, што са Стамбула яна выехала на павозцы і з адным слугой, у горадзе ж Філіпбеі ўжо змагла наняць яшчэ двух слуг і набыць дзесятак коней.

Шлях ляжаў праз Балканы, дзе яе падвяла яе ж вядомасць. Разбойніку Рудому Хусейну, што панаваў са сваёй шайкай у гэтых мясцінах, паведамілі, што з гандлёвым караванам, які накіроўваецца да перавалу, едзе лекарка Саламея, пераапранутая ў мужчынскае адзенне. Ён перахапіў гэты караван. Адразу вызначыў, хто сярод падарожнікаў Саламея, і звярнуўся да яе: «Кланяюся, пані лекарка, куды едзеш з маленькай дачушкай і набыткам сваім?». Тая думала падмануць яго і адказала: «Я не лекарка, я мужчына і еду па сваіх справах». Але разбойнік не паддаўся на падман: «Ведаю цябе добра, ты — пані лекарка, — сказаў ён. -1 чаму канвою не маеш?». Тады Саламея па ўсходніх звычаях зрабіла напышлівы, але вельмі хітры камплімент Рудому Хусейну, бо па знешнасці субяседніка ўжо зразумела, хто гэта: «Мілы пане, мяне не стане і калі б наняла і 500 канвойных, бо я чула пра годнага кавалера Рудога Хусейна-агу. Яго не стрымае ніякі канвой, а два-тры чалавекі, што з іх?». Урэшце рэшт разбойнік назваў сваё імя і ўгаварыў вандроўніцу паехаць да яго ў госці, каб «пазнаёміць з маёй жонкай і добрымі прыяцелямі».

Сваякі атамана сустрэлі лекарку як ганаровую госцю. Праўда, тут жа звярнуліся да яе з просьбай заняцца лячэннем бацькі ягонага зяця, які «шэсць гадоў на ногі не становіцца, а чалавек ён стары». Саламею пасялілі ў асобным доме і далі ўсё неабходнае. І яна цалкам задаволіла спадзяванні яе захопніка. Хутка пацыент адчуў сябе лепей настолькі, што змог хадзіць, праўда, пры дапамозе мыліц.

Больш таго, маладая лекарка пазбавіла і самога Рудога Хусейна хваробы, якую ў сваім дзённіку, апублікаваным пазней, называла «чырвоныя вочы». Хутчэй за ўсё, гэта быў запушчаны кан'юнктывіт. Разбойнікі шчодра аддзячылі ёй і адпусцілі, прыбавіўшы для аховы ганаровы канвой Рудога Хусейна. Дарэчы, падарожнікі, якія ехалі з Саламеяй да таго моманту, як яе «запрасіў у госці» славуты разбойнік (жадаючы выглядаць галантным, Руды Хусейн адпусціў іх ісці далей сваім шляхам), на наступны ж дзень пасля гэтай падзеі былі абрабаваны і забіты іншай шайкай.

У Сафіі жанчына нечакана сустрэла мужа. Якуб прыехаў падлячыць свае суставы на мінеральных водах. Але радасці гэтая сустрэча не прынесла. Хальпір быў у вельмі дрэнным стане. Аб тым, што яго жонка знаходзіцца ў горадзе, даведаўся выпадкова. Адразу ж загадаў сваім слугам несці яго да Саламеі, бо сам хадзіць не мог. Хвароба настолькі змяніла Якуба, што жонка нават не пазнала яго. «З барадою, сам такі скалечаны, мізэрны. І вось як пазнала я мужа, абое мы моцна плакалі, а пасля аддаліся на ласку Божую, пра лячэнне майго мужа падумаць трэба было. А муж мой бачыць, што і без яго ласкі і дапамогі Бог мой і Пан мой забяспечыў мяне, бачыць парадак і чысціню ў доме, лёкаяў, коней, каляскі, сукенкі і пры тым пацыентаў і пашану сярод годных людзей. І тады я сказала: «Каханы мужу, дарую я табе ўсе крыўды і знявагі, што мяне хворую і бедную і ў даўгах у Стамбуле пакінуў, а цяпер, як змагу, служыць і дапамагаць табе гатовая. Але ж хвароба вашай мосці пана іншых лекараў вымагае, чым маё ўмельства, бо я толькі акулістка і лекарка, як умела з дапамогай Пана Бога людзям дапамагала...». А муж мой гаворыць: «Як ведаеш і ўмееш, лячы мяне!». І вось я ад гэтага загаду лячыць майго мужа была вельмі засмучана, бо першая мая практыка мае быць на маім мужы, дык даверылася Святой Тройцы і пачала лячыць...».

Саламея змагла палепшыць стан здароўя Якуба настолькі, што ён ужо праз некалькі тыдняў змог накіравацца ў Боснію, адкуль і прыехаў на воды і дзе служыў у мясцовага пашы па кантракце.

Пасля гэтага выпадку Саламея яшчэ больш упэўнілася ў сваіх здольнасцях, бо нават муж яе, сам выдатны ўрач, прызнаў, што яна — больш значны спецыяліст. Праўда, ёй у лячэнні мужа актыўна дапамагаў яшчэ адзін лекар — італьянец, які прыехаў у Сафію разам з Якубам. Гэты чалавек раней служыў урачом на караблі рыцараў-мальтыйцаў. Аднойчы карабель быў захоплены туркамі, і італьянец разам з іншымі членамі каманды і рыцарамі апынуўся ў няволі. А ў мусульман існаваў закон, па якім палонных з мальтыйскіх караблёў

ніколі не адпускалі на волю. Нават за вялікі выкуп. Прычым усіх іх на ноч замыкалі асобна ад іншых рабоў. Але гэты італьянец нейкім чынам злаўчыўся збегчы і дабраўся да Босніі, дзе пазнаёміўся з Хальпірам. Ён і суправаджаў яго на мінеральныя воды. Пасля таго як разам з Саламеяй паставіў Якуба на ногі, збіраўся працягваць свой шлях на радзіму. Але крыху затрымаўся ў Сафіі, каб скончыць навучанне жанчыны, якая здзівіла яго і выклікала павагу. Ён выдатна навучыў... рэцэпты, перскрыпцыі на лацінe пісаць са знакамі лекарскімі і зёлкі, ледзь не ўсе, што ўваходзяць у лекі, на лаціне, і што можна было з добрых перскрыпцый на размаістыя хваробы даў мне, бо быў ён чалавек добры, хрысціянінкаталік». Да таго ж перад развітаннем ён падарыў сваёй вучаніцы набор кніг па медыцыне і фармакалогіі.

Неўзабаве Саламея даведалася, што яе муж памёр у Босніі, бо якраз тады, калі ён вярнуўся, там пачалася эпідэмія чумы. А ўслед за ім ад чумы сканаў і паша, у якога служыў Якуб. Так што тая маёмасць Хальпіра, якая знаходзілася ў Босніі, была страчана. Тут адолеў Саламею «і смутак, жалоба, асірацелая з малым дзіцем, дачкой маёю Канстанцыяй, тут і войны з усіх бакоў, дык і засталася я на сваім месцы ў пашы Купру-улу».

Хто ведае, колькі часу яшчэ б пражыла яна тут, калі б не здрада невядомага ёй аўстрыйскага генерала Зекендорфа. Аўстрыя ў той час вяла вайну з Турцыяй, і гэты самы Зекендорф якраз захапіў цвержу Ныса і звярнуўся да прыгнечаных туркамі балгараў ды сербаў, што жылі ў правінцыі, цэнтрам якой з'яўлялася Ныса, з заклікам: «Не бойцеся туркаў, дапамагайце мне. Я ўжо Нысу ўзяў, вазьму я Сафію і Відынь (балгарскі горад на Дунаі.- Аўт), нават і Стамбул». Славяне даверыліся яму і арганізавалі паўстанне, вынікам якога стала гібель некалькіх тысяч турак

Генерал жа атрымаў ад аднаго з турэцкіх саноўнікаў хабар «у 10000 чырвоных злотых» і тут жа пакінуў з войскам захопленую ім крэпасць, накіраваўшыся на радзіму.

Вынік гэтага здрадніцтва быў страшэнны. Турэцкі султан загадаў на працягу трох сутак забіваць усіх мужчын ад васемнаццаці да пяцідзесяці гадоў на тэрыторыі, ахопленай мяцяжом, а дзяўчат і жанчын забіраць у рабства. І распачалася разня. Больш таго, султан, каб ведаць, колькі ў гэтай крывавай бойні загінула «бунтаўшчыкоў», загадаў звезці ў Сафію галовы забітых. І аказалася іх столькі, што «была гара галоў хрысціянскіх, быццам велізарная карчма. Наверх па тых галовах лезці — патрэбны былі драбіны».

Усё гэта, а яшчэ тое, што падчас «той мітусні» павесілі вельмі паважанага праваслаўнага святара, зрабіла пераварот ў душы Саламеі. Яна вырашыла, што не будзе больш служыць у пашы, хаця матэрыяльна для яе гэта было вельмі выгадна. Жанчына пераапранулася ў адзенне янычара, узяла дачку і слуг і накіравалася ў Відынь.

У той час, калі Саламея знаходзілася ў гэтым горадзе, недалёка ад яго быў разгромлены аўстрыйскі полк, камандзір якога, Дамніц, таксама ўражаны разнёй хрысціян, што распачалі туркі, спрабаваў выратаваць гонар Аўстрыі і хаця б у чымсьці выправіць тое, што зрабіў Зекендорф. Але паражэнне Дамніца было такое моцнае, што ад гібелі і палону выратаваліся толькі сам камандзір ды некалькі штабных афіцэраў. Між тым туркі захапілі разам з вайскоўцамі і членаў іх сямей, бо, як заўважыла Саламея: «Звычай кепскі ёсць у асобных народаў, што і жонкі, і дзеці ідуць на вайну, і вось усе гуртам — жонкі і дзеці — трапляюць у палон, і бачыла я ці мала ў кожным доме нявольніка, альбо нявольніцу, альбо дзіця ў няволі турэцкай».

Саламея, па парадзе аднаго з яе новых знаёмых турак, выкупіла чатырох афіцэраў і адну ўдаву. Яна разлічвала «мець з гэтага выгаду і славу ў людзей, і ласку ў Бога». Выгада ж была ў тым, каб атрымаць грошы, большыя за патрачаныя ёю на выкуп, ад сваякоў турэцкіх палонных. У Аўстрыю былі накіраваны лісты. І родныя няшчасных адгукнуліся вельмі хутка. Толькі ад сямейства паручніка Ёзафа Фартуната дэ Пільштына не прыйшло ні грошай, ні вестак. Саламеі растлумачылі, што жыве гэты малады афіцэр вельмі далёка ад Вены, таму, пэўна, яго пасланне яшчэ не дайшло. Так што паручніку давялося застацца пры сваёй ратавальнікі. А быў ён «чалавек разумны, добрай адукацыі, вучыўся ў школах рымскіх, легорскіх, венскіх і меў дыплом з пячаткамі». Падаўся ён Саламеі «цвярозым, паслухмяным, ціхім і набожным». І дазволіла яна сабе закахацца ў яго.

А між тым лекарку напаткалі новыю непрыемнасці. Відыньскі паша Гайваз Мехмет папрасіў яе вылечыць трансільванскага князя Йожэфа Ракацы. Туркі былі зацікаўлены ў ім, бо мелі намер зрабіць яго каралём Венгрыі і Трансільваніі. Ракацы быў «хворы, кашляў, харкаючы крывёю, змучаны дарогай і страхам». Русецкая ўзялася за лячэнне і вылячыла хворага за 30 дзён. А той, як толькі ачуняў, пачаў заляцацца да яе. Ды яно і не дзіўна, бо Саламея была вельмі прыгожай жанчынай. Аднак усе яго заляцанні засталіся безвыніковымі. Саламея адмовіла кандыдату ў каралі. Растлумачыла: «Не раўня я вашай каралеўскай мосці. Ваша каралеўская мосць — манарх, а я бедная белагаловая (у той час гэтак называлі жанчын у Рэчы Паспалітай. — Аўт.) лекарка. Ведаю, што са мною шлюбу не возьмеш, а калі

і возьмеш, дык толькі дзеля абразы Божае, а пасля і маладосць маю, і нявіннасць маю, і сорам мой прыродны ў ганьбу мне павернеш і фурману альбо лёкаю свайму ў жонкі ад дасі».

Ракацы пачаў ёй пагражаць, што звернецча да султана, які «даў мне столькі дабра, а праз цябе аднае, белагаловае полькі, не захоча пазбаўляць Ракачы свае павагі».

Жанчыне давялося бегчы. Разам з дочкай, слугамі і апошнім выкупленым палонным на выпадковым караблі яна адплывае ўніз па Дунаі. Саламея так спяшалася, што не ўзяла нават пашпарт. Тым не менш, у горадзе Рушчуку яе арыштавалі. Аказалася, што раз'юшаны Ракачы абвінавацiў сваю выратавальніцу ў тым, што яна быццам бы з'яўляецца аўстрыйскай шпіёнкай. Зноў ёй пагражае смерчы І зноў Саламею выратоўвае яе майстэрства. Якраз у тую ноч, калі яе схапілі, захварэў сын важнага саноўніка са Стамбула, дзяржаўнага падскарбія Мегмет-ага Эстэрэдзі-пашы. Прычым хвароба была вельмі дзіўная. Хлопчык лёг спачь здаровым, а сярод ночы «прачнуўся, але галава і вочы ягоныя, і твар увесь так паапухалі, і язык на гошць пальчаў з рота вывернула, і нічога ён не бачыць, не чуе, не кажа, і прытомнасчь страчіў». Ніхто з мясчовых дактароў не згадзіўся яго лячыць. Падскарбій развітаўся ўжо з усялякімі спадзяваннямі выратаваць сына. Але яму своечасова падказалі, што ў горадзе знаходзіцча вельмі добрая лекарка, але яна арыштавана.

Хутчэй за ўсё, раптоўная хвароба аказалася проста мочнай алергіяй, але ў тыя часы такая напасчь здаралася вельмі рэдка, і таму людзей яна палохала, а медыкі ў большасчі сваёй не ведалі, як яе лячыць. Тым не менш, Саламея, пэўна, з кніг доктара-італьянца, штосьці прачытала пра гэта, бо дзякуючы яе ўмяшанню на трэці дзень хворы адкрыў вочы, а пасля поўнага курсу лячэння (сорак дзён) цалкам ачуняў.

Турэцкі падскарбій аказаўся больш удзячным, чым трансільванскі князь — і Саламея атрымала волю і нават дазвол ехачь у Расію. Прычыну для выезду яна знайшла вельмі хутка. Пад Азовам у рускі палон трапілі некалькі турэчкіх афіцэраў, якія паходзілі з Русы. Саламея паабяЧала вызваліч іх.

На тэрыторыі Рэчы Паспалітай лекарка выйшла замуж за Пільштына. Муж яе паступіў на службу да вялікага гетмана літоўскага Міхала Радзівіла Рыбанькі. Русечкая нядоўгі час папрачавала ў Нясвіжы доктаркай, а затым, пакінуўшы мужа і дачку, якую ўладкавала да манахінь-бенедыктынак, накіравалася ў Пецярбург.

Аднак узніклі цяжкасчі з расійскім пашпартам. Ніяк не ўдавалася атрымачь яго. І зноў нашу зямлячку выручаюць яе здольнасці і

выпадак. «Начавала я пад Навагрудкам у карчме, у маёмасчі ягамосчі пана Лапаты, бабруйскага старасты, а ў той час навагрудскага пісара, які мочна хварэў на боль галавы і зубоў. Даведаўшыся, што я доктарка, ягамосць пан Лапата прыслаў па мяне, каб я прыбыла экіпажам... Значыць, я толькі што ў двор ягамосця пана Лапаты прыехала і лякарства ад зубоў дала, як праз дзве гадзіны прыязджаючь госці, два маскалі (рускія афіцеры. — Аўт), родныя браты Лівены. Адзін — генерал, а малодшы — палкоўнік. Знаходзілася там таксама яснавяльможная княгіня ягамосць Радзівілава, ваяводзіха навaградская. Тут таксама дапамаглі мне медыкаменты. Таму прасілі гэтыя паны за мною, каб мне гэты вяльможны генерал Лівен даў пашпарт у Пецярбург, што гэты генерал з вялікай ахвотай учыніў. Даў мне пашпарт і рэкамендацыі да многіх паноў і генералаў..».

Такім чынам, праз Рыгу ды Нарву дабралася Саламея да Пецярбурга. Але патрапіць на прыём да імператрыцы Ганны Іаанаўны аказалася вельмі цяжка. А без гэтага вызваліць туркаў было немагчыма. Не дапамагалі ні рэкамендацыі, ні тое, што Саламея вылечыла некаторых саноўнікаў. Цікавасць імператрыцы да лекаркі ўзнікла, як ні дзіўна, дзякуючы плёткам, што ішлі сярод слуг. Тыя былі сведкамі аперацыі па выдаленні катаракты, якую правяла Саламея: лекарка выратавала ад слепаты простую дзяўчыну. У той жа вечар лекарку запрасілі да імператрыцы.

На пытанне Ганны Іаанаўны, навошта яна прыехала ў Расію, Саламея адказала: «Была ў Турцыі, у Стамбуле, служыла султанскім дочкам і шмат якім іншым людзям, бо крыху ведаю лякарства. Там пачула, што ў Маскве кіруе дама, і я зычыла сабе такога шчасця ад Пана Бога, каб учыніў мяне годнаю ўбачыць тое сваімі вачыма, што чула, і спадзяюся на Бога, што ён і тут, у Пецярбурзе, забяспечыць мае патрэбы». Імператрыца здзівілася: «Дык ты ў такую далёкую дарогу выбралася і за свой уласны кошт, каб пабачыць мяне?». А ў адказ пачула: «Хоць бы і ў некалькі разоў далей было ехаць, і яшчэ большыя выдаткі, нічога мяне не хвалюе, нічога я не шкадую, задаволена тым, што ад Бога атрымала такое шчасце: бачу найяснейшую расійскую імператрыцу».

Гэты адказ настолькі ўразіў Ганну Іаанаўну, што тая прыняла лекарку ў свой штат. Да Саламеі адразу пачалі звяртацца прыдворныя дамы. Можа, зайздрасць, а можа, метады, якімі карысталася новая лекарка, выклікалі незадавальненне яе калег. Пачаліся інтрыгі. Аднак Саламея, дзякуючы сваім здольнасцям і жывому розуму, падабалася імператрыцы. Да ўсяго ж тую вельмі цікавілі расказы лекаркі пра яе жыццё ў Турцыі, пра звычаі і норавы, якія бытавалі там.

Карыстаючыся такімі адносінамі, лекарка папрасіла падарыць ёй двух палонных туркаў. Імператрыца расшчодрылася і падарыла чатырох. А на развітанне наказала выдаць тысячу рублёў, набор срэбраных кубкаў, адрэзы тканіны і сурвэткі з гербамі.

Па ўказе імператрыцы Саламеі аддалі чатырох туркаў — двух янычараў і двух афіцэраў-сіпахаў. Да мяжы Рэчы Паспалітай дабраліся падарожнікі амаль без прыгод. Праўда, у адной карчме прыйшлося адбівацца ад нападу разбойнікаў. Але ўсё скончылася добра. А вось на беларускай зямлі... Тут Саламея пабедавала. Рыбанька, які памятаў, як уцякла яго лекарка, забраў туркаў і адправіў на радзіму, а нашу гераіню паслаў да мужа. Той служыў у гэты час у глухой палескай вёсцы Лахва, размешчанай на тэрыторыі цяперашняга Лунінецкага раёна. Ціхае, размеранае жыццё не спадабалася Саламеі. Ды і Пільштын пачаў расчароўваць яе. У той час, калі яна адсутнічала, ён прайграў некалькі тысяч злотых, пакінутых жонкаю. Саламея засумавала і стала шукаць падставу пакінуць гэтыя мясціны. Аднойчы яна заявіла, што едзе да бацькоў мужа, каб спагнаць з іх тыя грошы, якія заплаціла ў якасці выкупу. Ёй дазволілі. І вось Саламея, нягледзячы на тое, што чакала дзіця, едзе ў Аўстрыю. Дарэчы, дачку сваю прыгодніца зноў пакінула. Толькі на гэты раз не ў кляштары, а ў жонкі смаленскага кашталяна Шчыта.

Бацькі Фартуната сустрэлі нечаканую госцю вельмі цёпла. Праўда, аддалі ёй толькі трэць сумы, якую яна затраціла на выкуп. З размоў Саламея зразумела, што бацькі яе мужа былі ім вельмі незадаволены. Той з дзяцінства вызначаўся непаслухмянасцю, у свой час растраціў шмат грошай, а галоўнае — насуперак волі бацькоў паступіў на ваенную службу.

Падарожніца накіроўваецца ў Вену і пачынае хадайнічаць, каб імператарская казна вярнула ёй грошы. Яна дайшла да імператара Карла VI. Той паабяцаў выканаць просьбу, але падмануў. У роспачы Саламея звярнулася да імператрыцы і атрымала ад яе... 5 залатых дукатаў. Урэшце рэшт прасіцелька зразумела, што ўсе яе намаганні марныя. Трэба было вяртацца дадому. Але грошы скончыліся. Ды яшчэ і час родаў набліжаўся. Адчай прымусіў яе звярнуцца да пасла Турцыі Джані-бея Аліэфендзі з прапановай сваіх паслуг у якасці лекаркі для членаў пасольства. Той згадзіўся: новая лекарка выдатна ведала турэцкую мову і магла абыходзіцца без перакладчыка.

Хутка яе майстэрства стала вядома і жыхарам Вены. Да Саламеі пачалі звяртацца і аўстрыйцы. Тут, у Вене, яна нарадзіла хлопчыка, які атрымаў імя ФранцішакКсаверый. Здавалася б, усё ідзе добра. Але зямлячку нашу зноў пацягнула ў дарогу. Не спыніла яе нават тое, што

шлях пралягаў па ахопленых вайною землях. Якраз перад гэтым памёр Карл VI, і яго сусед — прускі кароль Фрыдрых II — вырашыў скарыстаць гэты момант для павелічэння тэрыторыі свайго каралеўства. Дарэчы, прыгодніца змагла прабіцца на прыём да ваяўнічага Фрыдрыха. І нават ён не ўстаяў перад яе абаяннем і дазволіў выехаць з захопленай ім Сілезіі.

Дома Саламея са здзіўленнем даведалася, што Фартунат забраў сваю падчарку і выхоўвае яе сам. «Добрыя людзі» паведамілі ёй таксама, што ў яе мужа былі «амуры». У адчаі Саламея вырашае схавацца ў кляштары ў Львове. Фартунату ўдаецца на гэты раз вярнуць яе ў сям'ю. Аднак, нягледзячы на усе яго намаганні, сямейнае жыццё так і не наладзілася.

Хутка Саламея зноў вырашае кінуць мужа і выехаць за мяжу. Падстава — неабходнасць атрымаць выкуп ад турэцкіх афіцэраў, якіх яна вызваліла калісьці з рускага палону. Усё было амаль як і ў мінулы раз. Зноў падарожжа па выкуп. Зноў за мяжу. Зноў яна чакае дзіця. Дачку, праўда, яна пакінула на айчыма, але двухгадовага сына чамусьці даверыла не яму, а ўдаве брацлаўскага кашталяна. Зноў недахоп грошай. Зноў Саламея займаецца лячэннем у кожным сустрэчным горадзе. У адным з іх, Бухарэсце, нараджае сына, якога называе Станіслаў Костка.

І вось, нарэшце, горад Рушце, у наваколлях якога жылі выкупленыя ёю палонныя. Але з атрыманнем грошай узніклі праблемы. Янычары адразу заплацілі названую ёю суму, а сіпахі адмовіліся. Яны спасылаліся на тое, што з няволі іх адпусціў Радзівіл, потым пачалі сцвярджаць, што нібыта самі збеглі з палону, а лекарка, маўляў, толькі дапамагла ім выбрацца з Расіі. Саламея вымушана была паслаць слугу ў Стамбул з лістом да высокапастаўленага турэцкага саноўніка Ях'я-пашы, што быў у няволі ў Пецярбургу ў той час, калі Ганна Іаанаўна загадала выдаць лекарцы чатырох турак. Той атрымаў ад візіра фірман, у якім гаварылася аб вырашэнні справы на карысць Саламеі.

Нарэшце суд у Русе. Сіпахі падаюць суддзі рашэнне дывана, паводле якога яны павінны вярнуць лекарцы толькі выдаткі за праезд з Нарвы да Беларусі. Усе, як кажуць, задаволены. Але тут Саламея паказвае фірман. Агульная разгубленасць. Ніхто не чакаў такога павароту справы. Адзін сіпах згаджаецца тут жа аддаць грошы. А вось другі пачынае пагражаць Саламеі, больш таго — заяўляе, што хутчэй расправіцца з ёю з дапамогай слуг, чым аддасць грошы. Нечакана і для яго, і для іншых удзельнікаў працэсу дваццацідвухгадовая танклявая жанчына выхоплівае невядома адкуль пару пісталетаў і заяўляе: «І ў мяне хопіць пораху на тваіх слуг. Аддай мне тое, што

належыць, а пасля няхай будзе, што Бог дасць». Пад дуламі гэтых пісталетаў сіпах вымушаны быў аддаць грошы. Адкуль яму, бедалазе, было ведаць, з кім ён звязаўся? Ды і хто мог падумаць, што грацыёзная жанчына з дзяцінства любіць стралянiну і ўсё жыццё возіць з сабою два пісталеты ды стрэльбу?

Пасля гэтых падзей Саламея яшчэ два гады пражыла ў Турцыі. Затым перабралася ў Рэч Паспалітую і ўсю сям'ю сабрала ў Камянец-Падольскім. Здавалася, што ўрэшце рэшт пачнецца ціхае сямейнае жыццё. Але тут жа амаль адначасова на яе абрынуліся два няшчасці. Яе кінуў Фартунат Пільштын. Да таго ж камендант мясцовага замка Бякерскі арыштаваў яе, а маёмасць апячатаў. Зрабіў ён гэта для таго, каб не аддаваць пазычаныя ў лекаркі грошы. Аднак Саламеі ўдалося збегчы. Праз пэўны час яна змагла сустрэцца з вялікім каронным (польскім) гетманам Юзэфам Патоцкім. Аповед дваццаціпяцігадовай жанчыны аб яе бедах, аб той беззаконнасці, якую праявіў Бякерскі, расчуліў Патоцкага. Маёмасць была вернута.

Авантурыстка, лекарка, падарожніца, Саламея ўсё ж заставалася жанчынай, не застрахаванай ад чараў кахання. Яе страснасць накладала адбітак на ўсе яе справы. Можа таму, мяркуем мы зараз, праз трыста гадоў пасля таго, як адбываліся ўсе гэтыя падзеі, не ўдалося давесці гэтай таленавітай жанчыне да канца ніводнай са сваіх задум? Яна змагла стаць выдатнай і нават моднай у вышэйшых колах лекаркай, але залішняя страснасць і нецярплівасць яе чыста жаночага характару не дазволілі ёй у поўнай меры прысвяціць сваё жыццё медыцыне. Няўрымслівая натура Саламеі прымушала яе часта мяняць месца пражывання. Вандроўніцтва прыносіла маладой жанчыне вялікае задавальненне. Яна нават вяла дзённік, запісваючы ў яго ўсё ўбачанае і пачутае. Але сістэмнасці, як у сапраўднага падарожніка, у яе пераездах не было. Саламею вельмі цягнула да авантураў. Яна любавалася сабою, апранаючыся ў мужчынскае адзенне і распіхваючы па кішэнях пісталеты. У крытычных сітуацыях яна са сваёй вынаходлівасцю выглядала больш прывабнай, чым у ціхія перыяды свайго жыцця. Але ніякай мэты ў пагоні за прыгодамі перад сабою Саламея не ставіла.

Магчыма, такое дзіўнае спалучэнне моцы са слабасцю, яркага розуму і таленту з легкадумнасцю робіць асабліва прывабным для нас яе вобраз.

Усе гэтыя думкі прыходзяць у галаву, калі знаёмішся з падзеямі, якія былі звязаны з першым у яе жыцці каханнем, калі бачыш, як вялікае, вельмі моцнае і... сумнае пачуццё прыносіць ёй боль і гора. А прыйшло ўсё гэта пасля знаёмства з вельмі прыгожым афіцэрам.

Заўважым, што гэты васемнаццацігадовы войт быў ужо закаранелым мотам і сэрцаедам. Ён выкарыстоўваў частыя ад'езды лекаркі то да аднаго хворага, то да другога для чарговых гулянак. Мала таго, што каханак прамотваў усе грошы Саламеі, дык яшчэ аднойчы зачыніў яе старэйшага сына ў сырым склепе. Зрабіў ён гэта, каб хлопчык не ўбачыў і не расказаў маці пра яго п'янкі і палюбоўніц. Дзіця застудзілася і памерла ад запалення лёгкіх.

Саламея вырашыла пакінуць пасля ўсіх гэтых падзей Польшчу і пераехаць у Расію. Яна спадзявалася стаць лекаркай пры двары рускай імператрыцы Лізаветы Пятроўны, якая змяніла на прастоле Ганну Іаанаўну. Саламея была ўпэўнена, што ўлады дазволяць ёй выехаць, таму ў чарговы раз змясціла дачку ў кляштар. Але падарожную ёй не выдалі. Да таго ж Расія ўвяла саракадзённы каранцін для ўсіх, хто перасякаў яе мяжу. Наша ж гераіня, абмінаючы перашкоды, таемна едзе ў Кіеў, дзе трапляе на прыём да генерал-губернатара. Зноў яна прымяніла сваё абаянне, і сэрца чарговага аб'екта не вытрымала яе атакі. Губернатар дараваў Саламеі яе ўчынак і дазволіў жыць у горадзе. Саламея звярнулася да імператрыцы з просьбай дазволіць прыехаць у Пецярбург і ўладкавацца лекаркаю пры двары.

У чаканні мінуў амаль год. І вось — станоўчы адказ. Пачаліся зборы. І якраз у гэты час у Кіеве з'явіўся былы каханак з сябрам. Ён сустрэўся з лекаркай, нагаварыў ёй шмат прыгожых слоў, і яна... растаяла. Дзіўнае жаночае сэрца! Але каханак нядоўга гасцяваў у сваёй «адзінай». Ён абакраў яе і на яе ж санях збег у Рэч Паспалітую. Саламея кінулася са скаргай да генерал-губернатара. Той даў ёй дваццаць кавалерыстаў, каб злавіць злодзея. Але каханак раней іх паспеў да мяжы. Кавалерыстам заставалася толькі скрыгатаць зубамі ад злосці, лаяцца ды прыгаворваць: «Ах... збег лях, хахол, злодзей...».

Лекарка паехала па сваю маёмасць у Камянец-Падольскі. Там яна збіралася падаць у суд. Ды і «каханаму-любаму» хацела паглядзець у вочы. Але ёй паведамілі, што той схаваўся ў кляштары. Праз некалькі дзён наша зямлячка зайшла ў касцёл на споведзь і нечакана для сябе сустрэла там каханка. Ён са слязьмі на вачах прасіў Саламею не губіць яго, не ўзбуджаць судовай справы. Пры гэтым зноў прыгадваў аб сваім каханні, даваў абяцанні вярнуць
усё, што ўкраў. Жанчына, як ні дзіўна, зноў паверыла яму. І, зразумела, зноў падманулася. Ёй вярнулі далёка не ўсё.

Гэта настолькі выматала бедную Саламею, што яна і думаць не магла аб тым, каб кудысьці ехаць альбо чагосьці дабівацца. Злодзей са сваім сябрам так і не быў пакараны. Ды і ад вандроўкі ў Пецярбург давялося адмовіцца. Саламея пасялілася ў Дубне. Яна забрала з кля-

штара дачку, хутка выдала яе замуж. Сына, які ў гэты час вучыўся ў школе, перавезла са Львова ў Камянец-Падольскі, бліжэй да сябе.

Мінула некалькі гадоў. Але характар вечнай вандроўніцы зноў праявіўся. Саламея перабіраецца ў іншае месца. Яна пасялілася ў турэцкіх уладаннях у Малдавіі. Пра гэта даволі хутка даведваецца вялікі янычар-ага (галоўнакамандуючы янычарскім войскам), у якога была хворая пляменніца. Яна страціла зрок у маладыя гады. І вось Саламею запрашаюць у Стамбул. Для гарантавання бяспекі накіроўваюць да яе восем янычараў.

Гэтак лекарка зноў апынулася ў горадзе, дзе прайшло яе юнацтва. Яна вылечыла пляменніцу янычар-агі. Таксама паспяхова прайшло лячэнне і іншых хворых, сярод якіх былі турэцкія саноўнікі, сёстры султана, яго жонкі і наложніцы. Праз пэўны час Саламея стала лекаркай султанскага гарэма.

Жыццё вечнай вандроўніцы зноў наладзілася. Усеагульная павага, пастаяннае месца працы, добрыя грошы, спакой. Але ў 1760 годзе ў Стамбул прыязджае польскае пасольства. У яго склад уваходзіць сябра былога каханка Завадскі і... васемнаццацігадовы сын Саламеі Станіслаў. Яна вельмі ўзрадавалася, хацела, каб ён застаўся з ёю. Але той ці то па сваім жаданні, ці то па парадзе Завадскага, які настройваў юнака супраць маці, адмовіўся і паехаў дадому. Гэта вельмі яе засмуціла. Каб забыць такое здарэнне, Саламея зноў выправілася ў падарожжа. На гэты раз яна збіралася пабываць на «Святой зямлі». У яе планы ўваходзіла наведаць не толькі Палесціну, але і Егіпет.

Далейшы яе лёс невядомы, як невядома нам і тое, ці пакінула пасля сябе ўрэшце рэшт Саламея Русецкая-Хальпірава-Пільштынава медыцынскі трактат, які ўсё збіралася напісаць, каб выкласці ў ім увесь свой урачэбны вопыт.

Кніга ж «Авантуры майго жыцця» нечакана завяршаецца вершамі. Лекарка і падарожніца, прыгажуня і авантурыстка, Саламея Рэгіна зноў здзіўляе нас, паўстаючы перад намі ў новай іпастасі — паэтычнай.

Ах, мой Божа, Пан неба й зямлі Усёмагутны,
май літасці болей
Ты над лёсам няўдалым маім,
над маёю нікчэмнаю доляй,
Бо грахі мне прынеслі столькі пакутаў,
І нястач, і нягод, і душы маёй мукаў —
І за гэта я дзякую міла.

Загадаў Ты цярпець, дык і моцы дай мне,

так слабому стварэнню,
Каб я здольнай была атрымаць зноў тваё суцяшэнне.
Як жа цяжка мне тут, памажы мне, мой Пане,
У цяперашнім гэтым пакінутым стане,
Вось пра гэта прашу я Цябе.
Бачыш сам жа ты, мілы мой Божа,
як шчыра я прагну спакою,
Ды шукае спажытку ворагаў зграя
і злосць рыхтуе да бою,
Адбірае здароўе, набытак мой траціць,
Зневажае Цябе і чыніць кпіны радзіць,
Як пакаранне ад Бога.
А ты, мілы мой Пане, май літасці болей
над смуткам маім,
Бо ўжо маеш цяпер найвярнейшага лёкая
ў почце сваім.
Не змушай, каб з-за цяжкага суму і ранаў
Залівала сваімі слязьмі акіяны!
За сваё я ўжо шмат атрымала...

## “Мадам дэ Бар”

У далёкім Кітаі існуе праклён для злейшых ворагаў: «Каб ты жыў у эпоху перамен!». У эпоху перамен давялося ўступіць Рэчы Паспалітай, а значыць, і Беларусі, якая ўваходзіла ў склад гэтай дзяржавы, у канцы XVII стагоддзя. І доўжылася яна ўсё XVIII стагоддзе. Эканамічны і палітычны крызіс, у якім апынулася краіна, адчувалі літаральна ўсе. Аднак ставіліся да гэтага па-рознаму. Адны імкнуліся выкарыстаць сітуацыю для ўласнай выгады. Іншыя «плылі па цячэнні». Але былі і тыя, хто рабіў усё магчымае, каб выратаваць Радзіму. Да іх належала адна з самых адукаваных жанчын свайго часу, наша зямлячка Ганна Паўліна Сапега.

Гэтая жанчына ад нараджэння належала да самых уплывовых колаў краіны. Яна ўбачыла свет у 1728 годзе ў сям'і князя Казіміра Сапегі, генерала літоўскай артылерыі, і яго жонкі Караліны Радзівіл. Багацце і знатнасць... Ужо нават толькі гэта павінна было б забяспечыць ёй шчаслівае дзяцінства. Аднак у дзесяцігадовым узросце дзяўчынка страціла бацьку, які адышоў у нябыт 30 мая 1738 года. Яшчэ праз два гады яе маці ў другі раз выйшла замуж. І зноў за прадстаўніка аднаго з найбагацейшых родаў у дзяржаве — навагрудскага ваяводу графа Юзафа Аляксандра Ябланоўскага. У айчыма Ганны Паўліны аказаліся велізарныя зямельныя ўладанні ва Украіне. Да таго ж яго дзядзька Ян Станіслаў абраў шлюб з французскай графіняй Жаннай дэ Бецюн. Яна даводзілася пляменніцай жонцы караля Рэчы Паспалітай Яна Сабескага, Марыі Казіміры д'Аркьен. Гэта давала Ябланоўскаму магчымасць лічыць сябе родзічам не толькі гэтага караля, але і многіх прадстаўнікоў французскай знаці. Праўда, першы муж Караліны Радзівіл, Казімір Сапега, быў сынам роднай сястры графіні Жанны, Марыі дэ Бецюн, а бабуля Караліны наогул з'яўлялася сястрой Яна Сабескага. Так што ганарыцца перад Радзівіламі ды Сапегамі яму не выпадала. Затое нямала было такіх (нават сярод магнатаў), перад якімі ён мог пыхліва пахваляцца сваім паходжаннем.

Неўзабаве пасля шлюбу з Каралінай Ябланоўскаму давялося адстойваць свае маёмасныя інтарэсы ў спрэчцы з Сапегамі. А ўсё з-за таго, што жонка адпісала яму ўсе маёнткі. Прычым не толькі тыя, якія належалі непасрэдна ёй, а і маёнткі сваіх дзяцей ад першага шлюбу з Сапегам (у яе, акрамя Ганны Паўліны, былі яшчэ два сыны — Аляксандр Міхал і Міхал Ксаверый). Паводле тэстаменту нябожчыка бацькі большасць сямейных маёнткаў пераходзіла да хлопчыкаў. А маці мела права толькі кіраваць імі да паўналецця дзяцей. Новаспечаная ж

Ябланоўская сваім рашэннем фактычна пазбаўляла сыноў іх спадчыны. Сваякі Казіміра Сапегі ўступіліся за пакрыўджаных дзяцей. Маламалу ў судовую разборку ўцягваліся ўсё новыя асобы. І ўрэшце рэшт уся Рэч Паспалітая аказалася падзеленай на два лагеры. Адны падтрымлівалі Радзівілаў, другія — Сапегаў. На чале апошніх паўстаў стрыечны дзядзька Ганны Паўліны, каад'ютар віленскі Юзаф Сапега. Супрацьстаянне цягнулася амаль два гады і скончылася ў снежні 1741 года. Судовым чыноўнікам коштам вялікіх намаганняў ўдалося згладзіць канфлікт і ўнармаваць стасункі паміж варагуючымі. Маці давялося трохі саступіць, але частка нерухомай маёмасці малалетніх Сапегаў так і засталася ва ўладанні Ябланоўскага. Мір паміж Сапегамі і Радзівіламі выглядаў вельмі нетрывала. І атмасфера ў сям'і Караліны і Ябланоўскага была нейкай насцярожанай. Неўзабаве Ябланоўскі вырашыў, што яго жонцы трэба адпачыць і супакоіць крыху свае нервы. І ён забраў Караліну ў замежны ваяж Падарожжа зацягнулася. Дзеці надоўга засталіся адны ў замку айчыма пад наглядам слуг, але без матчынай цеплыні і пяшчоты.

Караліна пасля паездкі павесялела і пасвяжэла. Ёй так спадабалася падарожнічаць, што ў далейшым яна амаль заўсёды суправаджала мужа ў яго вандроўках. Асабліва палюбілася сужэнцам Францыя. Юзаф Аляксандр наогул ставіўся да гэтай краіны ледзь не як да сваёй другой радзімы.

У маладосці Ябланоўскі аказаўся ўцягнуты ў палітычную інтрыгу, звязаную з барацьбой за карону пасля смерці Аўгуста II Моцнага двух прэтэндэнтаў, польскага шляхціца Станіслава Ляшчынскага і саксонскага курфюрста Фрыдрыха Аўгуста. Апынуўшыся ў лагеры Ляшчынскага, Юзаф Аляксандр мусіў падзяліць з тым, каму прынёс клятву васальнай вернасці, і горыч паражэння, і вымушаную эміграцыю. Ляшчынскі знайшоў прытулак у Францыі, дзе яго дачка Марыя выйшла замуж за дафіна. Там жа атабарыўся і Ябланоўскі. Некаторы час ён служыў у французскай арміі і ваяваў пад яе сцягамі, затым вывучаў у Парыжы астраномію і матэматыку. Меў нават намер ажаніцца з герцагіняй дэ Бульён і назаўжды застацца на французскай зямлі. Але Ляшчынскі, пабачыўшы, як яго верны васал сумуе па радзіме, раіў яму вярнуцца і прысягнуць каралю-пераможцы.

Юзаф Аляксандр са сціснутым сэрцам згадзіўся пакінуць свайго гаспадара. Тым не менш ён не перапыняў сувязей з Ляшчынскім і часта выступаў у якасці пасрэдніка паміж Парыжам і Варшавай. Безумоўна, пры французскім двары, дзе правіла баль Марыя Ляшчынская, што стала неўзабаве каралевай, Ябланоўскі заўсёды быў жаданым госцем. Як, дарэчы, і пры іншых еўрапейскіх манаршых

дварах, якім гэты энергічны паляк час ад часу аказваў дыпламатычныя паслугі. У 1743 годзе, напрыклад, імператар Карл VII надаў Ябланоўскаму тытул князя Свяшчэннай Рымскай імперыі, а нейбургскі курфюрст у наступным годзе ўручыў яму ордэн Святога Губэрта. Ці трэба здзіўляцца, што жонцы яго значна больш падабалася бавіць час за мяжой, чым на радзіме.

Між тым падчас раз'ездаў айчыма і маці Ганна Паўліна, якая ледзь увайшла ў падлеткавы ўзрост, заставалася гаспадыняй у іх маёнтках. Фактычна яна замяніла маці сваім малодшым братам. Тыя ж ахвотна прызнавалі сваю сур'ёзную і разважлівую сястру за галоўную ў доме і слухаліся яе ва ўсім. Потым, калі родзічы бацькі згодна з дамоўленасцю забралі братоў, каб даць ім адукацыю, якая б адпавядала маладым князям, Ганна Паўліна перанесла сваю любоў на маленькую сястрычку Тэафілю, якая нарадзілася ў яе маці і айчыма.

Але клопат пра дзяцей — гэта была толькі малая частка абавязкаў Ганны Паўліны з тых, якія яна добраахвотна ўсклала на свае плечы. Нават нам, сённяшнім, можа падацца па меншай меры дзіўнай такая сітуацыя, калі дзяўчынцы-падлетку цалкам давяраецца вядзенне ўсіх спраў у абшырных магнацкіх уладаннях. І тым не менш гэта факт, аб якім красамоўна сведчыць перапіска Ганны Паўліны з айчымам. Яны вялі яе на працягу некалькіх гадоў, дасылаючы лісты адно аднаму. Лісты Ганны Паўліны, напісаныя акруглым дзіцячым почыркам, маюць зусім не дзіцячы змест. Бо ўяўляюць сабою своеасаблівыя справаздачы пра тое, як ідуць гаспадарчыя справы ў розных маёнтках, які быў ураджай, як сяляне спраўляюцца з павіннасцямі, як кіруюць аканомы. З тэксту карэспандэнцыі зразумела, што юная падчарка атрымала ад айчыма ўсе правы распараджацца дзейнасцю аканомаў, якія мусілі па тых пытаннях, што патрабавалі адабрэння гаспадароў, звяртацца да Ганны Паўліны.

Аб чым жа сведчыць усё гэта? Па-першае, безумоўна, аб рэдкім аналітычным складзе розуму і здольнасці да кіравання, якія дзіўна праявіліся ў Ганны Паўліны ў такім юным узросце. А па-другое, аб надзвычай прагрэсіўным светапоглядзе Юзафа Аляксандра, які, заўважыўшы пэўныя таленты ў падчаркі, даў ёй шырокую магчымасць развіць іх, не пабаяўшыся прадаставіць для практычнага эксперыменту свае ўласныя ўладанні.

Каб зразумець у поўнай меры, якім смелым быў учынак Ябланоўскага, варта зрабіць своеасаблівае адступленне і расказаць, як у агульных рысах выглядала жаночае становішча ў Рэчы Паспалітай у другой чвэрці XVII стагоддзя.

Пераважная большасць дзяўчат заставалася на ўсё жыццё непісьменнай. На якую-небудзь адукацыю маглі разлічваць толькі шляхцянкі. Але і яны не заўсёды атрымлівалі нават самыя неабходныя веды, бо навучанне каштавала грошай, і даволі вялікіх, а шляхта Рэчы Паспалітай была вельмі разнастайнай у маёмасным плане. Сустракаліся нават такія шляхціцы, якія, не маючы ніводнага селяніна, ніводнага слугі, самі аралі зямлю на маленькім прысядзібным надзеле. Безумоўна, такая бедная шляхта не тое што дачку, нават сына навучыць грамаце не знаходзіла сродкаў. Багатыя ж шляхетныя сем'і маглі выбіраць для сваіх дзяўчатак манастырскае (калі панна была каталічкай) альбо хатняе выхаванне.

Манахіні звычайна бралі на навучанне не больш шасці-сямі паненак у адзін кляштар. На тэрыторыі Рэчы Паспалітай дзейнічалі сёстры бенедыктынкі і бернардзінкі, брыгіткі, дамініканкі і кармеліткі. Яны традыцыйна вучылі выхаванак чытаць, пісаць, лічыць, а таксама разумець Свяшчэннае Пісанне. Больш прагрэсіўны погляд на жаночую адукацыю быў у сясцёр сакраментак і візітак, якія прыйшлі на землі Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага з Францыі. Утрымліваючы сваіх выхаванак у спецыяльных пансіёнах, манахіні вучылі іх, акрамя ўсяго іншага, палітыцы, французскай мове, спевам, танцам, маляванню, а таксама шыццю і вышыванню. Гэтых навук, лічылася, цалкам дастаткова для высакароднай дзяўчыны. Тыя ж, хто хацеў для сваіх дачок звузіць (што здаралася часцей) альбо пашырыць (такія выпадкі былі адзінкавымі па краіне) кола прадметаў, запрашалі патрэбных настаўнікаў на дом. Ябланоўскі, як гэта бачна па ўсім, вучыў падчарку дома, знайшоўшы для яе ў першую чаргу настаўнікаў матэматыкі, фізікі, хіміі, біялогіі, геаграфіі і эканамічных навук— тых прадметаў, якія ўвогуле не прынята было выкладаць паненкам, чый розум, паводле меркавання еўрапейскіх тэосафаў быў прызнаны менш дасканалым, чым мужчынскі. Вынікі такога навучання настолькі ўражвалі, што айчым не пабаяўся неўзабаве цалкам даверыць таленавітай Ганне Паўліне вядзенне сваёй гаспадаркі.

Але нягледзячы на ўсе поспехі юнай князёўны Сапегі ў галіне практычнай эканомікі, яе лёс мусіў урэшце рэшт складціся гэтаксама, як лёс соцень іншых шляхцянак: замужжа, дзеці, касцёл ды дазволеныя свецкія забавы. І як толькі Ганне Паўліне споўнілася васемнаццаць, зноў нагадалі пра сябе Сапегі, якіх раптам ахапіла сваяцкая руплівасць. Яны актыўна распачалі пошукі кандыдата на ролю мужа. І былі такімі настойлівымі, што Ганна Паўліна і сапраўды пасяшалася выйсці замуж, але зусім не за аднаго з тых, каго рэкамендавалі ёй сваякі нябожчыка бацькі, а за кандыдата, якога прапанаваў

айчым. У дзённіку, што вяла князёўна, яна коратка і трапна тлумачыць прычыну свайго выбару: «Збрыдзеў дом Сапегаў са сваімі хітрыкамі і сваёю злоснасцю».

Абранцам Ганны Паўліны стаў удовы палкоўнік Ян Каэтан Ябланоўскі — кузэн яе айчыма, сын Яна Станіслава Ябланоўскага і Жанны дэ Бецюн. Вяселле адбылося ў кастрычніку 1750 года. Амаль адразу пасля гэтага сужэнцы накіраваліся ў доўгі вяжж па Еўропе, падчас якога маладая жонка была прадстаўлена пры многіх еўрапейскіх дварах, у тым ліку і ў Версалі. Ганна Паўліна са здзіўленнем для сябе адзначыла, што яе муж карыстаецца за мяжой значна большай павагай і вядомасцю, чым дома. Ён быў іспанскім грандам і кавалерам ордэна Залатога Руна, меў шэраг французскіх узнагарод. Атрымаў ад імператара Карла VII тытул князя Свяшчэннай Рымскай імперыі, які, праўда, на радзіме доўга не пацвярджалі (прызналі толькі ў 1773 годзе, праз сем гадоў пасля смерці Яна Каэтана). Аднак настойліва іменаваўся «князем на Астрозе» і лічыў сябе роўняй каралям.

Але бляск узнагарод, гучныя тытулы і натоўпы лісліўцаў вакол Яна Каэтана не змаглі схаваць ад вачэй яго маладой жонкі ісціны: Ябланоўскі зусім не той чалавек, якім бачыўся ёй да замужжа. Не смелы, а амбіцыйны, не горды, а ганарлівы, меў павярхоўныя веды, але дасканала не ведаў нічога.

Ганна Паўліна пачала ставіцца да мужа з паблажлівасцю і лёгкім скепсісам. Асабліва калі пабачыла, у якім становішчы знаходзяцца яго (а зараз фактычна яе) маёнткі. Гэтак склалася, што Ян Каэтан адпісаў жонцы па шлюбным пагадненні 150 тысяч злотых. Але з-за таго, што не меў такіх вялікіх сродкаў наяўнымі грашыма, дзеля іх забеспячэння перадаў Ганне Паўліне маёнткі ў ваяводствах Любельскім і Рускім. І вось пасля вяртання з замежнага турнэ Ганна Паўліна высветліла, што тая нерухомая маёмасць знаходзіцца ў вельмі занядбаным стане. Усе маёнткі абцяжараны даўгамі, частка закладзена, а бровары ў прадмесцях Львова мясцовая адміністрацыя нават вызваліла ад падаткаў з-за таго, што яны былі амаль цалкам «знішчаны агнём і вадою».

Новая гаспадыня спачатку вырашыла, што гэткае становішча выклікана бясконцымі раз'ездамі мужа і неахайнасцю аканомаў. Але потым са здзіўленнем даведалася, што назірае вынік абыякавасці мужа, які не здолеў прывесці маёнткі ў парадак пасля крывавых падзей трыццатых гадоў. Тыя часы атрымалі назву «бескаралеўя». Караля ў краіне фактычна не было, аб кароне Рэчы Паспалітай спрачаліся Ляшчынскі і Фрыдрых Аўгуст, а іхнія прыхільнікі ў краіне і

па-за яе межамі ўсяляк дэманстравалі адны перад аднымі сваю баявую моц. Вынікамі гэтага сталі спаленыя маёнткі, разрабаваная маёмасць, загінуўшыя сяляне.

Аднак з тых часоў прайшло больш за дзесяць гадоў. Магнаты, што пацярпелі ад дзеянняў палітычных сапернікаў, зноў адбудаваліся і зажылі ў дастатку. І толькі ганарысты муж Ганны Паўліны не здолеў нават за такі працяглы час аднавіць сваю гаспадарку. Зрэшты, Ян Каэтан растлумачыў жонцы, што зусім не цікавіцца «капаннем зямлі» і не збіраецца мяняць свой лад жыцця. Будзе, як і раней, бавіць час у падарожжах і разгульным жыцці. І не адступіўся ад сваіх слоў. Праўда, у верасні 1754 года Ян Каэтан стаў ваяводам брацлаўскім, што наблізіла яго да двара (у далейшым ён нават заяўляў пра сваё жаданне атрымаць пасаду падканцлера кароннага). Але ахвоты падоўгу гасцяваць у замежных манархаў ды цягі «калекцыяніраваць» тамашнія чыны, узнагароды і тытулы гэта ў яго не адбіла. Ужо ў 1756 годзе ён атрымаў патэнт аўстрыйскага фельдмаршала і ордэн Белага Арла.

А тым часам Ганна Паўліна ўзялася за няўдзячную і цяжкую працу — аднаўленне маёнткавай гаспадаркі. Вось дзе карыснымі аказаліся тыя навыкі і веды, якія набыла яна да замужжа. Мала-памалу пані Ябланоўская выплачвала пазыкі, выкупала закладзеныя маёнткі і працягвала на практыцы вывучаць законы эканомікі, праводзячы эксперыменты. З мужам сустракалася зрэдку, прычым звычайна выпадкова. І гэта дало магчымасць таму-сяму сцвярджаць, быццам Ябланоўскі развяліся. Безумоўна, Ганна Паўліна магла б знайсці довады для таго, каб папа рымскі дазволіў ёй афіцыйна пакінуць мужа. Але яна не бачыла ў гэтым неабходнасці. Верагодна, па ўзаемнай дамоўленасці кожны жыў так, як жадаў, і не перашкаджаў іншаму.

Апошні раз Ябланоўская пабачылася з мужам у 1764 годзе ў Астрогу, дзе Ян Каэтан памёр на яе руках. Трыццаціпяцігадовая бяздзетная ўдава стала адзінай і паўнапраўнай гаспадыняй адзінаццаці мястэчак, ста сямі вёсак, дваццаці чатырох фальваркаў.

Гэта быў вельмі неспакойны ў палітычным сэнсе час. Кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, стаўленнік і былы каханак расійскай імператрыцы Кацярыны II, цалкам падпаўшы пад яе ўплыў, выступаў праваднікам усіх яе ідэй. І ва ўласнай краіне паводзіў сябе, на думку большасці сваіх шляхетных падданых, не як кароль, а як здраднік.

Абараняючы шляхетныя вольнасці і прывілеі каталіцкай царквы, польскае дваранства, да якога далучыўся і шэраг беларускіх і ўкраінскіх магнатаў-католікаў, у 1768 годзе ў мястэчку Бар на Падоллі заснавала канфедэрацыю — узброены палітычны саюз. Жаданнем

усіх членаў Барскай канфедэрацыі было вызваленне краіны ад уплыву расійскага царызму. Але наконт таго, якім спосабам гэта трэба рабіць, погляды разыходзіліся. Адны лічылі, што трэба акружыць караля вернымі дарадчыкамі з кола патрыётаў Рэчы Паспалітай. Іншыя схіляліся да думкі, што дзяржаве патрэбны больш ініцыятыўны і менш залежны ад меркаванняў суседзяў манарх, яны патрабавалі пазбавіць Станіслава Аўгуста кароны.

Менавіта да апошніх і далучылася Ганна Паўліна. Сярод канфедэратаў яна сустрэла многа землякоў, знаёмых і нават сваякоў, прычым такіх, якія мелі ў гэтым лагеры немалы аўтарытэт. Так, напрыклад, камандуючым войскамі (рэгіментажам) быў прызначаны яе стрыечны дзядзька Юзаф Сапега, які, дарэчы, стаў па волі лёсу мужам любімай малодшай сястры Ябланоўскай — Тэафілі.

Найбольш багаты і санавіты з канфедэратаў-ліцвінаў, князь Караль Станіслаў Радзівіл (Пане Каханку) таксама з'яўляўся яе стрыечным братам.

Нечакана для ўсіх у шэрагах канфедэратаў аказалася нямала жанчын. Частка з іх суправаджала сваіх мужоў (як Тэафіля), іншыя падтрымлівалі барацьбітаў фінансава, дасылалі лекі і корпію. А вось Ганна Паўліна не толькі ахвяравала грошы, але і сама прыняла актыўны ўдзел у дзейнасці канфедэрацыі. Узяла на сябе вялікую і вельмі адказную працу — пошукі тых, хто можа дапамагчы фінансава ці ў якой-небудзь іншай форме. А таксама наладзіла ліставанне з гэтымі асобамі. Больш таго, менавіта яна, жанчына, пачала навучаць паплечнікаў-мужчын, што пры фарміраванні атрадаў сялян трэба набіраць не неабстраляных юнакоў, а людзей, якія ўмеюць карыстацца як халоднай, так і агнястрэльнай зброяй, хто мае вайсковы вопыт. Між іншым, сама накіравала ў Бар шэсцьдзесят узброеных і экіпіраваных салдат. Мала-памалу Ябланоўская дзякуючы сваёй разважлівасці, цвярозаму розуму, веданню законаў грамадскага развіцця, навыкам арганізатара і апантанасці ў дасягненні пастаўленай мэты — выратавання радзімы шляхам пазбаўлення Станіслава Аўгуста Панятоўскага каралеўскага трона — стала адной з тых, хто непасрэдна ўдзельнічаў у распрацоўцы планаў канфедэрацыі.

За мяжой яе называлі «Мадам дэ Бар» — пані Барскай канфедэрацыі. Яна лічылася ледзь не сімвалам гэтага саюза. Ад яе парад не адмаўляліся, а часам нават і самі іх шукалі кіраўнікі канфедэратаў, сярод якіх былі Вацлаў Серакоўскі, Ян Чарнецкі, Іахім Патоцкі. Менавіта да яе прыбыў у Бар сакрэтны французскі эмісар Тальe. Толькі ёй падказваў біскуп Адам Красінскі, да каго можна звяртацца ў пошуках фінансавых сродкаў, а да каго — нельга. Прычым калі

Ябланоўская спачатку ажыццяўляла сваю дзейнасць у наваколлях Львова, то з 1769 года перанесла яе на Усходняе Падляшша, Мазовію і частку Вялікага Княства Літоўскага. Адначасова з пошукамі грошай Ганна Паўліна займалася зборам звестак, неабходных для канфедэратаў. Такім чынам, выконвала ролю своеасаблівага сакрэтнага агента. Здабытымі ёю дадзенымі карысталіся ў першую чаргу Кашталян брэсцкі Матушэвіч і Ян Клеменс Браніцкі.

У 1769 годзе Ябланоўская накіравалася ў якасці пасла канфедэратаў у замежны ваяж. Наведала Венецыю, Рым, Неапаль, Парыж, Амстэрдам. Усюды шукала падтрымку таварышам па зброі. Але далёка не заўжды дыпламатычная дзейнасць аказвалася паспяховай. Расчаравала і да глыбіні душы ўразіла Ганну Паўліну, напрыклад, сустрэча з аўстрыйскай імператрыцай Марыяй Тэрэзай, ад якой пачула толькі пустыя, фармальныя словы спачування Польшчы. А вось наведванне Англіі ў красавіку-чэрвені 1771 года выклікала зусім іншыя пачуцці. У лісце, які Ябланоўская накіравала айчыму, яна з захапленнем пісала: «Англія пра нашу вольнасць спявае. Палякі ў іх у найвышэйшым гонары».

Між тым становішча на радзіме значна пагоршылася. Канфедэраты выйгралі некалькі бітваў з расійскімі і каралеўскімі войскамі, але пацярпелі таксама шмат паражэнняў. Адно з самых моцных адбылося на беларускай зямлі. Каля вёскі Сталовічы ля Баранавіч расійскае войска на чале з Суворавым 12 верасня 1771 года разбіла атрад гетмана вялікага літоўскага Міхала Казіміра Агінскага.

Ганна Паўліна вярнулася ў Рэч Паспалітую якраз у той час, калі расійскія войскі ўсё больш і больш пачалі панаваць у тэатры ваенных дзеянняў. Многія канфедэраты загінулі ў баях, нямала іх трапіла ў палон. Хтосьці перабег у лагер караля. Іншыя вымушаны былі пакінуць радзіму. У эміграцыі ў Францыі апынулася і сястра Ганны Паўліны Тэафіля з мужам. Яны доўга жылі там у пастаяннай нястачы, і часта адзінай матэрыяльнай падтрымкай для іх аказваліся грошы, якія рэгулярна дасылала ім Ябланоўская. Урэшце рэшт з Барскай канфедэрацыяй было скончана. А потым адбылася сумнавядомая гістарычная падзея. Па прапанове прускага караля Фрыдрыха II 5 жніўня 1772 года ў Санкт-Пецярбургу была падпісана канвенцыя аб падзеле Рэчы Паспалітай паміж Прусіяй, Расіяй і Аўстрыяй. Прусія атрымала паўночна-заходнюю частку Польшчы, Аўстрыя — паўднёвую частку Польшчы і частку Заходняй Украіны са Львовам, Расія — Інфлянты, усё Мсціслаўскае, Магілёўскае, амаль усё Віцебскае ваяводствы і ўсходнюю частку Рэчыцкага павета.

Ябланоўская была ўражана, але трагедыя радзімы не прымусіла яе бязвольна апусціць рукі. Вясной 1773 года Ганна Паўліна арганізоўвала зрывы мясцовых сеймікаў, на якіх павінны былі выбіраць дэпутатаў на раздзяляльны вольны (усеагульны) сейм. Выказвала вялікую зацікаўленасць палітычнымі саюзамі, якія ўзнікалі як у Рэчы Паспалітай, так і за яе межамі. Вяла неверагоднае па колькасці пісьмаў ліставанне з палітычнымі дзеячамі. Прычым фінансавала паштовых кур'ераў, асабліва тых, хто дастаўляў яе лісты да адрасатаў, якія знаходзіліся за мяжой.

Зрэшты, займаючыся ўсур'ёз справамі палітыкі, Ганна Паўліна не забывала клапаціцца і пра свае маёнткі. Таму нават у самыя цяжкія гады яны прыносілі ёй пастаянны прыбытак.

Шмат паездзіўшы па Еўропе і атрымаўшы магчымасць няхай не мэтанакіравана, а між іншым, усё ж пабачыць стан сельскай гаспадаркі ў розных краінах, Ябланоўская ўжо добра разумела: раб, не зацікаўлены ў выніках сваёй працы, гаспадару асаблівага багацця не прынясе. Зрабіць сваіх сялян вольнымі, пазбавіўшы прыгону, яна не магла, бо гэта не дазвалялася паводле законаў Рэчы Паспалітай (права адпускаць сваіх сялян на волю пан атрымаў толькі пасля прыняцця 3 мая 1791 года Канстытуцыі Рэчы Паспалітай, ды і яно хутка было адменена разам з гэтай самай Канстытуцыяй). Але Ганна Паўліна рашылася на такое прагрэсіўнае наваўвядзенне, як зацвярджэнне за сваімі сялянамі права карыстацца зямельнымі надзеламі ў форме пяцідзесяцігадовай арэнды. Ператварыўшыся ў арандатараў, прыгонныя сяляне мусілі аддаваць гаспадыні пэўны, агавораны ў дамове, працэнт ад усяго вырашчанага на ёй. Таму і ім, і ёй было выгадна, каб ураджай быў багаты.

Будучы чалавекам асцярожным і экзальтаваным па натуры, Ганна Паўліна не адмовілася цалкам ад паншчыны, як зрабіў гэта, напрыклад, яе зямляк, таксама эканаміст-рэфарматар, канцлер Вялікага Княства Літоўскага Іахім Літавор Храптовіч. Але Ябланоўская абмежавала час, які сяляне мусілі праводзіць на яе ўласных лугах і палях, а таксама звузіла кола павіннасцей прыгонных. Нават гэтыя, названыя даследчыкамі пазнейшых часоў «палавінчатымі», рэформы Ганны Паўліны прывялі да выдатных вынікаў. Сяляне сталі працаваць ахвотней. Прыбытак гаспадыні значна ўзрос.

Каб дапамагчы сялянам-арандатарам, а таксама сваім аканомам правільна арганізаваць работу, Ганна Паўліна вырашыла падзяліцца з імі сваімі эканамічнымі ведамі. І яна ўзялася за пяро. Першай працай, напісанай Ябланоўскай, стала «Кніга для аканома фальварка Скамароўскага», якую пазней, у 1777 годзе, яна выдала ў перакладзе

на нямецкую мову ў Гданьску. Пасля з'явіўся аб'ёмісты шматтомны эканамічны трактат «Усеагульныя пастановы для кіраўнікоў маіх маёнткаў», гэты твор, вынік плённай працы не аднаго года, аўтарка выдавала асобнымі часткамі на працягу 1783-1785 гадоў ва ўласнай друкарні ў маёнтку Сямяцічы на Брэстчыне.

У трактаце ў папулярнай форме выкладаўся ўвесь практычны вопыт гаспадарання «пані на Сямяцічах і Коцку». Пералічваючы свае нowаўвядзенні, Ганна Паўліна падрабязна тлумачыць, навошта яны зроблены. Апісваючы арганізацыю двара і канцылярыі, гаспадыня ўказвае на абавязкі розных кіраўнікоў, пералічвае павіннасці розных працаўнікоў ва ўладаннях і дае ім разнастайныя карысныя парады. Асобныя часткі прысвечаны арганізацыі працы на палях, сяўбе, жніву, кіраўніцтву лясной гаспадаркай, бортніцтву, рыбалоўству і паляванню. У сваіх кнігах аўтарка катэгарычна выступае супраць жорсткіх мер пакарання сялян, асуджае хабарніцтва аканомаў, абараняе інтарэсы ўдоў, сірот і старых.

Эканамічная праца Ябланоўскай выклікала вялікую цікавасць у краіне. Вельмі хутка яе перадрукавалі ў Варшаве, і шырокія колы даведаліся пра новую іпастась «Мадам дэ Бар».

Зрэшты, пра рэформы Ганны Паўліны спрачаліся. Адны землеўладальнікі хвалілі яе розум і смеласць (сярод іх — паэт Ігнацый Красінскі, які ўславіў дзейнасць рэфарматаркі ў вершах). Іншыя выказвалі сумненні наконт таго, што «пані на Сямяцічах і Коцку» доўга ўдасца трымацца на хвалі поспеху, змрочна прарочачы, што «распешчаныя хлопы» Ябланоўскай урэшце рэшт пачнуць занадта многа патрабаваць ад сваёй гаспадыні, і справа скончыцца бунтам.

Аднак Ганна Паўліна не баялася гэтага. Яна адчувала, што яе падданыя любяць яе. Маючы клопат пра паляпшэнне іх побыту такі ж моцны, як і клопат пра ўласны прыбытак, Ябланоўская ў сваіх вёсках і мястэчках будавала млыны, вінакурні, невялікія ткацкія фабрыкі і фабрыкі па вытворчасці фаянсу і фарфору. Пабудавала дом акушэрак (раддом) для сялянак. Адкрыла акушэрскую школу пры ім. Заснавала і матэрыяльна падтрымлівала некалькі пачатковых школ. Для самотных састарэлых сялян пабудавала багадзельню. І ўсе гэтыя дабрачынныя ўстановы ўтрымліваліся за яе кошт. Адначасова Ябланоўская дапамагала матэрыяльна многім былым паплечнікам-канфедэратам з тых, хто не меў у эміграцыі сродкаў на існаванне.

У гэтыя ж гады Ганна Паўліна пачала нарэшце ажыццяўляць мару, якая ўзнікла яшчэ ў дзяцінстве пад уплывам айчыма, — збіраць манеты і медалі. Але галоўным захапленнем яе быў уласны мінералагічны музей. Гэтае захапленне падзяляў з Ябланоўскай яшчэ адзін

член яе сям'і — пляменнік Аляксандр Антоній, сын Тэафілі. Ён быў ад дадзены пад апеку Ганны Паўліны бацькамі, якія мусілі надоўга з'ехаць у эміграцыю.

Не маючы ўласных дзяцей, княгіня перанесла на хлопчыка ўсе свае нерэалізаваныя мацярынскія пачуцці. Аляксандр Антоній аказаўся здольным вучнем, дастойным пераемнікам інтарэсаў цёткі-выхавальніцы. У далейшым ён атрымаў шырокую вядомасць як натураліст, хімік, падарожнік. Стаў актыўным членам Варшаўскага таварыства сяброў навукі, напісаў шэраг навуковых прац і найцікавейшую кнігу аб сваім падарожжы па Далмацыі.

Апошні ўсплёск палітычнай актыўнасці «Мадам дэ Бар» прыйшоўся на 1794 год, калі на землях Рэчы Паспалітай успыхнула паўстанне Тадэвуша Касцюшкі, прычынай якога паслужыў другі падзел Рэчы Паспалітай паміж Прусіяй і Расіяй. Ябланоўская падтрымала паўстанцаў. Прычым не толькі словамі ды заклікамі, але і тым, што аказалася больш важным: матэрыяльнымі сродкамі. Яна давала грошы на зброю і экіпіроўку, дапамагала параненым, забяспечвала атрады харчаваннем і лекамі, бялізнай.

Пасля таго, як паўстанне было падаўлена сумеснымі намаганнямі Расіі, Прусіі і Аўстрыі, а Станіслаў Аўгуст Панятоўскі адмовіўся ад кароны, Ганна Паўліна перабралася ў свае заходнееўрапейскія маёнткі. Верагодна, яна апасалася таго, што расійскія улады не даруюць ёй дапамогі паўстанцам. Львоўшчына і прылеглыя тэрыторыі па ўмовах трэцяга падзела Рэчы Паспалітай, які адбыўся ў 1795 годзе, неўзабаве пасля падаўлення паўстання Тадэвуша Касцюшкі, адышлі да Аўстрыі. Тут Ябланоўская пачала цесна супрацоўнічаць з Цэнтральнай Грамадой — арганізацыяй, якая ў 1796-1797 гадах ставіла сваёй мэтай падрыхтоўку новага паўстання. Ганна Паўліна рэгулярна давала на гэтую святую (як яна лічыла) справу грошы. У 1800 годзе яна памерла ў Астрогу ва ўзросце сямідзесяці двух гадоў.

Палітычныя акалічнасці перашкодзілі развіццю сацыяльна-эканамічных рэформ, якія праводзіла Ябланоўская ў сваіх уладаннях. Толькі ў XX стагод дзі польскія эканамісты, якім пасля жорсткіх войн і эканамічных узрушэнняў давялося ўзнімаць сваю радзіму з руін, звярнуліся да багаццяў эканамічнага вопыту «Мадам дэ Бар» і выкарысталі з яго тое, што з цягам часу не страціла актуальнасці. Найбагацейшая ж бібліятэка ды велізарная калекцыя манет і медалёў, якія сабрала ў сваёй рэзідэнцыі Ябланоўская, разышліся па свеце. А экспанаты мінералагічнага музея, які на той час быў адным з найлепшых у Еўропе, апынуліся ў Пецярбургу.

## Палюбіць матэматыку

Соф'я Васільеўна Кавалеўская... Яна стала легендай не толькі айчыннай навукі, але і навукі сусветнай. Звязаўшы свой лёс з матэматыкай, яна даказала, што, па-першае, жанчына можа і павінна пры наяўнасці адпаведных здольнасцей быць каралевай у свеце лічбаў і дакладных разлікаў. А па-другое, што матэматыка зусім неабгрунтавана лічыцца сухой і бясстраснай дысцыплінай. Соф'я Кавалеўская надала гэтай навуцы сваю эмацыянальнасць і няўрымслівасць.

Нярэдка здараецца гэтак, што біяграфія навукоўца, які зрабіў нават вельмі значныя адкрыцці, аказваецца зусім небагатай на падзеі. Лёс жа Соф'і Кавалеўскай такі неардынарны і насычаны, што і сам па сабе ўжо цікавы для нас. Нездарма вялікі нарвежскі пісьменнік Генрык Ібсэн сказаў: «Напісаць біяграфію Кавалеўскай — значыць стварыць паэму пра яе».

Мы пачнём апавяданне пра выдатнага матэматыка, нашу зямлячку Соф'ю Кавалеўскую з сямейнага падання, якім вельмі часта сама яна распачынала гаворку пра сябе. Жыў некалі ў Венгрыі кароль Мацьяш. За страсць да кніг і цікавасць да навук пад даныя далі яму мянушку Корвін, што азначае «крумкач». Крумкач — птушка мудрая і празорлівая. Каралю падабалася параўнанне з ёю, і загадаў ён змясціць крумкача на сваім родавым гербе. Аднойчы дачка караля Мацьяша пабачыла рыцарскі герб, на якім таксама была выява крумкача. Герб гэты належаў польскаму віцязю Крукоўскаму і мусіў тлумачыць паходжанне яго прозвішча, бо «Крук» — таксама значыць крумкач. Пан Крукоўскі быў малады і прывабны мужчына. Дачка Мацьяша Корвіна закахалася ў яго. Кароль пайшоў насустрач пачуццям дачкі і выдаў яе замуж за Крукоўскага. Гэтак узнікла славутая фамілія Корвін-Крукоўскіх, ад якой вёў паходжанне і род Соф'і Васільеўны. Невядома дакладна, калі Корвін-Крукоўскія пасяліліся на землях Вялікага Княства Літоўскага, але на працягу XVIII і XIX стагоддзяў яны настолькі часта радніліся з ліцвінскімі шляхетнымі родамі, што ўрэшце рэшт, па словах самой Соф'і Васільеўны, па крыві самі сталі ліцвінамі.

Радавым маёнткам бацькі славутай жанчыныматэматыка, Васілія Васільевіча, было Палібіна, вёска ў Віцебскай губерні Невельскага павета (цяпер Пскоўская вобласць). На момант нараджэння дачкі Соф'і ў 1850 годзе Васілій Васільевіч змагаўся за права карыстацца старадаўнім варыянтам свайго прозвішча (першая частка радавога імя — Корвін — была страчана недзе падчас падзелаў Рэчы Паспалітай) і выкарыстоўваць герб КорвінКрукоўскіх (крумкач, акружаны страусі-

нымі пёрамі). У 1858 годзе яму ўдалося дабіцца жаданага. У тым жа годзе Васілій Корвін-Крукоўскі, які прысвяціў сваё жыццё ваеннай кар'еры, у чыне генерала артылерыі пайшоў у адстаўку. Разам з жонкай Лізаветай Фёдараўнай і дзецьмі ён пасяліўся ў Палібіне.

Соф'я была другім дзіцем у сям'і, дзе акрамя яе раслі старэйшая сястра Ганна і малодшы брат Фёдар. Маючы характар уражлівы і раўнівы, у некаторыя перыяды жыцця Соф'я была амаль упэўнена, што бацькі любяць яе менш, чым сястру і брата. І тады яна аддалялася ад родных. Менавіта ў такія моманты добраахвотнай самоты дзяўчынка сыходзіла ў адзіны неабжыты куток Палібінскай сядзібы, дзе ў чаканні рамонту сумна бялелі сцены пакоя, абклееныя выпадкова трапіўшымі сюды аркушамі літаграфаваных лекцый матэматыка Астраградскага.

«Листы эти, испещренные странными, непонятными формулами, скоро обратили на себя мое внимание, — успамінае С. В. Кавалеўская. — Я помню, как я в детстве проводила целые часы перед этой таинственной стеной, пытаясь разобрать хоть отдельные фразы и найти тот порядок, в котором листы должны были следовать друг за другом. От долгого, ежедневного созерцания внешний вид многих формул так и врезался в моей памяти...».

Але дзяўчынка пакуль яшчэ не ведала, што са сцен гэтага неадрамантаванага пакоя ёй у душу глядзіць яе лёс. Гэтаксама, як і яе старэйшая сястра Ганна, Соф'я спрабуе сябе ў напісанні літаратурных твораў і думае, што стане пісьменніцай. Матэматыка ж спачатку, здаецца, ніякай цікаўнасці ў яе не выклікае. Аднойчы за абедам генерал запытаўся ў сваёй дачкі: «Ну што, Софа, ці палюбіла ты матэматыку?» — «Не, татуля», — адказвала яна. «Дык палюбіце ж яе, і палюбіце больш, чым іншыя навуковыя прадметы!» — усклікнуў хатні настаўнік Іосіф Малевіч, запрошаны Корвін-Крукоўскім для сваіх дзяцей.

З гэтага часу ўрокі арыфметыкі для дзяўчынкі становяцца падобнымі да чароўных падарожжаў у таямнічы нетутэйшы свет лічбаў. Нечакана для сябе настаўнік знаходзіць у вучаніцы цудоўныя здольнасці да дакладных навук. Тым не менш, арыфметыкі, курс якой Малевіч прайшоў з Соф'яй за два гады, на думку яе бацькі, было больш чым дастаткова для адукацыі дзяўчынкі.

Сярод вучняў Малевіча быў таксама стрыечны брат Соф'і Мішэль, якога трэба было падрыхтаваць да паступлення ў гімназію. На жаль, Мішэль аказаўся лянівым і амбіцыйным падлеткам, і настаўніку ніяк не ўдавалася завалодаць увагай гэтага «бэйбуса», каб прайсці з ім неабходны аб'ём тэм. Тады Малевіч звярнуўся да бацькі Соф'і з просьбай дазволіць здольнай і сур'ёзнай дзяўчынцы вывучаць алгебру

і геаметрыю разам з кузэнам, каб таму было сорамна, калі барышня зразумее сэнс задачы, а той — не. Эксперымент удаўся. Мішэль паступіў у гімназію. А Соф'я атрымала каштоўныя веды па алгебры і геаметрыі, пасля якіх Малевіч далучыў вучаніцу таксама да планіметрыі і стэрэаметрыі.

Далейшы лёс юнай Корвін-Крукоўскай вырашыў сябра сям'і, прафесар фізікі марской акадэміі Мікалай Тыртаў. Выдаўшы ўласны падручнік фізікі, ён падарыў адзін экземпляр бацьку Соф'і. Якім жа было яго здзіўленне, калі падчас наступнага свайго візіту ён убачыў падручнік у руках шаснаццацігадовай дачкі генерала. Кніга гэтая была разлічана на тых, хто ўжо меў адпаведны ўзровень ведаў, і таму Тыртаў запэўніў сябе, што дзяўчына хутчэй за ўсё кіне падручнік, не дайшоўшы і да сярэдзіны. Але атрымалася інакш. Соф'я чытала, спыняючыся на цяжкіх для яе разумення месцах, і спрабавала сама знайсці адказ на ўзнікшыя пытанні. Так, напрыклад, у раздзеле оптыкі яна сустрэла незнаёмыя тэрміны «сінус» і «тангенс». Пасля доўгіх роздумаў над таямнічымі формуламі яна разгадала іх сэнс, прыняўшы за сінус малога вугла яго хорду. Тыртаў быў уражаны. Ён назваў Соф'ю «новым Паскалем» і настаяў, каб генерал даў магчымасць дачцэ займацца вышэйшай матэматыкай. У настаўнікі быў рэкамендаваны Аляксандр Странналюбскі.

«Когда я брала первый урок дифференциального исчисления у известного преподавателя математики в Петербурге Александра Николаевича Страннолюбского, — пісала ў сваіх мемуарах Соф'я Васільеўна, — он удивился, как скоро я охватила и усвоила себе понятия о пределе и производной, «точно я наперед их знала»... И дело, действительно, было в том, что в ту минуту, когда он объяснял мне эти понятия, мне вдруг живо припомнилось, что все это стояло на памятных мне листах Остроградского».

Адносіны настаўніка і вучаніцы адразу сталі давяральнымі і захаваліся такімі на доўгія гады. Адначасова з урокамі вышэйшай матэматыкі Соф'я займалася фізікай у магістра Пецярбургскага універсітэта Фёдара Шведава. Павольна ў галаве дзяўчыны выспела думка пра тое, што яна павінна «адкрыць новую дарогу для жанчын, дарогу ў навуку, стаць вучонай». Але для гэтага трэба было слухаць лекцыі ў якім-небудзь універсітэце. У Расіі гэта было немагчыма — жанчынам не дазвалялася вучыцца ў вышэйшых навучальных установах. Але можна было паспрабаваць набыць неабходныя веды за мяжой. Некаторым расійскім жанчынам, напрыклад, удавалася дабіцца слухання лекцый у швейцарскіх універсітэтах. Але знаходзячыся ў поўнай залежнасці ад бацькоў, Соф'я не магла наперакор іх волі паехаць

вучыцца. А ў тым, што генерал Корвін-Крукоўскі адмовіцца даць ёй дазвол і сродкі для навучання за мяжой, Соф'я не сумнявалася. Сястра Ганна, якая марыла пра славу літаратара і з-за гэтага таксама хацела апынуцца за мяжой, прапанавала адшукаць фіктыўных мужоў з ліку прагрэсіўных маладых людзей, што называлі сябе нігілістамі. Тыя сапраўды аказвалі такія паслугі, лічачы, што гэтым руйнуюць старыя, зжыўшыя сябе законы грамадства, спрыяюць прагрэсу.

Дапамагчы Соф'і ўзяўся сын святара Іван Раждзественскі. Але генерал Корвін-Крукоўскі, даведаўшыся, што жаніх «займаецца свабоднай педагогікай», проста вы ставіў яго за дзверы. Ганне, здаецца, пашанцавала больш Сябры знайшлі для яе цалкам надзейную кандыдатуру, сына дробнамаёмаснага двараніна Віцебскай губерні Уладзіміра Кавалеўскага, які меў сваю справу — займаўся кнігавыдавецтвам. Расчараваўшыся ў каханні (яго нявеста адмовіла яму перад самым вяселлем), Уладзімір Ануфры евіч вырашыў ахвяраваць сабою «дзеля перамогі прагрэсу і на дабро грамадству». Але пазнаёміўшыся з сёстрамі Корвін-Крукоўскімі, малады чалавек раптоўна заявіў, што згодны стаць фіктыўным мужам толькі малодшай сястры.

«Несмотря на свой 18 лет, она образована великолепно, знает все языки, как свой собственный, и занимается главным образом математикой, причем проходит уже сферическую тригонометрию и интегралы. Работает, как муравей, с утра до ночи и при всем этом жива, мила и очень хороша собой, — у захапленні пісаў Кавалеўскі брату. — Вообще это такое счастье свалилось на меня, что трудно себе и представить...».

Зрэшты, за гэтымі радкамі адчуваецца не толькі зачараванне нігіліста здольнасцямі прагрэсіўнай дзяўчыны, але і таемнае любаванне мужчыны жанчынай. Ці спадзяваўся Кавалеўскі, што калі-небудзь фіктыўны шлюб ператворыцца ў сапраўдны? Магчыма, так. А што ж Соф'я? Да гэтага ў яе жыцці было толькі два выпадкі, калі яна праяўляла зацікаўленасць да прадстаўнікоў супрацьлеглага полу.

Будучы яшчэ зусім дзяўчынкай, Соф'я сімпатызавала маладому і прыгожаму суседу, пану Буйніцкаму. Аднойчы ён некуды знік. Папаўзлі чуткі, быццам бы Буйніцкі, які быў звязаны з «польскімі паўстанцамі», загінуў альбо трапіў у Сібір, і што да гэтага мае дачыненне ваенны начальнік Віцебскай губерні палкоўнік Якаўлеў. Апошняга мясцовае насельніцтва лічыла катам і ненавідзела. Соф'я стала ўяўляць, як яна кінецца да Якаўлева з нажом і, утыркнуўшы яго ў сэрца, крыкне: «Гэта за Польшчу!». «Потом меня, конечно, схватят, закуют в цепи и отправят в Сибирь, где я встречу пана Буйницкого», — марыла дзяўчынка. Але справа скончылася тым, што Соф'я ўсяго толькі

ўчыніла невялікі скандал, калі Якаўлеў аднойчы прыехаў да іх дамоў на званую вячэру. Яна парвала на дробныя кавалачкі малюнак, які палкоўнік па просьбе КорвінКрукоўскага зрабіў у Соф'іным альбоме.

Іншы выпадак быў больш сур'ёзным. Сястра Ганна даслала адну са сваіх аповесцей у Пецярбург у часопіс «Эпоха», які выдаваў Ф. М. Дастаеўскі, і неўзабаве атрымала станоўчы адказ і прапанову вялікага пісьменніка сустрэцца. У Пецярбург Ганна ўзяла і малодшую сястру, якая схілялася перад творчасцю карыфея расійскай мастацкай прозы. Першая сустрэча з Фёдарам Міхайлавічам прымусіла Соф'ю думаць, што перад ёю — яе ідэал мужчыны. Дзяўчына нясмела спрабавала прыцягнуць да сябе ўвагу вялікага пісьменніка, але той неўзабаве пачаў заляцацца да Ганны. Атрымаўшы афіцыйную прапанову ад Даст аеўскага, Ганна адмовіла яму, але гэта не паменшыла перажыванняў юнай Соф'і.

Натура глыбока ранімая, Соф'я дала сабе слова ніколі больш не думаць пра каханне. Адказваючы згодай Кавалеўскаму, яна ўлічвала толькі тое, што ў выніку гэтага шлюбу перад ёю адкрыюцца самыя шырокія магчымасці для вучобы.

Зрэшты, за магчымасці давялося яшчэ пазмагацца. Відаць, нешта адчуваючы, бацька з падазрэннем паставіўся да матываў заляцання Кавалеўскага. Тады Соф'я пайшла па адчайны крок. Яна збегла з дому і правяла ноч у кватэры Уладзіміра Ануфрыевіча. Зразумеўшы, як моцна дачка скампраметавала сябе, генерал быў вымушаны даць згоду на яе шлюб.

Пасля вянчання 15 верасня 1868 года ў Палібіне маладыя паехалі ў Пецярбург, дзе Кавалеўскі, якога цікавілі лекцыі па фізіялогіі і анатоміі ў медыка-хірургічнай акадэміі, дамовіўся са славутым акадэмікам Сечанавым, што лекцыі неафіцыйна будзе слухаць і яго жонка. Як чалавек шырокай эрудыцыі, Соф'я Васільеўна жвава цікавілася ўсім, што выкладалі карыфеі медыцынскіх навук, але сэрца яе ўсё ж такі належала матэматыцы. На жаль, дамовіцца наведваць заняткі па матэматыцы ў Пецярбургскім універсітэце Кавалеўскай не ўдалося. Таму фіктыўныя муж і жонка неўзабаве выехалі за мяжу. Разам з імі з дазволу бацькоў выехала ў Еўропу і Ганна. У Швейцарыю (дзе жанчына, якая цікавіцца універсітэцкімі лекцыямі, ужо не выклікала здзіўлення) яны не паехалі толькі па той прычыне, што ў вышэйшых навучальных установах гэтай краіны не было моцных прафесараў-матэматыкаў. Падарожнікі спыніліся ў Вене. Там Соф'я атрымала дазвол слухаць лекцыі па фізіцы. Але жыццё ў аўстрыйскай сталіцы было надта ж дарагім, і яны вырашылі паспытаць шчасця ў Гейдэльбергу. Соф'я Кавалеўская аказалася

першай жанчынай, якой было дазволена наведваць лекцыі ў Гейдэльбергскім універсітэце. Вельмі хутка яна ператварылася ў мясцовую легенду дзякуючы сваім незвычайным здольнасцям і працавітасці. Побач з фіктыўнай жонкай займаўся вучобай і Кавалеўскі. Ён атрымліваў веды па геалогіі. А Ганна таемна ад бацькоў пакінула Гейдэльберг і паехала ў Парыж, дзе думала зрабіць літаратурную кар'еру. Калі генерал Корвін-Крукоўскі даведаўся пра ўчынак старэйшай дачкі і перастаў высылаць на імя Ганны грошы, яна пайшла працаваць наборшчыцай у друкарню. Але заробак яе быў больш чым сціплым, і Соф'я ўзялася адсылаць сястры частку сваіх уласных грошай. Гэта акалічнасць вельмі сцясніла ў сродках саму Соф'ю. Але ёй не хацелася, каб сястру, якая вырвалася ўрэшце з-пад улады бацькоў, голад вымусіў вярнуцца дамоў, пакінуўшы мару аб самастойным, напоўненым творчасцю жыцці. На жаль, Ганне Корвін-Крукоўскай не дадзена было ў поўнай меры рэалізаваць сябе ў літаратуры, але яна пражыла даволі цікавае і насычанае жыццё. У Парыжы яна пазнаёмілася з маладым французскім рэвалюцыянерам Шарлем Віктарам Жакларам і хутка стала яго жонкай. Сужэнцы праславіліся як героі Парыжскай камуны.

Соф'я ж ішла наперад, не здраджваючы сваёй мары. І яна заражала сваёй апантанасцю іншых. Хутка ў Гейдэльбергу з'явілася сяброўка Соф'і Юлія Лермантава, якая марыла прысвяціць жыццё хіміі. Пасяліўшыся разам з Кавалеўскімі, яна, па прыкладзе Соф'і, пачала ад даваць усю сябе навуцы. Праз год да іх далучылася яшчэ адна сяброўка, Жанна Яўрэінава, якая пры садзейнічанні Соф'і Кавалеўскай збегла з дому, пешшу перайшла граніцу, ледзь уратаваўшыся ад куль пагранічнікаў, каб у Гейдэльбергу слухаць лекцыі па юрыспрудэнцыі (у далейшым яна стала першай у Расіі жанчынай-юрыстам).

Калі Кавалеўская зразумела, што мясцовыя прафесары ўжо не могуць задаволіць яе цікаўнасці, яна накіравалася ў Берлін, дзе выкладаў выдатны матэматык Карл Вейерштрас. Пяцідзесяціпяцігадовы вучоны прыняў дваццацігадовую Кавалеўскі з непадробленай цікавасцю. Паразмаўляўшы з ёю некаторы час на навуковыя тэмы, ён зразумеў, што «бачыць перад сабою унікум». І ён звярнуўся да савета Берлінскага універсітэта з просьбай дазволіць таленавітай жанчыне наведваць яго лекцыі па матэматыцы, тым больш што ў выніку вайны Прусіі з Францыяй колькасць яго слухачоў з 50 знізілася да 20. Аднак савет адхіліў просьбу, і Вейерштрас прыняў рашэнне займацца з Соф'яй прыватна. Іх супрацоўніцтва цягнулася з невялікімі перапынкамі чатыры гады, пачынаючы з 1870 года. Зразумеўшы, што ў яго яшчэ ніколі не было ды і наўрад ці будзе ў далейшым больш здольны

вучань, Вейерштрас пачаў аказваць Соф'і асаблівыя знакі ўвагі, якія няправільна зразумеў Уладзімір Кавалеўскі. Фіктыўны муж пасварыўся з фіктыўнай жонкай і, пакінуўшы яе, паехаў у Вену, а пасля — у Мюнхен. Магчыма, жадаючы нешта даказаць Соф'і, пра любоў якой не пераставаў марыць, у 1852 годзе ён абараніў дысертацыю па палеанталогіі (праца была прысвечана паходжанню коней) у Іенскім універсітэце. Цяжка перажываючы разлад з чалавекам, якога ў сяброўскім асяроддзі яна называла братам, а ў думках сваіх лічыла ўжо сваім вечным спадарожнікам, Кавалеўская адкрылася свайму настаўніку, расказаўшы яму пра тое, як і з якой мэтай быў заключаны яе шлюб. І выдатны вучоны, які сам адмовіўся ад асабістага жыцця дзеля навукі, стаў яшчэ больш паважаць сваю вучаніцу. Ён змог знайсці словы суцяшэння для Соф'і, якая абдумвала ўжо, ці не варта будзе згадзіцца на прапанаваны ёй Кавалеўскім у пісьме развод. І накіраваў яе пачуцці і эмоцыі на іншае. Карл Вейерштрас прапанаваў Соф'і паспрабаваць атрымаць дыплом доктара ў Гетынгенскім універсітэце. У свеце матэматыкі на той час толькі аднойчы жанчына атрымала вучоную ступень доктара, і жыла яна за дзвесце гадоў да Кавалеўскай у Італіі. Гэта была венецыянка Лукрэцыя Карнара, якая абаранілася ў Падуанскім універсітэце. Перспектыва натхніла Соф'ю, і яна пачала старанна рыхтавацца для здзяйснення задуманага. Вейерштрас прапанаваў ёй тры магчымыя тэмы для навуковых прац, разлічваючы, што яго вучаніца абярэ адну. Але на яго здзіўленне, Кавалеўская напісала навуковыя працы па кожнай. Азнаёміўшыся з імі, Вейерштрас вырашыў, што любая з'яўляецца дастатковай для атрымання доктарскай ступені, і параіў Соф'і прадставіць для разгляду ўсе тры.

Першая мела назву «Да тэорыі ўраўненняў у прыватных вытворных». У ёй Кавалеўская даказала тэарэму існавання галаморфнага рашэння сістэмы ўраўненняў з прыватнымі вытворнымі нармальнага выгляду. Як аказалася, гэтую ж тэарэму раней вывеў і матэматык Кашы. Аднак ні Соф'я Васільеўна, ні Вейерштрас, ні нават прафесура Гетынгенскага універсітэта з гэтай працай Кашы знаёмымі не былі. Калі ж высветлілася, што два матэматыкі незалежна адзін ад аднаго прыйшлі да той жа самай тэарэмы, то з улікам таго, што доказ Кавалеўскай аказаўся больш лёгкім, чым доказ Кашы, у матэматыцы з'явіўся тэрмін «тэарэма Кашы-Кавалеўскай».

Другая праца насіла чыста прыкладны характар, яна называлася «Дапаўненні і заўвагі да даследавання Лапласа пра форму кальца Сатурна». Цікавыя разлікі былі зроблены Соф'яй Васільеўнай на аснове сцвярджэння, што кальцо Сатурна ўяўляе сабой вадкую субстан-

цыю. Аднак у матэматыка ў працэсе працы ўзніклі сумненні наконт правільнасці гэтага сцвярджэння. Па яе словах, займаючыся пытаннем пра ўстойлівасць вадкага кальца, яна не атрымала пэўных вынікаў. І сапраўды, даследчыкамі, якія жылі пазней за Кавалеўская), была даказана няўстойлівасць такога кальца і прапанавана гіпотэза, нібы кальцо Сатурна складаюць метэарыты.

Трэцяя навуковая праца Соф'і Кавалеўскай — «Пра прывядзенне аднаго класа абелевых інтэгралаў трэцяга рангу да інтэгралаў эліптычных». Расійская даследчыца мінулага стагоддзя Пелагея Кочына заўважае, што для вырашэння гэтай задачы не патрабавалася вялікіх творчых здольнасцей, але патрэбна было грунтоўнае знаёмства з тэорыяй абелевых функцый, адной з найскладанейшых тэорый матэматычнага аналізу.

Па выніках трох сваіх прац Соф'я Кавалеўская атрымала ступень доктара філасофіі з вышэйшай пахвалой — summa cum laude. Гэта адбылося ў ліпені 1874 года.

Да гэтага часу вырашылася таксама і яе сямейная праблема. Соф'я Васільеўна памірылася з Уладзімірам Кавалеўскім, і іхні фіктыўны шлюб ператварыўся ўрэшце рэшт у сапраўдны. Муж і жонка, якія пасля атрымання доктарскай ступені за мяжой сталі вядомымі ў навуковым свеце, вырашылі вярнуцца на радзіму. Разам з імі пакінула Германію і Юлія Лермантава, якая амаль адначасова з Соф'яй Кавалеўскай стала доктарам, зрабіўшы шэраг грунтоўных даследаванняў па хіміі. Сяброўак сустракалі на радзіме як гераінь. І нават бацька Соф'і Кавалеўская які раней не разумеў сваёй дачкі, змякчыўся і наладзіў у Палібіне сямейную ўрачыстасць у гонар атрымання «яго Софай» вучонай ступені. На вечары прысутнічаў шэраг вядомых расійскіх навукоўцаў, а таксама першы Соф'ін настаўнік Малевіч.

З вялікімі спадзяваннямі Кавалеўскія выехалі ў Пецярбург, дзе думалі асталявацца. Але нягледзячы на іх вучоныя ступені, уладкавацца яны не здолелі. Уладзімір Ануфрыевіч «горка каяўся», што прыехаў у сталіцу, дзе «ніякіх месцаў не прадбачыцца і звышштатных цэлая пагібель».

Жадаючы павысіць свой статус, сужэнцы падалі заяву на імя рэктара Пецярбургскага універсітэта з просьбай дапусціць іх да здачы экзамена на атрыманне звання магістра, пасля чаго разлічвалі мець права на выкладанне ва універсітэце. Прычын адмовіць Кавалеўскаму не было, і ў канцы 1874 года ён здаў гэтыя экзамены на выдатна, хаця яго і папярэдзілі, што пакуль выкладаць яму не давядзецца з-за поўнай укамплектаванасці штатаў. Просьбу ж Соф'і Васільеўны адхілілі таму, што яна — жанчына. Муж і жонка паспрабавалі зарабляць

на жыццё кнігавыдавецкай справай, але яна аказалася непрыбытковай. Матэрыяльны стан сям'і палепшыўся толькі пасля таго, як у канцы 1875 года Соф'я Васільеўна атрымала трыццаць тысяч рублёў у якасці спадчыны па раптоўна памерлым бацьку. Два гады Кавалеўскія жылі, не думаючы пра навуку. Грошы генерала Корвін-Крукоўскага далі ім магчымасць распачаць новую справу — будаўніцтва дамоў, і спачатку на гэтым яны атрымлівалі нядрэнны прыбытак. Менавіта тады ў Кавалеўскіх нарадзілася дачка Соф'я, якую бацькі ласкава называлі Фуфа. Але ўжо ў 1879 годзе становішча змянілася. Пабудаваныя Кавалеўскімі дамы аказаліся закладзенымі, і працэнтаў па закладных трэба было выплочваць больш, чым атрымлівалася даходаў. Урэшце прадпрымальнікі з навуковымі ступенямі абанкруціліся. Яны пакінулі Пецярбург і пераехалі ў Маскву, дзе Уладзіміру Кавалеўскаму абяцалі месца на кафедры геалогіі і палеанталогіі Маскоўскага універсітэта. Ён быў абраны штатным дацэнтам у пачатку снежня 1880 года.

Вярнулася да навуковай дзейнасці і Соф'я Васільеўна. Пасля новай і зноў няўдалай спробы дабіцца здачы магістарскіх экзаменаў, у 1880 годзе Кавалеўская выехала разам з дачкой у Берлін да свайго настаўніка Вейерштраса, які здолеў за кароткі тэрмін вярнуць вучаніцы волю да барацьбы. З Германіі яна піша мужу: «Ты говоришь, совершенно справедливо, что ни одна еще женщина ничего не совершила, но ведь ввиду этого мне и необходимо, благо есть еще энергия, да и материальные средства, с грехом пополам поставить себя в такую обстановку, где бы я могла показать, могу ли я что-нибудь совершить или умишка на то не хватает».

Аднак напружанай навуковай працы перашкодзілі трагічныя абставіны. Уладзімір Кавалеўскі крыху раней, чым ён уладкаваўся ў Маскоўскі універсітэт, уступіў у гэтак званае «Таварыства рускіх фабрык мінеральных алеяў Рагозіна і К$^0$». Але кампанія, як аказалася, займалася нейкімі падазронымі справамі. Яна паступова разарыла Кавалеўскага настолькі, што аднойчы ён з жахам зразумеў: яму нават не хапае грошай, каб паслаць за граніцу штомесячнае ўтрыманне для жонкі і дачкі, якая якраз у гэты час захварэла. Але і гэта было яшчэ не ўсё. Неўзабаве Кавалеўскі быў выкліканы на суд супроць «Таварыства рускіх фабрык» у якасці адказчыка. У роспачы вучоны скончыў жыццё самагубствам. 27 красавіка 1883 года ў Маскве ён памёр, надзеўшы на твар маску з хлараформам.

Звесткі пра смерць мужа Соф'я Васільеўна атрымала ў Парыжы, куды перабралася з Берліна. Яна цяжка перажывала, зачыніўшыся ў сваім пакоі, адмовілася прымаць ежу, і ўрэшце на пяты дзень

страціла прытомнасць. Гэта вымусіла яе сяброў сур'ёзна заняцца яе лячэннем.

Пасля крызісу бледная і схуднелая Кавалеўская вярнулася ў Берлін да свайго настаўніка, які на правах бліжэйшага сябра і дарадчыка ўзяў на сябе нялёгкую місію вярнуць прыгнечаную горам жанчыну да жыцця. І гэта яму ўдалося.

Ужо ў жніўні Соф'я Васільеўна набыла сілы для таго, каб супрацiўляцца лёсу. Яна вяртаецца ў Расію і дабіваецца рэабілітацыі мужа, «доказав следователю, что Владимир Онуфриевич действовал в рагозинских спекуляциях, добросовестно заблуждаясь и не извлекая ни для себя, ни для семьи никакой материальной выгоды». А пасля гэтага прыняла прапанову шведскага матэматыка Густава Мітаг-Лефлера прыехаць у Стакгольм, каб распачаць у нядаўна адкрытым тут універсітэце чытанне спецыяльнага курса. Зрэшты, яшчэ да ад'езду ў Швецыю Кавалеўская выступіла на VII з'ездзе рускіх натуралістаў і ўрачоў у Адэсе. Яе даклад «Аб праламленні святла ў крышталях» быў вынікам трохгадовай (з 1881 па 1883 год) працы Соф'і Васільеўны за мяжой.

У Стакгольме Кавалеўская з'явілася ў лістападзе 1883 года. Яе прынялі вельмі сардэчна. Новы Стакгольмскі універсітэт ва ўсім супернічаў са старым у горадзе Упсала, які ўсяляк заяўляў пра свой кансерватызм. Запрашэнне для чытання лекцый жанчыны было своеасаблівым выклікам Стакгольма Упсале. Жыхары Стакгольма называлі Кавалеўскі прынцэсай навукі і ганарыліся, што яна стала «першым прыват-дацэнтам-жанчынай ва ўсёй Швецыі».

Для першага свайго курса лекцый Соф'я Васільеўна абрала тэорыю дыферэнцыяльных ураўненняў з прыватнымі вытворнымі. У лісце да брата Уладзіміра Кавалеўскага Аляксандра яна тлумачыць: «Мне кажется, что будет большой шик, если женщина, начиная читать лекции..., будет говорить о собственных исследованиях по этому вопросу».

Пасля прачытання першага курса лекцый Кавалеўская была прызначана прафесарам Стакгольмскага універсітэта і стала такім чынам першай у свеце жанчынай-прафесарам. У наступныя гады яе лекцыі былі прысвечаны алгебраічным, абелевым і эліптычным функцыям паводле Вейерштраса; тэорыі руху цвёрдага цела; крывым, якія вылучаюцца дыферэнцыяльнымі ўраўненнямі; прыкладанню аналізу да тэорыі лічбаў. Адначасова Кавалеўская супрацоўнічала ў якасці члена рэдкалегіі з часопісам «Acta mathematica», адкрытым Мітаг-Лефлерам. А зімою 1887 года разам з іншымі энтузіястамі ад навукі прымала ўдзел у адкрыцці навуковага таварыства «Хеймдал»,

членамі якога ў адрозненне ад тых, што раней існавалі ў Швецыі, маглі быць не толькі навукоўцы-мужчыны, але і жанчыны. Зрэшты, 1887 год прынёс Соф'і Васільеўне новае ўзрушэнне. Пасля працяглай хваробы і аперацыі ў Парыжы памерла сястра Ганна. Удар Кавалеўскай дапамаглі перажыць шведскія сябры, з якімі за чатыры гады ў яе завязаліся самыя цёплыя ўзаемаадносіны.

Яна зноў звярнулася да праверанага спосабу выйсця з дэпрэсіўнага стану — з галавою паглыбілася ў навуковыя даследаванні. На гэты раз яе зацікавіла магчымасць атрымаць прэмію Бардэна, заснаваную Парыжскай акадэміяй навук. Задача, прапанаваная матэматыкам, гучала гэтак: удасканаліць у якім-небудзь важным пункце тэорыю руху цвёрдага цела. Прэмію павінен быў складаць залаты медаль коштам тры тысячы франкаў. Кавалеўскі задавальняла, што конкурс мусіў быць ананімным, і значыць, прадузятасць у адносінах да яе не прадбачылася.

«Задача о вращении твердого тяжелого тела вокруг неподвижной точки уже давно привлекала умы ученых, — піша Пелагея Кочына. — Это и неудивительно, так как она относится к явлениям, имеющим самое широкое распространение в природе и в технике: сюда относятся гироскоп и волчок, а также небесные тела, если отвлечься от их поступательного движения... Уравнения движения тяжелого твердого тела вокруг неподвижной точки представляют систему шести дифференциальных функций, в левых частях которых стоят производные по времени от искомых функций, а в правых — полиномы второй степени от этих функций. Ковалевская стала искать решение системы, аналогичной указанной, но с меньшим числом переменных».

У канцы 1888 года камісія аднадушна прысудзіла прэмію менавіта яе працы, тлумачачы свой выбар словамі: «Гэтая цудоўная праца ўтрымлівае адкрыццё новага выпадку, у якім можна праінтэграваць дыферэнцыяльныя ўраўненні руху цяжкага цела, замацаванага ў адной са сваіх кропак. Аўтар не абмяжоўваецца дапаўненнем, такім чынам, выніку самага высокага інтарэсу да тых, якія былі нам дадзены па гэтым прадмеце Эйлерам і Лагранжам: ён зрабіў адкрыццё, у якім мы абавязаны яму паглыбленым вывучэннем з прымяненнем усіх рэсурсаў сучаснай тэорыі функцый».

Дыплом пераможцы Кавалеўскай уручалі 24 снежня 1888 года ў Парыжы. Разам з ёю на ўрачыстасці прысутнічаў новы сябра жанчыны-вучонага і яе цёзка па прозвішчу Максім Максімавіч Кавалеўскі. Гледзячы, як яны ўсміхаюцца адно аднаму, некаторыя думалі, што гэта муж і жонка.

І сапраўды, зусім нечакана ў жыццё Соф'і Кавалеўскай увайшло новае каханне. Упершыню яна даведалася пра існаванне Максіма Кавалеўскага ў 1874 годзе. Аднойчы стакгольмскі паштальён уручыў ёй цэлы стос лістоў і кніг на імя прафесара Кавалеўскага. Соф'я Васільеўна здзівілася супадзенню прозвішчаў і навуковых званняў і вярнула чужую карэспандэнцыю на пошту. А ў лютым 1888 года ёй давялося і пабачыцца з Максімам Максімавічам, які прыехаў у Стакгольм па запрашэнні Камітэта лорэнаўскага фонду выступіць як лектар. Выступленне Кавалеўскага, прысвечанае пытанню пра пераход сямейнай абшчыны — матрыярхата — у сучасную сям'ю (такія абшчыны географ Кавалеўскі бачыў на Каўказе, у Сербіі і Балгарыі) выклікала вялікую цікавасць. Пасля лекцыі прафесар Кавалеўскі прыняў запрашэнне прафесара Кавалеўскай наведаць яе. Паміж імі адразу ўзнікла сімпатыя. Развітаўшыся, цёзкі па прозвішчу зноў сустрэліся летам 1888 года ў Лондане, дзе сімпатыя перарасла ва ўлюбёнасць.

«Я не строю никаких планов, мне сейчас хорошо, и я живу от одного дня до другого, избегая думать о будущем, чтобы не портить настоящее», — гэтак выражала свае пачуцці ў гэты час Соф'я Васільеўна.

Восенню 1888 года, чарговы раз з'ехаўшыся ў Стакгольме, Максім Максімавіч і Соф'я Васільеўна ўжо разважаюць пра магчымасць стварыць сям'ю. Трыумф Кавалеўскай у снежні 1888 года Кавалеўскі ўспрымае з тым жа пачуццём радасці і задавальнення, як і ўласныя навуковыя перамогі.

Часова Соф'я Васільеўна пакідае Стакгольм і жыве ў Парыжы, дзе працягвае займацца навуковай дзейнасцю і перажывае разам з Максімам Максімавічам нешта падобнае да мядовага месяца. Урэшце летам 1889 года зусім нечакана яна атрымлівае з Расіі запрашэнне прыехаць у Пецярбург, каб выкладаць на вышэйшых жаночых курсах.

Прызнанне суайчыннікаў выразілася наданнем Соф'і Кавалеўскай у лістападзе 1889 года ганаровага звання члена-карэспандэнта Акадэміі навук на фізікаматэматычным аддзяленні. Але гэта не давала магчымасці жанчыне-вучонаму ўсё ж такі вярнуцца ў Расію, бо яна па-ранейшаму не магла быць дапушчана тут да выкладання ва універсітэце, і, значыць, не мела б стабільных сродкаў для жыцця.

Кавалеўская вярнулася ў Швецыю, дзе неўзабаве атрымала прэмію Акадэміі навук горада Стакгольма і была зацверджана пажыццёвым прафесарам вышэйшай школы Стакгольмскага універсітэта.

Яна была шчаслівай настолькі, наколькі наогул можа быць шчаслівай жанчына, якая рэалізавала сябе як асоба, жанчына паважаная і каханая, жанчына — шчаслівая маці, пазбаўленая толькі аднаго: магчымасці жыць на радзіме. Яна была напоўнена новымі задумамі і

перспектывамі. А вяселле яе з Максімам Кавалеўскім было прызначана на ліпень 1891 года.

Яна вельмі чакала гэтай даты, але ў пачатку года моцна прастудзілася. З-за нежадання вылежаць хваробу (Кавалеўская да апошняга добрасумленна чытала лекцыі студэнтам) жанчына хутка зусім злягла. Урачы канстатавалі запаленне лёгкіх. 10 лютага 1891 года Соф'я Васільеўна памерла.

Увесь навуковы свет быў уражаны гэтай сумнай весткай. Стакгольм абвясціў жалобу. Выдатны навуковец Соф'я Кавалеўская знайшла вечнае супакаенне ў шведскай зямлі, там, дзе яе прынялі як сваю, — прывабную іншаземку, якая любіла матэматыку. Амаль гэтак жа, як і само жыццё.

# ПАД ЗНАКАМ МЯЧА

## Паляніца Настасся – сястра Рагнеды?

У другой палове XIX стагоддзя дапытлівы расійскі падданы нямецкага паходжання А. Ф. Гільфердынг, вандруючы па рускай Поўначы, зрабіў адкрыццё, нечаканае і для сябе, і для еўрапейскіх вучоных, і нават для айчыннай лінгвістычнай навукі. Ён высветліў, што ў фальклор рускага насельніцтва гэтых мясцін уваходзяць творы нікому раней не вядомага жанру — быліны. Гільфердынг пачаў збіраць і занатоўваць пачутае, і хутка быў выдадзены цэлы зборнік. Услед за ім збіраць быліны ўзяліся іншыя навукоўцы-фалькларысты, якія са здзіўленнем даведаліся, што гэты від вуснай народнай творчасці распаўсюджаны сярод вясковага насельніцтва на велізарнай тэрыторыі. Герояў былін, у адрозненне ад герояў казак, народ лічыць асобамі, якія рэальна існавалі, а падзеі, аб якіх распавядаецца ў былінах, — сапраўднымі гістарычнымі.

Навукоўцы спачатку скептычна паставіліся да такога становішча спраў, але з часам вымушаны былі перагледзець свае пазіцыі, бо ўдалося аднавіць біяграфіі большасці былінных герояў і ідэнтыфікаваць падзеі, апісаныя ў былінах. Напрыклад, мошчы найбольш славутага багатыра Іллі Мурамца знаходзяцца ў КіеваПячорскай лаўры. Ён жыў у XII стагоддзі, доўгі час быў хворым, не хадзіў з-за рэдкай хваробы гіпофіза, і толькі ў сталым узросце вылечыўся. Састарэлым чалавекам Ілля Мурамец пастрыгся ў манахі, але, магчыма, і пасля гэтага ўдзельнічаў у бітвах, бо загінуў ад удару кап'ём у сэрца. Праваслаўная царква кананізавала гэтага героя. Дзень яго памяці па царкоўным календары — I студзеня па старым стылі.

Пра што гаворыцца ў былінах, якія маюць дачыненне да беларускай гісторыі? На жаль, іх вельмі няшмат, і гэта яшчэ больш павялічвае іх каштоўнасць.

Не так даўно стала вядома, што прататыпам быліннага Волха Усяславіча (у іншых варыянтах — Волхва Усяслава) з'яўляецца полацкі князь Усяслаў Чарадзей. Рабіліся спробы «прыпісаць» пры дапамозе навуковага аналізу да беларускай зямлі быліннага волата-аратая Мікулу Селянінавіча. І нарэшце, даследчыкі ўсходне-славянскага фальклору адкрылі, што ў быліне «Дунай» (якая, дарэчы, была адной з першых знаходак Гільфердынга) у вобразе «літоўскага караля» і яго дачкі Апраксы выведзены полацкі князь Рагвалод і князёўна Рагнеда.

Гэтая вельмі незвычайная быліна была запісана ў XIX стагоддзі ў некалькіх варыянтах, якія даволі моцна адрозніваліся паміж сабой. Наша цікавасць да яе ўзнікла таму, што разам з персанажамі, прататыпы якіх ужо знойдзены ў быліне, дзейнічаюць героі, пра рэальнае існаванне і лёс якіх да гэтага часу нічога пэўнага сказана не было. У першую чаргу гэта галоўная гераіня быліны Настасся, якую называюць старэйшай сястрой АпраксыРагнеды. Што ж вядома нам пра яе?

Дзяўчына была багатыркай, альбо паляніцай, як называлі іх у тыя часы. Паляніцы з'яўляюцца гераінямі многіх былін, і мы знаходзім у рускіх летапісах пацвярджэнне таму, што ў перыяд Кіеўскай Русі некаторыя жанчыны сапраўды вялі такі лад жыцця, прычым гэта нікога не здзіўляла. Імёны большасці паляніц не дайшлі да нас. Тым не менш, Хлебнікаўскі летапіс захаваў сведчанне пра растоўскую вершніцу Фёклу, дачку ваяводы Філі, які служыў у князя Юрыя Даўгарукага. Фёкла, па словах летапісца, «на войне была люта и храбра, в миру весьма добра, даром девка была молода». Тут жа можна знайсці імёны дзвюх паляніц, якія былі ўдзельніцамі Кулікоўскай бітвы: Феадоры Пужбольскай і Дар'і Растоўскай.

Але ж вернемся да нашай Настассі. Гэтак жа, як і іншыя волатыдзяўчыны, вяла яна поўнае прыгод і небяспекі жыццё. Вельмі моцная фізічна, Настасся дасканала валодала мечам, а ў стральбе з лука яе не маглі перамагчы не толькі паплечніцы-паляніцы, але нават і багатырымужчыны. Не палохала яе нічога ні ў лясных нетрах, ні ў чыстым полі. І пры ўсім тым, сцвярджае быліна, Настасся была яшчэ пісанай прыгажуняй.

Падзеі ў быліне развіваюцца наступным чынам. Кіеўскі князь Уладзімір Чырвонае Сонейка вырашыў ажаніцца. З дзвюх дачок свайго дальняга суседа, «караля харобрай Літвы», кандыдатуры якіх прапанавалі яму багатыры-дружыннікі, ён выбраў малодшую, Апраксу-каралеўну, крыху какетлівую прыгажуню, якая:

Ходит по терему, злату верху,
В одной тонкой рубашечке без пояса,
В одних тонких чулочках без чоботов,
У ней русая коса пораспущена.

І выракся старэйшай, Настассі-каралеўны, якая:

Ездит во чистом поле поляницею,
Имеет в плечах силушку великую.

Сватамі паслаў Уладзімір двух сваіх дружыннікаў-волатаў Дабрыню Нікіціча і Дуная Іванавіча, якія ў свой час служылі ў бацькі Апраксы і Настассі.

«Кароль харобрай Літвы» спачатку выказаўся супраць шлюбу Апраксы, бо нядобра малодшую дачку выдаваць раней за старэйшую. Праўда, пасля таго, як Дунай прадэманстраваў гаспадару і яго слугам сваю моц малайцоўскую, вымушаны быў даць згоду. Узрадаваныя сваты паспяшаліся ў Кіеў з прыемнай для свайго князя навіною, але раптам заўважылі, што нехта іх даганяе, і затрымаліся. Нечакана той, насустрач якому выйшаў Дунай, так свіснуў, што кіеўскі волат абрынуўся з каня на зямлю. Хутка апрытомнеўшы, Дунай збіў супраціўніка з каня. Затым з мэтай забіць ворага выхапіў кінжал і разарваў на грудзях у пераможанага кашулю. Ён збянтэжыўся: невядомы дваяборца аказаўся жанчынай.

Абяззброены нечаканасцю, волат раздумаў здзяйсняць свой крыважэрны намер. І тут пераможаная ім дзяўчына спытала:

Что же ты, Дунаюшка, не опознал?
Аль в одной дороженьке не езживали,
С одной чарочки не кушивали?
А ты жил у нас ровно три тригода:
Первый тригод жил ты во конюхах,
А другой тригод жил во чашниках,
А третий тригод жил во стольниках.

Вось тады нарэшце волат зразумеў, з кім ён змагаўся. Прыгадаў ён дзяўчынку-падлетка, старэйшую дачку «ка
раля літоўскага», за сталеннем якой назіраў калісьці пры двары яе бацькі ажно дзевяць гадоў. З тых часоў, як ён перабраўся ў Кіеў, на службу да князя Уладзіміра, Настасся-каралеўна ператварылася ў сапраўдную прыгажуню. Дунай тут жа прапанаваў ёй ехаць з ім у Кіеў і там абвязацца. Настасся, якая, бачна па ўсім, даўно ўжо была закаханая ў багатыра, адразу ж згадзілася.

Але сямейнае жыццё не прынесла ёй шчасця. І прычынай гэтаму стаў яе незалежны, праўдзівы характар. Падчас аднаго з піроў Дунай пад уздзеяннем хмяльных напояў пачаў выхваляцца і сцвярджаць, што ён самы лепшы з асілкаў у Кіеве. Настасся не вытрымала і запярэчыла мужу:

Не пустым ли ты, Дунаюшка, расхвастался?
А и недолго я в городе побыла,
А много в городе признала:
Нет такого молодца на щепленьице[1],
На щепленьице — Добрыни Никитича,
А на выстрел — нет Настасьи-королевичны.

---

[1] У барацьбе. -Аўт.

Распалены выпітым, Дунай вырашыў неадкладна даказаць усім, што яго жонка памыляецца. Дзеля гэтага прапанаваў ёй наладзіць спаборніцтва ў стральбе з лука. Кожны з сужэнцаў атрымаў па тры стралы, якія трэба было расшчапіць аб лязо нажа, уторкнутага ў дрэва далёка ад стралкоў. Пусціўшы адну за адной свае стрэлы ў цэль, Настасся ўсе іх расшчапіла аб лязо. Дунай жа два разы запар прамахнуўся. У шаленстве ад таго, што жонка перамагла яго на вачах ва ўсіх, ён нацэліў лук з апошняй стралой у грудзі Настассі. Жанчына стала маліць не забіваць яе, прасіла знайсці якое-небудзь іншае пакаранне альбо хаця б пачакаць тры месяцы, каб яна магла даць жыццё іх сыну, якога яна носіць пад сэрцам вось ужо шэсць месяцаў. Тлумачыла: «Такого младенца во граде нет». Аднак Дунай не змог стрымаць сваю ярасць. І толькі пасля таго, як упала Настасся-паляніца на зямлю нежывою, зразумеў волат, што нарабіў, і тут жа кінуўся на ўласны меч. А кроў яго, змяшаўшыся з крывёю Настассі і крывёю іх ненароджанага сына, дала пачатак рэчцы Дунай. Вось такі былінны аповед.

Узнікае пытанне: колькі тут праўды і колькі выдумкі? Паспрабуем адказаць на гэтае пытанне, прааналізаваўшы, як быліна змяніла факты біяграфіі іншых асоб.

Успомнім драматычную гісторыю сватаўства Уладзіміра, тады яшчэ наўгародскага князя. Рагнеда адмовіла яму, заявіўшы, што не жадае разуць сына рабыні. Уладзімір жорстка адпомсціў ёй за такую абразу. А ў быліне сваты Уладзіміра ўсё ж такі атрымліваюць згоду на шлюб, сям'я нявесты застаецца ў жывых, горад яе — неразбураным, і сама яна радасна пачынае рыхтавацца да вяселля. Былінныя сказіцелі замяняюць імя Рагнеды-Гарыславы на хрысціянскае Апракса-Еўпраксія. Адбылася такая замена, хутчэй за ўсё, дзесьці ў XIV-XV стагоддзях, у той час, калі Полацкае княства ўвайшло ў склад Вялікага Княства Літоўскага. Бацька ж Рагнеды, полацкі князь Рагвалод наогул паўстае ў быліне безыменным «каралём харобрай Літвы».

Ці можна даваряць быліне ў тым, што паляніца Настасся і жонка кіеўскага князя Уладзіміра сапраўды з'яўляліся сёстрамі? Вядома ж, што ў Рагнеды родных сясцёр не было. А былі толькі два браты. Але тут, магчыма, мелася на ўвазе яе стрыечная сястра?

Згодна з летапісам, у Рагвалода быў малодшы брат Тур. Калі бацька Рагнеды заняў полацкі прастол, Тур накіраваўся на поўдзень Беларусі і заснаваў горад, дзе і пачаў княжыць. Аб далейшым яго жыцці распавядаюць паданні, паводле якіх у Тура было тры сыны, а таксама пяць дачок. У адрозненне ад язычніка Рагвалода, Тур ахрысціўся і хрысціў усіх сваіх дзяцей. Разам з сынамі князь фундаваў на сваёй

зямлі два манастыры, мужчынскі і жаночы. Сыноў Тур выхоўваў як сваіх паслядоўнікаў, прызначыўшы ім у кіраванне пасля сваёй смерці гарады Тураў, Пінск і Дубровіцу. А вось у адносінах да дачок у яго былі іншыя намеры. Не бачачы дастойных іх жаніхоў, ён вырашыў адаслаць дзяўчат у манастыр. Рашэнне князя падтрымалі баяры.

Паданне пра тураўскія саркафагі, якое трапіла ў кнігу «Памяць» Жыткавіцкага раёна, распавядае: «Князёўны, нічога пра гэта не ведаючы, сваволілі пад наглядам служанак у лесе. Старэйшай — Паланеі — было дваццаць, малодшай — Луцэі — чатырнаццаць. Былі ўсе князёўны прыгожыя, чарнабровыя і стройныя. Дзівіліся людзі, мясцовыя і прыезджыя, на прыгажосць небывалую тураўскіх князёвен. У гаі князёўны вянкі плялі, надзявалі іх адна адной ды ў люстэрка вады глядзеліся. Карагоды з вясковымі дзеўкамі вадзілі, песні спявалі. Сюды ў гай прыйшоў князь і паведаміў князёўнам волю баярскай рады. Выслухалі яны прысуд і ціха ў нямым паклоне схіліліся. А як князь пайшоў, горка заплакалі, кідаючы вянкі ў Прыпяць».

Князёўны, не ведаючы, як дабіцца адмены рашэння бацькі і баяр, пайшлі на язычніцкае свята Купалле ў лес шукаць чароўную Папараць-кветку якая можа выканаць любое чалавечае жаданне, ды так і загінулі ўсе, трапіўшы ў багну. Князь Тур, знайшоўшы дачок, быццам бы загадаў пахаваць іх у каменных саркафагах. Падчас раскопак старажытнага Турава ў 1963 годзе зусім нечакана былі знойдзены гэтыя саркафагі з чалавечымі астанкамі, трэба думаць, няшчасных дачок Тура. Але саркафагаў было толькі тры. Значыць, калі паданне не маніць і князёўнаў было пяць, дзве павінны былі застацца жывымі, і адной з іх магла аказацца паляніца Настасся.

Што ж здарылася з тымі, пахаванымі ў саркафагах? Можна было б думаць, што хтосьці з дачок князя і на самой справе загінуў таямнічай смерцю падчас адпраўлення язычніцкіх абрадаў. Але малаверагодна, каб адначасова загінулі ажно тры дачкі князя. Такое магло здарыцца хіба што падчас якога-небудзь мора. Можа, гэтак і было? А дзве з сясцёр ацалелі, бо ў той час яны маглі гасцяваць у цераме полацкага князя. І калі пра адну з іх мы нічога канкрэтна не ведаем, то Настасся, калі ўжо быліна называе яе сястрой Рагнеды, мусіла быць частай госцяй ў Полацку. Імітую сваю дачку Тур, ва ўсякім разе, не мог прымусіць пастрыгчыся ў манахіні з-за яе своеасаблівага статусу паляніцы — жанчыны, якая абрала для сябе шлях абаронцы радзімы. Ды і воінскае мінулае князя дае права меркаваць, што яго павінен быў цалкам задавальняць лад жыцця Настассі.

Пэўны час даследчыкі быліны пра Дуная спрачаліся наконт таго, што ў сястры Рагнеды хрысціянскае імя. Выказвалася думка, што тут

мае месца такая ж падмена, як і ў выпадку з полацкай князёўнай, якую ператварылі ў Апраксу. Але ж адважную паляніку і на самой справе маглі клікаць Настассяй, бо пра хрышчэнне князя Тура і яго сям'і распавядаюць не толькі легенды. У пачатку XX стагоддзя ў Тураве яшчэ існаваў Тур-калодзеж, у якім (ці ля якога) быццам бы і прайшоў абрад хрышчэння князь са сваімі дамачадцамі. Ёсць меркаванне, што Тур і яго малодшы сын былі кананізаваны Рускай Праваслаўнай царквой як пакутнікі за веру. Гэта быццам бы святыя першапакутнікі Фёдар-вараг і сын яго Іван, якія прынялі смерць ад рук язычнікаў, спыніўшыся ў Кіеве пасля наведвання Візантыі. Гэтая сумная гісторыя змешчана шмат у якіх летапісах, але ў большасці з іх прыводзіцца толькі хрысціянскае імя пакутніка — Фёдар. Расійскаму гісторыку А. А. Шахматаву пашанцавала адшукаць язычніцкае імя героя. А тое, што Тур-Фёдар, які загінуў у Кіеве, і князь Тур — адна і тая ж асоба, можна сцвярджаць па тым, як шмат увагі ўдзяляюць гэтаму эпізоду гісторыі летапісцы, якія наогул даволі рэдка распавядаюць пра людзей некняжацкага паходжання. Калі ж кіеўскі пакутнік — іншапляменны князь, тады яго смерць была выпадкам на ўзроўні надзвычайнага. І яе нельга не апісаць у летапісах.

Аповед пра гібель Тура ў рускіх летапісах дадзены пад 983 годам. У гэтым годзе князь Уладзімір пайшоў у паход на яцвягаў і перамог іх. Кіеўскія валхвы вырашылі аддзячыць Перуну за гэтую перамогу. Было прынята рашэнне прынесці ў ахвяру юнака і дзяўчыну, якіх выберуць пры дапамозе жэрабя. Выпадкова, а можа, і не, жэрабя выпала на сына Тура, Івана. Калі да бацькі прыйшлі валхвы і паведамілі, што багі жадаюць прыняць у ахвяру «прыўкраснага тварам і душою» Івана, князь-хрысціянін адмовіў ім, заявіўшы: «не суть то бози, но древо; днесь есть, а утро изъгнеёть; не ядять бо, ни пьют, ни молвять, но суть делани руками в дереве». Што ж датычыць Бога сапраўднага, то «ему же служат греци и кланяются, иже створилъ небо и землю, и звезды, и луну, и солнце».

Валхвы, абражаныя і злыя, сышлі і пачалі падбухторваць натоўп, каб расправіцца з упартым Турам. Яны пагражалі людзям гневам багоў, якія замест сына Тура запатрабуюць многіх іншых юнакоў і дзяўчат у ахвяру. Кіеўляне спалохаліся. Яны абкружылі дом, у якім знаходзіліся Тур з сынам. Сам князь у гэты час стаяў у сенцах разам з Іванам, і, мяркуючы па ўсім, былі яны ўзброены, бо нападаючыя не здолелі наблізіцца да іх. Тады кіеўляне падсеклі слупы сенцаў. Збудаванне абрынулася, і пад ім загінулі бацька і брат Настассі-паляніцы. Тур-Фёдар і яго сын Іван сталі першымі святымі пакутнікамі на землях Кіеўскай Русі.

У адрозненне ад Тура, брат яго Рагвалод прытрымліваўся старога веравызнання. Нават у быліне падкрэсліваецца, што звычаі пры двары «караля харобрай Літвы» былі зусім не такімі, як пры двары хрысціянскіх правіцеляў. Дунай ведаў, напрыклад, што, заходзячы на «каралеўскі» двор, не трэба «креститься, молитвиться». Рагвалод не толькі сам прытрымліваўся язычніцтва, але і дачку сваю Рагнеду выхоўваў у тым жа духу. Гэта потым, нацярпеўшыся ў замужжы, здзейсніўшы замах на здрадзіўшага ёй Уладзіміра і апынуўшыся ў ссылцы ў Ізяслаўлі, яна прыняла хрост і пастрыглася ў манахіні. І зноў цікавы факт. Манаскае імя полацкай князёўны стала Анастасія. Ці не ў памяць аб любімай стрыечнай сястры? Хто ведае?

Звернемся зноў да быліны. Дзе адбываліся падзеі, якія прывялі да крывавай развязкі? Дзе знаходзіцца гэтая самая рака Дунай? Дунай, які летапісец Нестар згадваў, кажучы: «сидяху славяне на Дунае», быў добра вядомы на Русі. Бацька Уладзіміра Хрысціцеля, князь Святаслаў, нават меў намер у пэўны час перанесці на берагі гэтай ракі сталіцу сваёй дзяржавы. Такім чынам, звязаць паходжанне таго вялікага Дуная са смерцю нейкага, хай і магутнага багатыра, нашы продкі не маглі ні ў якім разе. А ці не магло здарыцца гэтак, што на тэрыторыі Старажытнай Русі працякаў іншы Дунай, малы? Такі, які па сваіх памерах мог асацыявацца з ракой, узніклай з крыві волата?

Сумныя падзеі, сцвярджае быліна, адбыліся пад Кіевам. Аднак у тых месцах ні рэчкі, ні ручая з такой назвай няма і ніколі не было. Але можа, сказіцелі, што перадавалі адзін аднаму на працягу стагоддзяў гэты прыгожы паэтычны сюжэт, проста «забыліся», дзе на самой справе знаходзілася месца гібелі іх герояў? І можа, зараз мы шукаем не там? На карысць гэтай гіпотэзы такі факт: за якіянебудзь паўтара дзесятка кіламетраў ад сталіцы Беларусі, каля старажытнага гарадзішча і ў наш час цячэ ручаёк з назвай Дунай. Падобнай назвы нідзе больш на тэрыторыі Старажытнай Русі не было.

Дарэчы, для беларускай тапанімікі характэрна ўтварацць назвы населеных пунктаў, узгоркаў, рэчак, азёр ад уласных імён.

У такім выпадку, магчыма, сапраўды існаваў чалавек з імем Дунай? І падзеі, што апісаны ў быліне (хай сабе і не зусім такія ў дэталях), маглі адбыцца на гэтым месцы.

Праўда, рачулка Дунай, зразумела, не магла ўзнікнуць у выніку крывавай драмы. Але нельга выключаць верагоднасць таго, што менавіта на яе берагах здзейсніў жорсткае забойства, а потым і самагубства кіеўскі волат. Кроў забойцы і яго ахвяры змяшалася з рачнымі хвалямі. А мясцовыя жыхары былі настолькі ўражаны ўсім

тым, што адбылося, што перанеслі імя волата, які тут загінуў, на рэчку.

У апошні час усё больш і больш людзей імкнецца наведаць старажытны Ізяслаўль (цяперашні горад Заслаўе). Гэта — своеасаблівае паломніцтва ў месца, дзе правяла апошнія гады свайго жыцця полацкая князёўна і кіеўская княгіня, першая ўсходнеславянская манахіня РагнедаГарыслава-Анастасія. Дык можа, з цягам часу такім месцам паломніцтва стане і старажытнае гарадзішча, якое абмываюць рэчкі Менка і Дунай, а аб'ектам пакланення — вернутая з цемры забыцця тураўская князёўна Настасся?

## Вайдэлотка

Паняцце святасці здаўна вядома нашым продкамязычнікам. Святымі называлі тых, каго лічылі выбраннікамі Нябёсаў, у чые лёсы, як здавалася, умешваліся самі багі, і гэта рабіла іх гераічнымі.

Яшчэ пры жыцці Бірутэ лічылі святой у Вялікім Княстве Літоўскім. Была яна правіцельніцай, вялікай княгіняй літоўскай і сапраўднай гераіняй беларусаў, пра што сведчаць хронікі. Жэмайцкая зямля нарадзіла Бірутэ, на Аўкштайцкай спазнала яна любоў і шчасце, а на беларускай — трывогу і славу.

Аднак гісторыю Бірутэ немагчыма расказаць, абмінуўшы словам вяршыцеля яе лёсу, адзінага мужчыну ў яе жыцці — князя Кейстута.

Кейстут быў сынам вялікага князя літоўскага Гедыміна ад другой яго жонкі, смаленскай князёўны Вольгі. Усяго ж Гедымін жаніўся тройчы, і ў шлюбах гэтых нарадзіліся сямёра сыноў і шэсць дачок. Выдаўшы замуж дачок, вялікі князь літоўскі парадніўся з правіцелямі ўсіх суседніх дзяржаў, што забяспечыла адносную бяспеку яго краіне. Лёс жа сыноў заўсёды непакоіў яго, бо, маючы розных маці, не любілі яны адзін аднаго.

Адчуўшы няўмольнае набліжэнне старасці, распавядаюць хронікі, Гедымін выклікаў аднойчы да сябе ўсіх семярых спадчыннікаў, каб зачытаць ім свой тэстамент. Згодна з гэтым дакументам, пасля смерці вялікага князя літоўскага сыны яго мусілі падзяліць дзяржаву гэтак, каб кожнаму дастаўся горад, роўна дастойны сталіцы. Выключэннем былі Альгерд і Любарт, якія, на думку бацькі, ужо мелі вартыя іх княжанні, Віцебскае і Галіцкае. Прыдбалі яны іх, ажаніўшыся з тамтэйшымі князёўнамі. Старэйшаму свайму сыну Монтвіду аддаў Гедымін горад Кернаў старажытную жэмайцкую сталіцу. Другому, Нарымонту, завяшчаў Пінск, які па заняпадзе Турава, галоўнага горада старажытнай дзяржавы дрыгавічоў, набыў на гэтых землях першаступеннае значэнне. Кейстуту былі падораны Трокі. Княжычу Карыяту дастаўся Наваградак. Вялікакняжацкі ж вянец разам з Вільняй Гедымін завяшчаў малодшаму сыну Яўнуту.

Кейстут не мог у душы згадзіцца з тым, каб здзейснілася гэтак. Бо згодна з законамі продкаў малодшы брат не можа атрымаць бацькоўскі прастол, пакуль старэйшыя жывыя.

Імя Кейстут па-літоўску значыла «хітрун». Але Кейстуту гэтая рыса характару была малаўласцівай. Затое ён быў сумленным і ў вышэйшай ступені справядлівым. Даведаўшыся, што Монтвід і Нарымонт цалкам задаволены сваёй доляй спадчыны і адмаўляюцца змагацца за вялікакняжацкі вянец, ён пасля таго, як ў 1341 годзе Гедымін загінуў

у бітве з крыжаносцамі, прапанаваў Альгерду выгнаць з Вільні Яўнута і заняць яго месца. Альгерд быў трэцім сынам Гедыміна, і ў яго з Кейстутам была адна і тая ж маці. Маючы крыўду на бацьку за тое, што той нічога не пакінуў яму з уласных уладанняў, Альгерд згадзіўся ісці на Вільню, але толькі ў тым выпадку, калі Кейстут стане яго суправіцелем.

Сыны княгіні Вольгі захапілі Вільню і падзялілі паміж сабою землі Княства, прапанаваўшы Яўнуту задаволіцца княствам з цэнтральным горадам Ізяслаўлем.

Слаўным правіцелем стаў вялікі князь літоўскі Альгерд. Падданыя захапляліся і яго смеласцю, і розумам, і рыцарскімі адносінамі як да сяброў, так і да супрацiўнікаў сваіх.

Але не менш славен быў і суправіцель яго Кейстут. За вострае пачуццё справядлівасці і высакароднасць паважалі князя нават спаконвечныя ворагі яго дзяржавы — крыжаносцы. Іх храністы пакінулі ў сваіх запісах нямала цікавага пра вялікага князя Кейстута, як, дарэчы, і беларускія храністы, і рускія летапісцы. Вось толькі некалькі гісторый.

У самым пачатку праўлення Альгерда і Кейстута Вялікім Княствам Літоўскім да іх звярнуўся брат Любарт, Галіцкія землі якога захапіў польскі кароль Казімір. Кейстут заклікаў Альгерда выступіць на дапамогу і адабраць у Казіміра незаконна захопленае. Але Альгерд чамусьці адмовіўся. Тады Кейстут, перагаварыўшы з Любартам, запрасіў Альгерда ў Трою, дзе паланіў яго. Калі зачынены ў адным з пакояў Трокскага замка, звязаны па руках і нагах Альгерд стаў гучна патрабаваць суда і справядлівасці, увайшлі ягоныя захопнікі. Гаспадар замка спакойна сказаў: «Не патрабуй справядлівасці, брат, у тых, да каго ты сам несправядлівы». Альгерд тут жа даў згоду дапамагчы Любарту войскам.

У другі раз палонным аказаўся сам Кейстут. Падчас палявання яго падсцераглі лівонскія рыцары і, выбіўшы з сядла, абяззброілі. Князя прывезлі ў Марыенбург, дзе знаходзіўся сам вялікі магістр Вінрых фон Кніпродэ, і кінулі ў цямніцу. Мужны Кейстут вёў сябе ў палоне з такой годнасцю, што турэмшчык, які быў прыстаўлены да яго, пранікся павагай да свайго вязня. Ён прапанаваў Кейстуту план уцёкаў. На працягу васьмі месяцаў князь, якога прыкрываў яго наглядчык, рабіў пралом у сцяне таемна прынесенай яму кіркай. Калі работа была скончана, вязень і ягоны турэмшчык, пераапрануўшыся ў белыя плашчы ордэнскіх братоў, выйшлі з цямніцы, вывелі са стайні коней і спакойна пакінулі горад. Дабраўшыся да Мазовіі, Кейстут як сапраўдны рыцар паспяшаўся паслаць магістру пісьмо, у якім дзякаваў

за «цёплы прыём» і «гасціннасць», запэўніваючы, што калі багі дадуць яму, Кейстуту, магчымасць калі-небудзь паланіць свайго нядаўняга гаспадара, то ён пастараецца змясціць яго за больш надзейныя і моцныя сцены.

Багі не далі Кейстуту такой магчымасці, але адпомсціць магістру за сваё паланенне ён усё ж такі здолеў. Прызначыўшы кіраўніку крыжаносцаў сустрэчу ў горадзе Інстэрбургу і разлічваючы дамовіцца з ім аб міры, Кейстут накіраваўся ў Прусію. Але каварны магістр падрыхтаваў для вялікага князя засаду ў лесе паміж Трокамі і прускімі землямі. Ад немінучай смерці князя выратаваў выпадак. Калі ён уязджаў у лес, нечакана адтуль выбег паранены стралой зубр. Кейстут зразумеў, што ў лесе хаваюцца людзі. Са сваімі ваярамі ён асцярожна абышоў засаду і, напаўшы на крыжаносцаў з тылу, перабіў іх. Пасля бою, перасеўшы на коней ордэнскіх братоў, Кейстут і яго дружыннікі накіраваліся ў Інстэрбург да месца сустрэчы.

У горадзе, пазнаўшы коней са свайго атрада, адзін з камандораў-крыжаносцаў у прысутнасці магістра не змог стрымацца і здзіўлена ўсклікнуў:

— Штага я ніколі не чакаў!

— Што ж парабіць, такія ўжо цяпер часы і норавы, — іранічна прамовіў Кейстут.

Незвычайная асоба, адважны воін, вялікі князь Кейстут павінен быў пакахаць незвычайную жанчыну. І неўзабаве багі паслалі яму яе...

У часы, пра якія мы распавядаем, літоўскае насельніцтва Вялікага Княства ў большасці сваёй пакланялася язычніцкім багам. Па ўсёй Аўкштайціі і Жэмайціі былі раскіданы іх капішчы. Адно з самых шануемых знаходзілася ў велізарным сасновым лесе, які падступаў ажно да мора (якраз там, дзе цяпер знаходзіцца горад Паланга). Прысвечана яно было багіні Праўрыме. Дзень і ноч гарэла перад ідалам гэтай багіні нязгаснае вогнішча. Падтрымлівалі яго жрыцы-вайдэлоткі, што жылі тут жа ля капішча. Абіраліся яны толькі з прадстаўніц вышэйшых саслоўяў. Усе вайдэлоткі вызначаліся прыгажосцю і строгасцю паводзін. Тыя, хто прысвячалі сябе служэнню багіні, давалі зарок нявіннасці, бо толькі нявіннай дзяўчыне, лічылася, можа адкрыць свяшчэнныя таямніцы суровая Праўрыма. Толькі зрэдку Вайдэлота дазвалялі мужчынам з'яўляцца на тэрыторыі капішча. Гэта здаралася тады, калі ўладныя мужы звярталіся да багіні як да аракула з просьбай даць адказ на якое-небудзь важнае для дзяржавы і народа пытанне.

У 1355 годзе сярод жрыц з'явілася новенькая, жэмайтка па імені Бірутэ. Невядома, якія пачуцці і памкненні прымусілі гэтае юнае

стварэнне пакінуць багаты бацькоўскі дом і поўнае вясёлых дзявочых забаў жыццё дзеля аскетычнага існавання вайдэлоткі. Але хутка слава пра набожнасць і незвычайную прыгажосць Бірутэ разнеслася па ўсім Вялікім Княстве Літоўскім. Казалі, быццам праз гэтую юную і прыўкрасную жрыцу часцей за ўсё выказвала сваю волю багіня. І нават што Бірутэ сама з'яўляецца зямным увасабленнем Праўрымы.

Пачуў пра гэта і Кейстут. Ён адразу ж «загарэўся» жаданнем паглядзець на красуню вайдэлотку ўласнымі вачыма. Цікавасць да прыгожых жанчын захавалася ў сэрцы гэтага ўжо сівога мужчыны, удаўца, бацькі пецярых дарослых дзяцей.

Не знайшоўшы ніякай сур'ёзнай прычыны для таго, каб наведаць свяцілішча, вялікі князь пайшоў на хітрасць. Ён сабраўся на паляванне ў тыя мясціны і быццам бы заблукаў, адстаў ад сваіх паплечнікаў. Кейстуту ўдалося таемна паназіраць за вайдэлоткамі, якія выконвалі адзін з абрадаў пакланення багіні. Жрыцы былі амаль аднаго росту. Усе стройныя і прыгожыя, усе аднолькава апранутыя ў белыя даўгія сукенкі, зялёныя фартухі са званочкамі, усе з зялёнымі дубовымі вянкамі на галовах. Многія з вайдэлотак былі маладымі. Але ён адразу зразумеў, якая з іх Бірутэ. Бо сапраўды побач з яе прыгажосцю бляклая краса ўсіх астатніх.

Кажуць, што калі чалавек сталых гадоў па-сапраўднаму закахаецца, то пачуццё гэтае будзе значна мацнейшым і больш трывалым, чым у юнака. Сівы Кейстут закахаўся з першага погляду ў юную Бірутэ. Не спыніў яго нават страх перад помслівымі служкамі багіні Праўрымы. Вялікі князь літоўскі падсцярог прыгажуню жрыцу, калі тая адна гуляла па беразе мора, пад'ехаў да яе на кані і звярнуўся з такімі словамі:

— Не ведаю, хто ты — багіня нябесная ці зямная дзяўчына. Калі ты дзяўчына, будзь маёй жонкай. Я — вялікі князь, але з гэтага часу буду табе верным слугой.

Бірутэ адказала не адразу, доўга любуючыся мужным тварам Кейстута, яго волатаўскім станам, моцнымі, прыгожымі рукамі.

— Нават калі б я жадала гэтага, — з уздыхам нарэшце прамовіла яна, — усё роўна я не змагла б выканаць тваю волю, князь. Я — вайдэлотка і дала багам зарок захоўваць чысціню і нявіннасць да скону.

І сапраўды, жрэцкі закон быў надта суровым для тых вайдэлотак, якія наўмысна альбо выпадкова яго парушалі. Калі жрыца была ахвярай гвалту — яе вешалі аголенай на самым высокім дрэве ў свяшчэнным гаі, каб ветры здулі, дажджы змылі, а сонца выпаліла з яе цела сляды зняслаўлення. Калі вайдэлотка парушала дадзеныя ёю зарокі дзеля таго, каб пайсці замуж, яе жывою закопвалі ў зямлю.

Самае ж страшнае пакаранне было прызначана тым, якія сыходзіліся з мужчынамі дзеля задавальнення сваіх страсцей. Такіх зашывалі ў скураны мяшок з каменнямі разам з жывымі сабакам, катом і некалькімі змеямі і кідалі ў раку ці ў мора.

Кейстут выдатна ведаў што кахаць вайдэлотку яму нельга. Але гэтага не ведала яго сэрца. Вялікі князь вырашыў, што яго становішча і ўлада дапамогуць дабіцца жаданай дзяўчыны, якая з такім захапленнем глядзела на яго, вымаўляючы словы адмовы. Ён пайшоў да вайдэлотак і сумленна прызнаўся ім, што палюбіў Бірутэ і хоча зрабіць яе вялікай княгіняй. Жрыцы вельмі абурыліся і рашуча патрабавалі, каб Кейстут неадкладна пакінуў свяцілішча.

Гэтай жа ноччу разам са сваімі людзьмі князь напаў на жытло вайдэлотак, схапіў Бірутэ і, кінуўшы яе ўпоперак сядла, паскакаў у Трокі. У прыгожым палацы на востраве сярод возера Гальвы сівы воін падарыў красуні шчасце зямнога кахання. Пасля гэтага ў вайдэлоткі ўжо не было шляху назад. Бірутэ згадзілася на шлюб.

Ішоў час, і яна з кожным днём усё больш і больш захаплялася сваім нечаканым мужам. У яго была высакародная пастава, вельмі выразныя вочы. Своеасаблівым упрыгажэннем была доўгая барада, якую Кейстут адпусціў яшчэ ў маладосці. Бірутэ таксама спадабаліся смеласць і дабрадушнасць, гасціннасць, адкрытасць, сумленнасць яе мужа. Хутка яна пакахала яго гэтак жа горача і шчыра, як і ён яе. Праз год прыгажуня падарыла мужу першае дзіця — сына, якога назвалі Вітаўтам.

Гэта быў самы шчаслівы час у жыцці Кейстута. Мала было людзей у Вялікім Княстве Літоўскім, хто б не зайздросціў вялікаму князю.

Адно за адным нараджаліся дзеці ў шчаслівай пары: сыны Таўцівіл і Жыгімонт, дочкі Дайнітэ і Рынгале. Яны раслі, набіраючыся бацькавай адвагі і матчынай прыгажосці. Здавалася, шчасце будзе бясконцым. Але...

У 1377 годзе памірае Альгерд. Згодна з дамоўленасцю братоўсуправіцеляў, у выпадку скону аднаго з іх новым суправіцелем мусіў стаць сын нябожчыка. Альгерд завяшчаў свой прастол сыну Ягайлу. Ягайла лічыўся лепшым сябрам першынца Бірутэ, Вітаўта, і таму Кейстут не сумняваўся, што паладзіць з пляменнікам. Але праз пэўны час старому князю стала вядома, што Ягайла задумаў супраць яго нядобрае. Пачалося ўсё з таго, што Альгердаў сын падпаў пад уплыў маладога літоўца Вайдылы, які пры Альгердзе служыў конюхам. Вайдыла валодаў дзіўным, невытлумачальным дарам схіляць да сябе людзей і падначальваць сваёй волі. Супраціўляцца было цяжка нават людзям самастойным, энергічным і валявым. Загадкавыя здольнасці

Вайдылы падзейнічалі не толькі на Ягайлу, але і на яго маці, удаву Альгерда Ульяну, і на сястру, Марыю Альгердаўну. Апошняя без памяці закахалася ў Вайдылу, а яе маці і брат на здзіўленне ўсяго Вялікага Княства Літоўскага дазволілі князёўне ўступіць у шлюб з конюхам.

Кейстут, а за ім і Бірутэ былі глыбока абураны. Саюз пляменніцы з Вайдылам бачыўся ім найвялікшай ганьбай для ўсяго роду з тых, якія толькі можна сабе ўявіць. Стары князь дэманстратыўна аддаліўся ад Ягайлы. Зрэшты, ён не збіраўся ні словам, ні справай шкодзіць Ягайлу. Але Вайдыла змог унушыць брату сваёй жонкі, што Кейстут, верагодна, будзе спрабаваць адабраць у Ягайлы ўладу, і параіў заключыць саюз са спрадвечнымі ворагамі сваёй дзяржавы — крыжаносцамі, каб мець пад рукой надзейную сілу. Пры гэтым Вайдыла не скрываў, што сам прэтэндуе на землі, падуладныя Кейстуту.

Крыжаносец, астрожскі комтур Гунстын, які даводзіўся Кейстуту і Бірутэ кумам, паспяшаўся паведаміць пра небяспеку.

— Ты таго не ведаеш, — сказаў ён Кейстуту, — як часта вялікі князь Ягайла пасылае да нас Вайдылу, і ўжо падпісаў Вайдыла з намі дамову, каб цябе пазбавіць тваіх гарадоў, каб яны дасталіся яму разам з сястрой Ягайлы.

Кейстут быў уражаны. У апошні час тыя землі Вялікага Княства Літоўскага, якія па дамове з Альгердам дасталіся яму ў кіраванне, усё часцей цярпелі ад нападаў каварных і жорсткіх рыцараў. Крыжаносцы займалі яго гарады і сёлы, рабавалі, звозілі ў палон маладых мужчын і жанчын, забівалі нямоглых, старых і малых дзяцей. Войска Кейстута, якое было вымушана знаходзіцца ў пастаяннай баявой гатоўнасці, каб адбіваць удары ордэнскіх братоў, ужо знемагала ў няроўнай барацьбе. Аднак Ягайла ні разу не прыйшоў на дапамогу свайму дзядзьку. Цяпер прычына гэтага стала зразумелай.

Кейстут вырашыў весці сваіх ваяроў на Вільню. Яму ўдалося напасці знянацку і пасля непрацяглай сутычкі захапіць Ягайлу ў палон разам з яго маці, сястрой і Вайдылам. Падчас стараннага вобыску ў замку быў знойдзены арыгінал той граматы, пра якую распавёў Кейстуту і Бірутэ Гунстын.

«Вялікі князь літоўскі Ягайла абяцае Тэўтонскаму ордэну ў Прусіі і Лівоніі, — гаварылася ў ёй, — поўны спакой і бяспеку як землям, так і людзям. Калі Ордэн пойдзе вайною на Кейстута альбо яго дзяцей... вялікі князь не дапусціць ваенных сутычак з Ордэнам і ніякай крыўды ордэнскім войскам чыніць не стане»...

Здрада была даказана. Але Кейстут баяўся здзейсніць несправядлівасць. Ён не пакараў смерцю пляменніка, паверыўшы ягонай клятве, што ў далейшым той ніколі больш не ўздыме меч на Кейстута.

Ягайлу разам з яго маці і сястрой выслалі ў Віцебск, абмежаваўшы ва ўладзе, якая мусіла распаўсюджвацца цяпер толькі на землі Віцебскага княства. «Чарадзея» ж Вайдылу па загаду Кейстута павесілі. Кейстут абвясціў сябе адзіным паўнаўладным правіцелем Вялікага Княства Літоўскага, але міра і спакою, на якія ён разлічваў, не надышло.

Апынуўшыся ў Віцебску, Ягайла пад націскам маці і сястры адразу ж пачаў рыхтавацца да помсты. Ён накіраваў малодшага брата Свідрыгайлу да магістра Ордэна з просьбай аб дапамозе і прапановай здаць за гэта ўсё Вялікае Княства Літоўскае крыжаносцам.

Ордэнскія браты выбралі для выступлення зручны момант, калі Кейстут вымушаны быў ісці паходам на Ноўгарад-Северскі, дзе яшчэ адзін брат Ягайлы, Карыбут абвясціў пра сваё нежаданне падпарадкоўвацца вялікаму князю літоўскаму. Як толькі крыжаносцы ўступілі на землі Княства, Ягайла таемна прабраўся ў Вільню, якую ахоўваў Вітаўт. Камандзір віленскага гарнізона немец Гануль па-здрадніцку адчыніў яму браму сталіцы. Нешматлікая дружына Вітаўта была разбіта, а сам ён збег у Гародню, паспеўшы на шляху сваім толькі ненадоўга заехаць у Трокі, каб вывезці сваю маці Бірутэ.

Калі звесткі пра гэта дайшлі да Кейстута, ён тут жа развярнуў сваё войска. У Гародні бацька і сын пасля нядоўгай нарады пачалі спешна збіраць дадатковыя сілы для падаўлення выступлення Ягайлы. Заклікаўшы на дапамогу свайго мазавецкага зяця, мужа Дайнітэ Януша, стары Кейстут паехаў у Жэмайцію збіраць сярод самых верных сваіх падданых, жэмайтаў, раць. Вырашана было, што Вітаўт застанецца ў Гародні фарміраваць войска. Бірутэ ж як сапраўдная жонка і маці воінаў узялася сабраць атрад у Бярэсці. Аднак усе адбылося не так, як задумвалася.

Першы нечаканы і даволі адчувальны ўдар нанёс Януш Мазавецкі. Замест таго, каб падтрымаць у цяжкую хвіліну цесця, ён вырашыў скарыстаць гэтую самую цяжкую хвіліну, каб захапіць і далучыць да сваіх уладанняў частку земляў Кейстута. Януш дачакаўся, калі берасцейскае воінства, сабранае Бірутэ, пакінула горад, накіравалася на злучэнне з гарадзенскімі воямі Вітаўта, і напаў на берасцейскія землі. Янушу ўдалося лёгка захапіць Драгічын, Сураж, Бельск. Нарэшце мазуры падышлі пад сцены Бярэсця. Мазавецкі князь добра ведаў, што Бірутэ яшчэ не пакінула горада. Але ён зусім не браў у разлік жончынай маці, лічачы, што слабая жанчына нават і спрабаваць не будзе супраціўляцца яму.

Януш Мазавецкі памыліўся. Даведаўшыся пра здраду зяця, саракагадовая вялікая княгіня заклікала берасцейцаў трымаць абарону да апошняга. Узыходзячы падчас штурмаў на гарадскія сцены, яна

пасылала праклёны ў бок Януша і яго ваяроў, прадказваючы ім хуткую і бясслаўную пагібель. У белай сукенцы вялікая княгіня была надта ж добрай мішэнню для ворагаў. Але ніводная з мазавецкіх стрэл, якія густа падалі вакол яе, нават не зачапіла Бірутэ. Быццам зачараваная, стаяла жанчына на гарадской сцяне, узнімаючы рукі да нябёсаў, сярод крыві і смерці. І гэтыя кроў і смерць абміналі яе.

Гледзячы на сваю княгіню, берасцейцы біліся з падвойнай сілай. Біліся з верай у перамогу. Біліся некалькі дзён ад святла да цемры. І яны выстаялі да таго часу, калі пад сцены Бярэсця падаспелі войскі малодшага брата Кейстута, Любарта. Адагнаўшы мазавецкія войскі ад горада, Любарт разам з Бірутэ выступіў наўздагон Янушу, каб вызваліць іншыя захопленыя ім гарады. Бірутэ скакала на кані побач з Любартам. Яна знарок адмовілася апранаць надзейныя даспехі, кажучы, што яе белая сукенка хутчэй увядзе зяця ў паніку. «Праводзіўшы» мазавецкага князя да граніцы, Бірутэ пажадала вярнуцца ў Бярэсце.

Наступным ударам Кейстуту і Бірутэ стала незразумелая адмова жэмайтаў выступіць супраць крыжаносцаў. Кейстуту давялося ісці супраць Ягайлы з сіламі разоў у пяць меншымі. Дзядзька і пляменнік сустрэліся пад Трокамі. І хоць перавага была яўна на баку Ягайлы, ён чамусьці баяўся ўступіць у бой. Можа, баяўся таго, што вопыт і воінскае майстэрства Кейстута дапамогуць яму перамагчы і пры такім раскладзе сіл?

Як бы там ні было, Ягайла вырашыў не рызыкаваць, а дзейнічаць напэўна. Ён выклікаў дзядзьку на перагаворы. Але як толькі Кейстут з сынам Вітаўтам і самымі
вернымі паплечнікамі ўехалі ў Вільню, дзе планавалася правесці перамовы, іх схапілі людзі Ягайлы. Сівога Кейстута тут жа перавезлі ў Крэўскі замак, дзе зачынілі ў вежы. Вітаўта кінулі ў скляпенне Віленскага замка.

Ягайла яшчэ раздумваў, што яму зрабіць з палоннымі родзічамі, калі да яго ўся ў слязах кінулася ў ногі сястра Марыя. Яна маліла павесіць Кейстута гэтак жа, як той павесіў за здраду яе мужа Вайдылу. Няхай загіне і Вітаўт, бо інакш ён будзе помсціць за бацьку. Трэба загубіць таксама і Бірутэ, якую пасля паланення мужа і сына, таемна прабраўшыся ў Бярэсце, выкралі верныя слугі Ягайлы.

Марыя Альгердаўна нават прыдумала, як адпомсціць цётцы. Яе трэба выдаць вайдэлоткам, якія даўно ўжо чакаюць, як бы дабрацца да той, якая парушыла зарок цнатлівасці.

Ягайла дазволіў сястры ўгаварыць сябе. Але ён цвёрда сказаў, што пра публічнае ганебнае пакаранне Кейстута гаворкі быць не можа, і аддаў загад таемна ўмярцвіць дзядзьку ў цямніцы. І вось на пяты

дзень пасля таго, як Кейстут трапіў у Крэва, яго задушылі ў вязніцы турэмшчыкі. З выкананнем прысуду Вітаўту Ягайла марудзіў. Жадаючы, верагодна, спачатку зламаць яго волю, перавёў у турму, дзе забілі яго бацьку. Але адтэрміноўка гэтая дала магчымасць Вітаўтавай жонцы наладзіць мужу ўцёкі.

Бірутэ нічога гэтага яшчэ не ведала, калі яе, звязаную па руках і нагах, прывезлі да капішча багіні Праўрымы. Вярхоўная жрыца пастанавіла ўтапіць былую вайдэлотку, зашыўшы разам з ёю ў мяшок ката, сабаку і змей. Але Бірутэ, калі ёй аб'явілі прысуд, не спалохалася і рашуча выступіла ў сваю абарону. Ёй удалося даказаць, што за свой учынак яна заслугоўвае менш ганебнага пакарання, бо ўтапленню разам з агіднымі жывёламі падлягаюць толькі вайдэлоткі-распусніцы. Яна ж не распусніца, бо сумленна выйшла замуж за свайго выкрадальніка. Калі багіня лічыць яе вінаватай, то Бірутэ гатовая жывой легчы ў зямлю. Пры гэтых словах вялікай княгіні сярод яснага неба ўдарыў пярун, і маланка, бліснуўшы, упілася ў камень каля ног ідала Праўрымы. Калі знямелыя вайдэлоткі апрытомнелі, дык расцанілі гэта як знак Нябёсаў, якія даруюць Бірутэ.

Вайдэлоткі адпусцілі вялікую княгіню на свабоду. Хутка ёй стала вядома пра гібель мужа і пра тое, што Ягайла загадаў пакараць лютай смерцю ўсіх яе родзічаў. Вітаўт, адзінае спадзяванне Бірутэ, хоць і ўратаваў сваё жыццё, але мусіў прасіць прыстанку ў Мазовіі, у ненавіснага Бірутэ зяця Януша. Малодшыя сыны трапілі ў залежнасць ад Ягайлы і не маглі без рызыкі для сябе прыняць маці. Вялікай княгіні заставалася толькі адно — успомніць пра моц і веліч багіні Праўрымы, якая прызнала яе чыстай і бязвіннай перад вачыма ўсіх жрыц свяцілішча, і заявіць, што яна жадае вярнуцца ў кола вайдэлотак. Ёй, выбранніцы Нябёсаў, не пасмелі адмовіць у гэтым.

Бірутэ пражыла яшчэ шмат гадоў. Памерла яна ў глыбокай старасці ў 1416 годзе. Вайдэлота з вялікімі ўшанаваннямі пахавалі яе на адным з прыбярэжных узвышшаў непадалёк ад свяшчэннага капішча Праўрымы, таго самага, адкуль яна калісьці была выкрадзена закаханым Кейстутам.

## Жанчына – легенда

У 1508 годзе ў Вялікім Княстве Літоўскім з вуснаў у вусны перадавалася кур'ёзная гісторыя сватаўства князя Міхала Глінскага, славутага пераможцы крымскіх татараў пад Клецкам, фаварыта нядаўна памерлага караля польскага і вялікага князя літоўскага Аляксандра. Прыгажун, скарыцель многіх жаночых сэрцаў, аб'ект увагі ўсіх ліцвінскіх паннаў на выданні, князь Глінскі прапанаваў сваю руку і сэрца ўдавіцы. І яна яму адмовіла! Не жадаючы мірыцца з гэтым, настойлівы жаніх прывёў войскі пад сцены горада сваёй абранніцы, каб сілаю дабіцца яе прыхільнасці, але нявеста адагнала яго гарматамі.

— Ці варта, пане, было рызыкаваць сваім гонарам і войскам дзеля кабеты? — спыталіся паплечнікі Глінскага.

— Дзеля яе — варта, — адказаў ён.

Імя гэтай жанчыны — княгіня Анастасія Слуцкая. І сапраўды, была яна асобай выключнай, з ліку тых, якіх пасылаюць нябёсы кожнаму народу не больш дзесятка ў стагоддзе.

Княгіня Анастасія нарадзілася каля 1475 года ў Мсціславе ў сям'і, якая ганарылася подзвігамі продкаў у гонар Айчыны і сваёй вернасцю праваслаўю. Прадзед Анастасіі Лугвэн Сямён Мсціслаўскі ўдзельнічаў у славутай Грунвальдскай бітве, дзе кіраваў Мсціслаўскім, Аршанскім і Смаленскім палкамі, мужнасць і непахіснасць якіх шмат у чым вырашылі зыход усёй бітвы. Прапрадзедам жа быў сам вялікі князь літоўскі Альгерд.

Мсціслаў часоў Анастасіі быў буйным абарончым цэнтрам. Бацька яе, князь Іван Мсціслаўскі меў «пад сваёй рукою» вялікае добра абучанае войска. У якасці ваяводаў запрашаў ён служыць у Мсціслаў нават людзей роўнага з ім стану — князёў. Канешне, трэба заўважыць, што князі гэтыя паходзілі са збяднелых родаў, таму вымушаны былі зарабляць на ўтрыманне сваіх сем'яў. Бацька Міхала Глінскага, князь Леў — адзін з іх. А гэта значыць, што з самага ранняга дзяцінства будучы герой Клецкай бітвы мог назіраць за князёўнай мсціслаўскай, што расла ў надзейна абароненым горадзе бацькі побач са сваёй малодшай сястрой Ульянай, нібы пяшчотная кветка ў садзе ўсходняга правіцеля.

Ці звяртала ўвагу дзяўчынка Анастасія на сына служылага князя Глінскага, які быў усяго на пяць гадоў старэйшым за яе? Наўрад ці. Спачатку яна была вельмі малой, а пасля ў яе жыццё ўвайшло гора. У васьмігадовым узросце Анастасія асірацела. Князь Іван Мсціслаўскі памёр у 1483 годзе, а ўжо ў наступным, 1484 годзе, Міхал Глінскі пакінуў Мсціслаў.

Збяднелым бацькам яго ўдалося выгадна зладзіць шлюб старэйшай дачкі Федкі з Марцінам Храбтовічам, праз грошы якога род атрымаў магчымасць зноў узняцца. Радня Федкінага мужа паспрыяла таму, каб юны Міхал паехаў за мяжу атрымліваць неабходныя для шляхціца веды ў тамтэйшых універсітэтах. Вярнуўся ж ён на радзіму толькі праз дванаццаць гадоў, калі дваццацігадовая Анастасія ўжо была замужняй.

Пайшла яна за бліжэйшага родзіча, стрыечнага брата Сямёна Міхайлавіча Алелькавіча, прычым не па дынастычных разліках, а па ўзаемнай прыхільнасці. Сапраўды, гэтыя двое як найлепш падыходзілі адно аднаму. Абое — праваслаўныя, абое — «са слаўнага Альгердава гнязда», аднолькавыя аматары паляванняў і вясёлых забаў на вольным паветры.

Было яшчэ нешта, што спрыяла іх узаемаразуменню: ранняе сіроцтва. Вырастаючы без бацькоўскага нагляду і ласкі, Анастасія сустрэла чалавека, які гэтаксама, як і яна, зведаў сіроцтва. Бацька Сямёна Алелькавіча, князь Міхал быў асуджаны на смерць за ўдзел у змове супраць караля польскага, вялікага князя літоўскага Казіміра IV. Незадаволеныя пракаталіцкай палітыкай свайго сюзерэна, праваслаўныя магнаты зрабілі спробу забіць Казіміра, пасля чаго прастол у Вялікім Княстве Літоўскім мусіў заняць Міхал Алелькавіч.

Але змова была выкрыта, і змоўшчыкі ў 1482 годзе схілілі свае галовы пад меч ката. Цудам удалося адмаліцьадплакаць Міхалавай жонцы Ганне Мсціслаўскай, роднай цётцы Анастасіі, у Казіміра IV права на спадчыну сыну. Адшкадаваў кароль юнаму Сямёну Слуцк і Капыль — частку ўладанняў бацькі.

Да паўналецця сына ціха жыла княгіня-ўдава, памятала, што сям'я яе ў апале. І толькі ў Мсціслаў час ад часу выбіралася да сям'і памерлага брата Івана. Там Сямён з Анастасіяй убачыліся ўпершыню і закахаліся. Калі ж надышоў час шукаць Сямёну нявесту, маці яго ўжо нават і не абмяркоўвала з сынам, куды сватоў засылаць. Знатных родаў на Беларусі шмат. Ды трэба ж, каб побач з Сямёнам аказалася тая адзіная, якая здолее зрабіць яго шчаслівым і ніколі не папракне бацькам-«здраднікам». Хто ж гэта, калі не Анастасія Мсціслаўская!

А што сям'я нявесты? Страціўшы карміцеля, княгінямаці мусіла жыць разам з дачкамі ў горадзе, які афіцыйна ўжо не лічыўся іх уласнасцю. З-за адсутнасці ў Анастасіі і Ульяны Мсціслаўскіх брата Мсціслаўскія ўладанні адышлі да земляў што належалі Казіміру IV. Каб не выклікаць на сябе ягоны гнеў, сіроты князя Івана павінны былі б выйсці за людзей, у якіх былі б з гаспадаром добрыя адносіны. З гэтага пункта гледжання шлюбны звязак з Алелькавічамі быў вельмі

непажаданы. І тым не менш, Анастасія стала жонкай Сямёна, настолькі вялікай была сіла іх кахання.

У 1462 годзе паміж Вялікімі пастамі на Нараджэнне Хрыстова па праваслаўным календары згулялі вяселле. Сціплае, каб не прыцягваць увагі Казіміра IV. А ў чэрвені гэтага ж года кароль памёр.

Сямён Алелькавіч вырашыў, што надышоў час заявіць пра сябе. Вельмі хутка ён звязаўся з шэрагам праваслаўных магнатаў і заручыўся іх падтрымкай. На выбарчы сейм у Вільню апальны сын князя, афіцыйна абвешчанага «здраднікам», прыбыў на чале коннага загона ў пяцьсот вершнікаў. Праваслаўная шляхта назвала менавіта яго сваім кандыдатам на прастол.

Гэта была смелая спроба вярнуць Вялікаму Княству Літоўскаму статус пераважна праваслаўнай дзяржавы, не маючай ніякай залежнасці ад каталіцкага Каралеўства Польскага. Але ў часы Казіміра ціск на праваслаўе быў такім вялікім, што многія ліцьвіны палічылі за лепшае перайсці ў каталіцтва, і цяпер ім было нявыгадна княжанне праваслаўнага Алелькавіча. Таму яны прагаласавалі за сына нябожчыка Казіміра, каралевіча Аляксандра.

Зрэшты, як бы там ні было, князь Сямён здолеў вярнуць сабе павагу і статус. Новы вялікі князь літоўскі зразумеў, што з гэтым васалам яму давядзецца лічыцца. І ён заплюшчыў вочы на ўсё, што датычыла кіравання Алелькавічам яго гарадамі. Таму хутка энергічны Сямён Міхайлавіч змог утварыць моцнае і вельмі мала залежнае ад улады Аляксандра Слуцкае княства, буйны цэнтр праваслаўя. Дзеля чаго стараўся князь Алелькавіч? Дзеля ўласнага гонару і дзеля маленькага сына Юрыя, якога ў канцы таго ж 1492 года Анастасія нарадзіла яму. Бацька хацеў, каб сыну яго можна было жыць, не баючыся, што хтосьці стане ўшчамляць яго асобу з-за веравызнання.

Але трэба сказаць, што ў 1496 годзе з'явілася надзея на тое, што праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім усё ж зможа стаць роўным каталіцтву. Аляксандр, жадаючы раз і назаўжды замірыцца з Масквою, войны з якой сур'ёзна спусташалі яго дзяржаву, пасватаўся да дачкі вялікага князя маскоўскага Івана ІІІ, Алены, і атрымаў згоду. Адзінай умовай Масквы было захаванне князёўнай праваслаўнай веры.

Вестка была ўспрынята з радасцю і энтузіязмам праваслаўнымі ліцвінамі, бо яны думалі, што аднаверка будзе за іх заступацца. Князь Сямён мог разлічваць, што Алена Іванаўна, ствараючы ў Вільні свой уласны двор, абярэ фрэйлінамі праваслаўных шляхцянак. У такім выпадку Анастасія як жонка чалавека, які зусім нядаўна прэтэндаваў на вялікакняжацкі прастол і з'яўляўся лідэрам праваслаўнай апазіцыі,

мела больш, чым хтосьці іншы, правоў стаць першай дамай двара вялікай княгіні.

Але гэтак не атрымалася. Маскоўская князёўна прывезла з сабою гатовы двор, які складаўся з рускіх баярынь ды дваранак. Праўда, вельмі хутка Аляксандр, западозрыўшы, што некаторыя з іх з'яўляюцца шпегамі Івана III, адаслаў усіх назад у Маскву. На іх месцы ён сам назначыў ліцвінскіх магнатак, пераважная большасць якіх была каталічкамі, а іншыя — жонкамі католікаў.

І ўсё ж з'яўленне праваслаўнай вялікай княгіні прынесла карысць сям'і Алелькавічаў. Неўзабаве Аляксандр па просьбе жонкі вярнуў Мсціслаўскім права на спадчыну князя Івана. Спачатку агаворвалася, што княгіня-ўдава і яе незамужняя дачка Ульяна будуць карыстацца ўласнасцю роду да сваёй смерці без права перадаць яе камунебудзь у спадчыну. А пазней, знайшоўшы для сястры Анастасіі мужа адной з ёю веры, Міхала Заслаўскага, Аляксандр перадаў правы на Мсціслаўскае княства яму, дазволіўшы ўзяць прозвішча жонкі і стаць князем Мсціслаўскім.

Зрэшты, справы палітыкі і дынастычныя ракіроўкі зусім мала цікавілі маладую слуцкую княгіню. Яна была выхавана гэтак, каб быць проста жонкай і маці, каб ператварыць мужаў церам ва ўтульнае сямейнае гняздзечка, каб займацца справамі духоўнасці ў сваёй сям'і. Ды, пэўна, і ўвайшло б яе імя ў гісторыю толькі як імя адной з бязлікіх княжацкіх жонак, звычайнай прадаўжальніцы роду, калі б не варожая навала.

Гэта былі крымскія татары. Упершыню з імі, паводле дадзеных хронік, Алелькавічы сутыкнуліся летам 1502 года. Татары пераправіліся цераз Прыпяць і пачалі рабаваць беларускія вёскі на поўнач ад гэтай ракі. Атрад князя Сямёна, аб'яднаўшыся з часткай вялікакняжацкіх войскаў пад кіраўніцтвам Яна Бучацкага, тэрмінова пасланых Аляксандрам на дапамогу случчакам, разбіў паўтарасоценны атрад татар на рацэ Уша.

Трохі пазней, у канцы жніўня гэтага ж года, шасцітысячнае татарскае войска, якое вёў сын перакопскага хана Менглі-Гірэя, султан Біціс-Гірэй, падышло да Слуцка. Напад быў такім імклівым, што ад нечаканасці князь Сямён не змог даць дастойны адпор. Ворага ён пабачыў выпадкова, «зірнуўшы з замка, з царквы святога Юр'я». Татары занялі горад, але частка жыхароў паспела зачыніцца ў княжацкім замку, і ён вытрымаў штурм.

Аднак страху Анастасія нацярпелася. Больш двух тыдняў назірала яна з вокнаў замка спачатку за тым, як татары хапалі случчакоў, вязалі іх, рыхтуючы весці ў палон, а пасля — як прыводзілі ў Слуцк

палонных з іншых беларускіх гарадоў: Клецка, Нясвіжа, Наваградка, Ішкальдзі. Бо Біціс-Гірэй вырашыў ператварыць захоплены Слуцк у своеасаблівы лагер, адкуль яго воі здзяйснялі б набегі і куды б пасля іх вярталіся. Па начах сын слуцкай княгіні прачынаўся ад дзікіх крыкаў і рогату чужынцаў. Час ад часу да княгіні даносіўся плач чарговай згвалтаванай ахвяры татараў.

Гэты жах скончыўся гэтак жа нечакана, як і пачаўся. У адзін цудоўны дзень татары проста сабралі свае шатры, сагналі ў адну даўгую вераніцу палонных і пакінулі гэтыя мясціны. Дыхнула холадам восень, і чужынцы паспяшаліся вярнуцца ў свае цёплыя краі.

Ці не пасля гэтых падзей княгіня Анастасія загадала збройніку выкаваць ёй кальчугу? Ці не тады цвёрда вырашыла гэтая гордая жанчына, што хутчэй загіне баронячыся, чым дасць ворагам захапіць сябе ў палон? Ці не тады пачала яна старанна навучацца майстэрству бліжняга бою?

Зіма і вясна прайшлі ў напружанай падрыхтоўцы. Інтуіцыя не падманулагаспадароў Слуцка: новы татарскі набег адбыўся наступным летам. Ворагі палілі Нясвіж, Клецк і Наваградак. Асобныя атрады іх накіраваліся да Менска і Лагойска. Раптоўна трохтысячны атрад татараў з'явіўся і пад Слуцкам. На гэты раз усё было загадзя падрыхтавана для адпору. Праўда, князь Сямён знаходзіўся ў ад'ездзе, але яго месца заняла Анастасія, хаця была ў той час цяжарнай.

Апрануўшыся ў даспехі, слуцкая княгіня вывела войскі супраць татар у поле. І яны былі адкінуты ад сцен горада. А за Прыняццю іх дагнаў, падаспеўшы з атрадамі Станіслава Кішкі, Альбрэхта Гаштальда і Юрыя Неміровіча, князь Сямён, які і скончыў распачатую жонкай справу, як піша летапісец, «идеже погромиша их и полон отъяша».

Зімой таго ж 1503 года ці ў самым пачатку 1504 года слуцкая княгіня нарадзіла другое дзіця — дзяўчынку Аляксандру.

У сярэдзіне жніўня 1505 года стары знаёмы БіцісГірэй зноў наведаўся «ў госці» да случчакоў. Горад адбіў некалькі атак. Татары рабілі спробы падпаліць горад, узарваць умацаванні. Але гэта ім не ўдалося. Як паведамляе Іпацьеўскі летапіс: «И хотяху татаре взяте Случеск и не могоша, биша бо их из града крепко».

Дзякуючы выдатна наладжанай абароне, Біціс-Гірэю давялося зняць асаду. Але вяртаючыся ў Крым, татары пакінулі на гэты раз у Вялікім Княстве Літоўскім не толькі разбураныя гарады і сёлы, але і страшэнную хваробу — халеру. Эпідэмія забрала жыцці многіх людзей. Захварэў і князь Сямён. Не дапамаглі ні маленні, ні знахарскае

майстэрства. «Тою ж восенню месяца лістапада 14 дня, з серады на чацвер», як распавядае «Хроніка Быхаўца», Анастасія аўдавела.

Перад смерцю Сямён прызначыў менавіта жонку апякункай дванаццацігадовага сына, і таму на слабыя жаночыя плечы раптам ляглі ўсе справы Слуцкага княства. Без верных паплечнікаў, без народнай любові ўладу не ўтрымаць, тым больш жанчыне, тым больш у час небяспекі.

Ці вялікай была ступень даверу случчакоў да сваёй княгіні? Усё вельмі адносна. Уладны і ганарлівы Алелькавіч, безумоўна, меў прыхільнікаў у сваім горадзе, але сярод іх, пэўна, не было верных сяброў, бо выбар апякунства тады наўрад ці прыпаў бы на Анастасію. Альбо, можа, сябры былі, але з ліку людзей нязнатных, якія па законах не маглі быць прызначаны часовымі, да паўналецця княжыча, кіраўнікамі княства?

Слуцкія баяры надзейнымі дарадчыкамі для Анастасіі быць не маглі па некалькіх прычынах. Баярам не падабалася самастойнасць і незалежнасць Алелькавіча. А многіх уплывовых случчакоў не задавальняла і тое, што ў сувязі з нападам татар князь Сямён пайшоў на такі смелы крок, як адмена Магдэбургскага права — права гарадскога насельніцтва на самакіраванне, дадзенага Слуцку вялікакняжацкім прывілеем у 1441 годзе.

Але княгіня знайшла для гараджан належныя словы, каб запэўніць іх у неабходнасці перад тварам усеагульнай небяспекі падпарадкоўвацца яе загадам. Мала таго, Анастасія, як калісьці яе бацька, Іван Мсціслаўскі, вырашыла запрасіць у Слуцк на службу надзейных ваяроў з ліку беларускай шляхты. Ім даверыла яна сваё войска. Яны здолелі як мага лепш падрыхтаваць горад да новага татарскага нападу. А здарыўся ён у ліпені 1506 года. Кня-гіня была яшчэ ў жалобе. На гэты раз Біціс-Гірэй прыйшоў не адзін, а з братам, перакопскім царэвічам Бурнашам.

У той дзень, калі шматлікія ворагі з'явіліся пад сценамі Слуцка, было свята Узнясення Дзевы Марыі. У храмах гудзелі званы. І святочнае гэтае гудзенне раптам перайшло ў набат. Княгіня выйшла перад случчакамі і «абавязала клятваю і просьбаю... каб адзінага дзедзіча свайго (княжыча Юрыя — Аўт.) ад гвалту паганскага цвёрда баранілі».

Дваццацітысячнае войска татар, кіраўнікам якога ўжо было вядома, што гаспадара Слуцка няма ў жывых і што ў горадзе «толькі княгіня была», неаднаразова хадзіла на штурм, «падкопы робячы ды агонь падкладаючы». Але перамогі Біціс-Гірэй і на гэты раз не атрымаў. Са сцен асаджанага Слуцка ўдава князя Сямёна, апранутая ў даспехі, кіравала абаронай. Ворагі адышлі ні з чым. «Хроніка

Быхаўца» канстатуе: «Мноства татар пад замкам палягло, бо шмат шляхты ды іншых князёў на той час у княгіні Настассі ў Слуцку служыла».

Але татары не думалі здавацца. Ад Слуцка яны рушылі на Клецк, дзе і разбілі галоўны лагер. Адтуль у розныя бакі распаўзліся невялікія атрады рабаўнікоў. Адзін з такіх атрадаў зрабіў замах на капыльскія ўладанні Анастасіі. Княгіня тут жа паслала войска, каб у чарговы раз правучыць нахабных татар. Мацей Стрыйкоўскі, гісторык і сучаснік Анастасіі, гэтак апісаў у вершах капыльскія падзеі:

Настасся, княгіня Слуцкая, сваіх баяр
Паслала перахапіць палахлівых татар.
Шмат іх пад Капылём было забіта
І горлам ля Пятровіч заплаціла мыта.

Гэты эпізод адбыўся незадоўга перад слаўнай для беларускай гісторыі бітвай пад Клецкам. Адчуваючы, што пагроза дзяржаве ад крымскіх татар становіцца ўсё большай, вялікі князь літоўскі Аляксандр загадаў Міхалу Глінскаму, які да гэтых часоў паспеўужо зрабіць паспяховую палітычную кар'еру пры двары Казіміравага сына і зарэкамендаваць сябе як лепшы з ліцвінскіх палкаводцаў, весці галоўныя войскі Вялікага Княства Літоўскага супраць ханскіх ваяроў. Талент Глінскага прынёс ліцвінам бліскучую перамогу. Але слава палкаводца, які выйграў вялікую Клецкую бітву, не засланіла славы мужнай слуцкай княгіні.

Князя Міхала, які ведаў Анастасію яшчэ маленькай дзяўчынкай, захапляла яе адвага. Не цікавячыся да гэтага часу ніводнай з жанчын, Глінскі стаў задумвацца пра тое, як бы звязаць свой лёс з мужнай і не страціўшай сваёй жаноцкай прывабнасці Анастасіяй. Але Міхал Глінскі па натуры сваёй не мог быць проста рамантычным закаханым. Прыродны розум, кемлівасць, хітрасць у спалучэнні з цвёрдым разлікам — вось якія рысы былі ўласцівыя яго характару. Проста дабівацца жанчыны, якая падабаецца, Глінскаму было б замала. Але атрымаць Анастасію значыла атрымаць яшчэ і Слуцк, і вось гэта ўжо — дастойная мэта для славалюбівых жаданняў Глінскага.

Слуцк цікавіў яго тым больш, што вельмі хутка пасля Клецкага свайго трыумфу князь Міхал апынуўся ў каралеўскай няміласці. Вялікі князь літоўскі Аляксандр (з 1501 года ён быў таксама і каралём польскім), які апошнія гады вельмі хварэў, памёр праз пятнаццаць дзён пасля разгрому татараў пад Клецкам. Новаму ўладару дзвюх дзяржаў, Жыгімонту І, Глінскі падаўся саманадзейным і амбіцыйным, нявартым тых знакаў пашаны, якімі карыстаўся. Паступова князя Міхала пазбавілі ўсяго, што было нададзена яму Аляксандрам. А хутка

знаходзяцца паклёпнікі, якія перад Жыгімонтам I абвінавачваюць Глінскага ў здрадніцтве.

Клецкі герой апраўдваецца, але крыўда авалодвае яго сэрцам. Ён вырашае ўзняць мяцеж супраць сюзерэна. Праваслаўная шляхта абяцала падтрымаць князя Міхала, бо той запэўніваў, што хоча адстойваць яе правы. Сярод мяцежнікаў апынуўся і муж сястры Анастасіі, Міхал Мсціслаўскі-Заслаўскі, які згадзіўся з тым, што для дасягнення пастаўленай мэты Глінскаму неабходна мець у сваім распараджэнні такую непрыступную цвержу, як Слуцк. Мсціслаўскі-Заслаўскі абяцаў выступіць пасрэднікам паміж Глінскім і Анастасіяй і не сумняваўся, што ўдовую княгіню не давядзецца доўга ўгаворваць.

Але Глінскі, відаць, адчувае, што з Анастасіяй могуць узнікнуць нечаканыя складанасці. Адмовіўшыся ад паслуг Мсціслаўскага-Заслаўскага, ён пачаў наведваць Слуцкую гаспадыню на правах «сябра дзяцінства». Зачыніць перад князем дзверы Анастасія не магла, і яна вымушана прымаць яго, выслухваць ветлівасці і ветлівасцямі адказваць. Урэшце рэшт, у 1508 годзе Міхал Глінскі прыязджаў у Слуцк з вялікімі дарамі і цэлым атрадам праваслаўных шляхцюкоў, якіх запрасіў стаць яго сватамі. Ці было гэта нечаканасцю для Анастасіі? Хутчэй за ўсё, яна ўжо была падрыхтавана да такога ходу падзей. Час ветлівасцей скончыўся. Глінскі атрымаў рашучую адмову. Матывы? Яна хоча застацца вернай памяці князя Сямёна, адзінага мужчыны, які штосьці значыў у яе жыцці. Яна ўжо дала зарок бясшлюбнасці ў царкве перад святымі іконамі і ў прысутнасці святара.

Зарок бясшлюбнасці... Ніякіх гістарычных падмацаванняў таго, што Анастасія сапраўды яго дала, няма. І нават слуцкі святар, да якога падступаўся з роспытамі Глінскі, адмовіўся пацвердзіць словы княгіні. Зрэшты, пэўна, каб не падводзіць Анастасію, ён наогул адмовіўся размаўляць з Глінскім на гэтую тэму, што, верагодна, і ўпэўніла князя Міхала, што ўдава Алелькавіча лукавіць.

Што ж было сапраўднай прычынай адмовы Анастасіі? Самае лёгкае — гэта зрабіць выснову, што Глінскі
проста не падабаўся ёй як мужчына. І сапраўды, са дня смерці князя Сямёна прайшло ўсяго толькі тры гады. Боль страты любімага чалавека быў яшчэ вельмі вялікім. Усе прадстаўнікі моцнага полу мусілі ў яе ўспрыманні параўноўвацца з любімым. Глінскі не мог выйграць ад такога параўнання.

Але можа, адмовіць князю Міхалу Анастасію прымусілі іншыя разважанні? Напрыклад, нежаданне звязваць свой лёс з чалавекам, з-за якога магчымы страты ўсіх маёнткаў і правоў. Альбо яўная няшчырасць князя Міхала, які адышоў дзеля кар'еры ад праваслаўнай

шляхты, а цяпер зноў пачаў схіляцца да праваслаўя і нават прыгадваць у размовах сваіх крыўды, што каталікі ўчынілі праваслаўным. Здрада веры мусіла быць у вачах княгіні Слуцкай, адданай прыхільніцы праваслаўя, сур'ёзнай падставай для таго, каб не давяраць такому чалавеку ні ў чым, чакаць ад яго любой подласці і нават злачынства.

Жанчына разумная, Анастасія не магла не адчуваць, што Глінскі мае намер, стаўшы яе мужам, дабівацца таго, каб ператварыцца ў адзінага законнага ўладальніка Слуцкага княства. Што ён зробіць тады з яе сынам Юрыем, якому ўсяго праз некалькі месяцаў павінна споўніцца шаснаццаць? Юрый можа «выпадкова» загінуць на паляванні ці памерці ад нейкай невядомай хваробы.

Як бы там ні было, але Глінскі атрымаў адмову. Князь адчуў сябе абражаным і вырашыў адпомсціць, узяўшы Слуцк сілай. Войска яго двойчы падыходзіла да горада, штурмавала замак і спрабавала падпаліць умацаванні. Але яго сустракалі гарматным агнём. Непрыступная для татар крэпасць не здавалася і на літасць іх пераможцы Глінскага. Канчаткова ж лёс горада і княгіні вырашыла смелая вылазка юнага Юрыя з атрадам слуцкіх ваяроў, якія, выбраўшыся праз таемны ход, нечакана ўдарыў у тыл войска Глінскага. Князь Міхал вымушаны быў зняць асаду. Можна ўявіць сабе, які гэта быў сорам для такога праслаўленага палкаводца. Летапісы распавядаюць: «В сне лето Глинский некто в Литве много зла починил... и Слуцка хотел взяти под Анастасиею княгинею Симеоновою, но не може, только волость ея якоже Татаре поплени и Копыль, и Туров доста и Мозыр».

Больш шляхі мужнай Анастасіі Слуцкай і мяцежнага Міхала Глінскага не перасякаліся. Мяцеж Глінскага быў падаўлены, а сам ён мусіў ратавацца ўцёкамі ў Маскву. Там ён ажаніўся з князёўнай Вяземскай. Але памяць пра жанчыну, якая з такой годнасцю адстойвала свой горад і свой гонар, назаўжды пакінула след ў сэрцы Глінскага.

А як жа склаўся далейшы лёс Анастасіі? Адразу пасля сватаўства Глінскага ёй давялося зноў адбівацца ад татар, і яна зноў уратавала Слуцк. На гэты раз ёй дапамагаў у гэтым пасталелы сын. А ў пачатку наступнага года маці ўрачыста склала з сябе апякунскія паўнамоцтвы і перадала справы кіравання Слуцкім княствам Юрыю. Хоць, улічваючы маладосць і нявопытнасць сына, Анастасія яшчэ некалькі гадоў дапамагала яму справай і парадай.

На шчасце, гады тыя выдаліся мірнымі. Княгіня і яе сын заняліся аднаўленнем свайго горада, які моцна пацярпеў падчас татарскіх набегаў. Гараджанам былі дадзены льготы, каб яны маглі аднавіць рамёствы і гандаль. На загаду Анастасіі і са згоды Юрыя былі пабуда-

ваны Верхні і Ніжні замкі. У разбураным Троіцкім манастыры княгіня на ўласныя грошы пабудавала замест спаленай драўлянай каменную Троіцкую царкву, якую прысвяцілі памяці тых, хто загінуў, абараняючы Слуцк ад татарскай навалы. Менавіта ў гэтым храме хутка пасля смерці княгіні з'явіліся дзве іконы — Сямёна Алелькавіча і яго жонкі Анастасіі, якіх случчакі шанавалі як святых.

У мірных клопатах час ляцеў хутка. Князь Юрый Сямёнавіч з бязвусага юнака ператварыўся ў сапраўднага мужчыну. І ўжо, верагодна, па яго ініцыятыве Алелькавічы правялі рэарганізацыю слуцкага войска, якое неўзабаве стала яшчэ больш магутным.

Як галоўны ў слуцкім войску быў вылучаны полк войта, у якім у розныя часы налічвалася ад 5 да 10 соцень. Сотні гэтыя былі набраны кожная з розных рэгіёнаў Слуцкага княства. А адна ці дзве нават з гэтак званых «лёзных людзей» — бадзяг, якія былі злоўлены на шкодзе ці злачынстве, буянілі, злоўжывалі хмяльнымі напоямі ці азартнымі гульнямі. У склад соцень падчас ваеннай небяспекі ўключаліся цэхавыя ваенныя арганізацыі слуцкіх рамеснікаў. Найбольш здольныя да ваеннай справы гараджане час ад часу праходзілі своеасаблівыя зборы, удзельнічалі ў ваенных гульнях на прыз свайго князя. Астатнія гараджане былі гатовыя ў любы час устаць на сцены з каменнямі, гарачай смалою і кіпнем.

Між іншым, адной з паходных песень слуцкіх ваяроў была «Вайтоўна», у якой распавядаецца, як адважная дзяўчына просіць у свайго бацькі-войта «востры меч» і ідзе на вайну разам з мужчынамі.

Мечам вайтоўна махнула -
Палова войска палягла...

Ці не княгіня Анастасія стала правобразам гэтай гераіні-валатоўкі?

Разам са сваім надзейным войскам Юрый Алелькавіч неаднаразова хадзіў ваяваць. У 1511 годзе ён біў татараў пад Кіевам, а ў 1514 — удзельнічаў у бітве пад Оршай, дзе войска Вялікага Княства Літоўскага пад кіраўніцтвам Канстанціна Астрожскага сышлося з войскам Вялікага Княства Маскоўскага. Тоячы ў душы трывогу за сына, які проста рваўся ў бой, Анастасія спрабавала ўтаймаваць яго, прывязаць да дому жаніцьбаю. Нявестай стала князёўна Алена Радзівіл. Але гэта не дапамагло. У часы доўгіх сынавых адлучак, калі ён шукаў славы на марсавых палях, маці зноў брала на сябе ролю слуцкай гаспадыні.

У 1521 годзе татары ў апошні раз паспрабавалі авалодаць Слуцкам. Але развеяць міф аб непераможнасці случчакоў ім так і не ўдалося. Гэта здарылася за чатыры гады да смерці княгіні Анастасіі. Яна паспела яшчэ ўладкаваць лёс дачкі, выдаўшы яе за высакароднага

князя, гетмана Канстанціна Астрожскага, які ўрачыста абяцаў любіць і берагчы маладую жонку. Гэта была бліскучая партыя для Аляксандры Сямёнаўны. Маці адчула, што выканала ў гэтым жыцці ўсё, што павінна была.

Яна адышла ў нябыт ціха і лагодна, як маюць шчасце памерці толькі людзі з чыстым сумленнем.

## Беларуская Жанна д’Акр

— Глядзі, дачка, глядзі і запамінай. Гэта — імператар Напалеон Банапарт. Гэта — наш збавіцель! — мужчына высока ўзнімае над натоўпам шасцігадовае дзіця, блакітнавокага кучаравага анёлка. Дзяўчынка ва ўсе вочы сочыць за тым, як нізенькі поўны пан у шырокім вайсковым капелюшы дакранаецца далонямі да чырвонай цэглы касцёла Святой Ганны. На імгненне ёй падаецца, што імператар заўважыў яе і лагодна ўсміхнуўся. Але гэта не так. Напалеон, кінуўшы погляд высока над галовамі віленцаў, якія вітаюць яго, проста марыць: «О, каб можна было б пакласці на далонь гэты разны філігранны храм, асцярожна перанесці яго ў Парыж і паставіць на плошчы Зоркі!..».

Тыя, што лічаць сябе прыгнечанымі, вельмі часта ўскладаюць свае спадзяванні аб свабодзе на чужаземных герояў. І горка расчароўваюцца потым. У 1812 годзе армія Напалеона прыйшла на землі былой Рэчы Паспалітай, дзяржавы, што ў выніку трох тэрытарыяльных падзелаў, якія ўтварылі з ёю правіцелі суседніх краін, Расіі, Аўстрыі і Прусіі, знікла з карты Еўропы. Насельніцтва меркавала, што французскі манарх верне ім іх радзіму, зноў зрабіўшы яе магутнай і незалежнай. Але Банапарт толькі павабіў палякаў і ліцвінаў зданню свабоды, не здзейсніўшы нічога з таго, на што яны разлічвалі. І зусім не з-за хуткага разгрому яго арміі расійскімі войскамі, а з-за таго, што і яму таксама была нявыгадна абшырная і магутная дзяржава ў цэнтры Еўропы.

І тады народ зразумеў, што ў сваіх бедах ён можа разлічваць толькі на сыноў сваёй Айчыны, тых, у чыіх венах цячэ польская ды ліцвінская кроў. Ці гэта проста супадзенне, але ў шэрагах герояў вызваленчага паўстання 1830-1831 гадоў аказалася тая самая дзяўчынка, якая з заміраннем сэрца ўглядалася ў твар Напалеона ля віленскага касцёла Святой Ганны. Яе імя было Эмілія Плятэр.

Адзіная дачка збяднелага прадстаўніка ліцвінскага графскага роду Францішка Ксаверыя Плятэра ў дзевяцігадовым узросце страціла магчымасць знаходзіцца побач з ім. Францішак Ксаверый, адносіны якога з маці Эміліі, Ганнай Моль, сапсаваліся яшчэ да нараджэння дзяўчынкі, падаў на развод. Раз'ехаўшыся, былыя сужэнцы заняліся кожны ўладкаваннем свайго асабістага жыцця. Эмілія аказалася непатрэбнай абоім. Выхаваннем дзяўчынкі па чарзе займаліся цётка Ізабэла Зыберк-Плятэр, якая жыла ў маёнтку Ліксна на Віцебшчыне, і дзядзька Дыянізій Моль, уладальнік маёнткаў Падгур'е і Літоўнікі,

таксама ў Віцебскай губерні. Іншы раз сюды прыязджала пагасцяваць і маці Эміліі, але ніколі не з'яўляўся бацька.

Цётка і дзядзька ўзялі на сябе клопат аб маленькай беднай сваячцы, наняўшы ёй добрасумленных настаўнікаў. Апошніх, дарэчы, дзяўчынка вельмі хутка пачала здзіўляць сваёй працавітасцю і здольнасцямі. Настаўнік дакладных навук з замілаваннем расказваў паўсюль пра тое, які жывы розум у яго вучаніцы, паказваў калегам цікавыя спробы матэматычных доследаў, зробленыя Эміліяй. Настаўнік музыкі нахвальваў юную Плятэр за яе поспехі ў ігры на фартэпіяна. А яшчэ Эмілія добра малявала і пісала цудоўныя вершы.

Калісьці апантаны Джардана Бруна выказаўся: «Навука — ёсць найлепшы шлях да таго, каб зрабіць чалавечы дух гераічным». Імкненні да гераічнага выхавалі ў сэрцы Эміліі ўрокі яе першых хатніх настаўнікаў. Усе яны былі з асяроддзя дробнай беларускай шляхты, якая пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай аказалася самым пакрыўджаным пасля сялянства класам у гэтым краі. Ці дзіўна, што настаўнік гісторыі падчас заняткаў не-не дый праводзіў паралель паміж былымі гераічнымі дзеяннямі продкаў і ганьбай іх нашчадкаў, якія дапусцілі развал некалі вялікай дзяржавы? Што выкладчык літаратуры значна больш увагі надаваў навінкам польскамоўнай патрыятычнай паэзіі і прозы, чым антычным аўтарам?

Акрамя настаўнікаў-шляхціцаў у Эміліі былі яшчэ слугі з сялянскага асяроддзя. Яны зусім не саромеліся дзяўчынкі-нахлебніцы і ў яе прысутнасці дзяліліся адзін з адным самым набалелым. Распавядалі пра тое, як рускі цар Аляксандр I, які паабяцаў адпусціць на волю тых сялян, што вялі партызанскую вайну супраць французаў, падмануў іх, выдаў 30 жніўня 1814 года Маніфест, у якім цынічна прапаноўваў ім атрымаць «мзду свою от Бога».

Праўда, у 1819 годзе на Віцебшчыне зноў загаварылі аб хуткім вызваленні сялян. Бо здавалася, цар згадзіўся на прапанову дынабургскага памешчыка Могля «аб скасаванні прыгоннага права па прыкладзе прыбалтыйскіх дваран», намеціўшы першым аб'ектам для правядзення эксперымента менавіта Віцебскую губерню. Аднак усё скончылася проста красамоўнай прапановай расійскага гасудара да землеўладальнікаў аб вызваленні сялян праз «собственное стремление человеколюбивых чувств и дворянских сословий».

Маленькі агеньчык крыўды за свой народ пачаў разгарацца ў сэрцы Эміліі.

Чытаючы падручнік гісторыі, яна з асаблівай цікавасцю праглядала старонкі, дзе распавядалася пра барацьбу розных народаў супраць чужаземных прыгнятальнікаў. Прыгнятальнікамі бачыліся ёй

царскія чыноўнікі, якія няправедна вяршылі суд і расправу на землях Беларусі. А мужнымі барацьбітамі за волю паўставалі былыя паплечнікі Тадэвуша Касцюшкі, якія цудам пазбеглі гібелі ў баях ды пакарання пасля разгрому паўстання 17931794 гадоў.

Эмілія зайздросціла ім і марыла пра такі ж гераічны лёс. Што з таго, што яна не нарадзілася мужчынам? У гісторыі Францыі была Жанна д'Арк, простая пастушка, якая павяла за сабою войска, каб выгнаць з роднай зямлі англічан. Не так даўно хрысціянскі свет услаўляў гераіню грэчаскага паўстання Бабаліну. Няхай на Беларусі і не было роўных ім, але ж жонкам мясцовых князёў у старажытныя часы таксама даводзілася браць у рукі зброю і сядаць у баявое сядло. Нараўне з мужчынамі яны абаранялі свае гарады ад шматлікіх ворагаў-чужынцаў.

Вобраз жанчыны з мечам у руках і вярхом на кані набыў ва ўяўленні Эміліі канкрэтныя рысы, калі ў пятнаццацігадовым узросце яна пазнаёмілася з новай паэмай маладога Адама Міцкевіча «Гражына» пра гераіню навагрудскага падання, княгіню, якая, апрануўшыся ў адзенне свайго мужа князя Літавора, яго імем павяла войска супраць крыжакоў і загінула пад сценамі свайго горада ў бойцы з імі.

Адкінуўшы і кросны, іл калаўрот,
На жмудскім баявым кані ляцела
Натоўпу паляўнічых пасярод
У палі, у лясы. Страла Гражыны пела
І біла звера, біла птушку ўлёг.
І часам было гэтак, што народ
Княгіню з князем блытаў белакурым.
У рысінай шапцы, у мядзведжай шкуры,
Яна была падобна да яго,
Да Літавора любага свайго...

Зачараваная высокай паэзіяй, Эмілія завучвала цэлыя кавалкі гэтага твора на памяць. Аднойчы яна сказала: «Можна было б ахвяраваць і жыццём, каб толькі такі паэт напісаў пра цябе пасля смерці колькі радкоў».

Наўмысна ці не, але яна пачала браць прыклад з літаратурнай гераіні Міцкевіча. Захапілася верхавой яздой, паляваннем. Спачатку яе трафеямі станавіліся качкі ды зайцы, вавёркі ды барсукі, а пасля нават лосі і мядзведзі. З-за таго, што мечы павыходзілі з моды, Эмілія палічыла неабходным авалодаць зброяй больш сучаснай. Яна навучылася страляць з пісталета.

Высакароднае імкненне — аддаць жыццё за шчасце Айчыны — перапаўняла юную Плятэр, бо яна лічыла, што няма долі, лепшай за

гэтую. Але яна павінна была дакладна ведаць, ці патрэбна гэтая яе ахвяра народу. І пераступіўшы праз шматвекавое адчужэнне і забабоны яе продкаў, якія былі графскага роду, Эмілія пайшла да простых людзей. Сяляне Віцебскай губерні, добрыя, мудрыя, працавітыя і вельмі няшчасныя, сталі яе наступнымі настаўнікамі.

Яны навучылі юную Плятэр бачыць жыццё без прыўкрас і беспамылкова прымаць справядлівыя рашэнні ў самых складаных жыццёвых сітуацыях. Эмілія палюбіла просты сялянскі быт, беларускія народныя песні і казкі, народныя абрады і звычаі. Яна адчула ўсё багацце беларускага фальклору, і ёй раптам захацелася захаваць для будучых пакаленняў хоць штосьці з гэтай спадчыны. Занатоўваючы тое, што чула ў сялянскіх хатах, Эмілія Плятэр спісала не адзін тоўсты сшытак. Яна навучылася многім беларускім танцам. Некаторыя народныя мелодыі, падабраўшы да іх акампанемент,ператварыла ў канцэртныя нумары і выконвала іх на фартэпіяна ў коле сваіх родзічаў і сяброў. Яна ў дасканаласці авалодала беларускай мовай, «мужыцкай», як лічыла большасць прадстаўнікоў яе саслоўя, і нават стала складаць на ёй вершы ў стылі народных песень.

А яшчэ сяляне навучылі яе плакаць. У высокім сэнсе гэтага слова — суперажываць гору і крыўдам простых людзей. І ў звычайным — выклалі Эміліі складаную навуку народнага галашэння. Дзіўна іншы раз было высакародным знаёмым Плятэр бачыць, як суправаджае яна родзічаў якога-небудзь селяніна-нябожчыка на могілкі і пры гэтым адчайна, шчымліва, самотна пяе-плача па памерлым.

Беларускі этнограф і фальклорыст М. Маркс, у сям'і якога ў Віцебску часта гасцявала Плятэр, успамінаў, як Эмілія выконвала «прасякнутыя сардэчным болем» галашэнні: «Голасам, у якім, здаецца, чуліся стагоддзі, яна пачынала:

Авой, авой, дзяцюк ты мой!
Не на радасць, не на шчасце ты радзіўся!..

І усе выпрабаванні, усе пакуты жыцця беларускага мужыка падрабязна тут пералічваліся, дакладна апісваліся, глыбока наноў перажываліся».

Смерць і пакуты заварожвалі і прыцягвалі яе. Можа, ужо ў той час Эмілія прадчувала, што прадвызначана ёй пайсці ў нябыт маладой.

Яна не толькі вучылася ў свайго народа, але і імкнулася чым толькі можна дапамагчы простым людзям. Той жа М. Маркс сведчыць, што Плятэр «з запалам, уласцівым чуламу і шляхетнаму сэрцу, з усёй душой аддалася беларускаму люду, ведала яго бядоты, спачувала яму і старалася, як магла, аблегчыць яго долю...». Эмілія адстойвала правы

сялян, выступаючы ў судах, займалася справамі міласэрнасці, давала карысныя парады. Яе дзейнасцю захапляліся ўсе, хто яе ведаў.

Ужо калі Эміліі Плятэр споўнілася шаснаццаць гадоў, да яе пачалі сватацца. Сярод прэтэндэнтаў на руку дзяўчыны былі нават вельмі ўплывовыя асобы з ліку расійскіх вайскоўцаў, напрыклад, генерал Каблукоў і капітан Дэльвіг. Яны ахвотна згаджаліся ажаніцца з беднай шляхцянкай, амаль беспасажніцай, скораныя яе абаяннем, рамантычным складам натуры, яркай знешнасцю. Але Эмілія адмаўляла ўсім, разумеючы, што няма яшчэ сярод іх таго адзінага, хто б да канца разумеў яе.

Цалкам і без усялякай боязі раскрывала Эмілія сваю душу толькі стрыечнаму брату Цэзару Плятэру, якім валодалі тыя ж рамантычныя памкненні, што і ёю. Іншы раз сябрам сям'і падавалася, што паміж кузінай і кузэнам вось-вось узнікнуць пачуцці больш пяшчотныя, чым сяброўства. Але гэтага не здарылася. Бо абое цнатліва аберагалі сябе ад таго, што ім падавалася пошлым і ганебным. Дружба для іх была даражэй і цанілася значна больш за каханне.

1823 год аб'яднаў Эмілію і Цэзара агульным перажываннем. 3 мая, у гадавіну ліберальнай Канстытуцыі Рэчы Паспалітай 1791 года брат Цэзара, вучань пятага класа віленскай гімназіі Міхал Плятэр напісаў крэйдай на дошцы: «Няхай жыве Канстытуцыя 3 мая!» Гэты ўчынак іншыя вучні сустрэлі раднаснымі воклічамі. Хтосьці з настаўнікаў паспяшаўся данесці «куды належыць».

Урэшце рэшт аб настроях віленскіх гімназістаў стала вядома вялікаму князю Канстанціну Раманаву. Ён занепакоіўся і даручыў разабрацца з гэтым сенатару Навасільцаву, і таму ўдалося выкрыць дзейнасць таемных таварыстваў філарэтаў і філаматаў, членамі якіх былі многія беларусы з ліку творчай моладзі і навучэнцаў. Яны апявалі свабоду і заклікалі да канкрэтных дзеянняў для здабыцця яе. За гэта самыя актыўныя з іх былі арыштаваны і сасланы. Пацярпеў разам з іншымі і Адам Міцкевіч, таленту якога так пакланялася Эмілія.

Наступным узрушэннем стала смерць Аляксандра I і выступленне супраць яго пераемніка Мікалая I у 182 5 годзе дзекабрыстаў і афіцэраў Літоўскага корпуса, якія ўваходзілі ў таварыства «Ваенныя сябры». Пасля гэтага ў лютым 1826 года была спроба афіцэра С. Трусава падняць паўстанне ў Барысаўскім гарнізоне. Жорсткая рэакцыя надышла вельмі хутка пасля расправы.

У красавіку 1829 года царом былі створаны камісіі, якія прапанавалі абкласці беларускую шляхту дванаццацірублёвым пад'ёмным падаткам і прыцягнуць яе да васьмігадовай рэкрутчыны. Неаселую шляхту пазбаўлялі права вольнага перамяшчэння. На працягу аднаго

года шляхта павінна была дакументальна даказаць сваю прыналежнасць да дваранства, а ў выпадку, калі спецыяльная камісія абвяшчала доказы недастатковымі, людзі пазбаўляліся шляхецтва і прымусова высяляліся «ў пагранічнае абароннае войска». Гэтак цар думаў дабіцца перамогі над беларускай шляхтай, якой цяпер пабойваўся.

У тым жа 1829 годзе маці Эміліі Плятэр прапанавала дачцэ здзейсніць сумесную паездку ў Варшаву і Кракаў. Па прыкладзе антычных герояў, якія падчас падарожжаў перш за ўсё спяшаліся наведаць месцы баявой славы і духоўныя святыні, Эмілія пабывала на полі бітвы пад Рачынай, а таксама пад Ойцавам і Пулавамі, наведала яшчэ некалькі мясцін, звязаных з паўстаннем Касцюшкі і дзеяннямі барскіх канфедэратаў.

Падарожжа глыбока ўразіла дзяўчыну. Але падзяліцца сваімі пачуццямі і ўражаннямі, акрамя вернага Цэзара, ёй не было з кім. Стрыечны брат, як заўжды, зразумеў яе і запэўніў, што ўжо вельмі хутка прыйдзе час, калі іхнія сілы і жыцці спатрэбяцца Радзіме. Чакаць і сапраўды давялося зусім нядоўга.

У лістападзе 1830 года ў Варшаве ўспыхнула нацыянальна-вызваленчае паўстанне. Шляхецкі сейм 18 снежня абвясціў паўстанне ўсенародным, а 20 снежня ў «Маніфесце польскага народа» была акрэслена яго мэта — аднаўленне Польскай дзяржавы ў межах 1779 года. Полымя польскага паўстання хутка перакінулася на Літву і Беларусь. І Эмілія з радасцю накіравалася насустрач лёсу. Яна абрэзала свае даўгія косы і пераапранулася ў мужчынскае адзенне. Так і хадзіла яна па беларускіх вёсках ад хаты да хаты і быццам паходня, што прыцягвае сваім святлом блукаючага путніка, палымянымі прамовамі клікала за сабой сялян, якія засумавалі па волі.

Яны ішлі за ёю, завараражаныя ідэяй вызвалення, а 280 добраахвотнікаў сталі баявым атрадам. Яшчэ каля 120 далучыў да высакароднай справы Цэзар. Сярод іх былі коннікі, пехацінцы і касінеры. На грошы Цэзара была закуплена зброя, і Эмілія ўласнаручна раздала яе сваім сялянам-воям. Некалькі маладых беларускіх шляхцянак, натхнёныя ўчынкам Эміліі, далучыліся да яе.

У студзені 1831 года да Эміліі і Цэзара дайшлі звесткі, што на сейме ў Варшаве было прынята рашэнне аб пазбаўленні дынастыі Раманавых, і ў прыватнасці, цара Мікалая І, польскай кароны. Рускае войска рушыла да межаў Польшчы. Галоўнакамандуючы рускай арміяй І. Дзібіч паведамляў, што на Беларусі пакуль становішча спакойнае. Але так здавалася толькі на першы погляд. Беларуская шляхта ўзбройвалася і гэтак жа сама, як Эмілія і Цэзар Плятэры, рыхтавала атрады для падтрымкі польскага паўстання на землях

былога Вялікага Княства Літоўскага. Наступны месяц азнаменаваўся пачаткам баявых дзеянняў на тэрыторыі Польшчы.

А ўжо ў сакавіку 1831 года атрад Эміліі Плятэр атрымаў першае баявое хрышчэнне ў сутычцы з царскімі войскамі на Беларусі. Спачатку дзеянні стрыечных брата і сястры былі спантаннымі і насілі характар незапланаваных выступленняў. Але ўжо ў кастрычніку, зразумеўшы, што па адзіночцы нельга перамагчы сур'ёзнага супраціўніка, Эмілія прапанавала Цэзару далучыцца да атрада паўстанцаў Караля Залучага. Разам з гэтым вопытным камандзірам Эмілія ўдзельнічала ў многіх крывавых бітвах.

Неўзабаве злучэнне Залускага было разбіта і падзялілася на некалькі маленькіх груп. Эмілія трапіла ў падраздзяленне вількамірскіх стралкоў і разам з імі ўступіла ў партызанскі атрад Канстанціна Парчэўскага.

Арэол славы паволі ахутваў высакародную дзяўчыну. Яна вылучылася сваёй храбрасцю ў баях пад Радзівілішкамі і Вільняй. Заўсёды стойка пераносіла цяжкасці і нягоды, звязаныя з паходным жыццём: спала на голай зямлі, ела з аднаго катла з паўстанцамі, хадзіла ў разведку, па чарзе стаяла на варце.

Паўстанцы паважалі яе, лічылі своеасаблівым сімвалам поспеху. І хоць знаходжанне прадстаўніцы прыгожага полу сярод вялікай колькасці мужчын вельмі часта дае падставу некаторым з іх для ганебных паводзін у адносінах да яе, вакол Эміліі Плятэр захоўвалася атмасфера чысціні і ўзвышанасці. Яна магла сваімі поўнымі годнасці паводзінамі прымусіць сціхнуць самых вялікіх зласловаў і супакоіць самых заўзятых жанчыналюбаў.

У чэрвені з Польшчы на Беларусь прыбыло пасланае на дапамогу паўстанцам-беларусам кавалерыйскае злучэнне генерала Д. Хлапоўскага. Ужо даволі парадзелае войска мясцовых паўстанцаў аб'ядноўвалася з польскімі кавалерыстамі для таго, каб працягваць агульную справу. У першы ж дзень Хлапоўскі запрыкмеціў Эмілію. Жанчына ў войску?! Яна ж дэзарганізуе ўсіх!

«Далоў жанчыну!» — патрабаваў генерал. Ніякія слёзы і маленні Эміліі, здаецца, не маглі змякчыць суровага прыгавору. Але беларускія паўстанцы раптам паставілі саманадзейнаму паляку ультыматум: альбо Эмілія, іх правераны баявы таварыш, альбо яны будуць змагацца асобна ад яго. І Хлапоўскі вымушаны быў саступіць. Але ён усё ж такі настаяў, каб панна Плятэр лічылася толькі ганаровым камандзірам аднаго з падраздзяленняў — 1-й пяхотнай роты 25-га лінейнага палка. Не давяраў ён яе веданню тактыкі і стратэгіі бою.

Але вельмі хутка генералу-кавалерысту давялося прасіць прабачэння ў пакрыўджанай ім Эміліі. Ён проста пабачыў на ўласныя вочы, як паводзіць сябе Плятэр у баі. Урэшце рэшт уражаны яе адвагай і мужнасцю Хлапоўскі нават надаў Эміліі званне капітана.

У гэтым званні Плятэр удзельнічала ў славутай аблозе Коўна. Пасля быў штурм Шаўляя, які прынёс паўстанцам славу. Але сілы ўбывалі. Шмат таварышаў Эміліі загінула, іншыя былі паранены, і іх адаслалі з атрада.

Надышла восень і прынесла з сабою холад і праліўныя дажджы. Эмілія раптам адчула сябе нездаровай: з'явіўся сухі настойлівы кашаль. Камандзір яе палка Станіслаў Мацэвіч, верны сябар і таемны паклоннік Эміліі, прапанаваў ёй часова пакінуць атрад і вярнуцца дамоў для лячэння. Але яна пакрыўджана адказала яму, што калі ён думае, быццам капітан Плятэр стане клопатам для сваіх салдат і камандзіраў, то ён абражае годнасць свайго баявога таварыша. А калі б яна была мужчынам, дык дуэлі ён не пазбег бы.

Хутка стала зразумела, што паўстанне будзе падаўлена. Расійскія войскі грамілі паўстанцкія атрады і праследавалі сваіх супрацiўнікаў па пятах. Рэшткам разбітай арміі камандзіры загадалі адступаць у Прусію. Эмілія Плятэр горка дакарала сваіх таварышаў, што яны згадзіліся выконваць ганебны і баязлівы, на яе думку, загад.

Цэзар падтрымаў сваю кузіну. Разам з ім і лепшай сяброўкай Марыяй Рамановіч, якая некалькі месяцаў змагалася з ёю плячо ў плячо, Эмілія вырашыла прарывацца да Варшавы. Але сілы здрадзілі ёй. Па дарозе Цэзар і Марыя вымушаны былі пакінуць Эмілію, якая ўжо страчвала прытомнасць, у сялянскай хаце. Гаспадары пазналі славутую жанчыну-капітана і паабяцалі клапаціцца аб ёй.

Сапраўды, гэтыя добрыя людзі акружылі Эмілію любоўю і клопатам. Але ёй не суджана было папраўіцца, бо
хвароба аказалася скарацечнымі сухотамі. Яна яшчэ паспела ў лісце развітацца са сваімі блізкімі: Цэзарам, цёткай, дзядзькам і нават бацькам (маці Эміліі памерла перад самым пачаткам паўстання).

23 снежня 1831 года сэрца мужнай паўстанкі перастала біцца. Баючыся пакарання з боку расійскіх улад, яе вымушаны былі адпяваць і хаваць пад чужым імем. Таму яшчэ ў 1835 годзе царскі ўрад быў упэўнены, што адна з «самых небяспечных злачынцаў» яшчэ жывая і знаходзіцца недзе за мяжой. Яе афіцыйна абвясцілі «дзяржаўнай злачынкай другога разраду» і канфіскавалі ўсю маёмасць, йтак назаўжды зніклі кудысьці фальклорныя і паэтычныя сшыткі Эміліі, яе малюнкі і ноты.

Але сярод уцалелых баявых таварышаў Эміліі Плятэр таемна перадаваліся звесткі аб тым, дзе знаходзіцца магіла той, якую цяпер паўсюль называлі беларускай Жаннай д'Арк. Ды яшчэ хадзіў па руках, употай перапісваўся чуллівы верш Адама Міцкевіча, прысвечаны мужнай дзяўчыне. «Смерць палкоўніка» — назваў яго вялікі паэт, самавольна павысіўшы капітана Плятэр у званні.

На палянцы зялёнай, між думных бароў,
Дзе пад клёнам хацінка старая,
Бы застыў у зняменні атрад ваяроў:
Іхні там камандзір памірае...
...Вось палкоўнік каня асядлаць загадаў
І прывесці бліжэй, да парога.
Перад смерцю яшчэ раз хоць глянуць жадаў
Ён на друга свайго баявога.
Загадаў свой прынесці паходны мундзір,
Свой кінжал, зброю, пояс стралецкі.
Ён хацеў і з рыштункам сваім, камандзір,
Развітацца, як калісь Чарнецкі...
...Спалатнеўшы, паўстанцы стаялі ў дзвярах.
Нават воі Касцюшкі былыя,
Што прайшлі ўсе агні, агрубелі ў баях,
Слёз сваіх не хавалі сівыя.
Рана-рана ў капліцы званіць пачалі.
Ды хаваць камандзіра жаўнеры
Не змаглі: наляцелі якраз маскалі...
У капліцы для ўсіх — насцеж дзверы.
Там ляжаў ён на лаве — у спакоі чало.
У руках яго — крыж, збоч — нягнуткі
Нож-кінжал і ружжо, ва ўзгалоўі — сядло.
Люд дзівіўся. Такі маладзюткі!
Ды чаму твар дзявочы ў байца? Два грудкі...
Хто ж мог знаць, што баёў завадатар
Быў... дзяўчынай! Была — слёз не трэба, жанкі, -
То літвінка Эмілія Плятэр!

Так, можна было б ахвяраваць і самім жыццём, каб вялікі паэт прысвяціў табе некалькі сваіх натхнёных радкоў. Але наўрад ці зацікавіла б паэта Міцкевіча асоба Эміліі Плятэр, каб не ведаў ён, што жыццё яе ахвяравана дзеля Радзімы.

# ПАД ЗНАКАМ РУЖЫ

## Нясвіжская Мельпамена

Марозным лютаўскім днём 1725 года ўладары Чартарыйска — ваявода Януш Вішнявецкі і ягоная жонка Тэафіля чакалі гасцей. З'явілася ўжо шмат шляхты. Але не было аднаго з запрошаных — князя Міхала Казіміра Радзівіла, таго, які насіў мянушку Рыбанька, бо пры звароце амаль да кожнага суразмоўцы ён выкарыстоўваў гэтае слоўца.

Абяцанне прыехаць літаральна вырвала ў маладога нясвіжскага ардыната дачка Міхала Сервацыя Вішнявецккага Ганна, якая «праз добрую сваю прыязнасць» да Міхала Казіміра вырашыла пазнаёміць яго са сваёй стрыечнай сястрой, дачкой гаспадароў Чартарыйскага палаца — дваццацігадовай Францішкай Уршуляй.

Гэтая дзяўчына з дзяцінства здзіўляла хатніх настаўнікаў надзвычайным імкненнем да ведаў і начытанасцю. Яшчэ дзіцем яна пачала пісаць вершы, ды такія цудоўныя і вытанчаныя, што ўсе проста зачытваліся. Ці не таму бацькі не спяшаліся выдаць сваю незвычайную дачку замуж? Ёй жа мог дастацца самаўпэўнены грубіян, які зусім не будзе разумець тонкай натуры князёўны. Да таго ж Вішнявецкія жадалі ўручыць жамчужыну сваёй сям'і самаму санавітаму і дастойнаму з прэтэндэнтаў.

Урэшце, князю Янушу здалося, што такі прэтэндэнт з'явіўся. І ён заручыў дачку з падчашым каронным Ржавускім. Аднак гэты жаніх не падабаўся ні Францішцы Уршулі, ні яе маці. Пэўна, менавіта таму яны з такім нецярпеннем чакалі цяпер з'яўлення князя Радзівіла, якога ім надта ж расхвалілі.

Нарэшце, ужо ў прыцемках слуга абвясціў, што прыбылі маршалак надворны Вялікага Княства Літоўскага Павел Сангушка з жонкай ды «яго міласць пан князь Міхал Казімір Радзівіл». Доўгачаканых гасцей сустракаў сам гаспадар. А затым «перадаў» Міхала Казіміра жонцы.

І тут з-за выпадковай недарэчнасці «агледзіны» ледзь не сарваліся, нават не пачаўшыся. Рыбанька прыняў за Францішку Уршулю іншую маладую даму — пані Арачэўскую, якая знаходзілася ў адным пакоі з гаспадыняй. Гэтая ж пані была «...цяжарная і не вельмі пекная (прыгожая. — Аўт)». Князь падчас свецкай размовы з Вішнявецкай разпораз паглядаў на Арачэўскую і думаў: «Як дорага я расплачваюся за цікаўнасць... удаўся ў тыя беды нявінна».

Яго памылка высветлілася толькі праз паўтары гадзіны. Але і тады, калі падчас застолля маладому князю паказалі сапраўдную Францішку Уршулю, ён усё яшчэ працягваў заставацца ў няпэўнасці. Не змог Рыбанька як след разгледзець дзяўчыну, бо, як пісаў ён пазней у сваім дзённіку: «...Стол быў вельмі вялікі, і хаця свечак сіла было, а і там прыглядзецца не мог, паколькі князёўну пасадзілі на адным канцы стала, а я — на другім; праз свечкі, што мог бачыць, дык мне твар пекным здаўся, але вочы крывыя». А пасля застолля «...у пакоі княжацкім заселі мы за ложкам, там досыць цёмна было, князёўна мала гаварыла, толькі іншыя дамы, у гэты вечар ані спосабу не меў бачыць ні твару, ні розуму».

Цяжка сказаць, чаму так атрымалася. Хутчэй за ўсё, гаспадары знарок уладкавалі ўсё дзеля таго, каб Францішка Уршуля першай змагла пазнаёміцца з прэтэндэнтам на яе руку і сказаць сваё слова загадзя. Але яны ледзь не пралічыліся. Міхал Казімір правёў ноч без сну. І збіраўся ўжо раніцай з'ехаць. Ледзь-ледзь Сангушка, які, дарэчы, даводзіўся Радзівілу дзядзькам, угаварыў яго застацца яшчэ хоць на дзень. А тут міжволі дапамог і муж той самай пані Арачэўскай, якую Міхал Казімір прыняў за Францішку Уршулю, завёў госця ў пакой, у якім начавала князёўна. Зайшлі, а яна «...у нагах ложка свайго кленчыць і моліцца. Усміхнулася, падобная на Дыяну; я, з ёй заігрываючы, узяў кніжку французскую, разгарнуўшы, прачытаў: «Скончы, што пачаў, і я табе дапамагу». Адразу ж паказаў той тэкст князёўне і прамовіў: «А што ж, Ваша Княская Міласць, дабрадзейка, дазволіш адпаведна таму тэксту паступіць?». Уршуля адказала: «Па волі Вашай Княскай Міласці». Я руку пацалаваў і ад таго моманту кахаць страшна пачаў...».

На абедзе ж Рыбанька, паводле яго ўласнага прызнання, «...не сіла еў, толькі сябе насычаў мілай асобай князёўны». У той жа дзень ён паведаміў свайму дзядзьку, што ад'езд адмяняецца, бо «...не ў тым гуморы, як раніцай». А на наступны дзень папрасіў яго і канцлера Міхала Сервацыя Вішнявецкага быць сватамі.

Праз некалькі дзён адбыліся заручыны. І хутка Міхал Казімір з'ехаў у свой маёнтак Белую, дзе знаходзілася ў той час яго маці, княгіня Ганна Катажына, каб падрыхтавацца да вяселля, якое прызначылі на 22 красавіка.

Але як толькі старая княгіня даведалася пра будучае вяселле, на Міхала Казіміра абрынуўся цэлы шквал эмоцый. Ганна Катажына ўчыніла грандыёзны скандал. У сваім дзённіку Рыбанька пазней занатаваў: «Колькі жывы, не чуваў гэткіх экспрэсій халеры, што пачуў». Урэшце, сын спытаўся: «Што з таго далей будзе? Я заручыўся, кахаю і

да смерці не адступлюся». Далейшы «дыялог» ледзь не скончыўся трагічна: з Міхалам Казімірам здарыўся апаплексічны ўдар. Князя паклалі ў ложак і пусцілі яму кроў.

Усхваляваная станам сына, Ганна Катажына была вымушана даць згоду на шлюб, і нават прымала ўдзел у вясельных мерапрыемствах. А вяселле адбылося ў адным з маёнткаў бацькоў Францішкі Уршулі, Белай Крыніцы.

«У капліцы шчасліва бралі мы шлюб (біскуп Луцкі вянчаў, меў прамову Яго міласць ксёндз Вінцэнты Сухоцкі, схаластык Луцкі), быў вельмі вялікі баль, на якім цырыманіяльныя танцы танцавалі; быў пекны феерверк; ледзьве не ўдзень пайшлі мы класціся ў ложак», — прыгадваў шчаслівы жаніх.

Вяселле доўжылася яшчэ некалькі дзён. І толькі 27 красавіка вясельны поезд рушыў да маёнтка Міхала Казіміра, Алыкі. У касцёле алыцкім «...ксёндз Альшанскі, суфраган Холмскі, інфлянт Алыцкі з калегамі і клірам вітаў прамовою жонку маю, потым прачытаў Te Deum Laudamus, усё тое рабілася пры гучнай страляніне з гарматаў. Як выйшла жонка з карэты да касцёла, гармата жалезная разарвалася, і ядро адно, надта вялікае, пад ногі ўпала, колькі тысячаў нас людзей было, а нікому найменшай шкоды не зрабіла...».

і толькі пасля гэтага, наведаўшы яшчэ Белую, маладыя накіраваліся ў Нясвіж. Але ўжо ў чэрвені Рыбанька пакінуў жонку адну. Ён разам з Ганнай Катажынай на
ведаў Налібокі. Там маці паказала яму незадоўга да таго заснаваную ёю гуту (шкларобчы завод) і майстэрню па апрацоўцы каштоўных і напаўкаштоўных камянёў. З гэтага часу старая княгіня, якая з'яўлялася даволі паспяховай прадпрымальніцай, але не спяшалася да пары перадаваць сваю справу ў рукі маладога, даволі нясталага сына, пачала знаёміць Міхала Казіміра з дзейнасцю шматлікіх створаных ёю мануфактур, майстэрняў, заводаў, дзяліцца сваім вопытам.

А ў адносінах да выбранніцы сына Ганна Катажына змянілася. Маці спачатку канчаткова змірылася з выбарам сына і нават пачала сімпатызаваць Францішцы Уршулі, асабліва калі ўбачыла, з якой пяшчотай тая ставіцца да Міхала Казіміра. 24 лютага 1726 года ў Варшаве падчас маскараду на прыступках каралеўскага палаца п'яны гвардзейскі афіцэр, што стаяў на варце наверсе, прычапіўся да генерала артылерыі Сурына, сябра Радзівіла, які вёў па лесвіцы цяжарную Францішку Уршулю. Гвардзеец спіхнуў генерала ўніз. І той міжволі пацягнуў за сабою па лесвіцы няшчасную жанчыну. Прахварэўшы пяць дзён, пані Радзівіл страціла дзіця. Медыкі нават сумняваліся, ці зможа княгіня калі-небудзь пасля гэтага стаць маці.

Вінаватага афіцэра-дэбашыра прыгаварылі да смерці, і прысуд быў бы прыведзены ў выкананне, калі б муж і жонка Радзівілы не даравалі яму яго ўчынак.

На шчасце, апасенні ўрачоў наконт будучага Францішкі Уршулі як жанчыны не апраўдаліся. Аднак нельга сказаць, што падзенне з лесвіцы зусім не паўплывала на стан здароўя маладой княгіні. Хоць ужо ў наступным годзе яна стала маці і потым амаль штогод нараджала дзяцей, сярод якіх былі нават двайняшкі і адна тройня, здароўем спадчыннікі Радзівілаў не вызначаліся. Францішка Уршуля раджала васемнаццаць разоў, а да паўналецця дажылі толькі чацвёра яе дзяцей: два хлопчыкі і дзве дзяўчынкі.

Але не будзем забягаць наперад. Калі 18 мая 1727 года ў Радзівілаў з'явіўся на свет першы іх сын, доўгачаканы спадчыннік Мікалай Крыштаф, свякроў радавалася не менш за нявестку і сына. Хутка пасля гэтай падзеі з вялікай цеплынёй прыняла старая княгіня ў сябе ў Белай Міхала Казіміра і Францішку Уршулю з дзіцем. Не магла нацешыцца немаўлём і нават настаяла на тым, каб яго пакінулі на выхаванне ёй.

Між тым Міхал Казімір пачаў сур'ёзна займацца палітычнай дзейнасцю. У 1728 годзе ён стаў маршалкам Трыбунала, атрымаў пасаду канюшага Вялікага Княства Літоўскага. У 1733 годзе, пасля смерці караля Аўгуста II Моцнага, выступіў у падтрымку кандыдатуры сына нябожчыка. І ў тым, што той узышоў на прастол Рэчы Паспалітай і стаў каралём Аўгустам III, нямала дапамог менавіта Радзівіл. Удзячны манарх паспрыяў далейшай кар'еры вернага нясвіжскага князя, які ўрэшце стаў гетманам Вялікага Княства Літоўскага.

Дзяржаўныя справы займалі нават значна больш часу, чым гаспадарчыя. Рыбанька пастаянна знаходзіўся ў раз'ездах. Але і яго жонка не была дамаседкай. Даволі часта суправаджала яна свайго мужа. Часам прыязджала на сустрэчу з ім у той ці іншы горад. Але значна больш часу яна ўсё ж праводзіла ў Нясвіжы і іншых маёнтках мужа.

Францішка Уршуля працягвала кахаць свайго мужа (як, дарэчы, і ён яе). Аднак раўнавала яго да ўсіх прыгожых жанчын. Дзеля таго, каб не страціць яго кахання, яна імкнулася выкарыстаць усё сваё абаянне. У чым жа яно заключалася? У першую чаргу ў розуме і літаратурным таленце. Княгіня літаральна засыпала мужа лістамі. Усе яны былі вершаванымі, прычым настолькі дасканалымі, што Рыбанька захаваў іх усе да аднаго. Значна пазней яны былі выдадзены асобнай кніжкай пад назвай «Лісты да мужа».

Трэба заўважыць, што Міхал Казімір з'яўляўся таксама высокаадукаваным чалавекам. Ён добра разумеў, якім скарбам валодае, і таму

рабіў усё магчымае, каб Францішка Уршуля адчувала сябе шчаслівай. Рэўнасць маладой жанчыны была дарэмнай. Міхал Казімір не прамяняў бы яе, разумную і таленавітую, ні на адну прыгожанькую пустышку.

Уршуля выкарыстоўвала свае паэтычныя здольнасці не толькі пішучы лісты да мужа, а адзывалася імі на ўсе больш-менш значныя падзеі. Калі ў двухгадовым узросце памёр яе першанец Мікалай Крыштаф, гора маці пралівалася не толькі слязамі, але і вершамі. Цудоўныя, пранікнёныя вершаваныя эпітафіі стварыла княгіня ў памяць пра дваіх наступных памерлых дзетак: Ганну Катажыну, якая сканала ў трохмесячным узросце ад воспы, і Януша Тадэвуша, аднаго з двайняшак-хлопчыкаў што нарадзіліся пасля дзяўчынкі. Другі сын, Караль Станіслаў, выжыў. Але ён рос вельмі хваравітым. Бацькі баяліся страціць і яго. Яны прыставілі да спадчынніка роду не толькі вялікую колькасць выхавальнікаў і настаўнікаў, але і некалькіх лекараў.

У час адной са сваіх паездак Міхал Казімір сустрэўся з незвычайнай парай. У Расію накіроўвалі свой шлях былы турэцкі палонны (аўстрыец па паходжанні), прапаршчык Фартунат Пільштын і жанчына, якая выкупіла яго з няволі. Прапаршчык у знак падзякі ажаніўся з ёй. Звалі гэтую жанчыну Саламея Русецкая. Яна была вядомай лекаркай. І Рыбанька, які шмат чуў пра здольнасці Саламеі, вырашыў, што добра б атрымаць такога ўрача для свайго сына. Ён прымае маладую пару да сябе на службу. Фартунат прызначаецца харунжым, а Саламея — «доктаркаю». Князь забірае іх у Нясвіж.

Францішка Уршуля адразу звярнула ўвагу на новую лекарку. Ды і не дзіва. Саламея шмат дзе пабывала, шмат чаго пабачыла. Яна была выключнай расказчыцай. Да ўсяго — яе вызначалі рашучасць, упартасць, схільнасць да авантур. Гаспадыня і госця былі поўнай процілегласцю адна адной. Кіпучая прага да дзейнасці, актыўнае ўспрыняцце рэчаіснасці — вось яны, тыя рысы характару, якіх не хапала Францішкі Уршулі і якія прывабілі яе ў новай знаёмай. Саламея таксама не магла не зацікавіцца гаспадыняй Нясвіжа. Здавалася, што жанчыны знайшлі адна адну, што паміж імі ўсталяваліся блізкія адносіны, але... раптам Саламея Русецкая знікла. Яна пакінула сваю маленькую дачку ў бенедыктынскім кляштары і накіравалася ў Санкт-Пецярбург. Лекарцы стала проста-такі сумна на адным месцы.

Да таго ж яна прывыкла працаваць самастойна. Для яе не існавала аўтарытэтаў. А ў Нясвіжы быў цэлы кансіліум калег.

Такі ўчынак Саламеі вельмі пакрыўдзіў Францішку Уршулю і Рыбаньку. Але хутка ў Міхала Казіміра з'явілася магчымасць нагадаць лекарцы пра яе няўдзячнасць. Прыкладна праз палову года Русецкая

вярталася з Расіі ў Турцыю. Яе шлях ляжаў праз Беларусь. Князь перахапіў бяглянку і накіраваў яе да мужа на Палессе ў вёску Лахва (на тэрыторыі сучаснага Лунінецкага раёна), дзе служыў Фартунат. Але Саламея змагла збегчы і адтуль. Нагода, якая дала ёй магчымасць выехаць за мяжу, была простай, але арыгінальнай. Русецкая накіравалася да родных мужа, каб атрымаць грошы, якія яна затраціла на яго выкуп з турэцкай няволі.

А крыху пазней сям'ю Радзівілаў зноў напаткала бяда. Васьмігадовы Караль Станіслаў захварэў на воспу. Якімсьці цудам яго выратавалі. Але лекары забаранілі яму вучыцца: яны баяліся, што перанапружанні, звязаныя з вучобай, канчаткова падарвуць слабы арганізм. Хлопчык і да таго быў надта разбалаваны ўсеагульнай увагай, а тут наогул згультаіўся. Шмат намаганняў давялося прыкласці настаўнікам і бацькам, каб іх дзіця не вырасла разбэшчаным. Для яго выхавання быў выкарыстаны нават тэатр, які існаваў пры іх двары.

Захапленне Радзівілаў тэатрам, мяркуючы па ўсім, пачалося ў 1740 годзе. Менавіта ў той год іншаземная трупа паставіла ў Нясвіжскім замку п'есу «Прыклад справядлівасці». У далейшым пастаноўкі праводзіліся сваімі сіламі. Спачатку паказвалі камедыі Мальера, «Заіру» Вальтэра, творы іншых еўрапейскіх аўтараў, якія, дарэчы, Францішка Уршуля перакладала сама.

Прыдворны тэатр быў аматарскім. У спектаклях разам з прыгоннымі артыстамі, спевакамі, танцорамі, музыкамі ўдзельнічалі члены княжацкай сям'і, шляхта, выхаванцы кадэцкай школы, якая існавала тады ў Нясвіжы. П'есы першапачаткова ставіліся альбо ў замку, альбо ў прыгарадзе Нясвіжа — Альбе, альбо ў гэтак званым «зялёным» тэатры — «Карэляцыі», які знаходзіўся за замкавым ровам. Адным бокам ён выходзіў на гарадскі рынак, другім — на пагорак, на адным са схілаў якога былі абсталяваны месцы для гледачоў. Тут магла размясціцца тысяча чалавек. Фактычна «Кансаляцыя» была першым стацыянарным тэатрам на Беларусі.

Радзівілаўскі тэатр набыў шырокую вядомасць у Рэчы Паспалітай. Але найбольш поўна ён пачаў жыць пасля 1746 года. Менавіта тады кіраўніцтва тэатрам узяла ў свае рукі Францішка Уршуля Радзівіл. Тады ж яна пачала пісаць камедыі і трагедыі.

У далейшым на працягу ўсяго яе жыцця нясвіжскі тэатр ставіў галоўным чынам п'есы сваёй гаспадыні альбо перапрацаваныя ёю французскія камедыі і трагедыі. Для сваіх твораў княгіня выкарыстоўвала сюжэты са славянскіх паданняў, твораў антычных аўтараў, зборніка арабскіх казак «Тысяча і адна ноч». У некаторых з яе п'ес з'яўляліся турэцкія матывы. Апошнія, магчыма, былі навеяны ўспамі-

намі аб прыгодах Саламеі Русецкай і аб яе расказах, якія калісьці так хвалявалі Францішку Уршулю.

Ва ўсёй Еўропе тых часоў п'есы мелі павучальны характар. Бачым мы гэта і ў творах Францішкі Уршулі. Вось, напрыклад, камедыя «Дасціпнае каханне», напэўна, першая з арыгінальных п'ес, якія выйшлі з-пад пяра княгіні (яна была пастаўлена ў тэатры «Кансаляцыя» 13 чэрвеня 1746 года). Галоўны яе герой, пастух-егіпцянін Люцыдор мае трынаццаць дачок Ён хворы і падслепаваты, і таму дзяўчаты, якія мараць пра каханне, дураць свайго няшчаснага бацьку. Яны па чарзе нахабна прыводзяць дамоў сваіх каханкаў, а калі з'яўляецца Люцыдор, тыя займаюць месца на пастаментах для статуй і прыкідваюцца мармуровымі скульптурамі. Падмануць бацьку дачкам, канешне, удаецца, а вось сабе яны ледзь не псуюць усё жыццё, бо ў любоўных сустрэч бываюць вельмі сумныя вынікі. І менавіта пра гэта папярэджвае сваіх гледачоў княгіня-драматург, заклікаючы кахацца лепш пасля заключэння законнага шлюбу.

Альбо камедыя «Каханне — ідэальная майстрыха», у якой расказваецца пра сына грэка Дэмакрыта, Галезія. З трох сыноў Дэмакрыт толькі ён грэбаваў навукай. Бацька, які саромеўся невука сына, адаслаў яго ў вёску. Там юнак быў прызначаны пастухом. Аднойчы Галезій убачыў прыгожую дзяўчыну, калі тая спала на лузе. Юнак адразу закахаўся. Але разбуджаная ім прыгажуня збегла: ёй не падабаліся манеры новага знаёмага. Перад тым як знікнуць, яна выказала юнаку ўсё, што думае пра яго. Галезій ледзь не згарэў ад сораму. Але ён вырашыў дабіцца рукі каханай. І таму пачаў вучыцца, дзеля чаго наняў сабе процьму настаўнікаў. Дзякуючы ўзаемным намаганням, Галезій хутка нібыта наноў нарадзіўся. І вось выхаваны і адукаваны юнак з'яўляецца перад каханай. Поспех яму забяспечаны. Без сумнення, гэта камедыя была разлічана на Караля Станіслава. Той даўно перарос сваю хваравітасць, а вось каб вучыцца, дык асаблівага жадання не меў. Магчыма, гэты намёк рабіўся і для іншых дзяцей княгіні, якім вельмі падабалася ўдзельнічаць у спектаклях. Асабліва гэта датычылася дачкі Тэафілі. Яна ўся аддавалася ролі. Здавалася, што дзяўчына прымярае чарговую ролю на сябе, жыве жыццём сваіх гераінь. Шэраг жаночых ролей быў, пэўна, напісаны маці менавіта з разлікам, што выконваць іх будзе Тэафіля. Напрыклад, роля хрысціянскай пакутніцы Ірыны ў п'есе «Суддзя, пазбаўлены розуму». Сюжэт яе падказаў княгіні Радзівіл езуіт С. Велавейскі. У час рымскага імператара Дыяклецыяна за веру прынялі смерць тры юныя дзяўчыны: Агаф'я, Хіёна і Ірына, з якіх трэцяя была самай высакароднай і прыгожай. Аддаў іх на смерць і пакуты несумленны

суддзя Дыльцытус, які па чарзе дабіваўся ад кожнай кахання і быў усімі трыма дзяўчатамі адвергнуты. Па волі аўтаркі п'есы Агаф'я і Хіёна ў канцы пазбягаюць смерці на вогнішчы, але Ірына ўсё ж гіне і паволі ўзыходзіць на нябёсы па залачонай лесвіцы.

З дзённіка Рыбанькі вядома, што ў 1758 годзе яго дачка іграла ў п'есе «Каханне нараджаецца з погляду». Вобраз Дарыды, рамантычнай гераіні названай п'есы настолькі прывабіў юную Тэафілю, што яна праз шэсць гадоў, ужо ў жыцці, а не на сцэне, паўтарыла яе ўчынак — выйшла замуж па каханні насуперак волі родзічаў. А было гэта так. У 1764 годзе дзяўчына ўдзельнічала ў бітве, якую Караль Станіслаў Радзівіл даў пад Слонімам прыхільнікам Літоўскай канфедэрацыі. У гэтай бітве вызначыўся сваёй мужнасцю бедны юнак Ігнацы Мараўскі. Яго адвага зачаравала дзяўчыну. Тэафіля праз восем дзён пасля гэтай бітвы таемна абвявалася з Мараўскім.

Многія творы княгіні мелі і іншы аб'ект маральнага ўздзеяння. Гераіні шматлікіх напісаных ёю камедый і трагедый — ахвяры мужчынскага падману. Гэта пяшчотныя, цудоўныя істоты, якія пакутуюць ад вераломства каханых. Яны самааддана кахаюць сваіх мужоў, тыя ж здраджваюць ім пры першай магчымасці.

Францішка Уршуля, як адзначалася вышэй, вельмі раўнавала свайго мужа з прычыны таго, што ён часта адсутнічаў у Нясвіжы. Яго пастаянныя раз'езды па службовых, ды і не толькі службовых, справах вельмі хвалявалі яе. Таму зместам сваіх твораў княгіня жадала запэўніць мужа, што сямейная вернасць заўжды атрымае ўзнагароду, а здрада будзе жорстка пакарана.

Падзеі гэтых п'ес адбываліся ў сівой мінуўшчыне альбо ў далёкіх экзатычных краінах. Але гледачы, гэтаксама як і ўдзельнікі, выдатна ўсё разумелі. Францішка Уршуля знаходзілася ў росквіце творчых сіл.

Яна паспрабавала свае магчымасці нават у напісанні оперных лібрэта, гэта было нашмат цяжэй, чым пісаць пісьмы-вершы ці тыя ж п'есы. У той час оперы былі больш падобны да сучаснай аперэты. Арыі, ансамблі і хоры перапыняліся празаічнымі дыялогамі. Нярэдка адна з дзей оперы была цалкам танцавальнай.

Такімі операмі, пастаўленымі ў Нясвіжы, сталі, напрыклад, «Шчаслівае няшчасце», у аснову якой лягла гісторыя выкрадання Еўропы Зеўсам, «Сляпое каханне не думае пра вынікі», зробленая таксама на антычны сюжэт, паводле якога мегарская царэўна Скіла, закахаўшыся ў крыцкага цара Мінаса, які напаў на яе радзіму, вырашыла дапамагчы яму дабіцца перамогі і гэтак заслужыць яго любоў. Яна ведала, што Мегару нельга захапіць, пакуль бацька яе, цар Нінус, мае ў барадзе залаты волас. І царэўна ноччу абрэзала яму

бараду. Але крыцянін Мінас аказаўся высакародным чалавекам. Ён абурыўся ўчынкам Скілы, адверг яе і, не скарыстаўшыся сітуацыяй, зняў асаду.

Хто быў аўтарам музыкі да нясвіжскіх опер — невядома. Некаторыя даследчыкі называюць імя прыдворнага скрыпача Яна Цэнцыловіча.

Хвалявала княгіню і развіццё Нясвіжа. Так, яна падгаварыла Рыбаньку, каб ён адшукаў і загадаў аднавіць забытую замкавую друкарню. Магчыма, менавіта ў ёй выходзіла газета, рэдактарам якой была пані Радзівіл. Дакладна вядома, што тут гравёр Гірш Ляйбовіч выдаў унікальную нават у тыя часы «Кнігу партрэтаў Радзівілаў». Уршуля клапацілася аб павелічэнні багаццяў замкавай бібліятэкі. Кніжны фонд тады вырас да 20 тысяч тамоў. Па жаданні Францішкі Уршулі ў 1748 годзе на беразе аднаго са штучных азёр, створаных на рацэ Уша, быў узведзены спецыяльны будынак тэатра — «Камедыхауз».

Пані Радзівіл магла б, без сумнення, зрабіць яшчэ больш. Але лёс вызначыў ёй кароткае жыццё. У 1753 годзе Францішка Уршуля памірае. Прыхільнікі яе таленту не далі забыццю паглынуць імя кіраўніцы тэатра і драматурга. Адзін з акцёраў-аматараў які жыў у Нясвіжы, сабраў усе драматычныя творы Францішкі Уршулі і ўжо ў наступным годзе пасля яе смерці выдаў асобнай кнігай. Зборнік быў упрыгожаны гравюрамі М. Жукоўскага. У яго ўвайшлі I б п'ес і 7 оперных лібрэта.

## Балерына і кароль

Гэта проста цуд, што яе імя і лёс захаваны для нас гісторыяй. А колькі іх, невядомых, знікла, не пакінуўшы пасля сябе нічога, акрамя яркіх успамінаў сучаснікаў пра пачуццё свята, якое ўзнікала пры судакрананні з іхняй творчасцю.

Апалоніі Дарэўскай, прыгоннай танцоўшчыцы Антонія Тызенгаўза, пашанцавала: у архівах захаваліся дакументы, па якіх можна з большай ці меншай дакладнасцю прасачыць яе шлях ад маленькай навучэнкі Гродзенскай тэатральнай школы да бліскучай прымабалерыны прыдворнага тэатра. Дзякуючы гэтаму яшчэ адзін эпізод нашага мінулага набыў жывы, чалавечы твар. Апалонія Дарэўская — адна з тысячаў тых, хто паклаў сваё жыццё на алтар мастацтва, хто стаяў ля вытокаў з'явы агульнаеўрапейскага маштабу, імя якой — беларускі балет.

Гісторыя каралеўскай сільфіды пачалася ў 1774 годзе ў Гродне, калі саракагадоваму падскарбію надворнаму літоўскаму, вялікаму аматару мастацтва Антонію Тызенгаўзу прыйшло ў галаву адкрыць сваю тэатральную школу. У ёй павінны былі выхоўваць з таленавітых сялянскіх дзяцей артыстаў для оперна-балетнай трупы яго тэатра.

Калі ў 1765 годзе Антоній Тызенгаўз стаў гродзенскім старастам і кіраўніком каралеўскіх эканомій, ён адразу ж пасадзейнічаў узнікненню ў Гродне капэлы. Хутка музыканты яе набылі вядомасць не толькі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, але і па-за яго межамі, і ўжо ў 1769 годзе на базе капэлы ўзнікае музычны тэатр. Шмат у чым Антоній Тызенгаўз быў ахвярай моды, якая нарадзіла ў Заходняй Еўропе цэлы шэраг цудоўных прыватных тэатраў.

Спачатку ў тэатры выступалі пераважна іншаземныя артысты, якіх Тызенгаўз запрашаў у Гродна, каб прыемна бавіць свой вольны час і дастаўляць задавальненне гасцям, што даволі часта наведвалі яго велічны палац. Але ён быў не толькі меламанам, а і ў поўнай меры патрыётам. Ён даволі хутка зразумеў, што тэатральныя пастаноўкі не пагоршацца ад таго, што італьянцаў у іх заменяць беларусы. З прыгонных можна будзе скласці пастаянную трупу, працаваць з якой будзе значна лягчэй. Так узнікла тэатральная школа.

У яе пачалі набіраць сялянскіх дзяцей з васьмігадовага ўзросту. У першы набор трапіла і маленькая Апалонія. Развітваючыся з ёю, бацькі галасілі, як па нябожчыцы. Палохалі панскія выбрыкі. У вёсках Тызенгаўза хадзілі чуткі, што ў школе збіраюцца зрабіць з дзяцей бязбожнікаў, навучыць распусце, загубіць чыстыя дзіцячыя душы.

Неадукаваныя бацькі Апалоніі не маглі зразумець, што чакае іх дачку, але адчувалі, што ёй будзе вельмі цяжка.

Дзяўчынка была залічана ў клас танца. Акрамя яго існавалі яшчэ два: клас спеваў і клас музыкі, у якім дзяцей вучылі іграць на розных музычных інструментах. Агульнымі для ўсіх вучняў былі такія дысцыпліны, як нотная грамата, тэорыя музыкі, пісьмо, маляванне, французская і англійская мовы, арыфметыка. Дзяўчынкам выкладалі яшчэ і рукадзелле.

Вырашана было ўмоўна падзяліць курс навучання на тры класы. Спачатку ўсе дзеці займаліся ў падрыхтоўчым трэцім класе. Праз некаторы час, калі яны дасягалі ўзросту 11-14 гадоў і засвойвалі азы танца, іх пераводзілі ў другі клас. Самыя ж таленавітыя пасля праходжання своеасаблівага конкурсу мусілі быць дапушчаны ў вышэйшы, першы. Танцоўшчыкі першага класа станавіліся салістамі, другога — складалі кардэбалет. У трэці клас пастаянна дабіраліся новыя таленавітыя дзеці.

Заняткі ў малодшых навучэнцаў цягнуліся ўвесь дзень — дванаццаць гадзін, шэсць з якіх было аддадзена ўласна танцу. Дзеці напачатку хутка стамляліся і пераставалі ўспрымаць тое, што ім выкладаюць. За гэта іх сурова каралі. Пасля цяжкая праца з пяці гадзін раніцы да позняга вечара стала звыклай. Настолькі, што, перайшоўшы ў другі і першы класы, яны ўжо маглі займацца па пятнаццаць гадзін у суткі.

Зрэшты, перад вачыма ў юных танцоўшчыкаў заўсёды быў жывы прыклад чалавечай вынослівасці — іх настаўнік, харэограф-неапалітанец Гаэтана Петынецці. Дваццацігадовым маладым чалавекам прыехаў вясною 1774 года гэты выдатны танцоўшчык у Гродна, каб аддаць беларускаму гораду некалькі самых лепшых гадоў свайго жыцця, а беларускім сялянскім дзецям — частку бессмяротнага агню сваёй душы.

Прыгожы, як язычніцкі бог, гнуткі, зграбны, Гаэтана стаў першым дзявочым захапленнем Апалоніі, яе кумірам, кожнае слова якога лавілася з заміраннем сэрца, запаміналася надоўга, калі не назаўжды. Петынецці знаёміў сваіх вучняў з усім прагрэсіўным, што адбывалася ў свеце танца. Ад яго даведалася дзяўчынка пра тое, як у Італіі трыста гадоў таму ўзнік новы тып тэатральнага мастацтва — балет; як змяняліся з цягам часу, станавіліся больш лёгкімі і раскаванымі рухі танцоўшчыкаў; як зусім нядаўна ў Францыі артысты балета ўсталі на высокія паўпальцы, што стварыла незвычайны для танцаў усіх часоў і народаў эфект лёгкасці, паветранасці. Цяпер балерына можа паказаць у танцы лятучую паходку німфы альбо сільфіды.

Пасля гэткіх аповедаў хацелася працаваць з яшчэ большай стараннасцю. У Апалоніі аказалася вельмі гнуткае цела, ды ўвогуле была яна стройнай, тоненькай і ладнай дзяўчынкай. У адзінаццаць гадоў яна была ўжо зачаравана танцам настолькі, што ні аб чым іншым, акрамя сцэны, не магла і марыць. Менавіта ў гэтым узросце ёй упершыню была даверана невялічкая роля ў школьным спектаклі «Вясковы балет» — адной з маленькіх сялянак, сяброўкі галоўнай гераіні. Тым не менш, Апалонія адчувала сябе на сцэне вельмі ўпэўнена. «Вясковы балет» быў задуманы Петынецi як своеасаблівая справаздача перад Тызенгаўзам. Падчас спектакля харэограф-настаўнік, які выконваў галоўную ролю, найбольш цяжкую, папераменна прадстаўляў пану сваіх вучняў, паказваў, што яны могуць.

Пан застаўся задаволены. Пасля было яшчэ некалькі вучэбных спектакляў: «Квартэт дудароў», «Балет пекараў». Петынецi эксперыментаваў. Ён рабіў свае балеты на мясцовыя сюжэты, выкарыстоўваючы не толькі нацыянальны каларыт, але і пэўныя рухі народнага танца.

Вырашыўшы нарэшце, што вучні яго гатовы для сур'ёзнай работы, харэограф з дазволу Тызенгаўза вывеў іх на сцэну сапраўднага тэатра. Цяпер падлеткі-танцоўшчыкі ўпрыгожвалі сваім мастацтвам многія спектаклі. Але для галоўных ролей яны былі яшчэ недастаткова дарослымі. Іх выконваў сам настаўнік і абаяльная пара танцоўшчыкаў-італьянцаў Марэлі, якія атабарыліся ў Гродне ў чэрвені 1779 года.

У гэтым жа годзе адбылася і першая асабістая трагедыя Апалоніі. Яе любімы настаўнік вырашыў пакінуць Гродна. Гаэтана Петынецi перацягнуў у свой нясвіжскі тэатр Караль Станіслаў Радзівіл. Перад ад'ездам італьянец прадказаў маленькай танцоўшчыцы вялікую будучыню, як, дарэчы, і іншым сваім вучням: Бжазінскаму, Рымінскаму, Малійскай і Пякарскай.

Першае пакаленне беларускіх артыстаў балета ўжо нарадзілася. Пасля Петынецi гродзенскай балетнай трупай, у складзе якой было цяпер больш за 30 прафесійна падрыхтаваных артыстаў, пачалі кіраваць Ганна і Казіма Аўгусціна Марэлі. Але ў наступным годзе адбылася падзея, якая ўскалыхнула адносна спакойнае жыццё прыгонных артыстаў. Муж і жонка Марэлі пасварыліся з Тызенгаўзам настолькі моцна, што атрымалі ад яго прапанову неадкладна пакінуць Гродна.

Разззлаваныя танцоўшчыкі напісалі скаргу на гродзенскага старасту самому каралю Станіславу Аўгусту Панятоўскаму. Гасудар Рэчы Паспалітай вырашыў умяшацца, але прымірыць Тызенгаўза з італьянцамі не здолеў. Мала таго, у запале падскарбі надворны літоўскі

дазволіў сабе некалькі рэзкіх слоў у адрас свайго караля. І Панятоўскі, які раней атрымаў яшчэ некалькі скаргаў нядобразычлівцаў і зайздроснікаў Тызенгаўза, выкарыстаў іх, каб абвінаваціць магната ў палітычнай бяздарнасці, няўдалай гаспадарчай дзейнасці і адхіліць ад кіравання каралеўскімі эканоміяй!. А ўжо сам Тызенгаўз падаў у адстаўку з пасады падскарбія.

Яшчэ два гады апальны магнат, нягледзячы на матэрыяльныя цяжкасці, якія адчуў неўзабаве пасля гэтых падзей, утрымліваў свой тэатр. Зімою 1781 года ён нават арганізаваў выступленне гродзенскіх артыстаў у Варшаве, спадзеючыся, што, магчыма, кароль, калі яму спадабаецца балетны паказ, зноў наблізіць яго да сябе. Але гэтага не адбылося.

Неўзабаве пасля гастролей будынак тэатра быў прададзены. Артыстаў перавезлі ў Быцень, пасля — у Жэліхаў і ўрэшце рэшт яны апынуліся ў Паставах, якія належалі ў той час таксама Тызенгаўзу. Маленькі пастаўскі тэатр стаў, па сутнасці, тэатрам балета. Спевакі былі значна менш прафесійна падрыхтаваны, чым танцоўшчыкі, і Тызенгаўз вырашыў адмовіцца ад іх.

У Паставах Апалонія блізка сышлася з дзвюма таленавітымі дзяўчатамі, Магдаленай Карніцкай і Марыянай Чаклінскай, такімі ж вучаніцамі балетнай школы, як і яна сама. Дзяўчаты ўжо даўно прыглядаліся адна да адной і ўрэшце адчулі сябе здольнымі на сапраўднае сяброўства. У далейшым гэтыя тры выдатныя балерыны былі разлучаны лёсам, але заўсёды з цікавасцю сачылі адна за адной. Цяжкі ж шлях станаўлення ім давялося падзяліць на траіх.

У Паставах Дарэўскую чакала прыкладна тое ж, што было ў Гродне: доўгія, знясільваючыя практыкаванні і кароткія бліскучыя хвіліны поспеху. Танец цяпер выкладалі француз Габрыэль Ле Ду і танцоўшчык з прыгонных Рымінскі. Яны вылучылі Апалонію сярод іншых. Дзяўчыне пачалі давяраць галоўныя партыі. Яна танцавала багіню Дыяну ў «Балецe водаў, ці Купелі Дыяны» і Галатэя) ў «Статуі Пігмаліёна». Апошні балет, дарэчы, вазілі паказваць у Гродна, і ён выклікаў там вялікую зацікаўленасць. Тызенгаўз выказаў задавальненне і паабяцаў Ле Ду, што і надалей будзе падтрымліваць балетную трупу.

Але ў сакавіку 1785 года Тызенгаўз раптоўна памёр. Калі тэстамент магната быў абвешчаны, артысты даведаліся, што «15 танцорак і 18 танцораў», лепшая частка пастаўскай балетнай трупы згодна з пажаданнем нябожчыка павінна была перайсці ва ўласнасць караля. Апалонія аказалася адной з тых, хто неадкладна мусіў выехаць у Варшаву да новага ўладальніка, Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

24 верасня 1785 года Ле Ду паказаў каралю Рэчы Паспалітай свой новы спектакль «Гілас і Сільвія». Балет гэты быў створаны паводле камедыі Рашона дэ Шабана, французскага другаразраднага драматурга, які сачыніў свой твор па матывах шэкспіраўскай «Буры».

Музыку да балета напісаў кампазітар Ф. Ж. Госак. У спектаклі танцавалі ўсе тры сяброўкі-балерыны: Чаклінская, Карніцкая і Дарэўская. На жаль, нам не вядома дакладна, хто з іх выконваў тады галоўную партыю. Здаецца, менавіта яна — васемнаццацігадовая Апалонія — была Сільвіяй.

Як бы там ні было, але кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі прыйшоў у захапленне і ад паказу, і ад Дарэўскай, якая зачаравала яго не толькі талентам, але таксама і яркай знешнасцю. Неўзабаве менавіта Апалонія стала галоўнай салісткай трупы.

Гэта была першая польская балетная трупа. Яна была заснавана ў 1780 годзе і насіла гучную назву «Таварыства танцоўшчыкаў яго каралеўскай вялікасці». Усе артысты, што ўваходзілі ў яе, былі сялянскага паходжання. Амаль трэць танцоўшчыкаў трапіла сюды з Беларусі. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, які лічыў сябе «ліцвінам знатнага паходжання, бо нарадзіўся і прыняў хрост» на літоўскіх землях, пэўна, быў вельмі задаволены, што славу Польшчы ствараюць яго землякі.

Ён усяляк заахвочваў і вылучаў іх. Да таго часу, як у калектыў уліліся трыццаць тры танцоўшчыкі Тызенгаўза, у ім ужо былі моцныя салісты, чые асаблівасці тэмпераменту, здольнасці і знешнія дадзеныя шмат у чым вырашалі пытанне з рэпертуарам: гераічныя спектаклі па антычную тэматыку, меладраматычныя пастаралі. З прыходам Апалоніі становішча нейкім чынам мяняецца. Кароль палічыў, што гэтай балерыне больш пасуе іграць гераінь тэмпераментных, жывых, вясёлых, і харэографы, каб дагадзіць манарху, пачынаюць складаць рэпертуар «пад Апалонію». Дарэўская з вялікім поспехам танцуе ў балетах «Мірза і Ліндор», «Рыбакі», «Лукас і Калінета». Дарэчы, у апошнім знаходзяцца добрыя ролі і для яе сяброўак Чаклінскай і Карніцкай. Акрамя каралеўскіх сцэн, усе тры дзяўчыны выступаюць у Нацыянальным тэатры. Неўзабаве Апалонія Дарэўская становіцца папулярнай асобай. Яе ведаюць і любяць.

І тут узнікаюць пытанні: ці сапраўды такому поспеху танцоўшчыца была абавязана толькі свайму вялікаму таленту і працавітасці? Ці можна дапусціць, што кароль пратэжыраваў балерыну з прыгонных сялян толькі таму, што вельмі любіў мастацтва і добра разумеў, якой незвычайнай каштоўнасцю дзякуючы волі лёсу і апальнаму Тызенгаўзу валодае? Дакументы, якія мы маем, нічога не распавя-

даюць пра асабістыя адносіны манарха і артысткі, таму, верагодна, любыя меркаванні на гэту тэму з'яўляюцца гіпатэтычнымі.

Кароль Аўгуст Панятоўскі, калі ён упершыню пабачыў васемнаццацігадовую Апалонію Дарэўскую, знаходзіўся ўжо ў сталым узросце — яму было пяцьдзесят тры гады. Але ўладар Рэчы Паспалітай яшчэ меў і сілы, і ахвоту для таго, каб заводзіць «пяшчотныя сувязі» з прывабнымі шляхцянкамі. Кажуць, ён заставаўся кавалерам да самай сваёй смерці. Дык што ж магло перашкодзіць гэтаму чалавеку зрабіць каханкай прыгонную танцоўшчыцу, калі яна, сапраўды, і юная, і прывабная, ды яшчэ і таленавітая?

З другога боку, біёграфы Панятоўскага часта падкрэслівалі, што кароль пры ўсёй сваёй прыхільнасці да прадстаўніц прыгожага полу вельмі высока цаніў сябе і не апускаўся да таго, каб сыходзіцца з просталюдзінкамі. Гэткім было яго правіла жыцця. Праўда, з кожнага правіла бываюць і выключэнні. Але са Станіславам Аўгустам такое магло б здарыцца, пэўна, толькі ў тым выпадку, калі б да просталюдзінкі яго прыцягнула не проста прага новых любоўных уражанняў, а сапраўднае, высокае каханне.

Калі б так і сапраўды адбылося, кароль, не ведаючы спосабу ўзняць каханую да свайго становішча і не жадаючы афішыраваць свой раман, мусіў бы старанна ўтойваць яго ад падданых. Магчыма, выпадак з Апалоніяй і быў якраз такім каханнем. Тады становіцца зразумелай і пяшчотная апека таленту Дарэўскай з боку Панятоўскага пры поўнай адсутнасці якіх бы там ні было сведчанняў пра сувязь караля з балерынай.

1794 год, які карэнным чынам паўплываў на лёс Рэчы Паспалітай, змяніў і жыццё каралеўскай прыма-балерыны. Другі падзел дзяржавы Панятоўскага ўскалыхнуў народныя масы. Пачалося паўстанне. Армію паўстанцаў узначаліў генерал Тадэвуш Касцюшка.

Панятоўскі апынуўся ў няпэўным становішчы. З аднаго боку, ён не мог хаця б на словах не падтрымаць дзеянні сваіх падданых, з другога ж — добра памятаў, што ўзышоў на прастол па волі расійскай імператрыцы Кацярыны II.

Калі ў 1764 годзе перад Расіяй паўстала пытанне, чыю кандыдатуру на польскую карону падтрымліваць, Кацярына ўспомніла сваё даўняе каханне, маладога сакратара англійскага пасольства Станіслава Панятоўскага, ад сувязі з якім у яе была нават дачка Ганна.

Стаўшы польскім каралём, Панятоўскі заўсёды прымаў такія рашэнні, якія не супярэчылі інтарэсам расійскай імператрыцы.

На гэты раз ён даволі доўга хістаўся, але ўрэшце рэшт зноў аддаўся на волю ўладнай Кацярыны II. Паўстанне Касцюшкі было

падаўлена. У 1795 годзе Аўстрыя, Прусія і Расія здзейснілі трэці і апошні падзел суседняй дзяржавы, пасля якога Рэч Паспалітая перастала існаваць. Станіслаў Аўгуст быў вымушаны адмовіцца ад прастола. Кацярына пасяліла экс-караля ў Пецярбургу, дзе ён жыў у дастатку, але, вядома, без пашаны.

Пакідаючы назаўжды Варшаву, кароль адпусціў на волю ўсіх сваіх артыстаў. Дарэчы, трэба адзначыць, што далёка не кожны з іх узрадаваўся гэтаму. Людзі, якія ўжо прывыклі ва ўсім разлічваць на волю і клопат гаспадара, не ведалі, як ім цяпер жыць.

Але Апалоніі не давялося спазнаць беднасць і нястачу. Цяпер ужо слава працавала на яе. З 1794 па 1797 гады Дарэўская танцуе ў прыватных антрэпрызах Варшавы і Гданьска і пад уласным імем, і пад псеўданімам — Дарота. Магдалена Карніцкая выбрала такі ж шлях, але працавала ў іншых антрэпрызах. Яна абрала шлюб і змяніла прозвішча на Дырэнталь. Марыяна Чаклінская, атрымаўшы волю, пасля 1797 года пакінула сцэну.

Ці часта ўспамінала Апалонія Дарэўская пра свайго караля? Шкадавала ці асуджала ў душы?

Многія ў тыя часы наракалі на Панятоўскага, бо з-за яго бязвольнасці Рэчы Паспалітай давялося перажыць не толькі тры ганебныя падзелы, але і нечуваную абразу дзяржаўнага гонару: сімвал каралеўскай улады, трон, які ў якасці трафея быў дастаўлены з Варшавы ў Пецярбург, Кацярына II прыстасавала пад начны гаршчок. Праўда, імператрыца, якраз седзячы на гэтым троне, і памерла ў 1796 годзе, што былыя падданыя Панятоўскага расцанілі як помсту ёй з боку Усявышняга.

Не раз успамінаў Станіслаў Аўгуст пра шчаслівы час, калі ён знаходзіў задавальненне ў наведванні варшаўскіх тэатраў. І тады ў думках яго настойліва ўсплывала імя Апалоніі. Урэшце рэшт яна стала для яго ўвасабленнем усяго таго прыўкраснага, далёкага і незваротнага, аб чым заўжды сумуе і пакутуе душа. Калі туга стала зусім нясцерпнай, Панятоўскі загадаў знайсці Дарэўскую і прапанаваць ёй прыехаць у Пецярбург.

Яна згадзілася адразу і, перарваўшы свой чарговы, даволі выгадны кантракт, спешна выехала ў расійскую сталіцу. Што кіравала ёю? Трапяткое пачуццё вернай падданай да свайго гаспадара? Каханне? Ці спаконвечнае незнішчальнае жаночае пачуццё шкадобы, якое іншы раз узнімае мужчын з прорвы да вышынь яшчэ лепш за каханне? Пэўна, мы ніколі ўжо пра гэта не даведаемся, можам толькі меркаваць...

Апалонія паспела прыехаць і суцешыць таго, хто быў яшчэ зусім нядаўна яе манархам, а можа, і не толькі манархам. Праз год, у 1798 годзе Станіслаў Аўгуст памёр. Апалоніі было тады больш за трыццаць. Узрост, салідны для балерыны, але, мяркуючы па ўсім, яшчэ недастатковы для таго, каб антрэпрэнёры палічылі Дарэўскую занадта старой для сцэны. Ёй прапаноўвалі вярнуцца ў Варшаву, каб танцаваць столькі, колькі яна яшчэ вытрымае, але Апалонія адмовілася. Не жадала перажыць уласную славу? Сумавала па сваім каралі? Хто скажа! Далейшы яе лёс невядомы.

У розны час у Расію трапілі і многія іншыя беларускія танцоўшчыкі, сярод якіх найбольшую вядомасць атрымалі дынастыі Няжынскіх і Кшысінскіх. Сваёй творчасцю яны павялічвалі славу рускага балета.

## “Стэла Фарнадына”

У сярэдзіне 50-х гадоў XIX стагоддзя юныя вільнянкі ўпотай ад сваіх суровых «шатан» і гувернантак зачытваліся цудоўнай паэмай пра каханне вялікага Рафаэля да сваёй натуршчыцы, гараджанкі Фарнарыны, якая пазіравала яму пры стварэнні славутай карціны «Сікстінская Мадонна». Быццам зорка, асвятляла яна жыццё мастака, таму паэма і называлася «Стэла Фарнарына».

Людзі асудзілі сувязь Рафаэля і Фарнарыны, якія не маглі павянчацца і таму «жылі ў граху». Але аўтар паэмы, ужо добра вядомы на той час і беларускаму, і польскаму, і расійскаму чытачу паэт Уладзіслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч) пранікнёна і шчыра стаў на абарону кахання, якое іншым разам гэтак моцна авалодвае людзьмі, што яго нельга адолець, яму нельга супраціўляцца, і застаецца толькі ўзносіць яго ў песнях, вершах ці ў жывапісных палотнах.

Маралісты часоў Сыракомлі абвясцілі паэму «Стэла Фарнарына» творам, шкодным для чытання хрысціянскай моладдзю. А закаханыя ўсіх узростаў перапісвалі адзін у аднаго «крамольны твор» і завучвалі на памяць вялікія ўрыўкі.

«Стэла Фарнарына» тым больш вабіла чытачоў, што сваім з'яўленнем была абавязана гучнаму скандалу. Аўтар паэмы, паэт Уладзіслаў Сыракомля, ігнаруючы нормы маралі, прынятыя ў яго асяроддзі, на вачах ва ўсіх «закруціў раман» з чужой жонкай, прыгажуняй і таленавітай актрысай Геленай Петранэлай Маеўскай.

Муж яе, Адам Ганорый Кіркор, быў вядомым гісторыкам, этнографам, археолагам і публіцыстам. У яго былі свае прыхільнікі, асабліва ў колах расійскіх чыноўнікаў, якія займалі высокія кіруючыя пасады на Беларусі. Тое, што Кіркору дасталася незайздросная роля ашуканага мужа, выклікала ў іх абурэнне, і яны аб'явілі Сыракомля) і Маеўскай байкот у вышэйшым віленскім грамадстве. У адказ на гэта з'явілася «Стэла Фарнарына». Лёс Рафаэля падаўся Сыракомля» падобным да яго ўласнага лёсу...

Ёсць жанчыны, якім наканавана быць сціплымі і назаўжды адданымі спадарожніцамі сваіх мужоў. Гелена Маеўская была іншай, з тых нешматлікіх і загадкавых жанчын, якія з'яўляюцца верхаводкамі мужчынскіх лёсаў з тых, хто на некаторы час робіць сваіх абранцаў бязмежна шчаслівымі, а пасля асуджаюць іх за гэта на доўгія гады адзіноты і пакутаў.

Нарадзілася Гелена Маеўская ў 1826 годзе ў Польшчы ў Раўскім павеце. З дзяцінства марыла стаць актрысай. Дзеля гэтага скончыла драматычную школу ў Варшаве. Артыстычную дзейнасць пачала ў

1843 годзе на віленскай сцэне. І адразу ж скарыла ўсіх сваёй вытанчанай пластыкай і грацыяй, адчуваннем сцэны, уменнем заваяваць увагу гледача.

Талент, цудоўныя знешнія даныя, вялікая працаздольнасць вельмі хутка зрабілі яе вядучай артысткай Віленскага тэатра. У большасці спектакляў, якія ішлі на яго сцэне, Маеўская выконвала галоўныя ролі. Яна хвалявала гледачоў у вобразе пяшчотнай шэкспіраўскай Джульеты, заварожвала ў ролі Амеліі ў «Генрыху ІІІ» паводле твора Аляксандра Дзюма-бацькі, змушала смяяцца да слёз у шматлікіх вадэвілях і аперэтах.

Яна іграла нават у спектаклі па п'есе Дзяніса Фанвізін «Недаростак» Соф'ю (у віленскай інтэрпрэтацыі твора, перакладзенага на польскую мову, яе гераіня мела іншае імя — Юзэфка).

Тэатральная кар'ера Маеўскай нечакана прыпынілася ў 1846 годзе. Гелена прыняла прапанову Адама Ганорыя Кіркора ажаніцца з ім і пасля вянчання выканала ягонае патрабаванне пакінуць сцэну. Шматлікія прыхільнікі артыстычнага таленту Маеўскай былі ў роспачы...

Але сама артыстка, здаецца, не вельмі засмучалася. А можа, успрымала сваё замужжа як новую цікавую ролю? У доме Кіркора яна выглядала клапатлівай жонкай і гасціннай гаспадыняй. Разам з мужам яны ўтварылі літаратурны салон, дзе збіраліся многія вядомыя беларускія, польскія і літоўскія дзеячы культуры.

Часта бывалі тут пісьменнікі В. Дунін-Марцінкевіч, А. Вярыга-Дарэўскі, А Адынец, гісторык Я. Тышкевіч, кампазітар С. Манюшка. Усе яны з захапленнем пісалі ў сваіх лістах, дзенніках і мемуарах пра чароўную гаспадыню, якая заўсёды была душой і сэрцам кампаніі.

1854 год стаў для сям'і Кіркораў фатальным. Салон пачаў наведваць паэт і краязнаўца Уладзіслаў Сыракомля — цікавы суразмоўца, чалавек вытанчанага густу, са складаным і нават трагічным лёсам. На той час ён цяжка і хваравіта перажываў смерць трох сваіх маленькіх дачок, якія пайшлі ў нябыт адна за адной літаральна на працягу месяца...

Нечакана Маеўская адчула, што яе спагада і цікавасць да гэтага чалавека перарастаюць у пачуццё значна больш пяшчотнае. Доўгі час яна спрабавала хаваць яго і ад навакольных, і нават ад сябе самой. Прасіла паэта пазнаёміць яе са сваёй жонкай, заўважыўшы, што Сыракомля чамусьці пазбягае размоў пра сям'ю, рабіла намаганні даведацца, у чым тут справа, і выказвала жаданне ў выпадку, калі ў паэта адбылося нейкае непаразуменне з сужэнкай, выступіць у якасці

прымірыцелькі. Урэшце рэшт яна пачула даволі незвычайную гісторыю чалавечых узаемаадносін.

Чатырнаццаць гадоў таму, у 1840 годзе, малады шляхціц Людвік Уладзіслаў Кандратовіч, будучы паэт Сыракомля, уладкаваўся на работу ў канцылярыю князёў Радзівілаў у Нясвіжы. Яго начальнікам стаў нехта Адольф Дабравольскі, які неўзабаве так упадабаў сціплага і стараннага маладога чалавека, што пачаў прымаць яго ў сваім доме.

На адной з такіх сямейных вячэр прысутнічала пляменніца Дабравольскага, Паўліна Мітрашэўская. Рамантычны юнак закахаўся ў прывабную паненку з першага погляду. Але з прапановай рукі і сэрца давялося чакаць, бо Паўліне было на той час усяго... трынаццаць. Людвік Уладзіслаў быў старэйшым за яе на пяць гадоў.

Пратаміўшыся да паўналецця сваёй выбранніцы ў блакітных марах пра вечнае каханне і незямное шчасце, Кандратовіч атрымаў доўгачаканае «так» толькі ў 1844 годзе. Спачатку сямейнае жыццё яго з Паўлінай было сапраўды блізкім да ідэальнага. Яна разумела яго з паўслова, абагаўляла яго «сціплы паэтычны дар», верыла ў яго высокае прызначэнне на гэтай зямлі. Ён не хацеў нават глядзець у бок іншых жанчын, пакутаваў, калі даводзілася праводзіць ноч удалечыні ад роднага дому, радаваўся нараджэнню дзяцей. Акрамя дачок, Паўліна падарыла яму таксама сына Уладзіміра.

Штосьці страшнае і непапраўнае здарылася з мужам і жонкай пасля таго, як яны раптоўна страцілі «сваіх дарагіх дзяўчынак». Быццам бы не было ні ўзаемных дакораў, ні жорсткіх абвінавачванняў, але ў душах пасялілася пустэча і самота.

Аповед паэта ўсхваляваў Гелену Петранэлу. У абмен на шчырае прызнанне пані Кіркор адкрыла і сваё сэрца. А менавіта тое, што Людвік Уладзіслаў незалежна ад яе волі валодае яе думкамі, што яна марыць пра яго днём і ноччу, што гатова была б ахвяраваць усім, што мае, дзеля шчасця быць побач з ім.

У той лёсавызначальны вечар паэт Сыракомля пакінуў дом Кіркораў усхваляваны звыш меры, блізкі да нервовага зрыву. І доўга Гелена Петранэла не бачыла таго, каму гэтак нечакана прызналася ў каханні. Але ён не знік назаўжды з яе жыцця, хоць яна і меркавала, што гэтак можа здарыцца. Уладзіслаў Людвік вярнуўся праз два месяцы, бо зразумеў, што не можа цяпер жыць, каб не бачыцца з Геленай. Неўзабаве замужняя жанчына і жанаты мужчына, не хаваючы сваіх пачуццяў, сталі сустракацца ўжо як каханкі.

Мы ведаем, як паставіліся да гэтага прыхільнікі Кіркора. Але і многія прыхільнікі Сыракомлі не зразумелі паэта. У іх галовах склаўся ідэалізаваны вобраз «лірніка вясковага». Сыракомля) яны бачылі

ўвасабленнем сумлення і чысціні, змагаром за чалавечую годнасць, заступнікам пакрыўджаных.

«Грахоўнае» каханне іх куміра разбурала, рушыла іх ідэал. І нават шчырыя высокія радкі паэмы «Стэла Фарнарына» не здолелі растапіць лёд у сэрцах тых, хто, не сустрэўшы ў жыцці сапраўднага кахання, узяўся асуджаць закаханых.

Маеўская вымушана была пакінуць мужа. У снежні 1857 года яна выязджае за мяжу, жыве ў сваёй аўдавелай маці Людвікі Вярбіцкай у Кракаве, што тады належаў Аўстрыі. Яна вяртаецца да сваёй любімай прафесіі, уладкаваўшыся ў тэатр Юліюша Пфайфра.

Ужо ў наступным годзе Маеўская з трыумфам выступіла ў спектаклі «Анджэла Маліп'еры» па драме В. Гюго ў галоўнай ролі вулічнай танцоўшчыцы Цізбы. Былі і іншыя, даволі ўдалыя ролі, якія яна выконвала на кракаўскай сцэне і падчас гастролей тэатра ў Познані, Каліты, Коліне, Любліне, Лодзі і Петрыкаве.

Летам 1858 года, падчас чарговага выезду трупы на гастролі, у Познані яна сустрэлася з Сыракомлем, які знарок прыехаў туды, каб пабачыць яе. Гелена адчула, што пачуццё, якое прынесла абоім столькі радасці і гора, не згасла.

Каб пабыць з каханым даўжэй, яна наўмысна параніла сябе ў сцэне «самагубства». Рана была неглыбокая, але ўрач, які аказваў першую дапамогу, рэкамендаваў некалькі дзён адпачынку і як мага менш рухаў. Гэта была добрая падстава для таго, каб на тыдзень затрымацца ў Познані, адстаўшы ад трупы.

Гэты тыдзень для Гелены Петранэлы стаў сапраўдным «мядовым месяцам». І праляцеў ён гэтак жа хутка і непрыкметна. Пасля гэтага Сыракомля паехаў разам са сваёй каханай у Петрыкаў, дзе яна далучылася да трупы. Там ён атрымаў ліст, у якім паведамлялася, што бацька Людвіка Уладзіслава памірае. Сыракомля вымушаны быў неадкладна выехаць на радзіму. Але ён паспеў толькі на пахаванне.

Пасля расстання з паэтам Маеўская атрымала магчымасць трохі супакоіцца і цвяроза паразважаць пра ўсё. Яна ўспомніла, як уразілі яе першыя хвіліны спаткання з каханым, тыя змены, што адбыліся з ім. Паэт знаходзіўся ў стане моцнай душэўнай дэпрэсіі. Ён шчыра распавёў ёй пра разрыў са многімі былымі сябрамі і знаёмымі, вельмі непакоіўся аб лёсе жонкі Паўліны, якую заўсёды паважаў і шкадаваў.

Баючыся за каханага чалавека, які мог не вытрымаць унутранага і знешняга ціску, Гелена Петранэла вырашыла лепш разарваць тыя ланцугі, якімі скавала па руках і нагах паэта. Услед каханаму паляцеў ліст, у якім без аніякіх тлумачэнняў Гелена прасіла болей не шукаць з ёю сустрэч. Ён зразумеў яе ўчынак.

Але надта шмат было выкрэслена з ранейшага жыцця дзеля кахання да гэтай жанчыны, каб можна было нешта выправіць, вярнуць. Змучаны паэт памёр у верасні 1862 года, паспеўшы зрабіць сваёй любай апошні падарунак — п'есу «Соф'я, князёўна Слуцкая», якую ў 1859 годзе Маеўская абрала для свайго бенефісу.

Яна пачала будаваць сваё жыццё наноў, паспрабаваўшы цалкам аддацца творчасці. Акрамя ролі славутай беларускай асветніцы Соф'і Слуцкай, якая была ёй асабліва дарагая, крытыкамі тых часоў адзначаліся яе работы ў спектаклях «Мазепа» па драме Ю. Славацкага і «Андрыенка Лекуўрэр» па п'есе Ф. Скрыва.

У пачатку 1860 года ў Гелены адбыўся творчы канфлікт з дырэктарам тэатра, і яна мусіла пакінуць кракаўскую сцэну. Разам з маці яна пераязджае ў Варшаву. Гелена Петранэла ніколі раней не ўмешвалася ў справы палітыкі, але раптам трапіла ў асяроддзе патрыятычна настроеных палякаў, якія займаліся падрыхтоўкай чарговага паўстання.

Скарыстаўшыся сялянскімі хваляваннямі, якія пачаліся ў Расіі ў сувязі з адменай прыгоннага права, польскія паўстанцы вырашылі арганізавана выступіць з патрабаваннем аднаўлення Рэчы Паспалітай, у складзе якой былі б, як і раней, Беларусь і Літва.

Варшава знайшла пэўныя паразуменні з беларускімі паўстанцамі, на чале якіх быў малады шляхціц Кастусь Каліноўскі. Хоць апошні збіраўся змагацца ў першую чаргу за правы сялян, а пасля ўжо — і за незалежнасць. Прычым і незалежнасць ён разумеў інакш, чым палякі, марыў пра суверэнную дзяржаву — Беларусь.

Гелена Петранэла захапілася ідэямі паўстання, і калі яно неўзабаве ўспыхнула, прыняла ў ім актыўны ўдзел,
стаўшы агентам і кур'ерам паўстанцаў. Неаднойчы Гелена Маеўская выязджала з даручэннямі ў Кракаў і Вільню, перавозіла дэпешы, грошы і вусныя загады. Яе кватэра стала канспіратыўным пунктам.

Якім даверам і павагай паўстанцаў карысталася гэтая жанчына, сведчыць тое, што ў лістападзе 1863 года, калі паўстанне на Беларусі было падаўлена, пад яе апекай аказаўся адзін з кіраўнікоў паўстання Рамуальд Траўгут. Ён быў цяжка паранены ў адным з баёў і таемна перапраўлены ў Варшаву. Гелена Петранэла зняла для яго пяціпакаёвую кватэру. Лічылася яе гаспадыняй і выконвала пры сваім падапечным і абавязкі сакратара.

Аднак царскія ўлады даведаліся пра месца знаходжання «дзяржаўнага злачынцы». 10 красавіка 1864 года Траўгут арыштавалі (неўзабаве ён быў пакараны смерцю). На наступны дзень у турму трапіла і

Маеўская. Адчуваючы небяспеку, яна паспела перадаць усе кампраметуючыя яе і Траўгут паперы адной з сувязных.

Магчыма, Гелене удалося б пазбегнуць пакарання, але яна зрабіла памылку: паспрабавала перадаць маці запіску, у якой паведамляла, у каго знаходзяцца паперы, і раіла забраць іх і знішчыць.

Запіску гэтую перахапіла паліцыя. Дакументы, якія сведчылі пра прыналежнасць артысткі да паўстання, былі знойдзены. У ліпені 1864 года Гелена Маеўская была прыгаворана судом да сямі гадоў катаржных работ у Сібіры. Адбывала тэрмін пакарання на саляных промыслах ва Усоллі.

Тым часам муж Маеўскай Адам Ганорый Кіркор пачаў дабівацца афіцыйнага разводу з ёю. Кіркор адмоўна ставіўся да паўстання, бо займаў ліберальную палітычную пазіцыю, накіраваную на супрацоўніцтва з царскімі ўладамі (ён нават трапіў у спіскі Кастуся Каліноўскага, куды правадыр беларускіх паўстанцаў заносіў прозвішчы тых, каго, на яго думку, трэба было дзеля перамогі распачатай справы ўстараніць фізічна).

А з-за паводзін сваёй грэшнай жонкі быў прыцягнуты да следства. Віны яго знойдзена не было, аднак улады перасталі яму давяраць і пазбавілі магчымасці працаваць у Вільні. Кіркор вымушаны быў перабрацца ў Пецярбург, а пасля — у Аўстрыю. Перад выездам за мяжу ён здолеўтакі атрымаць доўгачаканы развод з Геленай Петранэлай і ажаніўся з другой. Але шчаслівым ён так і не стаў. У Аўстрыі Кіркор спрабаваў займацца журналісцкай дзейнасцю, чытаў лекцыі, выдаваў кнігі, але ні былой вядомасці, ні стабільнага заробку гэта яму не прынесла.

Памёр ён у 1886 годзе пасля працяглай хваробы ў беднасці.

Гелене Петранэле ж пашанцавала. Ва Усоллі яна прабыла менш за два гады. У 1866 годзе па амністыі катаржныя работы ёй замянілі на пасяленне, і Маеўская перабралася ў Іркуцк.

Гэта быў па тых часах адзін з самых буйных у Сібіры гандлёвых і культурных цэнтраў. Там быў нават тэатр, і даволі прыстойны. Гелена Петранэла пайшла да дырэктара тэатра і прапанавала свае паслугі. Зрабіўшы запыт у Вільню, ён атрымаў пацвярджэнне таго, што Маеўская сапраўды лічылася адной з лепшых артыстак трупы. Яму нават выслалі некалькі газетных выразак з рэцэнзіямі на тыя спектаклі, у якіх яна бліскуча выступала.

Пасля гэтага ёй далі магчымасць іграць на іркуцкай сцэне. Але першая спроба аказалася і апошняй. Высветлілася, што ў артысткі сур'ёзныя праблемы з рускім вымаўленнем. Характэрны польскі

акцэнт аказаўся незнішчальным і выклікаў у гледачоў нязменна толькі іранічныя ўсмешкі.

Маеўская цяпер ужо канчаткова паставіла крыж на артыстычнай кар'еры. Яна выйшла замуж за ссыльнага земляка Антонія Піёра-Дэбінскага, хутчэй з-за агульнасці няшчасця, чым па каханні, і пасля заканчэння тэрміну пасялення паехала з ім на радзіму, у Магілёўскую губерню. Але Антоній, здароўе якога моцна падарвала Сібір, хутка памёр ад сухотаў. Аўдавелая Гелена Петранэла пераехала ў Віцебск.

Яна скончыла свой поўны драматызму зямны шлях у студзені 1900 года, сямідзесяці чатырох гадоў ад роду.

## “Талент, у якім геній бачны...”

Прынята лічыць, што дзеці выбітных асоб рэдка атрымліваюць у спадчыну талент бацькоў, і нават існуе выслоўе: прырода на дзецях адпачывае. Тым не менш з любога правіла бываюць выключэнні. Можна гэта сказаць і пра таленавітага музыканта Камілу Марцінкевіч, дачку выдатнага беларускага пісьменніка Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

Сваім з'яўленнем на свет яна была абавязана рамантычнай гісторыі кахання. Страціўшы бацькоў яшчэ ў дзяцінстве, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч трапіў пад апеку дзядзькі Станіслава Богуша-Сестранцэвіча, які паклапаціўся аб лёсе пляменніка, хваравітага і знявечанага (Вінцэнт нарадзіўся гарбатым), аддаўшы яго спачатку ў Бабруйскую пачатковую школу, пасля — у Віленскую калегію і, нарэшце, на медыцынскі факультэт Віленскага універсітэта. Але пасля раптоўнай смерці дзядзькі Дунін-Марцінкевіч быў вымушаны пакінуць універсітэцкія аўдыторыі, не скончыўшы навучання, бо з'явілася неабходнасць самастойна зарабляць на жыццё.

Студэнт-недавучка ўладкаваўся на пасаду сакратара да ўладальніка ссуднай канторы Бараноўскага. Дачцэ Бараноўскага Юзэфе не споўнілася яшчэ і шаснаццаці гадоў, і яна была вельмі прыгожай. Але самае дзіўнае тое, што дзяўчынка адказала ўзаемнасцю дваццацітрохгадоваму ўбогаму і нездароваму фізічна сакратару, які неўзабаве прызнаўся ёй у каханні. Яны ведалі, што бацькі Юзэфы не дадуць згоды на іх шлюб. Нават тады, калі дачка дасягне паўналецця. Бо ставіліся да яе выбранніка з пагардай. Называлі яго «гарбатым мужланам» і «бедняком».

І Вінцэнт рашыўся на адчайны крок. Цёмнай снежаньскай ноччу ён выкраў каханую з бацькоўскага дома. На наступны дзень яны таемна абвянчалі, а затым вырашылі перабрацца падалей ад раз'юшанага пана Бараноўскага. Пакінулі Вільню і пасяліліся ў Мінску.

Дунін-Марцінкевіч уладкаваўся ў Мінскую Кансісторыю. На чыноўніцкіх хлябах ён прабыў некалькі гадоў, а затым ледзь не ў адначассе змяніў сваё жыццё, каб займацца літаратурнай дзейнасцю. Дапамог выпадак. У 1840 годзе пан Вінцэнт збіраўся з жонкай і трохгадовай дачкой Камілай ехаць «на воды» ў Карлсбад. Але ледзь не ў апошнюю хвіліну даведаўся, што ў сарака вярстах ад Мінска прадаецца невялікі фальварак Люцынка. Прычым грошай, сабраных на наведванне курорту, хапае, каб набыць яго. Дунін-Марцінкевіч адклаў паездку і паспяшаўся здзейсніць пакупку.

У гэтым фальварку былі напісаны пасля лепшыя творы пісьменніка: п'есы «Пінская шляхта» і «Ідылія», паэма «Гапон», вершы, балады, аповеды ў вершах.

Багіня часу бесперапынна круціла свой калаўрот... Марцінкевічаў станавілася ўсё больш. Акрамя Камілы нарадзіліся яшчэ тры дачкі: Цэзарына, Элодзія, Яўгенія і сын Міраслаў. Сям'я бавіла час то ў Мінску, то ў Люцынцы. Але і тут, і там даволі рэгулярна праводзіліся хатнія музычныя вечары, у якіх былі задзейнічаны і гаспадары, і госці. Аказалася, што ў старэйшай дачкі выдатныя музыкальныя здольнасці. Яна пачала прымаць удзел у гэтых вечарах у чатырохгадовым узросце не толькі ў якасці спявачкі, але і як піяністка. На адным з хатніх канцэртаў прысутнічаў кампазітар Станіслаў Манюшка. Яго настолькі ўразіла майстэрства пяцігадовай піяністкі, што ён у той жа вечар параіў яе бацькам даць дзяўчынцы музычную адукацыю. Даведаўшыся, што да гэтага Каміла атрымлівала музычныя веды ў Мінскім пансіёне Монтэграндзі, Манюшка парэкамендаваў бацькам у якасці настаўніка для дачкі Даменіка Стафановіча, чалавека, які калісьці вучыў і яго самога, і якога выдатны кампазітар называў не інакш, як «мой бясцэнны Даменік Стафановіч». Ва ўспамінах Манюшкі пра свайго настаўніка ёсць такія радкі: «...Закаханы ў сваё мастацтва, ён... ацаніў маю такую ж любоў да музыкі, здолеў так умела скіраваць яе ў маю карысць, што з таго часу музыка зрабілася для мяне самай важнай мэтай». Высока ацэньваючы ўменне Стафановіча разгледзець сапраўдны талент і развіць яго, Манюшка не бачыў лепшага педагога для дзяўчынкі, здольнасці якой так ярка праявіліся ў такім раннім узросце. Сам кампазітар выступіў пасрэднікам у перамовах паміж сям'ёй Дуніна-Марцінкевіча і Стафановічам і настойліва прасіў настаўніка абавязкова заняцца «ўдасканаленнем і развіццём гэтых цудоўных здольнасцей».

Стафановіч не мог адмовіцца, і ён не пашкадаваў патрачанага на ўрокі для панны Марцінкевіч часу. Поспехі новай вучаніцы былі настолькі вялікімі, што пасля трох гадоў ужо настаўнік палічыў, што трэба паказаць Камілу шырокаму грамадству, і арганізаваў публічнае выступленне ў Мінску. Як прайшоў гэты канцэрт васьмігадовай піяністкі, невядома, бо пакуль што не знойдзены ні адзін водгук у тагачасных мінскіх газетах. Затое мы маем сведчанні пра тое, што ў 1845 годзе ў Мінску былі выдадзены ноты першых фартэпіянных твораў, напісаных самой Камілай. Гэта былі дзве мазуркі, полька і п'еса пад назвай «Малітва». Яны выглядалі даволі прафесійна, ва ўсякім разе, не ведаючы ўзрост кампазітара, музыканты, якія набывалі ноты, нават уявіць сабе не маглі, што гэта творы, напісаныя дзіцем.

Яшчэ праз два гады, у пачатку 1847 года, дзяўчынка выступіла ў Вільні. І, па словах адной з тамтэйшых газет, «...заслужыла пахвальныя водгукі публікі».

У сакавіку 1847 года Каміла з'явілася перад мінскімі гледачамі. Выступала з «Фартэпіянным канцэртам» Гумеля. Карэспандэнт «Минской губернской газеты» адзначыў: «Самый выбор пьесы, каков «Концерт» Гуммеля, както гармонировал её крошечным пальчикам, с удивительной быстротою порхавшим по клавишам рояля. Можно утвердительно сказать, что музыка для очаровательной малютки Марцинкевич — та стихия, в которой её талант расцветёт со всей прелестью».

Яшчэ больш цёпла адазваліся на выступленне, якое адбылося праз тры месяцы ў Вільні, «Виленские губернские ведомости». На гэты раз дзяўчынка ўпершыню выступала разам з малодшым братам Міраславам, гэтаксама піяністам. Акрамя І часткі «Канцэрта» Гумеля, які Каміла выконвала адна, яна іграла «Фантазію» Шапэна, а потым разам з братам у чатыры рукі — «Фантазію» Калькбрэннера і «Ронда» Герца. У водгуку на гэтую падзею музычны рэцэнзент пісаў: «Десятилетняя Камилла играла с удивительной ловкостью и отчетливостью первое аллегро «Концерта» Гуммеля и «Фантазию» Шопена с непонятным для дитяти искусством и соблюдением всех малейших оттенков сей возвышенной и вместе с тем трогательной музыки. Брат ее, девятилетний Мирослав, превосходно аккомпанировал в «Фантазии» Калькбреннера, весьма трудной по размеренности такта и запутанности изложения сего сочинения на четыре руки. В заключение было исполнено «Рондо» Герца, остроумное и приятное творение, которым и окончился сей истинно восхитительный музыкальный вечер, требовать более от сих детей невозможно, ибо и настоящие их успехи выше всех ожиданий».

Шмат разоў яшчэ выступала Каміла і адна, і з братам у Мінску і Вільні. Бывалі яны на гастролях у Слуцку, Ігумене, Варшаве, Кіеве. Аб гастролях у студзені 1849 года, падчас якіх сямейны ансамбль выконваў творы Ф. Ліста, Ф. Шапэна і ўласныя варыяцыі Камілы на тэму песні А. Варламава «Чырвоны сарафан», У. Каранеўскі, музычны карэспандэнт «Киевских губернских ведомостей», напісаў: «12-летняя девочка Камилла и 11-летний Мирослав Марцинкевичи принадлежат к отрадным и замечательным явлениям. По крайней мере, судя по первому концерту их, они осуществят самые лестные на них надежды... Их слушаешь уже не как детей, но искусных исполнителей. От начала до конца везде выдержка, отчетливость звуков и беглость пальчиков нимало не уступают отчетливости и беглости в игре музыкантов, уже долго занимающихся своим искусством...

Девица Камилла играет даже быстрее, нежели с детским чувством. Звуки ее отличаются особенной мягкостью и выразительностью, слушая ее, как будто погружаешься в область какого-то неопределенного, но приятного ощущения. Мы от души желаем, чтобы, не слишком увлекаясь похвалами, они не пренебрегли трудом и терпением, сопряженными с истинным успехом и потребностью гения, их слава еще впереди. Эти дети поистине уже лучше многих и многих».

А вось некалькі радкоў, напісаных пра Марцінкевічаў пасля гастролей у Варшаве: «...Два молодых таланта прибыли к нам из тихого Минска Литовского; таланты настолько великолепные, что в них гений виден. Дети еще, а в искусстве игры продвинулись до такой высокой ступени, что не один зрелый музыкант позавидует; оба вступили в ряды первых виртуозов, и недалеко то время, когда их имена с гордостью будут произносить».

Музычныя крытыкі ледзь не ў адзін голас адзначылі ў выкананні Камілы «...высокі прафесіяналізм, пачуццё густу, вытанчанасць і высакароднасць». Яны прадракалі, што з узростам дзяўчынка «...без сумнення апраўдае надзею памнажэння колькасці еўрапейскіх артыстаў».

Цалкам магчыма, што гэта прадказанне здзейснілася б, бо Каміле і яе брату пашчасціла пазбегнуць «зорнай хваробы», якая загубіла мноства маладых адораных артыстаў. Без сумнення, дапамагалі ім у гэтым і бацькі, і Стафановіч, і Манюшка. Аднак перашкодзіла крыўдная акалічнасць.

Стафановіч адчуў, што перадаў вучням усё сваё майстэрства. І ніводны з іншых мінскіх настаўнікаў музыкі таксама нічым ужо не дапаможа. Для далейшага самаўдасканалення, завяршэння музычнай адукацыі Каміле з братам неабходна было ехаць за мяжу. Лепш за ўсё — у Парыжскую кансерваторыю. Але Дунін-Марцінкевіч не меў такіх сродкаў. Яго літаратурная дзейнасць пакуль што вялікіх прыбыткаў не прынесла, наадварот, у 1848 годзе ён заклаў Люцынку пад ссуду ў семсот рублёў срэбрай Мінскаму прыказу гарадской апекі на дваццаць шэсць гадоў. Не маглі дапамагчы і сябры.

Дунін-Марцінкевіч звярнуўся з прашэннем аб матэрыяльнай дапамозе ў навучанні дзяцей да цара Мікалая І. Яму адмовілі. І тады Вінцэнт Якуб вырашыў звярнуцца да царэвіча Аляксандра, які меў вядомасць як аматар і апякун мастацтваў: «...Отец многочисленного семейства, но бедного состояния, в двух детях, 14-летней дочери Камилле и 13-летнем сыне Мирославе, нашел я большие музыкальные дарования, о чем киевские, виленские и варшавские периодические издания удостоверяют. ...Опасаясь, чтобы по причине недостатка не затратить в забвении два блестящих таланта, я ныне

отдаю детей под покровительство Его Императорского Высочества наследника престола, всепокорнейше прося, чтобы по милости своей велел отпустить на дорогу за границу и содержание детей в Париже некую сумму, и посему-то дочь моя Камилла осмеливается первые свои музыкальные труды повергнуть к стопам Его Императорского Высочества». Але і гэта не дапамагло.

Абыякавасць прадстаўнікоў царскай дынастыі найбольш цяжка ўспрыняла Каміла. У знак пратэсту яна адмовілася ад далейшай канцэртнай дзейнасці. Іграла толькі ў асяроддзі сяброў ды добрых знаёмых. Але працягвала ўдасканальваць сваё майстэрства, бо вырашыла заняцца музычна-педагагічнай ды асветніцкай дзейнасцю. І праз некалькі гадоў стала адной з найвядомейшых настаўніц у горадзе. Паэт Адам Плуг заўважаў: «Каміла, некалі цуд-дзіцёнак, была адной са здольнейшых піяністак і найлепшых настаўніц».

Марцінкевіч выкладала ў некалькіх мінскіх прыватных пансіёнах. А затым заснавала ў Мінску і мястэчку Гарадок школы для дзяцей беднякоў, у якіх акрамя знаёмства з асновамі музычных ведаў навучалі чытанню і катэхізісу.

У канцы 50-х гадоў XIX стагоддзя ў Мінску ўзнікла рэвалюцыйная арганізацыя — Літоўскі правінцыйны камітэт. Каміла амаль з самага пачатку далучылася да яе і вяла ў межах арганізацыі актыўную работу.

Адзін з удзельнікаў гэтай арганізацыі ў напісаных ім значна пазней успамінах прыгадваў: «У Мінску найбольш выдатную ролю сярод жанчын, што займаліся грамадскай справай, іграла панна Каміла Марцінкевіч... Гурток беднай, з нічым не прыкметным знешнім выглядам настаўніцы музыкі сабраў усё, што было самага патрыятычнага. Прапаведуючы, ажно да экзальтацыі, самыя прагрэсіўныя прынцыпы, валодаючы самым лепшым сэрцам і высокай маральнасцю, яна была непараўнальнай сяброўкай, і прытым, маючы мужчынскую адвагу, з'яднала тую сілу і энтузіязм, сляды якіх хаваліся ў традыцыях мясцовых пачуццяў. Найбольшай заслугай было тое, што ў яе ўпершыню пачалі збірацца людзі, якія належалі да самых розных пластоў, не выключаючы нават бедных рамеснікаў».

Не супярэчаць гэтаму і даныя паліцыі. Так, напрыклад, у «Списке особ, принимавших участие в пении гимна» (з якога пачыналіся патрыятычныя дэманстрацыі), складзеным 22 чэрвеня царскім палкоўнікам Рэйхартам, першым стаяла прозвішча Каміла. А праз некалькі тыдняў пасля гэтага III Аддзяленне паліцыі завяло справу «О девице Марцинкевич в Минске, которая чрезмерно выказывает польский патриотизм».

Неўзабаве Камілу арыштавалі. На першым жа допыце яна бязбоязна прызналася, што прымала ўдзел у спяванні. Больш таго, дадала, што насіла жалобнае адзенне ў гонар тых патрыётаў палякаў, якія загінулі незадоўга да таго ў Варшаве.

Прагнучы расправіцца з непакорнай дзяўчынай, царскія ўлады абвясцілі яе... псіхічна хворай і змясцілі ў вар'яцкі дом. Але хутка вымушаны былі выпусціць адтуль, бо ля плоту гэтай установы штодзённа збіраўся велізарны натоўп (да сотні чалавек), які вітаў Камілу, нібы святую пакутніцу. Праўда, перад тым, як даць «девице Марцинкевич» волю, турэмшчыкі патрабавалі, каб яна дала пісьмовае тлумачэнне, у якім прызналася б, што яе ўчынкі былі зроблены ў прыпадку хваробы, а таксама дала абяцанне жыць за горадам і не з'яўляцца ў ім без дазволу ўлад.

Каміла згадзілася на гэтыя ўмовы. Але хутка дабілася ад губернатара графа Келера дазволу вярнуцца ў Мінск. І амаль адразу ж адкрыла на сваёй кватэры школу для вывучэння рэвалюцыйных гімнаў. А ў лютым 1862 года, калі праз Мінск пачалі рухацца этапы палітычных вязняў-палякаў якіх накіроўвалі ў Сібір, Каміла арганізавала іх харчаванне. Аднойчы дабілася, каб ёй выдзяляй кухню. Прывезла кухарку і правізію, варыла, пякла са стараннасцю, якая здзіўляла. Быў выпадак, калі яна спрабавала пранесці для «этапавых» пірог з цукровым надпісам «Гонар вам!». Пільны палкоўнік заўважыў гэта і знішчыў пірог. Іншай партыі Каміла перадала віно і цыгарэты.

У 1863 годзе ўспыхнула паўстанне, якое ўзначаліў Кастусь Каліноўскі. Весткі аб ім дасягнулі Марцінкевіч, калі яна знаходзілася ў Гарадку. Яна тут жа вырашыла далучыцца да паўстанцаў. Але для гэтага, палічыла Каміла, неабходна мець зброю. Дзяўчына звярнулася да аднаго з царскіх салдат раскватараванай у мястэчку роты з просьбай прадаць ёй стрэльбу. Цяжка сказаць, на што яна разлічвала. Хіба толькі на цуд. Але гэты цуд не адбыўся. Салдат адразу ж паведаміў аб незвычайнай прапанове фельдфебелю, а той — камандзіру.

Камілу арыштавалі і зняволілі за высокімі мурамі Мінскага турэмнага замка (ён насіць яшчэ назву Пішчалаўскі). Маці раіла Каміле напісаць прашэнне на імя генерал-губернатара, але дачка рашуча адмовілася.

А неўзабаве ў гэтак званы Пабернардынскі будынак (былы бернардынскі кляштар), які выкарыстоўваўся царскімі ўладамі як турма, быў змешчаны адзін з галоўных кіраўнікоў Літоўскага правінцыйнага камітэта Караль Станкевіч. Гэтае збудаванне знаходзілася ў Верхнім горадзе, а турму, у якой чакала прысуду Марцінкевіч, у нашы дні можна пабачыць на сучаснай вуліцы Валадарскага ў Мінску.

Як ні дзіўна, але вязні гэтых двух месцаў зняволення падтрымлівалі паміж сабою сувязь, вялі перапіску. 7 сакавіка 1863 года наглядчык перахапіў насоўку, якую спрабавалі перадаць Станкевічу разам з абедам. На ёй было напісана прызнанне ў каханні. Пасланне ад Камілы Марцінкевіч. Члены следчай камісіі, у якую трапіла гэта пасланне, вырашылі, паколькі дадзены надпіс не змяшчае ў сабе нічога асаблівага, дазволіць наглядчыку перадаць яго вязню. Але надалей уважліва сачылі за гэтым міжтурэмным раманам.

«Думаю пра цябе, дарагая Камілія! Клапачуся і непакоюся, што там з табою робіцца, гавару з табою, нібыта ты была тут, са мною», — пісаў ён.

«...Злітуйся, паведамі, як тваё здароўе (бо я чула, што ты хворы), таксама што парабляеш, які ў цябе настрой. Прашу ў цябе таксама некалькі слоў пяшчоты, бо без яе мне было б цяжка ў жыцці... Прашу цябе, не падай духам. Люблю цябе вельмі», — звярталася яна да яго.

Перапіска цягнулася некалькі месяцаў. А пасля іх разлучылі, паклапаціўшыся, каб закаханыя ніколі ў жыцці ўжо не сустрэліся.

Больш за паўгода правяла Каміла за кратамі. І нарэшце віленскі генерал-губернатар Мураўёў вырашыў яе лёс, накіраваўшы дзяўчыну ў Перм.

Сваё рашэнне ён тлумачыў тым, што «Камилла Марцинкевич принимала самое деятельное участие в расширении в крае революционного движения... Принимая во внимание ее политические убеждения и наглый характер, нельзя терпеть, чтобы она проживала в этом крае, без явного вреда обществу..».

Перад самай адпраўкай у высылку Каміла здзейсніла яшчэ адну высакародную акцыю. 5 жніўня 1863 года з Мінскага турэмнага замка выводзілі Івана Жмачынскага, рускага салдата, які перайшоў на бок паўстанцаў. Яму быў вынесены смяротны прысуд, і канвой вёў яго на месца пакарання. Марцінкевіч, невядома дзе здабыўшы букет кветак, кінула яго праз вакно сваёй камеры пад ногі смяротніку.

Неўзабаве пасля гэтага яе адправілі па этапе. Пасялілі ў горадзе Салікамску. Там Каміла ў 1865 годзе выйшла замуж за мясцовага павятовага ўрача Казіміра Асіповіча. Але і пасля гэтай падзеі строгі паліцэйскі нагляд за ёю адменены не быў.

На радзіму Каміле дазволілі вярнуцца толькі ў 1880 годзе, ды і тое з-за дрэннага стану здароўя. Хутка пасля гэтага яна адышла ў нябыт.

Так скончылася жыццё той, якая, каб абставіны склаліся інакш, магла стаць гонарам нацыі, сусветна вядомым музыкантам. Аднак і без гэтага Каміла Марцінкевіч засталася ў памяці нашчадкаў, як светлая паходня — піяністка, кампазітар, настаўнік і патрыёт.

## Спіс выкарыстанай літаратуры


Алексеев, Л. В. Полоцкая земля [Текст]: очерки по истории Советской Белоруссии в IX-XIII веках / Л. В. Алексеев. — М., 1966.

Андреев, В. Представители власти в России после Петра I [Текст] / В. Андреев. — М., 1990.

Аповесць жыцця і смерці святой і блажэннай і найпадобнейшай Еўфрасінні, ігуменні манастыра святога Спаса і Найсвяцейшай яго Маці, што ў горадзе Полацку. Блаславі, Ойча! [Тэкст] // Кніга жыцій і хаджэнняў. — Мінск, 1994.

Арлоў, У. Еўфрасіння Полацкая [Тэкст] / У. Арлоў. — Мінск, 1994.

Арлоў, У. Таямніцы полацкай гісторыі [Тэкст] / У. Арлоў. — Мінск, 1994.

Ахвердава, А. Пачынальнікі беларускага піянізму [Тэкст] / А. Ахвердава // Мастацтва Беларусі. — 1985. — № 2.

Багадзяж, М. Адна з найлепшых настаўніц [Тэкст] / М. Багадзяж // Мінская школа. — 2000. — № 5.

Белинский, В. Г. Статьи о народной поэзии [Текст] : полное собрание сочинений / В. Г. Белинский. — М., 1954.

Богодзяж, Н. Богатырка Настасья — сестра Рогнеды [Текст] / Н. Богодзяж // Неман. — 2000. — № 4.

Брянцевъ, П. Д. Исторія Литовского государства съ древнейшихъ времёнъ [Текст] / П. Д. Брянцевъ. — Вильня, 1889.

Бурсов, И. Отказано в праве [Текст] / И. Бурсов // Избранное : стихотворные повести и рассказы : драматические произведения / В. Дунин-Марцинкевич. — Минск, 1991.

Васильева, Л. Н. Жены русской короны [Текст] / Л. Н. Васильева. — М, 1999. — Кн. I.

Гісторыя Беларусі [Тэкст] / пад рэд. Я. К. Новіка, Г. С. Марцуля. — Мінск, 1998. — Ч. I.

Грицкевич, А. П. Древний город на Случи [Текст] /А. П. Грицкевич. — Минск, 1985.

Грыцкевіч, В. П. Адысея наваградскай лекаркі [Тэкст] /В. П. Грыцкевіч. — Мінск, 1989.

Доўнар-Запольскі, М. В. Гісторыя Беларусі [Тэкст] / М. В. Доўнар-Запольскі. — Мінск, 1994.

Дунай [Текст]: былины. — М., 1954.

Дыярыюш Князя Міхала Казіміра Радзівіла, ваяводы Віленскага, гетмана Вялікага княства Літоўскага [Тэкст] // Спадчына. — 1994. — № 4, 5; 1995. — № 1-6; 1996. — № 1,2.

Ермаловіч, М. Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд [Тэкст] / М. Ермаловіч. — Мінск, 1994.

Ермаловіч, М. Старажытная Беларусь: Полацкі і Наваградскі перыяды [Тэкст] / М. Ермаловіч. — Мінск, 1990.

Живописная Россия: литовское и белорусское Полесье [Текст] / под ред. П. П. Семенова. — Минск, 1993.

Житие преподобной Ефросинии, игумении Полоцкой [Текст]. — СПб, 1992.

Кобзик, Л. Забытые имена [Текст]: Анастасия Слуцкая / Л. Кобзик, К. Станкевич //Туризм и отдых. — 14.02.2002.

Кайдаш, С. Сила слабых [Текст]: Женщины в истории России (XI-XIX вв.) / С. Кайдаш. — М, 1989.

Кайдаш, С. Сильнее бедствия земного [Текст] / С. Кайдаш. — М, 1983.

Капилов, А. Л. Музыкальная культура Беларуси XIX-начала XX веков [Текст] / А. Л. Капилов, Е. И. Ахвердова. — Минск, 2000.

Карамзин, Н. М. История государства Российского [Текст] / Н. М. Карамзин. — М., 1989. — Т. I.

Кісялёў, Г. Постаці [Тэкст] / Г. Кісялёў // Спадчына. — 1992. — № 5.

Кісялёў, Г. Сейбіты вечнага [Тэкст] / Г. Кісялёў. — Мінск, 1963.

Ковалевская, С. Воспоминания и письма [Текст] / С. Ковалевская. — М., 1961.

Ластоўскі, В. Ю. Гісторыя Беларускай (Крыўскай) кнігі [Тэкст]: спроба паясніцельнай кнігапісі ад канца X да пачатку XIX ст / В. Ю. Ластоўскі. — Коўна, 1926.

Летапіс вялікіх князёў Літоўскіх [Тэкст] // Беларускія летапісы і хронікі. — Мінск, 1997.

Летопись по Ипатьевскому списку [Текст]. — СПб, 1871.

Либрович, С. Петр Великий и женщины [Текст] / С. Либрович. — Л., 1991.

Лихоталь, Г. Повесть о славных богатырях, златом граде Киеве и великой напасти на землю Русскую [Текст] / Г. Лихоталь. — М., 1974.

Мальдзіс, А. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII ст. [Тэкст] / А. Мальдзіс. — Мінск, 1982.

Мархель, Ул. І. Вяшчун славы і волі [Тэкст] / Ул. І. Мархель. — Мінск, 1989-

Масленицына, И. А. Радзивиллы — несвижские короли [Текст] / И. А. Масленицына, Н. К. Богодзяж. — Минск, 1997.

Масленицына, И. А. Кавалеры и дамы Белорусского ренессанса [Текст] / И. А. Масленицына. — Минск, 2000.

Масленицына, И. А. Летописцы повествуют о любви [Текст] / И. А. Масленицына. — Минск, 2002.

Масленицына, И. А. По рыцарским законам [Текст] / И. А. Масленицына. — Минск, 2001.

Масляніцына, І. А. Слава і няслаўе [Тэкст] /1. А. Масляніцына, М. К. Багадзяж. — Мінск, 1995.

Масляніцына, І. А. Як зоркі дзве, што адгарэлі [Тэкст] / І. А. Масляніцына, М. К. Багадзяж. -Мінск: Беларусь, 1997. — № 12.

Масляніцына, І. А. Беларуская Жанна дАрк [Тэкст] / І. А. Масляніцына // Цэнтральная газета. — 22-28 лістапада 1996.

Мельников, А. А. Путь непечален [Текст] : исторические свидетельства о святости Белой Руси / А. А. Мельников. — Минск, 1992.

Млын на сямі колах [Тэкст] : беларускія народныя легенды і паданні / запіс і літ. апрац. І. А. Масляніцынай. — Мінск, 1998.

Музыкальный театр Белоруссии [Текст] : дооктябрьский период. — Минск, 1990.

Нечволодовъ, А. Сказанія о русской землЬ [Текст] / А. Нечволодовъ. — СПб, 1913. — Т. 2-4.

Памяць [Тэкст]: Жыткавіцкі раён. — Мінск, 1994.

Пільштынава (Русецкая), С. Авантуры майго жыцця [Тэкст] / С. Пільштынава (Русецкая). — Мінск, 1993.

Повесть временных лет (по Лаврентьевской летописи) [Текст]. — М., Л, 1950. — Т. 1-2.

Полное собрание русских летописей [Текст]. — М., 1975. — Т. 32.

Полоньска-Василенко, Н. Історія України. До середини XVII століття [Текст] / Н. Полоньска-Василенко. — Кіїв, 1995. — Т. 1.

Полубаринова-Кочина, П. Я. Ковалевская С. В. [Текст]: ее жизнь и деятельность / П. Я. Полубаринова-Кочина. — М., 1955.

Пушкарева, Н. Л. Женщины Древней Руси [Текст] / Н. Л. Пушкарева. — М, 1989.

Родчанка, Р. Слуцкая старасветчына (факты і разважанні) [Тэкст] / Р. Родчанка. — Мінск, 1991-

Рыбаков, Б. А. Киевская Русь и русские княжества XII-XIII веков [Текст] / Б. А. Рыбаков,М, 1982.

Семевский, М, И. Царица Катерина Алексеевна, Анна и Виллим Монс [Текст] / М. И. Семевский. — Л., 1990.

Серно-Соловьевичъ, Ф. Древнерусский город Слуцкъ и его святыни [Текст] / Ф. Серно-Соловьевичъ. — Вильно, 1986.

Слаге, Е. Петр и женщины [Текст] / Е. Слаге. — Киев, 1991.

Тарасаў, К. Памяць пра легенды. Постаці беларускай мінуўшчыны [Тэкст] / К. Тарасаў. — Мінск, 1990.

Тарасаў, К. Жарсці лівійскіх князёў [Тэкст] / К. Тарасаў // Новы час. — 2003. — № 5.

Татищев, В. Н. Собрание сочинений [Текст] / В. Н. Татищев. — М., 1905. — Т. 2-3.

Ткачев, М. Замки Белоруссии [Текст] / М. Ткачев. — Минск, 1987.

Ткачоў, М. Як случчакі ваяваць вучыліся [Тэкст] / М. Ткачоў // Бацькаўшчына. — Мінск, 1996.

Трофимов, А. Святые жены Руси [Текст] / А. Трофимов. — М, 1993.

Франклин, С. Начало Руси : 750-1200 гг. [Текст] / С. Франклин, Д. Шепард. — СПб, 2000.

Хроніка Быхаўца [Тэкст] // Беларускія летапісы і хронікі. — Мінск, 1997.

Чаропка, В. Імя ў летапісе [Тэкст] / В. Чаропка. — Мінск, 1994.

Чаропка, В. Уладары Вялікага княства [Тэкст] / В. Чаропка. — Мінск, 1996.

Членов, А. По следам Добрыни [Текст] / А. Членов. — М, 1986.

Шахматов, А. А. Как назывался первый святой мученик? [Текст] / А. А. Шахматов // Известия императорской Академии наук. — 1907. — IV. — Т. 1.

Швед, В. В. Падзеі і постаці гродзенскай даўніны [Тэкст] / В. В Швед. — Гродна, 1995.

Штыхов, Г. В. Города Полоцкой земли : IX-XIII вв. [Текст] / Г. В. Штыхов. — Минск, 1978.

Шышыгіна-Патоцкая, К. Я. Нясвіж і Радзівілы [Тэкст] / К. Я. Шышыгіна-Патоцкая. — Мінск, 2001.

Янин, В. Л. Актовые печати Древней Руси X-XУвеков [Текст] / В. Л. Янин. — М, 1970. — Т. 1 -2.

## Змест



Літаратурна-мастацкае выданне
Ірына Аляксандраўна Масляніцына Мікола Канстанцінавіч Багадзяж
Жанчыны, найбольш знакамітыя ў гісторыі Беларусі
Рэдактары: С. А. Ішчанка, С. С. Шахура, Т. Л. Шумейка Малюнкі: І. Л. Гардзіёнак Шрыфтавыя ілюстрацыі: Ул. Ул. Даўгяла Камп'ютэрная вёрстка: І. В. Варашкова, М. І. Лазук
Падпісана да друку 28.12.2008. Фармат 60x90/8 Папера афсетная. Гарнітура PetersburgC. Друк афсетны Ум. друк. арк. 13,5. Ул.-выд. арк. 15,5 Наклад 3000 (Першы завод 500). Замова № 219
Выдавецтва ЗАТ «Юніпак» ЛИ № 02330/0150278 ад 03.05.2008
Бул. Кастрычніцкая, 19, Мінск, 220030, Рэспубліка Беларусь
Тэл./факс: 227-54-87,227-13-37
Друкарня ТЛА «ІОстмаж». Замова № 155
ЛП № 02330/0131681 ад 30.04.2004
Бул. Кнорына, 50, Мінск, 220103, Рэспубліка Беларусь